

Слаўнымі працоўнымі падарункамі сустракае новы год сельская моладзь Беларусі. Сярод лепшых даярак калгаса імя Калініна Мінскага раёна называюць імя камсамолкі Валі Карпейчык.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

У НУМАРЫ:



Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

**12** (94)

Снежань.

1960.

Год выдання VIII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы малюнак А. Зайцава «**Зіма пачалася**».

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд арк. 14,5 Тыраж 7.250 экз. Цана 4 руб. З 1/І 1961 г.—40 к.

АТ 12.374. Здадзена ў набор 1.XI.60. Падпісана да друку 28.XI.60 г. Зак. 834

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Анатоль Вялюгін закончыў другую частку паэмы «Вецер з Волгі» пра юнацтва У. І. Леніна. Мы змяшчаем з гэтай паэмы раздзел «Першы ўдар», у якім апавядаецца пра лёс бацькі Леніна — Ільі Мікалаевіча Ульянава. Падзеі адносяцца да снежня 1885 і студзеня 1886 гадоў, калі Валодзя Ульянаў вучыўся ў сёмым класе Сімбірскай гімназіі.

**Анатоль ВЯЛЮГІН**

# ПЕРШЫ ЎДАР



Пад воблакамі шызымі
ад лога і да лога
з аснежанае Сызрані
спяшаецца дарога.

Калі снягір пакутуе
над белымі палямі,
рыпіць яна, падкутая
сівымі кавалямі.

Хай носам хлюпік хлюпае,
а смачны на марозе:
ямшчыцкае «Но, любыя!»
І стылы звон палоззя.

Ныраючы па застругах,
плывуць, як човен, сані.
«Нібы ракою ў Астрахань»,—
прымроілася Ані.

Там сонца пахне рыбаю.
Далёка так і блізка:
паўвека, як адрыпала
там бацькава калыска.

Ульянаў (дзед Ульянінаў),
ён з роду майстравога.
Па застругах, па ямінах
шугала маладога.

Нясло маленства раніцай,
каб сокалам узвіцца,
з падручнікамі ранец свой
вярблюджаю сталіцай.

І долечку сірочую
хрысціла бабка з вокан,
каб толькі не сурочыла
зайздрослівае вока.

Ды вытрымка аснацкая
яго вяла ў навуку

па Волзе ўверх: юнацкая
Казань шуміць на вулках...

Згадалася, прыснілася
у зацішы змяркання.
Да бацькі прытулілася
заснежаная Аня.

Як пастарэў!..
Самотная
лягла ў маршчынах стома.
Семнаццаць дзён сумётамі
плыве, не быўшы дома.

Курмыш, Карсун, Ацяшкіна...
Так позна
на раздоллі
бярэ
у ковы цяжкія
мароз
рачную волю.

І Волга ў сонным сале ўся,
і сонна б'ецца сэрца.

Аня

А добра, што спісаліся
у Сызрані сустрэцца.

Ілья Мікалаевіч

Калядныя канікулы,
прызнацца, гэта свята.
Няўжо з Нявы не клікала
на адпачынак брата?

Аня

Арол не чуе курыцы.
Як быццам за паўсвета
Бястужаўскія курсы
ад універсітэта —
па тыдню не страчаецца,
а прыйдзеш — ён з сябрамі
употайкі спрачаецца.
Па тыдню вечарамі,
туманнымі, глухімі, я
чакаю брата ў госці.

Ілья Мікалаевіч

Запаланіла хімія
ці вецер маладосці?

Аня

Забыты колбы з бутлямі.
Смяецца: «Не цікава...»,
хоць акадэмік Бутлераў
яму прарочыць славу.
Пабачыш, на вакацыі
як вернецца дахаты:
захоплены ён працаю
пра чэрві «Annulata».
Не марна з імі корпаўся,
бо залатым медалем
адзначаны на конкурсе.
Прад ім — навукі далеч.
Ах, Сашанька... Запонаю
цяплей укрыйся, тата...



Абняўшы Аню сонную,
прамовіў:
— Annulata...

Жыццё суровай ніткаю
з пустой сплывае шпулі.
Паштовымі кібіткамі
за годам год мільгнулі.

Бы з кнігі часу выпіска,
успомніўся знячэўку
той дзень, калі на выпуску
абняўся з Лабачэўскім.

Дапамагаў вучонаму
студэнт Ілья Ульянаў.
На годы незлічоныя
былі такія планы!

А плёны ўсе спустошаны.
Асаджваюць крута.
Жандарамі, святошамі
пасеяна атрута.

Вайна царквой абвешчана
ягонай школе земскай:
навошта слова вешчае —
сцяліцеся паземкай,

шануйце, валахатыя,
сваіх паноў законы...

Над сэрцамі, над хатамі
сляпой начы запона.

— Народныя вучылішчы?
і туз прысядзе з крэктам.—
Без іх дзяды жылі яшчэ.
Не трэба, пан дырэктар...

Ураднік, прапаведнікі,
старшыны валасныя —
усё твае асветнікі,
Расія... Эх, Расія!

Пад воблакамі шызымі
ад лога і да лога
з аснежанае Сызрані
спяшаецца дарога.

Снягір засвішча тоненька.
Снягі... снягі па пояс.
Як на зубах антонаўка,
рыпіць настылы полаз.

* * *



Я на з'явілася,
нібы звычайны будзень,
з сям'ёю ўселася
маўкліва за сталом,

хаця ніхто з сям'і
яе не бачыў.
Студзень
блішчэў за вокнамі
калючым серабром.

Сініца белы іней
з вішняка атрэсла,
зацінькала,
як быццам
чула той прыход.
Не рыпнуўшы, цяпер
адно пустуе крэсла
і шумны стол прыціх...
Спыніся, новы год.

Шчаслівы, ты прынёс
з ялінкаю няшчасце.
Малых шчабетуноў
замоўкла гамана:
у час абеду дзверы
з кабінета насцеж
маўкліва адчыніла
ў цішыні я н а.

Яна вачамі бацькі
глянула трывожна
і матку і дзяцей
паглядам абняла.
Стаяў ён у дзвярах,
такі бездапаможны.
Вядома, гэта ростань
іхняя была.
Вярнуцца да канапы
ледзь хапіла сілы.
— Валодзя! Аня!.. —
маці
крыкнула тады.
Яго пад цёплай коўдрай
люта калаціла.
Ляжаў ён, спалатнелы,
потны і худы.

Няўмольная,
яна
з'явілася без позвы,
усё зрабіла
да чаканага званка,
калі прыехаў доктар:
— Позна, людцы, позна... —
Упала на падлогу,
стукнуўшы,
рука.

Праз дзень, другі і трэці,
думалі, прачнецца:
такое сэрца здацца
смерці не магло б...
Пад рыжай барадой
яно не страпянецца.
Усмешкі цьмяны знак.
Высокі чысты лоб.

На ім не растае
бахматая сняжына.
Прамовы і вянкі...
і гэтулькі людзей...



Труна плыве з двара,
угнуўшы плечы сына,—
на сорак год юнак
за бацьку маладзей.

Валодзю, нібы ў сне,
пачулася размова:
— З народа выйшаў ён.
— І для народа жыў...
— Зламалі да пары...
— Нядаўна ж быў здаровы...
— А можа, на сябе
ён рукі налажыў?..

Як раніцаю ноч,
усё так недарэчна:
труна, вянкі, натоўп...
Апухлая ад слёз
матуля на дзяцей
глядзіць з тугой спрадвечнай,
глядзіць:
якія цяпер
сірот спаткае лёс?

Растуць яны, растуць
і адлятаюць з дому.
Абуджана душа —
і боль Расіі ў ёй.
Як бацька іх любіў!
Забыўшыся на стому,
начамі працаваў.
Заўсёды быў з сям'ёй.

Нямала, смерць, кладзеш
бязлітасна пракосаў.
Вось вучні бацькавы
выходзяць са двара.
Ты не шкадуеш іх:
загінуў Каракозаў,
што, быццам рабчыка,
на мушку браў цара;

Страндэн у рудніках
бразгоча ланцугамі —
ён Чарнышэўскаму
не змог дапамагчы
таемна выбрацца
глыбокімі снягамі
з начы сібірскае,
кайданнае начы...

У вучняў смелы лёт!
Па вуліцах Сімбірска
адны ідуць за ім,
гняце другіх Сібір.
Ідуць... Рыдае снег.
Да вечнай хаты блізка:
над плітамі скляпоў
Пакроўскі манастыр.

Валодзя, нібы ў сне,
здалёку чуе словы:
— Не ведае пра смерць
яго старэйшы сын...
— Эх, рана адышоў...
— Суровы век, суровы...
— Вяртаемся мы зноў
да жудасных часін...

Напоўнены званы
глухім вятрыстым гулам
Мяцеліцы да стрэх
капліцы замялі.
Цяжкі павольны крок.
Плячо труной угнула,
як быццам на плячы
цяжар усёй зямлі.



Анатоль Кудравец нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Аколіца Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1951 годзе скончыў Каўбчанскую сямігодку і паступіў у Слуцкае педвучылішча. Пасля заканчэння працаваў настаўнікам, служыў у Савецкай Арміі.

У 1958 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна, дзе займаецца і цяпер.

У «Маладосці» Анатоль Кудравец друкуецца ўпершыню.

**Анатоль КУДРАВЕЦ**

## МІНІЯТУРЫ

# ПАПРУЖКА

Мал. А. Бараноўскага.

Шурку было шэсць год. Жыў ён з бабуляй у невялікім доміку аж у канцы вёскі. У нашу вёску яны прыехалі перад самай вайной з Украіны і засталіся тут назаўсёды.

Шурка хутка пасябраваў з нашымі хлапчукамі, і яны заўсёды клікалі яго гуляць.

У Шуркі была прыгожая скураная папружка з двума выціснутымі палоскамі па краях і бліскучай спражкай. Шурка казаў, што яе падарыў бацька, калі адыходзіў у армію. Тады яшчэ была жывая Шуркава маці, яны жылі на Украіне, і не было вайны.

Ні ў кога з нашых хлапчукоў не было такой прыгожай папружкі, і ўсе мы зайздросцілі Шурку. А ён ганарыўся ёй, заўсёды насіў з сабой і ні на што не хацеў мяняць. Я даваў яму за яе і маленькі складаны ножык з касцянымі тронкамі, і тры сапраўдныя аўтаматныя патроны. Але ён — ані блізка:

— Не хачу. Не буду.

Мы з Шуркам гулялі заўсёды разам. Летам збіралі суніцы і маліны, увосень разам ірвалі яблыкі ў калгасным садзе. Зімой Шурка кожную



раніцу прыбягаў да нас, і, калі на двары было ціха, — мы коўзаліся на сажалцы, калі ж дзьмуў вецер і сыпаў снег, — сядзелі ў хаце.

Неяк Шурка не быў у нас аж тры дні. Я не ведаў, што магло з ім здарыцца, і пайшоў наведаць яго.

Калі я зайшоў да іх, то ўбачыў, што бабуля грэлася на печы, а Шурка, апрануты, ляжаў на незасланым ложку. Я спачатку падумаў, што ён спіць. Але Шурка павярнуў галаву і неяк праз сілу ўсміхнуўся. Відаць, яму не хацелася ўставаць.

— Шурка, ідзі пагуляй, — ласкавым голасам папрасіла яго бабуля. — Ідзі, унучак, — паўтарыла яна, і яе вусны задрыжалі.

Шурка нехаця ўстаў, надзеў шапку, і мы, выйшаўшы на двор, пачалі гуляць у «вайну». Але Шурка быў нейкі няўважлівы, бегаў і хаваўся зусім марудна, і мы хутка спынілі гулі.

Я спытаў Шурку, чаму ён так доўга не прыходзіў да нас. Ён спачатку маўчаў, потым нясмела папрасіў:

— Усып мне трошкі бульбы... для бабулі. Яна ўжо тры дні нічога не ела. А я табе... дам папружку. Толькі я дома яе забыўся. Але я адразу ж аддам...

Я насыпаў яму торбачку бульбы. І ўпершыню мне не захацелася мець яго прыгожую скураную папружку.

...Пад вечар мама, я і Шурка везлі ім на санках поўны мех бульбы. Услед за намі бег наш сабака Боб, махаў хвастом і весела гаўкаў.

## ЯЙКІ

У Пецевай хаце на ложку ляжаў цяжка паранены камандзір партызанскага атрада. Ён быў прыгожы і зусім малады, з далікатным белым тварам і вузенькімі чорнымі вусікамі на верхняй губе. Ён увесь час цяжка трызніў і выкрыкваў неразборлівыя каманды. Прыйшоўшы да





памяці, доўга ўглядаўся памутнелымі вачыма ў цёмна-бурыя драўляныя сцены, у закопчаную столь. Потым заснуў неспакойным сном.

Пеця чуў, як у сенцах доктар ціха гаварыў сівому санітару:

— Вельмі слабы. Крыві шмат страціў. Надзея малая. Малако трэба, яйкі, курыны бульён. Тады, можа... — ён зморшчыўся і, ссутуліўшыся, хутка выйшаў на двор.

— Малако мы знойдзем. У атрадзе ёсць карова. А вось з яйкамі... Нават не ведаю, што і рабіць, — разважаў уголас санітар.

Ён абышоў усе хаты, але яек ні ў кога не знайшоў. Тады звярнуўся да Пецевай маці:

— Можа ў цябе знойдзецца з дзесятак які, га?

— Няма, што вы... — паспяшалася адказаць маці. — Немцы ж усіх курэй пералавілі. Ці ж гэта б шкадаваў для хворага чалавека? Няма.

Пеця раптам успомніў, што на гары, у куточку стаіць маленькае рэшата. Заўчора ён бачыў, што ў ім яшчэ былі яйкі.

Праз некалькі хвілін, усхваляваны, ён убег у хату, трымаючы рэшата ў руках. На дне яго, у шэрай мякіне, ляжалі прадаўгаватыя белыя яйкі.

— Вось, вазьміце. Яно ў самым куточку стаяла... Мама, мусіць, забылася... — прагаварыў ён, аддаючы рэшата санітару і зірнуў на маці. Яна апусціла вочы і чамусьці пачырванела. Мусіць, ад гарачыні, бо стаяла яна ля самай печы, у якой так зырка гарэлі дровы.

«Ад гарачыні», — рашыў Пеця.

## ЦЯЖКІЯ СЛОВЫ

Першы дзень вучобы Мішку вельмі спадабаўся. У гэты дзень Іван Ігнатавіч, іх настаўнік, расказаў, як аднойчы ў лесе, збіраючы грыбы, заблудзіліся хлопчык і дзяўчынка і не ведалі, у які бок трэба было ісці. Цэлы дзень блукалі па лесе, гукаючы:

— А-у-у! А-у-у!

Толькі пад самы вечар напаткаўся ім ляснік, які і прывёў іх дадому.

Настаўнік нават паказаў, як гукалі хлопчык і дзяўчынка. Вучні паўтаралі ўслед за ім працяглае і сумнае «ау», а Мішку здавалася, што

гэта ён, Мішка, заблудзіўся і ніяк не можа выйсці з лесу. І было Мішку весела і трошкі боязна.

Потым Іван Ігнатавіч напісаў на дошцы значок, падобны на крокву з пярэчкай, і сказаў, што гэта літара «А». А другі значок, які быў, як перавернутая дагары кроква, толькі без пярэчкі і з хвосцікам унізе, называўся літарай «У».

І яшчэ настаўнік сказаў, што хутка скончыцца вайна і ўсе бацькі вернуцца дамоў і што пры сустрэчы са старэйшымі трэба здымаць шапку і гаварыць: «Добры дзень».

Назаўтра Іван Ігнатавіч ішоў вуліцай, на якой жыў Мішка. Мішка здалёк пазнаў настаўніка і, каб не сустрэцца з ім, схаваўся ў сваім двары. Яму было неяк сорамна і страшна сказаць «добры дзень». Але Іван Ігнатавіч некуды вельмі спяшаўся і Мішку не заўважыў.

У школе ў той дзень заняткаў не было. Прыбіральшчыца, цётка Вольга, сказала, што Іван Ігнатавіч пайшоў на фронт. Адтуль ён пачаў прысылаць кароткія, скупыя пісьмы. У іх мала пісаў пра вайну, а больш цікавіўся, як ідзе вучоба ў школе. У адным пісьме ён нават спытаўся, як вучыцца Мішка.

Але пісьмы прыходзілі ўсё радзей і радзей. Потым зусім перасталі прыходзіць.



Скончылася вайна. Мішка перайшоў у другі клас. Аднойчы летам, ідучы паўз школу, ён зноў убачыў Івана Ігнатавіча. Той стаяў ля дрэўца, якое вучні пасадзілі вясной, і разглядаў зялёныя кволыя лісточкі. Рукамі ён апіраўся на новыя драўляныя мыліцы, а з-пад доўгага салдацкага шыняля ў яго відаць была толькі адна левая нага.

Мішка падышоў, зняў шапку і ціха сказаў:

— Добры дзень, Іван Ігнатавіч!

А вярнуўшыся дамоў, доўга і горка плакаў.

Васіль МАКАРЭВІЧ

# ВОСЕНЬ

У закуткі закінуты косы,
гарбузы адляжалі бакі.
Рассцілае на сцежках
восень
з лісця рыжыя палавікі.
І не верыш, што нізкімі
доламі
пасля ліўневых навальніц
рэкі сплавілі летняе
полымя
аж туды, дзе Басфор звініць.
З-пад далёкай
празрыстай просіні
Журавоў крык у сэрца просіцца.
Пакідаюць яны у роспачы
нівы, поймы
і пожні росныя.
І туманы вячэрнія
ломкія
хутка згубіць
ў атаве восень.
Замільгаюць сняжынкі
лёгкія
у паветры малымі блёсткамі.
А пакуль што
качанне загадкава
пра мароз крохкім скрыпам
нагадвае,
і зямля медзяногa
колеру
ад густой дажджавой іржы
пасінелая,
золкая,
кволая
і сама не свая ляжыць.
Недзе блізка так ходзіць,
гойсае
ледзяная,
халодная госця.

Да сябе яе клікнуць боязна,
гэтак страшна яе
пазваць.
Ды ўсё роўна
рана ці позна
давядзецца яе прыймаць.
І навошта яна
так дражніцца,
наплыве,
то адыдзе, як дым...
Лепш бы раптам...
Лепш бы адразу
кончыць ўсё
узмахам
адным.



Мікола ЛУПСЯКОЎ

# ВЕСТКА

## Апавяданне

Мал. К. Ціхановіча.

I

— Цётачка, вам пісьмо!

Калгасны паштальён — маладая жвавая дзяўчына Прося ў паношанай форменнай куртцы — стаіць у парозе і корпаецца ў сваёй паштальёнскай скураной сумцы. На дварэ вясна. Прося вось ужо некалькі дзён ходзіць без хусткі; рыжаватыя яе валасы закрываюць нізка схілены твар. Валянціна даўно прыкмеціла, што ў кожнага паштальёна існуе свая манера ўручаць карэспандэнцыю. Некалькі гадоў назад у іх быў іншы паштальён — пажылы, сухарлявы, заўсёды нечым незада-

волены. Той, як падыходзіў да двара, дык ужо наперад трымаў у руцэ газету, часопіс і, калі было, пісьмо. Заходзячы, вітаўся, а было, што і зусім не вітаўся. Моўчкі кідаў загадзя нарыхтаванае на стол і выходзіў. Калі ішоў ад іхняга двара да наступнага, корпаўся ў сумцы, дастаючы патрэбнае, і далей адбывалася тое ж самае. Тады здавалася, што гэта быў старанны, руплівы паштавік, які працаваў, як машына. Больш дасканалага на яго месцы не ўяўлялася.

Прося ж не рыхтавала пошту загадзя. Прыходзіла, віталася, доўга шукала ў сумцы патрэбнае. Аддавала газету, часопіс, а тады ўжо шукала пісьмо, пра якое паведамляла яшчэ з парога. Пісем звычайна было шмат, і пошукі зацягваліся надоўга. Рухі ў дзяўчыны былі павольныя, няспешлівыя; яе зусім не хвалявала: адкуль пісьмо, чыё і пра што ў ім пішацца.

— І дзе гэта яно завалілася? — выдыхала яна. — Тут жа было. Ага, во, здаецца...

І невядома было, ці гэта яна знарок так робіць, ці ў яе мо такі характар. Аднак пісьмы ад яе было куды прыемней атрымліваць, чым ад таго паштавіка, які працаваў так дакладна. Прынамсі, можна было ўволю пахвалявацца і нават памарыць, а такім юнакам, якія мелі сувязь з рэдакцыямі, куды пасылалі свае заметкі і вершы пра каханне, Прося была, што жаданая хмурынка ў спякотны ліпнёвы дзень.

Валянціна таксама хвалявалася, пакуль Прося, перабраўшы амаль увесь пачак, дастала, нарэшце, сіні канверт.

— Ох, і здалёку, цётачка... — сказала яна, зірнуўшы на зваротны адрас. — Ад Даўгавухава Антона Сямёнавіча з Карэла-Фінскай. Ці можна ў вас вады напіцца?

Яна напілася вады, схапіла за шчочку Анэльку, Валянцініну дачку, паказала ёй язык і, смеючыся, выскачыла за парог. Гаспадыня засталася стаяць сярод хаты, з усіх бакоў разглядаючы пісьмо. Яно не вельмі каб цікавіла яе. Але цяпер, пасля прыходу гэтай крыху незразумелай Просі, хацелася хутчэй прачытаць яго. Старэйшая дачка Вера, вучаніца сёмага класа, выйшла з пярэдняга пакоя, дзе яна рыхтавала ўрокі, і таксама працягнула руку да пісьма.

— Дай, мама... Хадзем прачытаем.

І вось яны ўжо сядзяць удзвюх ля стала, і Вера, ледзь разбіраючы нязграбны почырк, чытае:

«Добры дзень, дарагая мая пляменніца Валянціна Мікалаеўна і твой муж Восіп Яўменавіч, а таксама дзеткі Вера і Анэля. Піша вам пісьмо вядомы вам Антон Сямёнавіч Даўгавухаў. У першых страках свайго пісьма саабчаем, што ўсе мы жывыя і здаровыя, чаго і вам жадаем ад усяго сэрца. Жывём яшчэ лепей, як раней, бо ёсць каму клапаціцца, ды ўжо і абжыліся. Аднак жа самі ведаеце — на чужыне часта сумуем, бо дзе нарадзіўся, дык туды, скажу вам, вельмі цягне...»

Дачка чытае не спяшаючыся, часам, не зразумеўшы якога слова, перачытвае яго па два разы, а Валянціна схіляе галаву ўсё ніжэй і ніжэй. Ужо ж не такі і стары стрыечны дзядзька — старэйшы за яе ўсяго на якіх пяць год. Нешта з год яны нават разам на вячоркі хадзілі. Як пачалася калектывізацыя, Антон Сямёнавіч раптам пайшоў ад бацькі на заработкі ў горад. Працаваў на чыгунцы і адзін раз у тыдзень, перад нядзеляй, прыходзіў да бацькі на адпачынак. У палях ужо гулі трактары, ужо калгасныя коні набіраліся на паплавах сілы, а ён, звычайна пад вечар, вяртаўся з прыгараднага цягніка ў вёску, увесь у мазуце, мала звяртаючы ўвагі на наваколле. Яна, Валянціна,



заўсёды чамусьці шкадавала яго, пазіраючы, як ён ідзе. Потым і яму гэтая работа не спадабалася, зволіўся, год працаваў у калгасе, а тады зноў пайшоў у горад, на гэты раз нарыхтоўшчыкам на пункт. Тут ён падабрэў і папрыгажэў. Набыў танныя касцюмы, але найбольш хадзіў у вайсковым адзенні. Працаваў старанна, рабіў усё папраўдзе, у сваю ж вёску амаль ніколі не зазіраў. Пачаў будаваць дом у мястэчку, недалёка ад Дняпра. Паставіў ужо зруб, як раптам пасварыўся з нейкім начальнікам і страціў пасаду. Зноў давялося вярнуцца ў вёску і працаваць у калгасе. І зноў нядоўгі час. Адшукалася месца ў канторы райспажыўсаюза. Пасля гэтага ён дабудаваў дом, ажаніўся і сама б зажыў, але ж пачалася вайна. У вайну, пасля ранення, жыў і на Урале, і ў Сярэдняй Азіі. Як вызвалілі раён, вярнуўся ў мястэчка, у свой дом, да сваё сям'і. Цяжкі быў час, галодны. Антон Сямёнавіч зноў заняў свой стол у канторы райспажыўсаюза. Але нечакана для ўсіх за адзін тыдзень упакаваў свае рэчы, забіў хату і паехаў з сям'ёю жыць на старану. Па ўласнаму жаданню. Яму там сябры знайшлі нейкае выгаднае месца. За ўвесь час гэта трэцяе ад яго пісьмо.

«...Дык жыць тут вельмі добра, але ж сумна, бо ўвесь час Дняпро і палі ўспамінаюцца. Як працаваў яшчэ ў нашых краях, дык... Аж толькі цяпер як след уцяміў...» — чытае Вера.

## 2

Валянціна спяшаецца. Яна апранае святочную сукенку, абуваецца ў боты, бо на двары яшчэ не падмерзла, і, загадаўшы Веры як след сачыць за малой Анэлькай, падаецца да выхаду.

«Ліха яго,— разважае яна, беручыся за клямку дзвярэй,— а можа і не след было б ісці ажно ў мястэчка. Аднак няхай ужо, калі так... Дзень жа выхадны...»

На дварэ вясна. Свішчуць шпакі ў садзе, над палямі не сціхаюць жаўранкі, ля калгаснага двара бегаюць, падбрыкваючы, жарабяты.

За вёскаю, над раллёй, уздымаецца пара. Палі падсыхаюць, і во-во пачнуць сеяць. Ужо шмат дзе раскіданы гной і торф, а рунь серабрыцца — яшчэ ўчора на ёй сеялі мінеральную падкормку. Бурты, як капцы, відаць усюды. У поймах пачынае зелянець трава і лаза, спрабуюць галасы жабы. Усё наваколле — у чаканні блізкай вясновай навальніцы, нездарма ж з раніцы да вечара, і нават бывае ноччу, парыць. Спяваюць пеўні, зямля ляжыць, гатовая прыняць да сябе першае зерне. Валянціна радуецца, пазіраючы на палі, на паплавы. Усімі грудзьмі адчувае яна блізкае Дняпро, што схавана адсюль, ад дарогі, за крутым высокім берагам, зарослым бярэзнікам і часам дробным ельнікам.

Ззаду гудзе машына. Валянціна збочвае. Самазвал спыняе ход, як толькі параўноўваецца з ёю. Дзверцы кабіны расчыняюцца, паказваецца ўспацелы твар калгаснага шафёра Каленіка.

— Куды ідзеш? — пытае ён.

— У мястэчка,— адказвае Валянціна.

— Сядай, падвязу,— прапануе Каленік, а на твары яго чамусьці ўспыхвае радасць, якую схаваць ён, відаць, не можа.— Ды не ў кузаў, Валя! Або не бачыш, што ў кабіне месца не занятае.

Валянціна прыпыняецца. Ехаць, седзячы побач з Каленікам, не хочацца, аднак і адмовіцца сорамна. Каленік пагожы хлопец, яна ведае, што ён падабаецца жанчынам, асабліва дзяўчатам, бо яшчэ нежанаты. Каб ён не падумаў чаго лішняга, Валянціна не спяшаючыся абыходзіць

машыну і гэтак жа спакваля забіраецца ў кабіну. Тут горача, пахне бензінам і дымам. Каленік пераключае хуткасць, дае газ, і машына зрываецца з месца.

— Чаго гэта ты так прыбралася? — пытаецца ён, бліжэй падсоўваючыся да яе.

— А як жа,— адказвае Валянціна.— Іду ж на людзі.

— А ў мястэчку якія справы?

— Так, купіць што-ніпто,— адказвае Валянціна і прыкметна чырванее.

Каленік моўчкі ў знак згоды ківае галавой. Вочы яго прыжмурваюцца, аднак правае брыво ў гэты ж час паўзе ўгору, на ілбе прыгожа збіраюцца маршчынкі.

— Чаго гэта ты мяне баішся? — пытаецца ён.

— Я? Цябе? — дзівіцца Валянціна.

— Мяне. Во і цяпер усё адсоўваешся. А ведаеш, Валя, ты жанчынка прыгожая, і, каб гэта раней, чэснае слова, *я цябе засватаў бы.*

Валянціна адварочваецца ад яго.

— Кінь дурыцца...— строга *кажа яна.— Хоць бы пасаромеўся,* бо я табе так надуруся...

*Каленік надзьмувае губы і некалькі разоў запар чмыша.*

— Шанцуе некаторым,— кажа нарэшце і ўздыхае.

— Шанцуе! Усім аднолькава шанцуе!

— Дзе там! — узлавана кажа Каленік.— Сёння во выхадны дзень, усе шафёры не працуюць, а нас з Мікітам старшыня выгнаў. Прывезлі, бачыце, вагон каустычнай соды, дык тэрмінова каб вывезлі!

— Эх, Каленік! — нечакана зрываецца з вуснаў Валянціны.

Голас такі, што яна сама яго палохаецца — грудны, мяккі, як бы нават закаханы.

— Дык гэтую каустычную соду нам да вечара, значыць, трэба перавезці,— кругляками, па трыста шэсцьдзесят кілаграмаў у кругляку,— гаворыць далей Каленік, быццам зусім і не чуючы, што сказала Валянціна.

*Раптам ён паварочваецца і нейкі час пазірае на яе сваімі ўдумлівымі* шараватымі вачыма. У гэтых вачах свіціцца хлапецкая туга і невыказ-





ная мара. У яго моцныя рукі, заляпаныя мазутам, мускулістая шырокая шыя.

Нешта ўздрыгвае ў Валянціны ў грудзях, і яна таксама нейкі час пазірае на яго міжволі летуценна. А матор гудзе, бяжыць насустрач дарога. І мільгаюць прыдарожныя слупы. Першая схамянаецца яна, потым і ён, зноў пераключае хуткасць, і слупы пачынаюць мільгаць яшчэ хутчэй. Скрыжаванне,— машына пералятае цераз шашу і пачынае каціцца з узгорка. Наперадзе кіламетры за тры відаць мястэчка,— безліч шыферных дахаў, што алавяна паблісківаюць на ўзгорку.

— Каленік,— гукае Валянціна,— табе ж па шашы на станцыю.

— Нічога,— адказвае ён.— Паспею і туды.

— Не, спыні, я злезу.

Але ён як бы не чуе. На яго твары яна бачыць сарамлівую чырвань, ды і ёй самой ніякавата. Што скажуць людзі, калі во так пабачаць яе ўдваіх з Каленікам. Аднак невядомая патаемная радасць не сунімаецца ў яе грудзях, яна амаль неадрыўна пачынае сачыць за Каленікам, і ён таксама часта паглядае на яе. «Што гэта мы — заварожаныя?» — міжвольна думае яна. Зусім жа не хочацца ёй, каб ён спыніўся.

За колькі гоняў да мястэчка ён пачынае тармазіць, потым і зусім спыняе машыну.

— Прыехалі,— кажа ён і смяецца.

Валянціна з палёгкаю ўздыхае. Пачынае адчыняць дзверцы, але яны не паддаюцца, і яна злуецца, увесь час ірвучы ручку ўніз. Каленік сядзіць, быццам не заўважаючы ўсяго гэтага. Нарэшце схамянаецца, заносіць правую руку над яе плячыма, бярэцца за ручку. Цяпер твары іхнія амаль побач, яна адчувае гарачыню яго цела. Ад валасоў яго пахне не толькі мазутам, але і адэкалонам, рука яго трымціць. Аднак адчыняе ён дзверцы паспешліва, а яна гэтак жа паспешліва і смеючыся саскоквае на зямлю. Нейкі час стаіць, упарадкоўваючы валасы пад хусткай, Каленік між тым пачынае заварочваць машыну. І ўжо звярнуўшы, крычыць ёй з кабіны:

— Валя, праз гадзіну буду назад ехаць. Калі паспееш — пачакай на шашы!

Яна палохаецца яго голасу, шпарка паварочваецца і подбегам кіруецца ў местачковую вуліцу. Сэрца ў яе неспакойна б'ецца: божухна, да чаго такое можа давесці.

«Трыццаць пяць, сорак, сорак восем»,— пачынаюць чамусьці лічыць яе вусны, а вочы блукаюць навокал: хоць бы не заўважыў хто знаёмы ды не падумаў чаго лішняга. Ну ж і Каленік! Бач, як газуе, ужо зноў на шашу выскачыў. Каленік у гэты час пачынае махаць з кабіны сваім картузом — на фоне неба гэта добра відаць, дарма што далекавата. Хваля цёплых пачуццяў, у якіх яна і сама не здольна яшчэ як след разабрацца, запаўняе яе. Робіцца трохі сумнавата, аднак жа і радасна. А потым яна палохаецца 'шчэ больш, а што як закахаецца ў гэтага Каленіка? Гэта яна, у якой муж і двое дзяцей! Вось жа выпала так — трэба ж яму якраз пад'ехаць! І хоць яна кіруецца да першай жа крамы, аднак менш за ўсё думае цяпер пра Антона Сямёнавіча Даўгавухава. Бадзёры настрой ад нядаўняй паездкі не пакідае яе. У краме яна разглядае выстаўленыя ў вітрыне каўбасы, селядцы і таранкі, разглядае ўсё, што прадаецца, а потым ідзе далей і доўга блукае па іншых крамах, зусім забыўшыся на нядаўняе здарэнне, якое цяпер здаецца ёй ужо зусім нязначным.

«Як там дзеці? — турбуецца яна.— Паспець бы вярнуцца да кароў».

## 3

Надыходзіць вечар. Сонца заходзіць, барвавее захад. За пляцамі, ля Дняпра, у поймах і на лугах, часам штэкаюць дзікія качкі. Бакас крычыць над лугамі, лётаючы недзе вельмі высока. У вокнах хат раз-пораз ўспыхвае электрычнае асвятленне.

Валянціна толькі што ўправілася па гаспадарцы. Згатавала вячэру, пасадзіла за стол дзяцей. Села і сама на ўслон пры стале. Пазіраючы на малых, задумалася.

Зноў успомніла, як вёз Каленік да мястэчка, і думкі адгукнуліся адчувальным болем у грудзях. Спачувальна запыталася ў Веры:

— Урокі, дачушка, вывучыла?

— Вывучыла, мама,— адказала тая.

— Ну, то і добра,— і пагладзіла дачку па галаве.

Потым прыбірала са стала посуд, а Вера тымчасам прымасцілася на табурэце ля самай грубкі, разгарнула кнігу, унурылася ў чытанне. Валянціна адшукала аркуш чыстай паперы, узяла Верыну ручку, села да стала.

«Добры дзень, дарагі Антон Сямёнавіч! — вывела яна.— Сёння мы атрымалі ад цябе пісьмо, якраз у нядзелю рабіць мне не было чаго і я адразу падалася ў мястэчка, каб яшчэ раз самой усё пабачыць».

Пасля гэтага Валянціна паклала рукі на стол, абаперлася на іх і задумалася. За акном у змроку чуцён быў птушыны гоман. Шасталі старонкі кнігі, якія часам перагортвала Вера. Мурлыкаў кот, выціраючыся аб ногі, і спявала малая Анэлька, кладучы на ноч спаць сваю ляльку.

Раптам ляснулі весніцы, і ў двары пачуліся глухія крокі, а тады і кашаль. Нехта ішоў. Ці не ўдвух нават. Потым расчыніліся дзверы, і басавіты голас запытаўся:

— А сама дома?

— Дома,— адгукнулася Валянціна, не падымаючыся з услона, а толькі павярнуўшы галаву.

Вялікі, у ботах, у паношаным рабочым пінжаку ў дзвярах паказаўся сусед Ануфрэй. Пераступіўшы парог, скінуў з галавы кепку, правёў пяцярнёй па валасах, сказаў:

— Добры вечар.

— Добры вечар,— адказала Валянціна.

— Во, зайшоў пагаманіць. Праўда гэта, што Антон пісьмо прыслаў? — і вочы яго ўспыхнулі прыкметнай радасцю.

— Прыслаў,— кіўнула галавой Валянціна.

— Быццам, кажуць, хоча вярнуцца?

— Як быццам бы.

— Гэта добра. Дык пра што ж хоць піша? — Валянціна не паспявае адказваць. У хату яшчэ заходзяць, не адзін, а некалькі. Сярод іх нават кабеты. Валянціна не дзівіцца гэтаму. Так бывае заўсёды. Асабліва шмат было пасля першага пісьма Антона Сямёнавіча. І не дзіва. Аднавясковец паехаў у вельмі далёкі адсюль край, дзе, кажуць, хораша жыць. Тады многія адчувалі нястачу і цікавіліся, напрыклад, цэнамі і якая ёсць праца, і ці цяжкая, і якое начальства — ці спагадлівае. Дык, прынамсі, кожнаму хацелася ведаць, як жа жыве свой чалавек на далёкай зямлі, сярод чужых. Наступныя пісьмы Антона Сямёнавіча не мелі, праўда, такой колькасці слухачоў, але гэтае, што прыйшло сёння, здзівіла навіной: Даўгавухаў хоча вярнуцца! Пра гэта дазналіся ад цёткі, якая бачылася ўдзень з Валянцінай у мястэчку. Гэта ўжо ж была навіна, дый якая! Было пра што пагаварыць і што паслухаць!





Ануправй радаваўся.
— Цягні, Валянціна, усе свае зэдлікі ды чытай — паслухаем! — загрымеў ён на ўсю хату.
— Ага, цягні,— цікава ж паслухаць, пра што ён піша!
Прайшло не мала часу, пакуль усе размясціліся, як маглі. Валянціна дастала з шуфлядкі стала сіні канверт, выцягла пісьмо.
— Тут спачатку нецікава,— сказала Валянціна.
— Не, чытай усё,— патрабаваў Ануправй.— Усё як ёсць, да апошняга слова!
Валянціна пачырванела.
— Чытай, чаго ты! — падтрымалі яе жанчыны.
Тады яна ўспомніла Каленіка, гул матора, мільганне прыдарожных слупоў, як бы зноў жахнулася ўсяго гэтага, аднак вусны яе як бы самі міжволі загаварылі.
«Добры дзень, дарагая мая пляменніца Валянціна Мікалаеўна і твой муж Восіп Яўменавіч, а таксама дзеткі Вера і Анэля. Піша вам пісьмо вядомы вам Антон Сямёнавіч Даўгавухаў»,— прачытала Валянціна.
Нехта крактануў, нейкая жанчына нават войкнула, у хаце ўсталявалася напружаная цішыня.
— Пляменніца? Муж Восіп Яўменавіч? — не вытрымаў калгасны конюх Даніла Сапун. — Што ён вярзе? Якая ты яму, мужу, пляменніца? Які гэта ў цябе яшчэ муж Восіп Яўменавіч? Або ты, можа, не так чытаеш?
Валянціна схіліла галаву, пачырванела.
— Гэта ён, як у апошні раз прыязджаў, дык прасіў, каб і я так пісала. Начальнік у яго вельмі строгі, а месца выгаднае, дык ён баіцца, каб пісьмо якое не трапіла да таго начальніка. Цяпер, кажа, наконт гэтага строга.
Жанчына, што войкнула, хіхікнула ў рукаў.
Ануправй стаяў, раскрыўшы рот, а Даніла Сапун сядзеў на ўслоне, пазіраючы на Валянціну.
— Ну, канешне, — мармытаў ён. — Пажыві во так адна, без мужа. Калі яшчэ тое свята будзе, што ён наведаецца. Знаю. Сам у сорак гадоў удаўцом застаўся, дык тут, брат, не абвінаваціш. Узяць хоць бы і самога Антона Сямёнавіча, — узвысіў ён голас. — Чалавек вунь колькі перагараваў. Быў і на чыгунцы, і на нарыхтоўцы, і ў райспажыўсаюзе, а толькі — сказаць — як след нідзе не асеў. З самых юнацкіх год во так шчасця шукаў, а яно ад яго, як ад хваробы, уцякала. То ён у горад, то ў раён, то ён табе зноў у калгас. Ну, толькі, сказаць праўду, калі ўжо чалавек да чаго-небудзь аднаго імкнецца, дык урэшце ўсё роўна калі-небудзь гэтага ды дастане. Тое нарэшце і з Антонам Сямёнавічам адбылося. Бач, прыстроіўся да вялікага начальніка вартаваць дачу. Шэсцьсот рублёў у месяц, ды давай сюды пенсію, ды тое, што рабіць там няма чаго, хіба толькі па выхадных разам з тым начальнікам на легкавой на рыбалку. Канешне, нялёгка страціць такое. Яно ж далося вунь праз які пот. Дый — адзін раз за ўсё жыццё. Дык чытай жа далей! Як гэта ён раптам ды хоча вярнуцца!
— «Піша вам пісьмо вядомы вам Антон Сямёнавіч Даўгавухаў. У першых страках свайго пісьма саабчаем, што ўсе мы жывыя і здаровыя, чаго і вам жадаем ад усяго сэрца. Жывём яшчэ лепей, як раней, бо ёсць каму клапаціцца, ды ўжо і абжыліся. Аднак жа самі ведаеце — на чужыне часта сумуем, бо дзе нарадзіўся, дык туды, скажу вам, вельмі цягне...»
— А ці няма ў яго яшчэ там адной жонкі, Валянціна? — запыталася



адна з жанчын. — Нешта ўжо ж ён «мы» ды «мы». І пасля — пляменніцай цябе называе. Гэта ж і паверыць цяжка.
— Няма ў яго нікога! — рашуча запярэчыла Валянціна. — Ведаю. Адзін знаёмы там быў, дык расказваў. Дый добра вам так гаварыць, кабеткі. Вы б лепей паслухалі во Данілу Сапуна. Пажыві адна на гаспадарцы!
— Правільна, Валянціна! — падтрымаў яе Ануправй. — Чытай далей.
— «Таму надумаліся мы вярнуцца ў сваю родную вёску. Але ж вярнуцца на галодны стол няма разліку, а тымчасам жыць давядзецца толькі з пенсіі, а яна невялікая, бо я ўсяго трэцяй групы. Дык напішы, ці ўсё ёсць там цяпер у магазінах, якія крупы, каўбасы, сала і рыба, падрабязна. Тады мы збярэмся да вас, мая пляменніца».
— Ну, і напішы яму! — сказаў Ануправй. — А што, табе ўвесь век мучыцца адной без мужа. Напішы, як ёсць! Во зараз сядзь і пішы.
Пачырванелая, Валянціна стаяла, не зварухнуўшыся. Успомнілася даўно мінулае. Вячоркі. Летнія песні на ігрышчах. У суботу ўвечары адзінокі чалавек у зашмальцаваным адзенні крочыць ад станцыі ў вёску. Незразумелае спачуванне і, як бы, жаласлівасць...
Дзед Даніла Сапун раптам падхапіўся.
— Напішы абавязкова. Во пры нас. Ёсць чым пахваліцца нават і перад тым начальнікам. Грошай атрымалі па сем рублёў на працадзень. Цяпер, значыць, жыта, бульбы... Электрычнасць гарыць. А ў крамах цяпер усяго. І крупы, і мукі ўсякай, і каўбасы, і сала — абы твой заробак. І зноў жа сваіх парсюкоў гадуем. Куды там! У яго там і няма можа таго, што цяпер у нас. Дык пішы — чаго ж ты! Хай едзе, мы, брат, тут яго сустрэнем, ды яшчэ і прабярэм як след. Такую маладзіцу пакінуць!
Але Валянціна не кранулася з месца. Цяпер, калі яна прачытала пісьмо ўсім, ёй было сорамна, чамусьці крыўдна, хацелася плакаць. Радасць, што ён зноў вернецца, патроху як бы патухала, рабілася не такой адчувальнай.
— А няхай яго! — махнула яна ў роспачы рукою, змахваючы са шчакі няпрошаную слязу. — Я сама, адна напішу.
— І гэта праўда,— згадзіўся Ануправй.— Адумацца, падумаць трэба.
І ўсе адчувалі ніякаватасць, быццам гэты Антон Сямёнавіч быў цяпер сярод іх зусім як быццам і няпрошаны. Дый за гаспадыню, якая выдала свой сакрэт, было ўсім сорамна. Пакурылі. Паспрачаліся наконт ураджаю. Пачалі разыходзіцца.
А нядзельны вечар плыў сваім парадкам. На вуліцы пачуліся дзявочыя галасы, смех. Потым зарыпеў гармонік, узгарэлася песня — гурт дзяўчат і хлапцоў прайшоў паўз хату ў бок калгаснага клуба. Валянціна нейкі час прыслухоўвалася да гоману, што ўвесь час аддаляўся, потым паднялася з-за стала, выйшла ў двор.
Высока ў вясновым небе мігцелі зоры. Крумкалі жабы пры Дняпры. Як і раней, усё яшчэ спяваў у небе бакас. Патыхала ад Дняпра вільгаццю, пахам зеляніны. І раптам прыемны голас:
— Вярніся! Вярніся! Вярніся! Цок! Цок! — Салавей спрабуе свой голас блізка ў кустах.
І спеў, і гукі гармоніка, і галасы — усе гэта ўжо на тым канцы вёскі, ля калгаснага клуба.
Валянціна выходзіць на вуліцу. Спыняецца, прыслухоўваецца. Нечакана ад шулы варот адыходзіць цень. Раптам пачынаюць млець ногі і сэрца заходзіцца ад болю. Каленік між тым спыняецца перад

ёй, і яна бачыць яго задумлівыя вочы і знаёмыя зморшчыкі на ілбе. Нават тут, у цемені, яна заўважае, што Каленік саромеецца. Ён адварочвае ўбок твар, потым пазірае сабе пад ногі.

— Я ўсё роўна як ведаў, што ты выйдзеш.

— Чаго гэта табе трэба? — сурова пытаецца Валянціна.

І тут яна бачыць, што ўжо не можа стрымацца. Яе рукі раптам абхопліваюць шыю хлопца, галава падае яму на плячо, і слёзы сыплюцца, як той вясновы дождж. Тады Каленік цалуе яе і шэпча:

— Ты не бойся. Я гэта папраўдзе. Нават з бацькамі гаварыў.

Верыць яму або не верыць?

А ноч ідзе сваім парадкам...

Гэтая ноч робіць Валянціну зусім інакшай,— вялікая радасць наперадзе. І раніцаю, дастаўшы чысты аркуш паперы і ўздыхнуўшы, Валянціна піша:

«Добры дзень, Антон Сямёнавіч! У нас нічога не змянілася. Работы — проста рукі адрываюцца. Таўчэшся дзень і ноч. Так што не едзьце. Жыцця ўсе роўна не будзе...»

Піша і думае пра сваё сапраўднае каханне, якое, нарэшце ж, здаецца, усплыло і закрасавала.

# ПАТАП

## Апавяданне

Мал. Л. Дубара.

1

За выключэннем зімы і лета, ён быў апрануты ў ватоўку, суконныя зашмальцаваныя штаны і кірзавыя боты, а на галаве насіў прабітую кепку, бо меў звычай заўсёды, калі калгасныя вартаўнікі спаборнічалі ў трапнасці стральбы, падкідваць яе, як мішэнь. І калі ад кепкі, здаралася, ляцела атрэп'е, голасна крычаў і рагатаў. Праз гэта за сезон яму даводзілася купляць у краме да пяці новых кепак, і кожная праз які тыдзень была ўся ў дзірках. Далей ён меў тую асаблівасць, што любіў спрачацца на заклад. Іграюць, скажам, у шашкі, і ён абавязкова ставіць на кон пачку «Беламора». Але з той прычыны, што рабіў ён гэта не з разліку, а толькі спрачаўся за таго, хто быў да спадобы, дык амаль заўсёды прайграваў. Яшчэ любіў ён смажыць лягушак і на гэтых лягушак лавіць самоў. Усё жыццё ў яго было, здаецца, нацэлена на адно: злавіць такога сама, які абавязкова важыў бы сем пудоў. Але сом такі не лавіўся, і таму з Патапа заўсёды кпілі.

У калгасе ж выконваў ён самую непрыемную работу: корпаўся на дворышчы. Чысціў стайні, калі трэба было — студні, зграбаў смецце, калі адрывалася якая дошка пад вільчыкам, дык пасылалі прыбіць яе. Адным словам, Патап быў майстрам у гэтым напрамку на ўсе рукі. І заўсёды ад яго несла як бы курыным седалам. І калі незнарок чалавек трапляў у яго хату і бачыў чыстыя фіранкі, чыста вымытую падлогу, белую печ, акуратна прыбраны ложак, дык спачатку не верыў, што гэтая ўгульная хата ёсць Патапава жыллё. Нічога такога не



здаралася з ім асаблівага ў жыцці, аднак...



Калгас рыхтаваўся да веснавога севу. На апошнім пасяджэнні праўлення абмяркоўвалі, хто і што і ў якія тэрміны павінен зрабіць. Асабліва шмат гаварылі пра ўгнаенні. І калі іх вывозіць, і колькі на гэта спатрэбіцца падвод і аўтамашын. І тут якраз сказаў нехта:

— Трэба ўжо цяпер прымацаваць возчыка да свінафермы. Работа брудная — не кожны згодзіцца. Трэба наперад назначыць чалавека і як след пагаварыць.

— Правільна, — адгукнуўся старшыня Платон Каўпаеў. — Мінулы год колькі спрэчак было з-за гэтае свінафермы! Так і вазілі па чарзе.

Праўленцы задумаліся. Кандыдатуры не знаходзілася. Урэшце, спахапіўшыся, старшыня сказаў:

— А давайце пашлем на гэта Мікалая Разумоўскага. Хлопец як бы нішто.

Камсорг калгаса Андрэй Якубовіч, акінуўшы ўсіх бліскучым позіркам, падняўся і папрасіў слова.

— Як можна пасылаць на такое Разумоўскага,— ледзь не шаптаў ён.— Самі падумайце: хлопец актывіст, з асветаю, заўсёды лекцыі чытае, на сцэне ў самадзейнасці выступае. Ды што вы, таварышы! Мы ж падарвём яму ўсякі аўтарытэт! Ну, скажыце, што гэта будзе за прапагандыст? Важныя мерапрыемствы ў нас сарвуцца. А аўтарытэт сярод пажылых калгаснікаў — гэта... Ды ён жа прападзе дазвання! А дзяўчаты! Іх жа, каб агітаваць, трэба яшчэ і выгляд мець. Можа нават калі і адэкалонам папырскацца! А насценгазета! А футбольная секцыя! А шахматы! Не, таварышы, Разумоўскі і без таго загружаны во так,— сакратар правёў далонню па свайму кадыку.— Па горла загружаны! Апроч таго, чэсна кажучы, ён то, як заўсёды, возьмецца, а ці справіцца?

— Ладна,— адгукнуўся Каўпаеў.— Пашукаем іншага. Толькі каго ж?

Па-вясноваму грэла сонца, і на вокнах канцылярыі ў драўляных скрынках ужо зелянела расада памідораў, пасаджаная калгасным рахункаводам Таняй Маслоўскай. Сама Таня, стройная прыгажуня, сядзела за сваім сталом, бразгаючы лічыльнікамі і зрэдку прыслухоўваючыся да размоў. У канцылярыі было духотна, плаваў махорачны дым. Спрэчкі і размовы не давалі ёй засярodзіцца, Таня падчас па тры і чатыры разы правярала падлікі і кожны раз знаходзіла дробныя недакладнасці, — то астачу, то пералік. Нарэшце, яна і зусім адпіхнула ад сябе лічыльнікі. Міжволі ёй успомніўся Мікалай Разумоўскі: і як ён праводзіў яе ў апошні раз і пра тое, што яны тады гаварылі. Што і казаць — дзіўны хлопец! І ўсю восень і зіму і во гэтай вясной заўсёды праводзіў ён увечары яе дадому. І заўсёды, як дойдзе да двара, пагаворыць пра што-небудзь нязначнае, ветліва развітаецца і пойдзе, быццам і не бачачы, што Таня па ім як не млее. І хоць бы раз за ўвесь гэты час было так, што ён яе абняў або пацалаваў, або хоць бы паспра-



баваў гэта зрабіць. Не, стаіць, размаўляе пра пабочнае — пра розных артыстаў да кінакарціны — быццам насміхаецца. Скончылася гэта тым, што Таня сама пачала падступацца да яго бліжэй. У той час, як ён расказваў ёй розныя цікавыя гісторыі, яна брала і сціскала яго рукі ў сваіх невялічкіх руках. Яе вочы, нават вусны, ужо шукалі яго вачэй і вуснаў, а ён, як заўсёды, быў заняты нечым пабочным. Нарэшце, тры дні назад, Таня не вытрымала. Раптам абхапіла Мікалая за шыю, моцна пацалавала ў губы і кінулася ў свой двор. Цяпер, вось ужо тры дні, яна не магла адказаць сама сабе: чаму такое з ёю здарылася?

...У сваім двары яна не адразу пайшла ў хату, а пастаяла, паслухала: можа Мікалай услед пойдзе? Але ён не пайшоў. Хутка з вуліцы яна выразна пачула галасы— яго і яшчэ нечы. Ёй вельмі захацелася даведацца, пра што Мікалай будзе гаварыць цяпер з тым незнаёмым. Яна асцярожна выбралася з двара і пайшла за імі ўслед, тулячыся да плятнёў. Размаўлялі пра дзяўчат. Хлопец скардзіўся Мікалаю, што яго не кахаюць. А Мікалай? Мікалай казаў так:

— Тут патрэбен псіхалагічны падыход, як і ва ўсякай іншай справе. Вось мая Таня, да прыкладу. Калі б я адразу за ёй улягаў, ды каб кідаўся, што было б? Яна, вядома, адносілася б да мяне холадна. Нават і з другімі гуляла б. Тады яна вунь якая была б ганарлівая. А я, брат, наперад усё прадумаў. Правёў яе першы раз. Пагаварыў і разышліся. І ў другі раз спыніліся ля яе двара. Яна ўжо чакае, што я паспрабую яе абняць, а я — ні з месца. Бачу, злосць яе нават бярэ, а ўсё роўна стаю на сваім. І так увесь час. Давяду да двара, гавару, а апроч, як пад ручку, не бяру. Во, брат, вучыся! Дзеўка ўжо як не плача, а я, брат, трымаюся, — чакай, думаю, сама ў рыбацкія сеці трапіш. Дык, бач, так і выйшла. Сёння кінулася на шыю, пацалавала. Сама. Цяпер ужо ёй, канешне, не выкруціцца, бо я цяпер ужо ведаю, як рабіць. Хопіць, за восень ды за зіму вунь як намучыўся...

Таня пасля гэтых нечаканых яго слоў спынілася, як укапаная. Злосць, праўда, на самую сябе і на Разумоўскага ўспыхнула ў ёй. Нават захацелася ісці да самога старшыні. Ісці і паскардзіцца. Слёзы самі пацяклі з вачэй. І во тры дні ходзіць, не ведаючы, што рабіць. Пэўна, што лепш за ўсё не сустракацца болей з Разумоўскім, хоць рабіць гэта будзе цяжка. Цяпер ёй вельмі хацелася, каб гэтага Разумоўскага прымацавалі да свінафермы. Яна не вытрымала і падхапілася.

— А што ён у вас незамянімы? — гнеўна сказала яна.— Вы ж на яго як не моліцеся. Ён і культурнік, ён шахматыст, ён і артыст, ён і клубам загадвае, а ад работы ўвесь час — як неба ад зямлі! А што ён добрае зрабіў? Нічога, хоць за ўсё і бярэцца. І вы дарма, Платон Ісакавіч, за яго заступаецеся. На свінаферме яму толькі і месца. Хай рукамі паспрабуе хлеб зарабляць, а не языком!

— Што гэта ты, Таня? — здзівіўся старшыня.— Вы ж як быццам бы ў прыязных адносінах!

— Гэта вам здаецца, што ў прыязных,— адрэзала Таня.

Камсорг Якубовіч таксама быў не менш здзіўлены.

— Таня, няма чаго гарачыцца,— сказаў ён. — Калі вы ўжо там не паладзілі, дык мірыцеся. Гэта калгасных спраў не датычыцца. А да свінафермы ў мяне ёсць добрая кандыдатура. Патапа — во каго туды прымацаваць. Гэты ўсё сваё жыццё на фермах ды на дворышчах працуе — каго ж іначай? Гэты нас не падвядзе.

2

Патапа замацавалі за свінафермай. Кожную раніцу ў шэсць гадзін ён запрагаў каня,наліваў як не поўную скрыню, што была прыладжана на калёсах, і ехаў у поле. Здаралася, што выпадковы падарожны пытаўся, што гэта — ці не цэмент — ён вязе, і Патап адказваў, што гэта за жыжа ў яго ў скрыні на калёсах.

— І як з ім, з чортам, жонка спіць,— дзівіліся многія.— Як той жук. Калупаецца з раніцы да ночы на фермах.

Што ж да Патапа, дык ён не звяртаў увагі ні на размовы, ні на дабрадзейныя кпіны. Ён працаваў. Ферма была вялікая, той кавалак поля, які трэба было ўгноіць, таксама немалы, а возчык быў адзін ён. Да таго ж камсамольскія звенні рашылі паказаць на сяўбе прыклад, і Патапу трэба было спяшацца...

Пальцы яго рук былі тоўстыя, гарбатыя, усе ў мазалях, твар абветраны, пачырванелы і як бы абпалены, вочы затуманеныя, з патаемнай хітрынкай, брызентавы плашч на ім шапацеў. Дома сваё адзенне ён скідаў у сенях, там жа апранаў чыстае і толькі пасля гэтага ішоў у хату. Аднак і ў хаце цяжкі пах не прападаў, хоць і сушылася для гэтага процьма палыну. І калі ў свята ён, здаралася, выпіваў, дык гаворку сваю пачынаў заўсёды з аднаго і таго ж:

— Што галоўнае для гаспадаркі? А галоўнае для гаспадаркі і не трактар і не камбайн, а галоўнае для гаспадаркі, дружа ты мой, гной... Як ёсць гной, то тады і мы з хлебам. Во, дружа, як яно. А да гною мінеральныя ўгнаенні — аміячная салетра, каустычная сода, вапна. А тады ўжо, як гной, то і твая тэхніка ў ход. А ў нас што? Хіба мы ўгнойваем? А як жа, трымай кішэню шырэй! Во я, да прыкладу, важу са свінафермы. А што важу? Разведзены цэмент — во што. А каб туды подсціл — удвая болей было б і карысней. Няма подсцілу, дый годзе! А ўсё з-за таго, што салому на корм пускаем. Травы зусім не сеем, бярэм толькі тое, што з лугоў, што зямелька сама нам дасць... І мінеральных угнаенняў не хапае. Хіба гэта справа, што ў гэтым толькі годзе калгасу недадалі дзевяноста тон. Хм... Гэта аднойчы прыязджае практыкантка. Паглядзела на бурты торфу, гэтак пальчыкамі паварушыла і загадвае раскідваць. А я кажу — стой, галубка. Я хоць і тэхнікумаў не канчаў, а толькі з аднаго твайго торфу карысці з вераб'іны нос. Што кідай яго, а што не кідай — адно ліха. А ты дадай сюды каустычнай соды — на дзвесце літраў вады дзевяць кілаграмаў, ды гэтую самую мешаніну змяшай з паўтонай торфу — то тады будзе падтрымка расліне. Дык яна, практыкантка, яшчэ і разззлавалася.

Наогул пра гной і ўгнаенні ён пачаў гаварыць з усімі і ўсюды — у дарозе, на рыбалцы і аднойчы на Дняпры так дапёк гэтым нейкага вудара-начальніка, што той аж вымушаны быў уцячы ад яго.

З яго пасмейваліся, аднак увесь час быў ён непрыкметны сярод усіх, усе прызвычаіліся ўжо бачыць, як ён корпаецца то ў калгасным двары, то на сваёй сядзібе. І нават у гэтыя напружаныя дні, калі яму аднаму належала вычысціць увесь калгасны свінарнік, на яго мала хто звяртаў увагі. Часта забягалі толькі камсамолкі-звеннявыя, што падмеліся вырасціць паказальны ўраджай бульбы якраз на тых участках, куды вывозіў ён гной. Забегла неяк разам з імі і Таня Маслоўская. І пакуль звеннявыя аглядалі вялізныя скрыні, з якіх ён чэрпаў вядром, Таня, стоячы ля яго, сказала:

— І як жа быць, дзядзька Патап? Праз дзень пачнецца сяўба, а ў вас вунь яшчэ колькі вывозіць. Камсамольцы паабяцалі вырасціць вялікі ўраджай і раней за ўсіх закончыць сяўбу.

Успацелы, ён паглядзеў на яе зморана і запытаўся ўзлавана:

— А табе якая да таго справа? Сядзела б у сваёй канцылярыі!

— Дык я ж, дзядзька, цяпер там не працую. На маё месца Мікалая Разумоўскага паставілі, а я перайшла ў паляводчую брыгаду. А пакуль сяўба не пачалася, мы насенфонд рыхтуем. Там таксама працы хапае.





Гэта здзівіла Патапа. Ён паклаў на скрыню вядро, начэпленае на даўгаваты шост, чмыхнуў, сказаў з дакорам:

— Як жа гэта ты адважылася? Значыць, праз дзень сеяць, кажаш? — Пастаяў, падумаў, усміхнуўся нечаму і ўжо рашуча запэўніў: — Ладна, вывезу! Паспею!

— Наўрад, дзядзька,— сумелася Таня.— Каб гэта вам памагчы. Хочаце, пагаворым са старшынёй...

Але такая прапанова толькі пакрыўдзіла яго.

— Не трэба мне іхняя дапамога,— сказаў ён глуха.— Адзін спраўлюся. А ўжо як, то гэта не вашая справа! Працуйце сабе на насенфондзе — усюды рукі патрэбны.

Вечарам, скінуўшы ў сенях свой плашч, ён зайшоў у чыстую хату, павячэраў, падрамаў нават троху, седзячы на ўслоне, і зноў патупаў у калгасны двор. Ён знарок затрымаўся дома, каб прыйсці да фермы, калі ўжо нікога не будзе.

Ноч была месячная, светлая і цёплая. Далёка на шашы адзін за адным плылі агеньчыкі электрафар. Брахалі сабакі ўсюды ў паселішчах. Часам крычалі яшчэ кнігаўкі дзе-нідзе па балотах. Патап ішоў вельмі марудна. «Засмяюць,— думаў ён,— калі толькі ўбачаць во так ноччу. Ніколі ж і ні з кім такога не было. Ніколі і ніхто так не рабіў. Звар'яцеў, скажуць».

Ён марудна ступаў па зямлі, часта паглядаючы на вокны хат, у якіх яшчэ гарэла электрычнасць. Сустракаліся часам і пешаходы, ля брыгаднай хаты-чытальні размаўлялі дзяўчаты. І хоць ніхто яго не бачыў і нікому не было ніякай справы да яго, аднак яму здавалася, што ўсе ведаюць пра яго намер, і таму сорам усё больш падступаўся да яго. У калгасным двары ён яшчэ доўга гаманіў з вартаўніком, потым вывеў з хлева каня, запрог яго ў свае калёсы і пры святле месяца пачаў наліваць вядром у скрыню гной. Потым ён ехаў вуліцай, і яму ўвесь час было няёмка: а што, як сустрэнецца хто-небудзь. Во, дзіва — ужо яму і дня не хапіла. Актыўны... Смехата! Але ніхто не сустракаўся. Ля хатычытальні дзяўчат таксама не было. Гэта ўзрадавала яго, і ён бадзёрай занокаў на каня. Цяпер ужо можна было вазіць усю ноч — хто гэта раніцай будзе ведаць, які раз едзе ён у поле! Канешне ж, кожны будзе думаць, што першы. Гной — во што трэба ў час вывезці. Ён ведаў — дзяўчаты не падвядуць, абы гной быў вывезены. Так што ўся гэтая справа залежала ад аднаго яго...

Раніцай, як пачало днець, у калгасным двары ён выпраг зморанага каня і вывеў другога. Запрог у тыя ж калёсы і зноў паехаў у поле. Цяпер ужо насустрач яму траплялася нямала людзей. Хто вітаўся, а хто і не вітаўся. Патап не звяртаў на гэта амаль ніякай увагі. Ніхто з іх не ведаў, што ён працаваў усю ноч. Прыгравала ўжо сонца; хацелася спаць. Ля свайго двара ён не ўтрымаўся, спыніў каня. Забег у двор, прагна пачаў піць ваду з вядра ля студні. Абпырскаў твар. Зноў выбег на вуліцу і тут твар у твар сутыкнуўся з Мікалаем Разумоўскім. Хлопец стаяў, апрануты ў чорны пінжак, у цёмна-сіняе галіфэ, пад пахаю трымаў лічыльнікі.

— Што ж гэта вы, дзядзька,— сказаў ён.— Спыніліся пад самымі вокнамі... Дый галоўнае не ў гэтым. А галоўнае ў тым, што заўтра пачынаюць сеяць! — пастаяў, паглядзеў, падумаў і зазначыў: — А свінаферма вялікая. Спяшыць трэба. Зайдзіце ў канцылярыю, брашурку пра ўгнаенні дам пачытаць!

Патап толькі ўсміхнуўся ў адказ. Моўчкі сеў у перадок, пацягнуў за лейцы. Паглядзеў на хлопца, сказаў зусім добразычліва:

— Нічога, Мікалайка. Цяпер ужо я не адстану! Вывезу!

# ЖЫЦЬ!

## Апавяданне

Мал. В. Ягорава.

Сёння Тадорка ўпершыню начуе на двары. Тут пад навесам стаіць старая канапа. Тадорка сцеле на ім вялізны набіты сенам мех, — найлепшы ў свеце матрац, — прыкрывае яго коўдрай, кладзе падушку, прыносіць яшчэ з хаты старое бацькава паліто і — пасцель гатова.

Заходзіць сонца. Яго праменні заліваюць невялікі ўтульны дворык. Адразу за парканам шуміць лес, той самы лес, па якім штодзень ходзіць Тадорка ў пошуках усякіх цікавых прыгод. А ўслед за Тадоркам бегае яго неразлучны сябар, рыжы сабака Каштан. Так і заходзіцца брэхам між кустоў — то зайца палохае, а то дык і так — на якую сароку або варону. Вясна яшчэ толькі пачалася, яшчэ і хмызняк як след не зазелянеў, і ў нізінах дзе-нідзе можна ўбачыць ваду і нават рэшткі лёду, вольных цёплых дзён выпала яшчэ малавата, і таму з Тадоркам ніякіх асаблівых прыгод у лесе не адбылося. Во хіба толькі гэта. Ішоў лясной сцяжынкай, і раптам дарогу перагарадзіла звaленая сухастоіна. А далей яшчэ адна. А далей яшчэ і яшчэ, так што праз гэты завал амаль што нічога і не відаць. Пачаў Тадорка абыходзіць яго, ступіў некалькі крокаў і аж прысеў. Наперадзе за завалам сядзеў вялізны звер. І вушы на галаве тырчком. І чорныя вочы гараць. І сам белы — ну такі, што Тадорка адразу пазнаў. Ён яго бачыў у кнізе на малюнку. Белы мядзведзь — гэты звер. Тадорка аж пахаладзеў ад жудасці. Пачаў ён шэптам клікаць сабаку, ды хіба даклічашся, калі той бегае недзе далёка між дрэў. І тады, у адчаі, Тадорка гукнуў на ўсю моц:

— Каштан! На, Каштан, на!

А белы звер сядзіць, як сядзеў. Хоць бы зварухнуўся. Прыбег Каштан, лізнуў Тадорку ў самы пасінелы твар. Тадорка працягнуў наперад руку, паказвае на звера:

— Кусі яго, Каштан, кусі!



Прабег Каштан крокаў дзесяць, спыніўся, павіляў хвастом, назад вяртаецца, і выгляд у яго вінаваты: няма каго кусаць. Тут і Тадорка пасмялеў. Пасунуўся наперад, прыглядзеўся, а тады і яшчэ і яшчэ. Страх-то даймаў, дык жа ў яго быў ладны сукаваты кій, а ля ног круціўся верны паплечнік усялякіх баявых спраў — Каштан. А як ужо да таго месца заставалася рукой падаць і ў вачах памутнела ад хвалявання, тады толькі Тадорка разгледзеў, што перад ім не звер, а высокі бярозавы пень. А вушы — усяго толькі два белыя сукі зверху. А вочы — чорныя плямы на кары. І зверху, там, дзе зімой на снезе нехта ссек бярозу, шчодра цячэ густы бярозавы сок. Тадорка нават языком яго лізнуў — салодкі! Во толькі шчэпкі разам з ім трапляюць у рот. І мурашкі таксама.



Аднак дарослым Тадорка пра гэтую прыгоду нічога не расказаў. Адразу скеміў, што будуць смяяцца: не ведае, скажуць, што белыя мядзведзі недзе далёка на поўначы, дзе шмат вады і лёду і ніколі не бывае лета.

Набегаўшыся сёння, ён выпрасіўся начаваць пад навесам. Надзей на гэты начлег у яго шмат. Перш за ўсё, дык гэта, канешне, тое, што гэтая ноч не разлучыць яго з верным сябрам Каштанам. Далей, начуючы пад навесам, ён будзе як бы вартаваць увесь двор. А начны гоман птушак у лесе! А ўсялякія іншыя непрадбачаныя гісторыі. Мінулы год, напрыклад, ноччу да яго пад навес прылятала сава. Закрычала раптам. Тонка ды прарэзліва. Добра, што ён не спаў тады, бачыў яе — інача́й было б страху!

Пасцель гатова, цяпер застаецца толькі павячэраць. Тадорка падаецца ў хату, і ўслед за ім, чуючы куды выгаднейшую спажыву, чымся ў лесе, бяжыць Каштан. Толькі маці не пускае сабаку ў хату. І той доўга скавыча за парогам, аж пакуль яму не выкідваюць ладны акраец хлеба. Тадорка ў дадатак таксама не дрэмле за сталом, прыймае належныя захады.

Вячэраюць учацвярох: маці, бацька і старэйшая сястра Рыма. Стол стаіць у куце, амаль што насупраць печы, у якой палыхае вогнішча, ахінаючы чыгуны і чыгункі. За сталом, лічы, іх толькі трое — ён, Тадорка, бацька ды сястра Рыма. Маці ўвесь час на нагах, снуючы між печчу і сталом. Пасядзіць на ўслоне, сербане колькі лыжак і зноў да печы, каб падварушыць дровы або паправіць які чыгунок. Тадорка пазірае, як яна таропка есць, увесь час апякаючыся, і раптам пачынае галасна смяяцца.

— Ой, мама, да чаго ж ты смешна... — кажа ён.

— Хіба можна з мяне смяяцца? — пагрозліва пытаецца маці.

— Смешна, як ты ясі, бегаючы... — не супакойваецца Тадорка.

Бацька незадаволена пазірае на абаіх, усміхаецца і кажа:

— І сапраўды, Лена... Колькі разоў сварымся!

— А як жа інача́й? — пытаецца маці.

Аднак Тадорка ўжо не чуе, пра што гавораць дарослыя. Слухае толькі старэйшая сястра Рыма, а тады спахопліваецца. Бярэцца за лыжку, здзіўлена аглядае перад сабою стол, нагінаецца і тупае яшчэ нечага на падлозе. Нарэшце, падазрона зірнуўшы ў бок Тадоркі, зноў прымошчваецца да стала.

Самы ўрачысты і самы цікавы для Тадоркі час, гэта калі ён за сталом. Тут можна выпрасіць у маці смачны кавалак мяса, добрую костку, якой пасля можна добранька пастукаць па металічнай лыжцы або нават па стале, хоць за гэта і сварацца, тут можна таксама здабыць сабе добрую бабку, каб потым вымяняць яе на гузік або на іншую якую карысную рэч, можна, нарэшце, калі ты як след не пад'еў, папрасіць і яшчэ чаго-небудзь. Але галоўная цікаўнасць — што і тут розныя захапляльныя прыгоды, пра якія ніхто нават і не падазрае. Вось Рыма паморшчылася, азірнулася вакол і гнеўна піхнула Тадорку нагой. А з-за чаго? Гэтага ніхто не ведае, адзін толькі Тадорка. Часам нават сама Рыма не здагадваецца. Вось жа шукала яна нечага, нават як не пад стол лазіла і ўжо забылася на гэта, а ён доўга яшчэ будзе помніць.

Такі ўжо ён, Тадорка.

І есць ён па-свойму. Во Рыма, дык тая хутка жуе бліны. У правай руцэ ў яе кавалак смажанага сала, у левай — той блін. І яна кусае то сала, то блін, спяшаючыся.



Тадорка робіць іначай. Ён кладзе перад сабою блін, а далей пачынае накладваць на яго кружкі каўбасы і дробныя кавалкі сала.

Кладзе адзін на адзін, адзін на адзін — атрымліваецца крэпасць. Тадорка з момант вагаецца, а тады — хоп! — і адпраўляе ўсю крэпасць у рот. Пасля пачынае будаваць на тым жа бліне наступную крэпасць.

Губы яго, падбародак усе ў тлушчы, вочы зіхцяць і свецяцца затоенай радасцю — смачна!

Аднак маці хутка заўважае ўсё і незадаволена кажа:

— Што ж гэта ты, Тадорка, блін не ясі? Чуеш? Кусай блін, кажу!

І Тадорку міжволі даводзіцца брацца за блін.

Наеўшыся, ён выпівае шклянку малака, потым пальцам робіць на стале ад разлітага малака ручай і вылазіць з-за стала. Нагавіцы з'язджаюць у яго з жывата, аднак у хаце ўжо цемнавата і ніхто гэтага не заўважае. Тадорка выбягае за дзверы і бяжыць далей, аж пад навес. Каштан ужо круціцца ля яго ног, вішчыць, кідаецца то на грудзі, то ззаду на плечы.

Тадорка адмахваецца ад яго абедзвюма рукамі. Потым спыняецца, дастае з правай кішэні вялікі масол і кідае яго сабаку. Потым гэткім жа парадкам вымае ўсякія дробныя косткі. Каштан толькі віляе хвастом ды заядла грызе. Цяпер штаны палягчэлі і па правай нагавіцы не цячэ баршчовы рассол.

«У наступны раз буду ў анучку загортваць», — вырашае Тадорка і борздзенька хапаецца за левую кішэню. На дол падае то бульбіна; злоўленая ў баршчы, то костка, то скарынка хлеба. Нарэшце, з самага дна кішэні Тадорка дастае падмочаны кавалак хлеба і адразу пазнае яго. Гэта Рымін кусанік. Тадорка ўсміхаецца, бо адразу ўспамінае, як шукала яна гэты кавалак хлеба нават пад сталом. Усё больш і больш успамінаючы ўсё да драбязы, ён патроху пачынае хмурнець, на вочы пачынаюць напрошвацца слёзы. Неяк адразу яму раптам робіцца шкада сястры. Гэтае і радаснае і турбатлівае пачуццё ўсё больш і больш падступаецца да яго. Ён успамінае, як дарэмна поўзала яна пад сталом, як цяжка ўздыхнула і зірнула на яго, і яму робіцца яшчэ больш шкада Рымы. У дадатак прыгадваецца, як аднойчы разліў ён яе чарніліцу, і Рыма аж заплакала. Тады гэты плач асабліва не крануў яго, а цяпер... Цяпер Тадорку стала зусім дрэнна. Пачуцце павагі, жаласці і спагады да сястры ўсё больш запаўняла яго.

— Ніколі — чуеш? — ніколі болей не пакрыўджу цябе! Буду так дружыць, так дружыць, што, во, пабачыш! Хочаш, я падарую табе бліскучыя марацкія гузікі, ажно дзесяць штук. А заўтра я аддам табе свайго слана, што купіў мне тата. А як падрасту, дык тады ўжо ніхто цябе не пакрыўдзіць, бо я з табой буду дружыць заўсёды... — горача зашаптаў ён.

Цяпер ён ужо не мог кінуць кусанік сабаку. Ён аднёс яго да канапы і паклаў у кішэню бацькавага паліто, намерыўшыся заўтра ж раніцою яго даесці.

Пасля гэтага забег у хату, але Рыма ўжо легла ў ложак, і ён не захацеў турбаваць яе. На ўслоне, у самым куце за сталом, ён убачыў яе вучнёўскі партфелік, забраў яго і паклаў на этажэрку, каб заўтра, калі будзе збірацца ў школу, яна не шукала яго. Потым акуратна паставіў ля ложка яе чаравікі. Пенал, ручкі, алоўкі — усё гэта было знойдзена і пакладзена таксама на этажэрку, побач з партфелікам.

Цяпер ужо ён адчуў, што яму стала як бы лягчэй.

— Калі толькі будзе холадна на двары, дык тады адразу ідзі ў хату! — параіў бацька, як ён ужо браўся за клямку дзвярэй. — Усё гэта маці настаяла на сваім. А я цябе не пусціў бы начаваць на двор.

Пад навесам Каштан ужо толькі аблізваўся. Было змрачнавата. Загараліся зоры ў небе. Блізка шумеў лес. Недзе далёка за лесам яшчэ барвавела зарыва. Спявалі дзяўчаты ў вёсцы. Прыгожа спявалі, і Тадорка спыніўся, слухаючы. Сеў на канапу, скінуў чаравікі. Потым лёг, накрыўшыся коўдрай, а зверху яшчэ і бацькавым паліто.

Як хораша! Да чаго ж прыемна. Вунь закугукала нешта ў лесе — што гэта? Чаго? А во нехта стрэліў, і рэха адразу пайшло па ўсім лесе. Цікава, хто гэта? Навошта? І чаму гэта рэха плыве так доўга ды так гучна? А во ўжо салавей спявае. Дзіўна, як можа ён выводзіць гэтакую прыгожую песню? Цяпер ужо хутка ўсё зазелянее. І тады можна будзе хадзіць вудзіць рыбу! Каштан бурчыць у сне ля канапы. Гэта таму, што яму сняцца зайцы і лісы. Во нешта праляцела па двары. Што? Адкуль?

Ох, колькі гэтых «чаму» ў яго, Тадоркі!

Потым ён закрывае вочы і пачынае драмаць. Бачыць бярозавы пень. І раптам нешта такое здараецца і пень пачынае ісці. Праз момант гэта ўжо не пень, а самы сапраўдны белы мядзведзь. Ён ідзе на іх з Каштанам, выскаліўшы зубы і наставіўшы лапы. Каштан заходзіцца брэхам, кідаючыся наперад, абараняючы Тадорку. Аднак звер моцны, ён ідзе і ідзе і раптам адкідвае лапай Каштана. Тадорка адчувае холад і... прачынаецца.

Ужо бярэцца на золак. У двары — паўзмрок. Каштан сядзіць ля канапы і брэша. Убачыўшы, што Тадорка прачнуўся, пачынае брахаць 'шчэ больш заядла. На каго гэта ён? Можа звер блізка ходзіць? А можа злодзей які? І Тадорка насцярожваецца. Раптам ён пачынае адчу-

ваць ля сябе нейкі цёплы камяк. Падсоўвае руку пад коўдру і намацвае гладкую поўсць.

Ага, во хто спіць з ім усю ноч, а Тадорка і не ведае! Гэта іхні кот Васька. Яго заўсёды выганяюць на ноч з хаты, бо ён вялікі сваволь-нік — усю ноч так і лазіць па посуду. Дык ён бач да чаго дацяміў!.. Не дзіва, дацяміш, калі ноччу на двары холадна. Тадорку пад коўдрай і паліто — і то халаднавата. Вясна ж яшчэ толькі пачалася.

Каштан нарэшце сціхае, падыходзіць, становіцца на заднія лапы, кладзе пярэднія на самы край канапы і пазірае на Тадорку разумнымі і бліскучымі вачыма. Тадорку становіцца шкада сабакі. Ён разумее, што і Каштану холадна. А што, каб узяць і яго да сябе пад коўдру? Тадорка ляпае па коўдры рукою і шэпча:

— Каштан, хадзі сюды!

Сабака паслухмяна ўзбіраецца на канапу. Потым гэтак жа паслухмяна кладзецца поплеч, і Тадорка накрывае яго. Але ў наступны момант ужо чуецца яго пагрозлівае гірчэнне і гэткае ж пагрозлівае чмыханне ката. Кот нават падхопліваецца, аднак на двары холадна і яму не хочацца пакідаць цёплы ўтульны ложак.

— Каштан, не чапай Ваську! — строга загадвае Тадорка. — Ляжы, ляжы, Васька! — кажа ён кату і гладзіць яго. Потым гэтак жа гладзіць Каштана. І ўсе ўтраіх, загнаныя перадранішнім холадам пад адну коўдру, хутка пачынаюць саграvацца і патроху заціхаць. Цёпла, добра робіцца Тадорку і, павярнуўшыся на бок, ён зноў засынае.





Эдуард ЗУБРЫЦКІ

# НАРАЧ ХВАЛЮЕЦЦА

Нястомныя чайкі
Прастор
Ужо не вяслуюць крыламі:
У гневе нястрыманым шторм
Грукоча сівымі валамі.
У пене бушуючых хваль
Змываюць вятры сваю стому
І з новаю сілаю вал
Кідаюць на востраў са стогнам,
Туды, дзе панура стаяць
Дашчэнту разбітыя дзоты,
Якім
Аніколі ў баях
Не сеяць больш смерць
З кулямётаў...
Спяшаецца Нарач іх змыць,
Прыбоем навечна іх сцерці,
Каб тым, хто прыдзе адпачыць,
Успаміны не ранілі сэрцаў...

Рыгор ХАЦКЕВІЧ

* * *

Шмат задум у мяне,
Розных планаў, заданняў —
Запаветных надзей,
Запаветных жаданняў:

Каб у Полацк па трубах
Прыйшла прыуральская нафта
І каб соль выдаваць пачала
Салігорская шахта;

Каб на нашых палях,
Як дуброва, шумела пшаніца;
Каб ніхто замуціць не асмеліўся
Нашы крыніцы;

Каб навекі замоўклі
Гарматы і ружжы на свеце,
І каб злёталі людзі
На Месяц у нашай ракеце;

Каб вучыліся мы,
Працавалі,
Стваралі —
Камунізма будынак прыгожы
Вышэй і вышэй уздымалі.





Барыс САЧАНКА

## АПАВЯДАННІ

# НОЧ НА БАЛОЦЕ

Мал. Л. Асецкага.

Цісне скрыпучы мароз. Трашчыць лес, быццам бы хтось кусае арэхі. Не-не, дый пройдзецца ледзяным сіверам па балоце вецер. І зноў ціха. Зоркі і тыя пахаваліся ад холаду ў хмары.

Але ў стозе цёпла.

Там ляжаць двое — Лявон Шуль, чалавек пажылы і ваўкаваты, і яго пляменнік Алесь, яшчэ нежанаты хлопец, які толькі летась вярнуўся з арміі. Лявону дык яно і зусім цёпла: на нагах падшытыя лямцам валёнкі, а паверх камізэлькі новы кажух. На Алесевых жа плячах— выцерты бушлат, а на нагах — латаныя кірзавыя боты. Хлопца даймае трохі холад, ён увесь час варушыцца і бліжэй туліцца да дзядзькі. Таму гэта і не да спадобы, але ён маўчыць. Дый што ты скажаш...

У такі сіберны холад на балоце дзядзька і пляменнік не проста так, дзеля якойсьці забаўкі, а праз каробачкі, якія паставілі на Віці яшчэ повідну ў высечаныя ў лёдзе пелькі. Каб яны не ўмерзлі, абклалі сенам, і цяпер спачываюць у стозе: чакаюць досвітку. Тады можна вытрасці ў мяшок уюны, што пэўна ж налезуць за ноч, і ісці дахаты.

Пакінуць каробачкі без прыгляду яны не рашаюцца — яшчэ натрапіць хто і... Каб нічога не здарылася, па чарзе вылазяць са стогу і ходзяць на рэчку.

Калі казаць шчырую праўду, дык Алесь тут толькі збоку прыпёку. Ат, які з яго рыбак... Проста захацелася пакаштаваць смажаных уюноў, вось і прыстаў да дзядзькі, як смала: вазьмі ды вазьмі з сабою. Галоўны ж і самы заядлы ўюннік Лявон. Ад замаразкаў ён не вылазіць



з балота. І днюе там, і начуе. Зусім ад дому адбіўся. І старая яго не раз ужо лаяла, і праўленне калгаса штрафавала, што на працу не ходзіць, ды гэта памагло, як хваробе кашаль: як сядзеў чалавек на балоце, так і сядзіць.

Яно, калі падумаць, дык і ў Лявона гэта не так сабе, не без дай прычыны: у познюю восень яго знялі з брыгадзірства. Цепліцца ў чалавека яшчэ надзея, што без яго ў калгасе не абыдуцца і праз нейкі час прыйдуць упрошваць, каб зноў прыняў брыгаду. Тады Лявон пакажа, што за ён! На калені хай падаюць — усё роўна адмаўляцца будзе. Гэта спачатку, а потым, вядома, згодзіцца...

Іншая справа, каб было за што знімаць. Каб да дабра грамадскага, скажам, ён вельмі ласы быў ці гарэлку, як некаторыя, піў. А то ж проста знялі і ўсё...

Спытаў адвячоркам, як секлі пелькі, у Алеся.

— Хэ, — усміхнуўся той. — Мінуў, дзядзька, час, калі брыгадзірамі п'яніцы ды зладзеі былі. Хочаш працаваць — працуй, як і ўсе, не замінай, не блытайся пад нагамі... А вас, дзядзька, знялі, бо стары вы ўжо, бо лепшыя, больш адукаваныя людзі ў калгасе выраслі. Вось хаця б Юрка, што за вас цяпер. Дзесяцігодку скончыў, на курсах вучыўся...

Лявон спрабаваў пярэчыць:

— Якія там лепшыя... Адзінаццаць год я працаваў і добры быў. А тут лепшыя... Што я, кіраваць развучыўся?

— Не, дзядзька, не развучыліся, а адсталі. Ад усяго перадавога адсталі... Усё вунь як наперад пайшло ў нашым калгасе. Кароў электрыкай, во, даіць будзем, а вы як мелі чатыры класы, так на тым і макам седзіцё. Гурткоў колькі стварылі, а вы хоць у адзін ходзіце?.. Не... Ды і ў брыгадзе не авохці парадак які быў. Летась вунь два гектары канапель снегам прысыпала. Скажаце не?.. Саломы жытняй колькі на полі згніло? А бульбу як выбіралі? Дый што вам казаць, самі, нябось, лепей за мяне ўсё ведаеце...

— Страты заўсёды былі, — адказаў Лявон. — На тое ж яна і гаспадарка. То рассыплеш, то куры здзяўбуць...

— У добрага гаспадара і каліва не прападае...

Лявон змоўчаў. Дый што ты будзеш казаць? На губах матчына малако не абсохла, а ён ужо дзядзьку вучыць. Паглядзім, як гэты малады ды адукаваны Юрка ўправіцца. Гаспадар!..

І злосць, як тое ўчыненае ў дзяжы цеста, падымаецца, расце ў Лявона на пляменніка. Разумнік!.. Замёрз, бы цюцька, — туліцца да кажуха, а бач што кажа!...

Алесь жа думае пра іншае. Пасля службы ў арміі пайшоў ён у вячэрнюю школу. «Жаніся, — раілі ў адзін голас усе. — Бяры дзеўку таўсцей ды дужэй і сям'ю ладзь». Не паслухаўся і вось, глядзі,— вясною ўжо сем класаў закончыць. Можна і ў тэхнікум падацца... Наведвае Алесь і гурток, бо марыць заатэхнікам быць. Заняткі праводзіць Зіна, малая ростам, але вясёлая і далікатная з твару дзяўчына. Яна толькі сёлета скончыла вучобу і прыехала працаваць да іх у калгас. Алесь неяк зайшоў да Зіны, каб кніжку папрасіць. Тая пачаставала яго чаем ды неўзаметку пра людзей пачала пытаць. Хлопец уцягнуўся ў гаворку і заседзеўся.

Калі ішоў дадому, дык дзяўчына правяла яго за брамку, а пасля і па вуліцы прайшлася. Ноч была ціхая, зорная, ну, акурат летняя, каб не мароз ды снег, што парыпваў пад нагамі. Дайшлі да яго хаты, потым вярнуліся. Зноў прайшлі і зноў вярнуліся... Праз дзень Алесь запрасіў Зіну ў кіно, а там неўзабаве і з танцаў правёў. Калі так і далей пойдзе, дык недзе пад вясну і сватоў можна будзе заслаць да дзяўчыны.

Так думае, лежачы ў стозе, Алесь.

Думае ён і пра свайго дзядзьку. Каб сказаў, што ён жміндзіла, скнара, дык не ж. Дзяцей пры ім таксама няма, — хто ажаніўся і сваю сям'ю займеў, а хто падаўся ў горад вучыцца. Жыве ён толькі ўдвух са старою і штоноч не начуе дома, усё па ўюны цягнецца. Няўжо гэта праз брыгадзірства ён з балота не вылазіць?..

Моўчкі, кожны перабіраючы ў памяці сваё, ляжаць у стозе ўюннікі. Ды Лявон іншага і не жадае. Гаварыць?.. З кім?.. Яшчэ зноў, малакасос, пачне вучыць старога чалавека.

Алесю ж не хочацца маўчаць. Ён адчувае, што вось так ляжаць усю ноч поплеч і не гаварыць — гэта вельмі нядобра. Каб жа пабіліся ці пасварыліся. А то проста так... Ды паспрабуй вось развяжы гэтаму чалавеку язык. І на ўсякі выпадак Алесь кажа:

— А дарэмна вы ўсё ж не ходзіце ў гурткі. Дужа цікава. Вось нядаўна я слухаў, як пчолы жывуць. Проста дзіва. Несвядома, а такую сям'ю працавітую стварылі. Усім гуртам працуюць, гуртам і пажыткі свае бароняць ад нападу іншых пчол. А калі непатрэбны труцень завядзецца, выкідаюць яго з вулля...

Лявон сярдзіта варушыцца ў сене. Сухая пацяруха сыплецца за шыю.

— Добра, што хоць ты ходзіш і мне расказваеш, — бурчыць ён.

— Дык гэта ж цікава...

— Не маленькі, ведаю, дзеля якой цікавасці ты гэта расказваеш. Давесці хочаш, што і мяне час з калгасу выкідаць...

— Што вы? Я проста так расказаў. — Потым Алесь падумаў і дадаў: — А калі на тое пайшло, дык дрэнна вы ўсё ж робіце, што на працу не ходзіце.

— Сам ведаю, што раблю. І ты мне не ўказ, — агрызаецца Лявон і вылазіць з нары — яго чарга правяраць карабачкі.

Бярэцца на досвітак. Прыкметна шарэе, але хмары густа зацягваюць і без таго хмурнае неба, — мусіць, будзе мяцеліца.

Лявон мякка ступае па зацярушаным снегам ільду. Ля кожнага бугарка, пад якім стаіць каробачка, спыняецца і прыслухоўваецца, ці ёсць шум. Калі ёсць, значыць, і ўюны ёсць. Але як Лявон ні прыкладае вуха — усюды ціха.

«А як у Алеся?..»

І стары ідзе яшчэ далей па рацэ, да кустоў, дзе аблюбаваў месца для каробачак пля-



меннік. Ідзе і думае, што ў Алеся павінна такі ўлезці, бо ён мо' натрапіў на прадуху...

Сапраўды, каробачкі Алеся аж ходарам ходзяць. Асабліва тыя, што ля прадухі...

Лявон некаторы час слухае, як боўтаюцца ўюны, не знаходзячы выйсця, і ў яго галаве нараджаецца шчаслівая думка. «Пакалаціць... Хай ведае, малакасос, як са старога чалавека смяяцца. Дый куды ж гэта варта, калі Алесь будзе з поўнай торбай ісці, а ён — стары рыбак — зусім без улову».

Рукамі Лявон разграбае лёд і, не вынімаючы з пелек каробачак, прыгаршчамі выбірае ўюны і сыпле іх у сваю торбу. Сэрца яго трывожна ёкае: «А што, калі Алесь застане яго за гэтым заняткам?» А ўюны, як на тое, пішчаць і выпадаюць з рук.

Амаль цэлую торбу крадзеных уюноў Лявон нясе да сваіх каробачак і высыпае іх у каторую прыгаршчы, а ў каторую і болей. «І аднаго не пакаштуеш, калі ты такі разумны. Вось паляскаеш зубамі на холадзе, ды без нічога і дамоў пойдзеш».

Як толькі вяртаецца стары, Алесь вылазіць са стога і ідзе да сухога альховага карча, які аблюбаваў яшчэ завідна. Трэба раскласці агонь ды пагрэцца, бо здубянець зусім льга.

Агонь доўга не бярэ змёрзлых і прысыпаных снегам карэнняў, але бяроста і жмуткі сена, якія падсоўвае Алесь, падбадзёрваюць яго. І вось ужо чырвоныя языкі полымя шугаюць, хістаюцца з боку на бок. Корч разгараецца і асядае ў снег.

— Дзядзька Лявон! — крычыць тады Алесь.— Хадзіце да агню. А то і ногі працягнеце ў тым стозе...

Стары не прымушае сябе доўга чакаць, бо такі і да яго пачаў падкрадацца холад. Згорбіўшыся, Лявон падыходзіць да карча, скідае рукавіцы і, ахкаючы, грэецца. Дзівіцца: «Вось што значыць малады. Не паленаваўся агонь раскласці».

Адагрэўшыся, дзядзька з пляменнікам ідуць на Віць. У старога ўюноў — поўная, як завязаць, торба, а ў хлапца ўсяго меткі тры. Але ён і гэтаму рады.

— Нічога, нам з маці болей і не трэба. Пакаштуем і досыць.

Дзядзька ж спрабуе павучаць хлапца:

— Яно і ўюна трэба ўмець лавіць. Вось паходзіш трохі са мною і навучышся.

— А чаго гэта я буду хадзіць? Ліха з імі, з гэтымі ўюнамі. Прастудзіцца можна. Ды і стагі не сёння-заўтра забярэм. Дзе тады ад холаду схаваешся?

— Як, ужо хіба з іншых балот звезлі?

— Даўно. І гной ужо ўвесь на полі... Толькі той работы і засталося, што гэтыя стагі.

Вецер між тым узмацняецца. Востры, пранізлівы, ён так і працінае да самых касцей. Стогне, гудзе лес. Пачынае падаць снег. Спачатку мяккі, потым жорсткі, калючы, як соль.

Пакідаўшы ў кусты вербалозу сваё няхітрае рыбацкае прыладдзе, дзядзька і пляменнік шыбуюць у вёску.

Алесь сігае ўперадзе, а за ім — след у след — цяжка сапе Лявон. Стары ледзь паспявае за хлопцам — ціснe, муляе плечы торба. А тут яшчэ гэты вецер. Ён расхрыствае крыссе і падлазіць пад кажух. «Прастудзіцца можна...— успамінае Шуль словы Алеся.— Але, а хіба ж не праўда? Гэта ж ад самых замаразкаў не начаваў на печы. А ці ж гэта з маім здароўем?.. Дый на якога лысага чорта тыя ўюны, калі здароўя няма. І тых, што нанасіў, хопіць на цэлы год...»

І Лявону Шулю раптам робіцца сорамна і ніякавата, што ён адкраў улоў, адкраў не ў каго-небудзь, а ў свайго пляменніка.

Ён глядзіць у зніткованую снегам далеч і чамусьці здагадваецца менавіта ў гэты момант, што ніхто яго не прыйдзе ўпрошваць прыняць брыгаду. «Навошта, вунь і Юрка спраўляецца. Стагі заўтра ўжо тут мяркуюць забіраць. А бывала ж, да самай вясны дацягвалі...»

Алесь сігае і сігае, намагаючыся хутчэй выбрацца на поле. Ужо не разабраць, дзе кусты, дзе дрэвы,— усюды круціць, віхрыць снег. «Запазніліся трохі — занясе дарогу, тады і да абеду не выберашся з лесу. А ў калгасе работа. Калі па сена нельга будзе ехаць, дык у кузні і стальмашні колькі работы».

Алесь азіраецца і бачыць, што дзядзька адстае. Ён ледзьве-ледзьве відаць з-за снегу. «Ліха яго ведае, хіба торбу ўзяць ды паднесці?» — думае хлопец.

Так і ідуць, кожны думаючы сваё, дзядзька і пляменнік. А за імі ўслед гоніцца завіруха. Вые, злуецца. Немаведама на каго і за што...

# ЖАНІХ І НЯВЕСТА

Тацянчынага Паўліка ўкусіла гадзюка. Укусіла знячэўку, калі хлопчык хацеў сарваць спелую гронку парэчак. Скокнуў ён у куст і адразу ж адчуў, як штосьці апякло пятку. Падняў нагу: непаваротлівая, пабітая на чорныя шашачкі спіна гадзюкі віхлянула ў траве...

У бальніцы Паўліку далі аж два ўколы. Маці здалося гэтага мала, і надвячоркам, на захадзе сонца, яна прывяла яшчэ знахарку. Тая доўга і часта дзьмула бяззубым ротам на нагу і шэптам усё адсылала хвор на дрымучыя лясы, на голыя лозы, на быстрыя воды.

Але хвор не паслухалася яе — не захацела нікуды ісці. Ад гэтага нага распухла, зрабілася тоўстая і цяжкая, як бервяно.



І здарылася ўсё гэта якраз у тыя дні, калі ў лесе на дзялянках паспелі маліны. Хто б раней утрымаў у гэты час непаседу-Паўліка дома! Прывяжы — і то ўцячэ. А так, сядзіць ён ціха пад разгалістай яблыняй у садзе і думае-варожыць: насунецца вось той беласнежны сухмарак на сонца ці праплыве бокам. І такая маркота, такі сум, што хоць ты плач.

Яно каб былі кніжкі, дык час можа б і не так доўжыўся. Але ж за дні хваробы Паўлік абчытаўся, нідзе ні староначкі, ні бедненькай няма.

Схадзіць у бібліятэку яму нельга, а ў маці і без таго работы па самае горла: і свае грады трэба ад травы ратаваць, і ў калгас дзень пры дні хадзіць...
У садзе — гарачыня, асабліва ў абед. Пахне ўкропам, гуркамі. Гудуць, як на пасецы, пчолы.
Час ад часу Паўлік мочыць у місе сыроваткі ручнічок і прыкладае да апухлай нагі. Для чаго гэта — хлопчык не ведае, але сказала маці, што так трэба, — і ён слухаецца...
Раптам з вуліцы чуецца голас:
— Паўлік, Паўлік, дзе ты?
Хаця ад вуліцы пляцень густа абвіты хмелем і з саду не відаць, хто крычыць, але Паўлік па голасу пазнае: гукае Анютка — маўклівая дзяўчынка, да якой пасадзіла яго зімою настаўніца, каб меней сваволіў.
У іншы раз Паўлік, магчыма, і не адгукнуўся б на гэты голас. Але цяпер, калі ў яго баліць нага і калі пакуль ніхто яшчэ не прыходзіў, — гэты голас узрадаваў яго.
— Я тут,— крычыць ён.— У мяне нага баліць, і я не магу адчыніць. Ты давай проста праз пляцень!
— Добра, я зараз...— чуецца з вуліцы, і праз якую хвіліну белая, у чырвоныя бубачкі сукенка мільгае ў агародзе. Хаваючы адну руку за спіну, белагаловая дзўчынка бяжыць па разорах у сад.
— Ты чаму ж гэта сёння на луг не ішла? — пытаецца Паўлік, як толькі дзяўчынка садзіцца побач.
— А мы па ягады хадзілі, па маліны,— кажа яна і ўсміхаецца — густыя, белыя зубы на момант бянтэжаць хлапчука: у яго зубы няроўныя і рэдкія.— Бач якія,— і Анютка з-за спіны ставіць перад хворым гранёную шклянку спелых малін.
Паўлік доўга прыглядаецца да ягад, і яго востранькі, пасыпаны ля кірпатага носу вяснушкамі тварык прыкметна ажывае.
— Відаць, у Дзедавых выгарах брала,— кажа ён.— Такія толькі там растуць!..
— Умгу,— згаджаецца Анютка.— Еш, я табе прынесла. Успомніла пра цябе і прынесла. Ты ж хворы цяпер...
— Хворы, нага баліць.
— І моцна?
— Не, не вельмі, але ж у лес усё роўна не можна ісці,— крывячыся, быццам ад болю, адказвае Паўлік.
Дзяўчынка змаўкае і ўжо ні на хвіліну не зводзіць вачэй з балючай нагі, калашына на якой закасана па калена, а лытка абкладзена мокрым ручніком. Потым кажа:
— Паўлік, а што, калі ты памрэш?
— Ну ж і выдумала,— смяецца Паўлік, забыўшыся, што ў яго шчарбаты рот.— Доктар казаў, што праз які тыдзень буду бегаць яшчэ лепей, чым дагэтуль... Вось толькі вельмі сумна аднаму...
— І мне сумна,— памаўчаўшы, прызнаецца дзяўчынка.— Як толькі цябе ўкусіла гадзюка, дык мне адразу і сумна стала. І на луг хадзіла, і ў лес, а ўсё роўна сумна. Паўлік, хочаш, я буду толькі з табою таварышкаваць, як ты ачуняеш... Яй-богу, ні з кім, толькі з табою. Хочаш?..
Але Паўлік не адказвае. Ён раптам успамінае: з іх кпілі аднакласнікі, калі яго перасадзіла настаўніца да Анюткі. Нават прыпеўку склалі:

Жаніх і нявеста
Паелі ўсё цеста.
Жаніх, жанішок,
Згубіў шапку й кажушок...



А калі дачуюцца, што Анютка прыносіла яму маліны?..
Хлопчык хмурнее і палахліва азіраецца: ці не сочыць за імі хто-небудзь? І кажа:
— Ага, быццам без цябе ў мяне няма з кім таварышкаваць?.. Быццам без малін я не абыдуся...— і Паўлік адсоўвае ад сябе шклянку з ягадамі.
— Ну і не еш...— ледзь чутна шэпча Анютка.— Ну і не еш...— паўтарае яна, і вусны яе крывяцца — дзяўчынка вось-вось заплача. Яна ўстае і, не азіраючыся, павольна ідзе па разорах на падворак, а адтуль, гэтак жа павольна, на вуліцу. Вострыя плечыкі яе калоцяцца — Анютка плача...
А Паўлік застаецца ў садзе зноў адзін. Ён сядзіць, маўклівы і пануры, і яму неяк не па сабе. З Анюткі ж таксама смяяліся, не раз спявалі гэтую крыўдную прыпеўку, а яна, бач, прыйшла.
А ён?..





Іван ПТАШНІКАЎ

# ЧАКАЙ У ДАЛЁКІХ ГРЫНЯХ

## Раман

Мал. М. Савіцкага.

Шлях кліча ўдаль...

Цягне пайсці, пусціцца пеша па шорсткаму жвіраку, што на абочыне шашы; дыхаць ветрам, што мкне насустрач; скалясіць да цямна паўсвету — да зморы, да стомы, а выведаць, угледзець: што ўстае за той дымкай, якая завалакла, заступіла небасхіл, схавала-спавіла лясы і далёкія-далёкія белыя будынкі трактарных станцый ля шашы... А мо' гэта густая смуга ад таго, што дзень і ноч там дымяцца трубы?

Дымка — таямніца, далёкі свет з маленства...

Яна варожыць, чаруе душу; яна лье радасць, шэпча таямніцы з неагляднага прастору зямлі, над якой дыхнулі вясновыя ветры. За дымкай — шляхі; за імі — улонне ў маладосці і ўзбуджанасці; палі, засеяныя ў цёплую рань; вецер — вястун дажджу і свежасці, якая вунь як трэба зямлі пасля гарачага ўвесну сонца, калі пачынаюць пыліць дарогі...

А тады зноў шляхі...

І далёка, дзе яны знікаюць з воч, зноў — дымка. Мо' там ужо расцягліся дымы, што жывуць вечна над горадам?

За дымкай — шляхі, прастор... За дымкай — горад. За дымкай — далеч.

Далеч — песня непазнанай, неадкрытай 'шчэ сілы...

З кожнага кутка зямлі шляхі вядуць у далеч, з кожнага кутка жыцця чалавек выходзіць на шлях.

Мо' таму і леглі скрозь па зямлі дарогі, каб весці кожнага за парог, клікаць і клікаць неадчэпна, і ўдзень і ўночы, у апаленую сонцам і абветраную бурай прастору, дзе шырэй бывае душа чалавека, дзе ён бы пачынае жыць нанава. Мо' таму людзі спрадвеку сяліліся ля дарог, мо' таму цяпер вядуць да паселішчаў шырокія і гладкія, як паліва, асфальтавыя дарогі... Мо' таму цяпер і новыя забудовы ў Грынях падаліся да шашы, выбіліся за раку, сюды на выган, пад лавацкія сады...

---

Заканчэнне. Гл. №№ 9, 10, 11.

Шлях жыве дзень і ноч. Шлях ніколі не мае супачыну.
Шлях у прысадах.
Яны — маладыя, іх садзілі ў тыя гады, калі пайшлі ў калгасы.
Заселянеў лавацкі сад, дыхнула вільготнай смалой з Асіпаўскай пушчы і чаромхай з Доўгіх крыніц. Вясновы вецер даўкі, густы, — настоі на маладых пупышках і завязі, на свежых смолах, як на густым мёдзе.
Зямля ўжо ачарствела, калі запахлі лісцем дрэвы.
Збілі імпэт жаўранкі, не збіраюцца шпакі, — яны цяпер паасобку ля свайго прытулку. Вылятаюць толькі на жыр з гнёздаў або садзяцца на тэлефонныя правады ля шляху і маўчаць, варочаючы па баках жоўтымі дзюбкамі.
Іх палохаюць машыны. Дарога пыліць ад машын.
Сонца пасля паўдня верне на лес, на Камена, дзе блакіт рабы ад рэдкіх аблокаў, што застылі-павіслі, бы там угары ніколі ім і не сніўся вецер. Выдае, што на захадзе гарыць нешта далёкае.
Цёплая, парная зямля... Мо' пасля ўчарашняга грому?
Дажджу не было,— толькі збіраўся; пайшоў бокам, над Каменам. Адтуль вецер нясе волкую свежасць...
Яны на шляху, далёка за Грынямі. На гары над Гальдарадай...
Мінаюць дубы — разгатыя, шэрыя. Суровыя, магутныя. Дубы — толькі на пупышках. Моцныя дрэвы распускаюцца позна. Яны мудрыя, каб не руліцца на холад, ад таго, што жылі шмат і шмат бачылі. Яны не спяшаюцца жыць, бо як ні рупся, а многа-многа ўперадзе ім 'шчэ шаптаць суравым лісцем у прыціхлыя летнія вечары і стагнаць, здрыгаць зямлю ў ашалелыя ў гэтых краях буры.
Мчаць машыны, знікаюць з воч за дубамі ў лагчыне, пасля ўзлятаюць на белую ў далечы шашу і паўзуць, як мурашкі па бярозавым камлі, паўзуць паволі ўгору, пакуль не стаюць у павіслай ля зямлі сінечы.
На шляху спакойна, суцішна ад ветру за лесам.
— Вернемся ў Лаўкі... Я люблю глядзець, як бялеюць сады. Я ніколі 'шчэ не бачыла, як пачынае цвісці вялікі сад. Хадзем... Лёнік... Там у лагчыне за мостам чаромха. Зацвіла...
— Я ніколі не любіў чаромхі... У мяне ад яе баліць галава...
Яна просіць. Не сціхае.
— Хадзем на крыніцы, — ён усміхаецца нейкай сваёй радасці. — Цяпер там... Цяпер яны белыя, што ў снезе. У нас Доўгія крыніцы завуць 'шчэ Белымі. Чаромхі там — не прайсці.
— Ты падумай... — яна памаўчала. — Хоць куды, хоць у самае-самае ваша балота...
Яны сышлі да маста і напаткалі сярод дарогі гурбачку дзяўчатак-школьніц. Тыя беглі з заняткаў і тут збіліся, нагнуліся над некім, хаваючы таго з воч, хто мо' сядзеў долках ці нават ляжаў. Так выдавала здаля.
Убачыўшы незнаёмых, дзяўчынкі адскочылі на абочыну, і на дарозе на рваным гумавым коле-пакрышцы ад машыны засталіся ёрзацца два хлапчукі. Крычалі, браліся калашмаціць адзін другога, чагосьці не падзяліўшы.
— Ён яшчэ лезе... Я знаю... Каб зямля перавярнулася дагары нагамі, была б спачатку восень, тады лета, вясна і зіма... Мала што ў геаграфіі напісана... Еўдакім Мікалаевіч...
— Э-э-э... Грамацей, грамацей... Ніколі ўрокі добра не вучыў, а яму Еўдакім Мікалаевіч пяцёркі ставіў...
— Любімчык!.. Любімчык!.. — закрычалі дзяўчаткі.
Хлапчукі схапіліся.



Адзін з іх, цельпукаваты, расхрыстаны, круглатвары і ўмурзаны, «любімчык», замахваўся партфелем на тоненькага, рослага белагаловага хлопчыка. Той спрытна выкручваўся і скуб «любімчыка»...
Дзяўчаткі былі адбегліся 'шчэ далей, пасля напалі на расхрыстаніка і пачалі пярыць таго кнігамі дзе папала. Той прыціх. Тады нанава белагаловы пачынаў даказваць расхрыстанаму нешта пра «рэактыўныя ракеты». Таму, відаць, не было што казаць, ці мо' не схацеў, — хутка згадзіўся і адлучыўся ад купкі.
Ля маста галініліся сцежкі ад шашы, і школьнікам трэ' было разыходзіцца.
Цельпукаваты адскочыўся па дарозе аж да кустоў, туды, пад Гальдараду, і, замахаўшы рукой, крыкнуў:
— Гут бай!..
— Э-э-э... Гутбэка!.. Гутбэка!.. Э-э-э... — загаманіў раптам белагаловы, дражнячы цельпука. Да белагаловага падбеглі дзяўчаткі:
— Давай, Сярожка, уляжам... Уляжам! Усыплем «любімчыку»! Усыплем... Э-э-э... Любімчык... Любімчык... Гутбэка... Гутбэка...
Дзяўчаткі пусціліся праз мост за «любімчыкам».
Той знік у кустах.
Праз колькі часу на горку пад лавацкія сады падымаліся дзяўчаткі з кнігамі. Іх вяло танклявае белагаловае хлапчанё.
«Ці не той гэта Сярожа, які нарваў летась званочкаў? — Галіна задумалася. — А расхрыстаны ці не задзіра, што збіраўся накруціць тады хвост белагаловаму?».
— Любімчык Петушонка... — сказала яна задумліва.
— Пры нас ніколі не было любімчыкаў у Петушонка... Мы яго не любілі.
— Гіяграфія...— яна рассмяялася.— Настаўнік... Вучыць чаму. Зямлю перавярнуць дагары нагамі.
— Нічога... Яго галаву ўжо не перавернеш... А пераварот у жыцці зрабіць можна. І зробіць гэта наш Васіль Міронавіч. Для «Настаўніцкай газеты» сёе-тое мне з ім давялося нядаўна абмазгаваць. Раскажу такое...
Ад лавацкіх садоў на Доўгія крыніцы льга трапіць праз выганы, пакінуўшы збоку шлях, што вядзе на Гальдараду.
Яны звярнулі на сцежку праз бярэзнік. Ішлі ўпобачкі, расхіналі ліпкія галінкі, слізгалі, бывае, па маладой траве, — тады стукаліся плячо ў плячо. Ад таго ўсміхаліся і пазіралі адзін на другога.
— А мо' ў цябе і тут выйдзе, як... — яна пасур'ёзнела.
— Ну, гавары, гавары... Хочаш сказаць, як і з Андрэем Дзедзіхай?
— Праз цябе аж два разы чалавека трывожылі з таго свету...
— Экспертыза. Нічога не зробіш. Я не веры́ў і вашаму Чыжыкаву і абласным экспертам. Не супакоілася ў мяне душа, калі і вышэйшыя медыцынскія чыны зрабілі заключэнне. Я не веру ім і яшчэ пісаў бы, куды ўгодна. Не думаю, што чалавек загінуў сам па сабе. Не веру, ты разумееш, не даю веры, што выжлятнікі яго не маглі стукнуць або не нацярушыць чаго ў чортаву тую гар. І цяпер не веру.
— А я веру. Эксперты — з галовамі і вопытам. Не такое бачылі. А тут — проста чалавек нахлябтаўся столькі... Нават, калі апошні раз узарвалі крышку дамавіны — ляжыць... Заспіртаваўся. І што — ніводнай драпінкі ці ўдару. Цела такое чыстае. Нават не скажаш, яго ж магло ў крыгаход пашматаць на кавалкі. Відаць, як сігануў пад лёд,— адразу тады прыгнала ў затоку, ён і...— Яна падумала: — А медыцына дае сваё заключэнне, не пытае, хто на

каго падазрае. Я ні за кога, але ж тром экспертам нельга не верыць. Ніхто з іх не хацеў, каб, скажам, апраўданне знайсці нейкаму Выжлятніку. Тым больш, абласны эксперт прылятаў пасля таго, як з абкома Перапёлка...

— Гэта я ў яго тады быў...

— І нам нічога не сказаўшы?

— Дзеля чаго? Ты верыш, а я, гавару, ніколі не пагаджуся, што выжлятнікі такія чысценькія, якіх яны з сябе корчаць. Яны яго ўсё жыццё тузалі, нарэшце-ткі збяёдалі. І чыста, нічога не скажаш. Мо' ён і сам, зблудзіўшы, пайшоў пад лёд, можа. А каб з ім тады такое не здарылася, думаеш, Куцка ці хто там выпусціў бы яго жывога? Ён сам стане канаць, а другім хваробу будзе думаць. А тут — не зусім было чыста. Разбярыся. Недзе ад самай мо' вайны што хавалася і пачынала ўсплываць. Чаму ж цяпер Куцка тут месца не знаходзіць? Раптам моташна стала. Выехаць надумаў. Каб спакойна дзе жыць, каб душа на месцы пад старасць была. Ён людзей баіцца. Што ж, ішло, вярцелася, а цяпер каб дзе не дзелася... А Петушонак не Куцка і не Выжлятнік. Ён проста не тады радзіўся, калі розум раздавалі. І такой штукі не пазычыш... А цяпер кошка вочкі жмурыць, а кіпцюркі вострыць. На настаўнікаў пачаў плявузгаць у раяна і далей. На Васіля Міронавіча... Яшчэ за той вечар увосень... Сораму, як у пеўня мяса на шпорах... Але тут не выгарыць. Васіль Міронавіч і з галавой, і з прынцыпам. Не падумай толькі...

— Хвалі... У мяне пра яго свая думка. Я табе ўсё расказала, каб...

— А я і да таго ўсё ведаў.

— Вось як?

— Трэба ведаць, хто табе жыцця не дае...

— На такое трэба мець права...

Ён змоўчаў на гэты раз. Задумаўся. Глядзеў пад ногі.

Яны былі на выгане. Ішлі паўз рэчку ў бок Доўгіх лагоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі бярэцца на цвет чаромха, калі яблыня хіне да сонца свае чырвона-белыя бутончыкі-збаночкі, — падае голас салавей.

Ён ажывае ўвечары, ён нямее днём.

Затое не моўкне івалга — залаціста-жоўтая птаха. Усюль — на выгане, і на выгарынах на Пагурку, і на кожным кургане ля ракі, на падбалоцці. Яна любіць, калі неспакойна і ветрана, калі наплывае смуга і мурзае сонца, калі шуміць, гнецца долкі непаслухмяны лазняк.

Пяе берасцянка; залівіста, устрывожана крычыць перапёлка; пырхаюць стрыжы; не сціхае, во, не супакоіцца, носіцца верх лесу бакасрагатун. Чуваць, як на Доўгіх крыніцах жыруюць качкі і кнігаўкі; дзяруць горла драчы; льга ўгледзець, як сноўдаюцца ў затоках журавы.

Доўгія крыніцы бралі пачатак ад ракі і цягнуліся праз поле-сенажаць аж туды ў зашыек, куды Пагуркам падыходзіла Асіпаўская пушча.

Доўгія крыніцы — белыя ад ніцых лоз, ад чаромхі ў цвеце...

У нагах стома ад нязвыклай хады. Мокра ў абутку, — бо ісці даводзіцца прырэччам, пераступаць колішнія мо' глыбокія канавы, што глядзі як зацягнулі тванню, зацвілі.

Лёгка на душы, бо побач вясна. Ці ведала Галіна, ці верыла калі ў тое, што напаткае яе тут, на далёкіх Белых балотах за высокім Пагуркам, у разгатых, бурых ад каткоў асінах перад самай пушчай, якую калі яна магла бачыць...

Успомнілася асенняя пара... Тады з Леанідам давялося быць у грыбах, вунь за тымі асінамі, што, здаецца, зусім пад бокам... Мо' што яны высока на пагорку?

Варухнулася, ажыло ранейшае, што недзе стаілася, каб цяпер не даць супакою, трывожыць, наганяць надзеі. Ускруціла, панесла верх зямлі.

І тады чалавек, што, во, упобачкі, што з такім одумам глядзеў удалеч, дзе рака, стаў свой — дарагі і любы... Яна пазнала гэта. Яна мела на тое права... Мела — і ўсё. Яно прыйшло само па сабе. Яно — яе...

Выдавала, яна ведала яго даўно-даўно, з маленства, з той пары, калі на ўскраіне горада пасля вайны шпурлялася аскалёпкамі бітай цэглы з задзірыстымі хлапчукамі... Ён быў тады сярод іх... Гэта яго яна, злавіўшы знянацку, калашмаціла за вушы. Мо' ад таго яны цяпер адтапыраныя і вялікаватыя? Ён амаль не змяніўся, не перайначыўся пасля таго. Нават не падрос. Ён — дзіця...

Ёй раптам наплыло жаданне прыпасці яму на грудзі, абхапіць за шыю, прытуліцца і цалаваць яго вусны... Няпраўда, што яны таўставатыя... Яны чуць-чуць прыпухлыя...

Яна не ведала, як тое магло быць, бо такога не знала яшчэ. Стаяла, уздрыгнула ўся, бо была кранулася яго пляча.

Дыхнуў вецер — на твар упалі цёплыя ад сонца пялёсткі.

— Я ніколі не любіў чаромхі. Я ніколі не любіў Люды...

— Не трэба. Я не пытаю. Не трэба...

— А я не магу табе змоўчаць.

— Ты падумай...

— Тое — толькі найсце. Нічога ў мяне не было. Проста яна ўстрапянула душу. Гэта не было каханне, а нешта... Ну, такое, што на чалавека находзіць. А да яе я ніколі не кранаўся дзяўчыны. Мо' таму... Толькі



## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Міхаіл Лісоўскі** нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Белы Мох Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці.

Вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, скончыўшы якое, выкладаў у Віцебскім мастацка-графічным вучылішчы. У 1954 годзе паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, які закончыў сёлета, абараніўшы дыпломную работу «Суворавцы».

Цяпер працуе выкладчыкам у Мінскім мастацкім вучылішчы.

**Генадзь Дзянісаў** нарадзіўся ў 1930 годзе ў г. Казані.

У 1949 годзе паступіў вучыцца ў Мінскае мастацкае вучылішча, закончыўшы якое, паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Сёлета абараніў дыпломную работу — каляровыя лінагравюры «Будні цалінныя».

Цяпер працуе ў беларускім аддзяленні Мастацкага фонду СССР.



вялікага ў нас нічога не было. Ды што я гавару. Я н'ат не зведаў, што такое кахаць. Думаў, што і любоў уся ў тым, як яна капрызна стрыжэ вачыма ў мой бок і хінецца, кожны раз уся гарачая... Я саромеўся, а яна сама... Я мог не спаць ночы, яна ж гатова была круціць мной, як хацела. І круціла. Я спярша не верыў і верыць не мог. Пасля стала прыкра... Але калі аддаляўся — цягнула ўжо да яе. Не-е... Не да яе. Гэта ў маіх думках недзе жыла дзяўчына, якую жадаў мо' напаткаць на жыцці, як і кожны хлопец у маіх гадах. А тады зімой 'шчэ я ўгледзеў яе з адным... Я ж расказваў. Яна не дражнілася ўжо, як тая кнігаўка... Не-е...

— Дурненькі... Ты мне каторы ўжо раз дурыш галаву споведдзю. Я на цябе за былое не наракаю... У маладосці... Вядома, здаралася недзе і большае, чым ты расказваеш... Але мне толькі было б шкада цябе пасля гэтага. Непрыемна, калі хто да цябе 'шчэ...

— Галя... Хочаш вер, хочаш не... — ён быў змоўк. — Але я хачу, каб ты паверыла, паверыла...

Яны ўзышлі на высокую мяккую беражніцу, пад разлапістай пахілай старой вольхай. У дзявочых руках быў далікатны букецік, ну кветкі тры — гэта ён падаў ёй яго 'шчэ на выгане, калі пераходзілі крыніцу.

Яна маўчала, глядзела ў рэчку, дзе кратала вада чорныя 'шчэ без лісця дубцы парэчак, што віселі з берага, думала, трывожылася...

Дзіўны. Ён дзень і ноч будзе цяпер закайваць грэх. Каму гэта трэба? Яна даўно паверыла, забылася на ўсё, толькі не хацела таго казаць. Ён — чысты, ён — добры. А што тады астатняе? Ды яго і няма! Яно — плынь, халодная і чужая, што сплыла даўным-даўно ў свет; знікла, як хутка знікае на вадзе асенні счарсцвелы ліст.

Яна пакахала. Пакахала тады, увосень... Яна сёння ўведала гэта. Яна скажа сама. Не. Ніколі на свеце, бо яму такое ўжо гаварылі...

— І сам ты не ведаеш, які ты добры... Ты дзіця... Дзіця...

Ён учуў, як яна прашаптала, учуў яшчэ, як яго шыі крануліся гарачыя рукі...

Тады стала горача. Гарэў твар, як апалены ветрам.

Яму выдавала, што 'шчэ трымае яе моцна-моцна ў абдымках, адчувае хілую, крамяную, сп'янелую, а яе не было ўжо і звання.

Пасля, калі сплыў раптоўны одум, яму ўспомнілася, як яна скокнула да берага, дзе пахілая старая альшэвіна легла аж папярок ракі, пакаўзнулася спачатку па слізкай кары ў сваіх мокрых паўбаціначках, пырхнула на той бок у жаўтавай лёгенькай сукенцы і знікла з воч. Як назаўсёды. Доўга на тым баку дрыжала ля долу патрывожаная галінка ракіты і цярушыўся зверху, як з чыёй жмені, белы дождж. Гэта з чаромхі, што нагнулася над берагам. Было суцішна і чулася, як трапечацца недзе ўнізе на вадзе ліст лотаці: тах-тах... тах-тах... А мо' стукае сэрца, нягадана ўстрывожанае і спалоханае, бо столькі жадала такога ў глыбокіх потайках? Пасля было радасна і дрыготка ўсяму, як ад холаду. І горача, горача недзе ў душы — ці не хацелася плакаць ад нямаведама за што падараванай пяшчоты, здаецца, самой прыродай.

Яму ўспомнілася 'шчэ, як падумаў быў, што не, не ў горадзе расла яна, а тут, між ракіт і крапівы, дзе знікла так смела, як не змог бы ён, хто да курганка перабраў нагамі гэтае прыбярэжжа на Доўгіх крыніцах...

Яна бегла ад самой сябе, ад шчасця, ад шчырасці... Ён не ведаў тое; не мог кінуцца за ёй, каб не пачуць, што ўсё гэта насланнё, наварот ад сп'янелага дня, што гэта смех дзявочы, жарт, — на што мае права маладосць...

Ціха-ціха, як баючыся спалохаць спакой, азвалася берасцянка, зашумелі на Пагурку асіны, неспакойна, як і тады ўвосень; нешта боўтнула ў вадзе, і ці не пасля таго зашваргатала рака за павароткай, дзе камяні і абрушаны зімовы масток.

То было імгненне, а выдала, — ён на вечнасць прырос да зямлі ў гэтых дзікіх лазняках ля крыніц, што родныя цяпер да болю.

Быў роздум і нявер'е. То мільгнулася, што знайшлося на жыцці нямаведама што, то мроілася — згубіў назаўжды вялікую радасць, — зусім жа 'шчэ неспазнаную.

— Галіна! Галя... — ціха, нясмела.

Каб што гукнула ў адказ.

Тады ўстрапянулася трывога. Тады яму ўзгарэлася бегчы, падскочыла жаданне пусціцца на край свету, шукаць і знайсці яе, да каго мо' колькі неспакойных хлапечых год імкнуў насустрач. Знайсці, каб ніколі больш не дазволіць сабе згубіць праз усё жыццё.

— Галі-іна!.. Га-аля!.. — неспакойна, насцярожана і палахліва.

Зашамацеў вецер у лозах і далёкіх асінах, смела, вольна, як яму ўздумалася. Кінулася аднекуль з высі кнігаўка, на самую галаву, закрычала. Яе спалохаў трывожны чалавечы голас.

Ачнулася берасцянка, недзе зусім жа побач, над ракой.

Далёка, аж з кута Доўгіх імшар, узняліся ў неба два журавы і закружылі над Асіпаўскай пушчай.

Ля самых ног вада круціла кветкі, што хвілю якую назад былі ў дзявочых руках.

— Галя...

Ён кінуўся, сам не думаючы куды.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пахла дажджом аднекуль здалёку. Над бальшаком на поўдні ўзнімаліся хмары, плылі адтуль паволі, марудна. На захадзе над лесам вострыя чырвоныя пісягі спаласавалі небакрай, — там зайшло сонца.

У паветры мітусіліся белыя матылькі.

Драмалі лавацкія сады; пахла густа ўгрэтай зямлёй, як і заўжды перад навальніцай.

Але дождж ішоў краем; сюды далятаў толькі ціхі-ціхі гром, як рэха, бы то пад Гальдарадай заводзіўся трактар.

Нізка, над самым шляхам, дзе днём вісела густая смуга, жахалася неба, — тады там дрыжэлі бурыя тулягі.

Росна, свежа і трывожна стала ў прыродзе.

Ад лавацкай сажалкі ўзняўся бусел і паплыў на Грыні, на сосны. Дарогай на лагі начлежнікі пагналі коней.

Зямля стала вільготная; натапырылася, устала трава. Суха шамацелі перад ноччу насцярожаныя беразнякі. Аж ірвалі ў цішы і волі струны бярозавыя жукі. З поля несла летам — жытамі і кмінам.

Ад таго кружылася, аж балела галава.

— Ты дзіця... Дзіця маё... Ты і сам не ведаеш, які ты прыгожы... — яна хінецца, гарачая ўся, трапяткая, як зямля перад бурай. — Ты любы... Каб ты ведаў, колькі я пра цябе перадумала... Ты са мной... Ты мой, мой... Я цябе нікому, нікому не дам. Я б не перанесла... Які ты харошы... Родны мой... Я тады не перанясу...

Ён туліць яе на сваіх грудзях, ён ахінае яе курткай ад вячэрняй свежасці, ён абдымае моцна, як толькі можа. Ён сам не свой.

— Не гавары таго... Я люблю цябе... Я так 'шчэ нікому не гаварыў. Ніколі... Галя...

— Лёнік... Не трэба. Не трэба... Прашу. Не цалуй так... Дай пера-

дыхнуць. Не трэба. Адпусці. Я ж усё роўна твая... Твая, чуеш... Не трэба цяпер, адпусці... Са мной 'шчэ ніхто так не быў!..

Ён цалаваў ёй вусны, шыю, грудзі. Ён быў гарачы, настойлівы. Яна адчувала яго рукі, дужыя, цвёрдыя. Яна дрыжала, яна спалохалася...

— Лёнік... Ну, не трэба... Я баюся... Ты ж мяне любіш. Ну, не трэба... — Яна задыхалася. — Ой, што ты... Лёнік... Ой... О-о-й... — яна абмякла, панікла, пала на халодную ад начы траву.

...Ён доўга 'шчэ трымаў яе ў абдымках, калі яна плакала ціха і многа; туліў асцярожна да сябе, — блізкую на ўсё жыццё. Ён не мог, не хацеў, каб яна цяпер пакінула яго, і не пускаў.

Апаў мрок разам з расой. Густы, ціхі. Улёгся вецер, недзе там за бальшаком.

Над Асіпаўскай пушчай усплыў няпоўны месяц. Не адыходзіўся, доўга стаяў нізка над лесам. У лавацкіх садах устрапянуліся салаўі. А былі ж заціхлі, чакаючы буры. Далёка на Доўгіх крыніцах закувала зязюля. Адна на ўвесь лес. Звонка і неяк дзіўна, мо' што ноччу. Пад Закалюжжам, там, на Ваўкаўні, гукалі совы; крычаў, аж стагнаў казадой — птушка начы.

У сады краўся рэдзенькі туман.

Стыла зямля. Нылі камары.

Навальніца плыла бокам, там, далёка за шляхам.

Хруснулі пад нагамі кавалкі шыферу. Яны пад кастрой. Прысыпаны. Ступаеш, што дзе па тонкаму ільду.

Зачапіўся быў за бервяно:

«Ага... Гэта дровы засталіся не спаленыя...»

Скокнуў праз шліхту, абышоў новую калгасную восець, дзе ўсю восень сушылі і мялі лён, а зімой — у тыя вялікія маразы — былі ўзялі сюды з фермы гусей, і — апынуўся на лажку, пад рэчку. Лажок зрыты — у ямах і бугрынах, — гэта рабункі не задратованых калгасных свіней.

Супакоіўся, не бег, бо трэ' было глядзець пад ногі.

Месяц то хаваўся, то выплываў з-за хмар-абрэзкаў.

Буслінымя сосны чарнеліся здаля.

Перайшоўшы па кладцы крыніцу, што цякла з логу з-пад Гальдарады і лучала ў раку ля самай фермы, ён угледзеў, як цьмяна бліснулі ля кузні вышараваныя за вясну аб пяскі гусеніцы. Бліснулі жоўтым водсветам, бы агонь сярод дня, і стухлі: месяц заехаў у хмары. Пасля пырснулі зноў белай іскрай, бы хто там, ля трактара, курыў-дражніўся, — паказаўся тупы ражок месяца.

Грыні спалі аблогай.

Над вёскай павісла свежая веснавая поўнач. Над небакраем, туды, за шлях на Гальдараду, стаяла цяжкая навальнічная хмара, — жоўтабарвяная ад месяца. У цішы было чуваць, як булькоча ля заставак вада, як бразгаюць у хлеве ланцугамі каровы — не ўляжліся во, — і брэша аж па той канец Грынёў, пад Закалюжжам, сабака, — як хто коціць па бруку пустую бляшанку.

Халодная ноч не давала суняцца, супакоіцца: ад дрыжыкаў ляскалі зубы.

Былі хвілі, калі ён забываўся, куды бег; калі гэта сырая 'шчэ ноч, што пахла ліпай і свежай зямлёй, што свяціла цьмяна і скупа, скакала ў ваччу, як сон, кідала ў нявер'е-забыццё.

Тады Аркадзь спыняўся, суцішваў сябе, губляў з галавы, куды бег, і мо' гатовы быў супакоіцца і вярнуцца адгэтуль па пясчанай вуліцы назад, у Грыні, каб пайсці дадому, у Закалюжжа.



Стукала сэрца; цягнула нямаведама куды; звінела ў вушшу. Такога перш не надаралася.

Недзе за бальнічным паркам хліпаў баян. Рэдка і ціха. Ля клуба ўсё. Глядзі, не разышліся. Хаця, усё роўна... Што каму да таго, як у яго на душы? Колькі людзей на жыцці мо' ў гэты ж час недзе ў шчасці. У яго — няма. Яно знікла, абышло цяпер узбоч, мінула. А як трывожыла да самага апошняга дня, — бо давала надзею...

Не было крыўдна, толькі балюча-балюча...

А чым сунімеш боль, калі не выкінеш з душы таго, хто ішоў поплечкі з табой столькі во, з кім патаемна раіўся пра ўсё-ўсё, на што ніколі не меў, ды і ці будзе мець права; з кім увайшоў у новы свет — які мо' завуць сталасцю, дзе аднаму няма месца, дзе адзін — нішто.

Адзін камень і сонца не захацела б грэць.

А хіба льга забыць чалавека, які адкрыў тваю душу, якая мо' і дагэтуль зябла б у адзіноце, і пайшоў сваёй дарогай?

У кожнага свой свет. І ў яе, і ў другіх.

Яна ўстала перад вачыма. Сур'ёзная, задумлівая і недасяжная... І прыгожая-прыгожая. Яе вочы, у якія не зазірнуў ніколі зблізку, яе вусны, якіх не крануўся ні разу... Яе воблік — што дарагі яму, бо стаў самы родны.

Ці меў ён права на такое? Меў. І мае. І ніхто ў яго ніколі не адыме. Яна — яго... Яго — і ўсё. Самая, самая родная...

Яго... Хоць яна зусім ужо чужая, бо цалуе і ласкае другога... І будзе ўсё жыццё.

Дзе знойдзеш сілы забыць яе?

Дзе возьмеш сілы ўгаіць боль?

Сэрца не сухое поле. З яго не выветрыш памяць па пясчынцы.

Ды і хіба можна выветрыць поле?

Белая ноч плыла над Грынямі, адтуль, з Гальдарады, разам з месяцам...

Востра, аж кісла пахла зямля.

На лагах пад выган енчыла кнігаўка.

Нехта далёка-далёка за лавацкімі садамі спяваў — самотна, працягла, нязвыкла для душы. На шляху ў тым баку бразгалі па калдобінах прычэпы. Не было чуваць, як гулі машыны, не мітусіліся агні...

Ці не гэта вярнула яго да жыцця... Кінула на дарогу, да фермы. Ён успомніў, чаму апынуўся тут.

Ён не мог, дазнаўшыся пра ўсё, быць на людзях, не мог быць дома хоць бы мінуту.

...Ціхая, белая ноч... Цёмнае неба, усыпанае зоркамі. На поўначы над самай зямлёй — зялёная зара.

Раптам уздрыгнула ціша, зазвінела — знікла. Здалося, схінуліся з воч Грыні, апала з памяці боль.

Завяз у бурай хмары месяц. Сцямнела. І тады над Буслінымі соснамі ўспыхнулі фары.

Трактар ірвануў з фермы.

З шалёнымі паваротамі зляцеў з пагорка на дзядзінец, заскрыгатаўзалязгаў па каменні-валунах, што ляжала ля калгаснай студні, і памчаў вуліцай да маста.

Ззаду падскоквалі плугі, скрэблі дарогу, вярнулі дзёран — цягнуліся, як сукаватая вяршаліна ад сасны-каржака па пнях на тралёўцы.

Ён толькі раз азірнуўся назад, — калі пачуў пад гусеніцамі камень. Мінула. Плугі каўзануліся паверху, не зачапілі.

Чалавек быў мо' цяпер, як арол, што паранены ўзляцеў у неба, дзе

лечаць родныя вятры, адкуль сузіраецца ўсё жыццё зямлі, дзе лёт увысі — усё шчасце птахі...
Чалавек ірваўся да жыцця-працы, мо' нават не думаючы і не знаючы, што яна можа суніме боль, што яна верне спакой...
Рукі сціскалі рычагі да дрыготкі, да болю.
Ён прагнуў вырвацца з цеснай вуліцы на волю, на прастор, на рог лавацкага поля пад Гальдараду, дзе скібавалі зямлю цэлы дзень і мо' толькі таму з'ехалі з баразны, каб астыў матор і адышлі здрантвелыя рукі за кароткую ноч да зоркі.
Святло выхоплівае з цемры вуліцу, парэзаную калясьмі, падзёўбаную капытамі. Платы ад агню як пабелены, над імі вытыркаецца на вуліцу бліскучае, што срэбнае, голле вішняку.
Ля маста крыжаватка. Вуліцу сячэ дарога, што выводзіць з Грынёў на шлях.
Крыжаватка спорана, скапана, зрыта. Крыжаватка — разварот.
На бугрыне-дзядзінцы святло вырывае з зямлі белае каменне, абгародку, зялёны ад агню, бы заплеснявелы высокі пень, які бывае ў лесе, дзе людзі з пілой баяцца сагнуць спіну.
Трэба браць правей, тор ідзе бокам...
Трактар ускочыў на бугрынку, зжахнуў-сцебануў цемень вышэй, аж над платамі і парканнем, як доўгай белай растрэсенай ручайкай... На якую толькі хвілю ў вочы ўрэзаўся чорны, як галавешка, высокі крыж. Бліснуў аднекуль з сярэдзіны кавалачкам бляхі, як чорт вачыма ад злосці, і знік у цемры.
Яшчэ льга збочыць, хапянуць толькі на сябе рычаг...
Душа, што рвалася на волю, не змагла сцерпець замінішча... Рукі мацней сцялі рычагі... Забалела ў скіўцах, ён недзе заскрыгатаў мо' зубамі, зусім гэтага не ўчуўшы.
Зноў бліснула з цемені халодная бляха, і таркануўся з начы абрубак зялёнага палена, якога чалавек не мог зносіць з маленства і абыходзіў мо' толькі таму, што яго абыходзілі людзі...
Каменне стала белае-белае ад агню, бо зблізку. Задрыжала-замітусілася абгародка, бы сухое дуддзё ад ветру дзе ў заўгольніку...
Здрыганула, таўханулўшы, кінула ўперад; падпёрла пад грудзі рычагі... Завыў, як раз'ятраны звер, матор; зазвінеў, бы ў ім дзе ў сярэдзіне напялася струна, — вось-вось лопне. Заскрыгатала, затрашчала спадыспаду...
— Плугі!.. Плугі!.. — закрычаў ён, успомніўшы, і не пачуў голасу. Азірнуўся назад — у цьмяных водсветах агню ўгледзеў, як плугі кінулі далёка ў бок белае каменне, кавалак чорнага палена і жоўтыя аскалёпкі-трэскі...
Звінела ноч ад рокату; стагнала вёска.
Трактар выскачыў на дарогу, скіраваў да Гальдарады; шалёны, ірваўся ў халодную ноч.
«Справімся без Пэрца... На паваротах можна вярнуць здзічэлы дзірван дагары нагамі...»
Не спала той ноччу поле ў Лаўках.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Матор заглох пад дзень у баразне, на неразараным брылі пад дубамі.
Аркадзь выпаліўся з кабіны зморany, угрэты. Выдавала, што і ўначы духотна. Пішчалі камары. Па канец Грынёў, туды, на Камена, палохалі неба заранкі. Над самым лесам. Навальніца абышла краем.



На вясновым паўночным усходзе палавела зара, бралася хутка і шырока, дрыжала.
У цішы стала трывожна. Холад браў недзе знутры, кінула пасля цеплыні ў дрыжыкі.
Недзе ў дубах сонна піскнявіла разбуджаная без пары берасцянка. У лавацкіх садах пачалі дзень салаўі — заходзіліся, аж тут было чуваць.
Месяц — на поўдні. Лены, насцярожаны, строгі за рэдкімі аблокамі. Счырванелы, скрываўлены.
Стыў гарачы трактар.
Захацелася дадому, — пацягнула моцна, нясцерпна.
Заснуць мо', — і тады забыцца на ўсё на свеце...
Стома брала сваё.
Пускач не заводзіўся. Хліпаў, шыпеў, барабаніў.
Аркадзь не помніў, колькі важдаўся з ім. Нарэшце брыдаў і ён, да нецярпення, да злосці.
Пачалі хістацца ногі.
Балела, рэзала ў ваччу.
Ён прыхінуўся да гусеніцы, налёг...
У нецярплівасці і шалёнай злосці ад знямогі рвануў апошні раз за пракляты намоклы, слізкі і праціўны шнур...
Здрыганулася спадыспаду зямля, схапіла за грудкі, шматанула, што мела мо' сілы ў чорную яміну-вір, у густую слізкую ноч... дыхнула гарачым пажарам... Сарваўся месяц, скаціўся долу, на дарогу, на Грыні. Гарэла зямля...
— А-а-а-а!..
Доўга, нема, на ўсё поле.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На світанні стухаў барвяны месяц. З прыдарожжа крануўся заспаны туман.
У тую рань на лавацкіх лагах несціхана плакалі разбуджаныя кнігаўкі.
У тую рань, не чуючы пад сабой ног, бег з Грынёў на лавацкае поле Раман Пэрац.

— Васіль, ты мне не круці... Я ж цябе прасіў яшчэ днём.
— Еўдакім Мікалаевіч, аўтобус будзе, ды і машына калгасная ля райкома...
— Ну-ну, паглядзім... Паглядзім. Ты мне не кіпяціся...
Петушонак і не думаў падысці да райкома ці падацца на рог вуліцы, дзе спыняўся аўтобус. Ішоў паперадзе, — у новым, расшпіленым рудым плашчы, у тоўстай чорнай суконнай кепцы, з сівым, калісь чорным, памятым і абдзёртым партфелем у руках. Перакідаў яго з рукі ў руку, бы ён быў цяжкі-цяжкі ці гарачы-гарачы...
Яны перасеклі парк ля райбальніцы, дзе па зялёнай мураве хадзілі куры і на лаўках у куце валаводзіліся, відаць, рабочыя-леспрамгасцы, — у замасленых камбінезонах і засмаленых старых фуфайках. Крычалі на ўсё горла, — некаму недзе «зрэзалі прагрэсіўку».
Выйшлі на цэнтральную шырокую брукаваную вуліцу — якраз да гасцініцы.
— Васіль, позна... На любой тваёй машыне цямно застане... А ад Гальдарады...

— Дык што надумалі?
— Ідзём. Васіль, я заказаў нумар...
— Еду адзін. Я заўтра на першых уроках...
— Не хадзі... Не хадзі, кажу. Чаго ляцець? Куды цябе ліха панясе? Ды я з дырэктарам... Ды ў мяне заўраяна... У мяне з ім — ты ж сам знаеш. А дзяцей можна распусціць, калі замены не знойдуць. Ды цябе ж у райком выклікалі, а не куды-небудзь, скажам...
Петушонак ухапіў Васіля Міронавіча за рукаў, бы той хацеў кінуць яго богведама дзе. Аднаго.
— Не. Я — на калгасную. Ды і ніяк я вас не раскушу, Еўдакім Мікалаевіч... Мне можаце партфель аддаць...
— Васіль... Здурнеў? Што ён гаворыць?.. Проці ночы з такой сумай?.. Ды ўсю ноч дома вачэй не звесці? А заўтра — адразу ў школу, — на рукі. На мяне даручэнне выпісана... Я ў графе подпіс паставіў... Мая галава даражэй таго, што ў партфелі...—вочы яго лыпалі, рукі дрыжалі, аж тросся партфель. — Я два ложкі заказаў, грошы свае наперад заплаціў... Мне ж за гасцініцу камандзіровачныя ніхто не дасць. Што, не ведаеш?
Петушонак топаў дробненька за Васілём Міронавічам да райкома і назад, да аўтобуснага прыпынку і зноў да райкома, сіпеў, ахрып, змарыўся і выціраўся ад поту.
Здавалася, згубіць чалавек Васіля Міронавіча — канец свету.
Калгаснай машыны не засталі; аўтобус ішоў паўнюсенькі і яшчэ хлынулі да яго тыя леспрамгасцы, якія і цяпер не перасталі некага лаяць за тое, што «ўрваў прагрэсіўку»...
Ехаць не было на чым. Ісці ж — усю ноч.
Яны скіравалі да гасцініцы.
Адзін — дзяцініўся, аж падскокваў ад радасці; другі дыбаў са злосці, насуплены, угневаны, — зусім воддаль.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Васіль, ты думаеш, чаму я цябе тоўхаў? Я мог яго сам па пальчыках раскласці, не сумнявайся. Толькі ж той за дурня мяне... Падумаеш, інструктар... Ставіць сябе... А я скажу: блазнюк. Сам балван! Лепш мяне ён лекцыі, мо' думае, чытаў калі... Я яго-ткі адшыў, свінчо такое, выпер. Прыцягся... Хоць ты што ад яго, а тут спаць гне. Ну, Васіль, давай захрапём. Вазьмі ў маім плашчы папяросы, падай... Не-не... Там, дзе маіх пяцьдзесят рублёў...
— О-о... Ды вы багатыя...
— Ціш-ш-ш... Галава... На ўсю гасцініцу зароў... Кумекаць жа трэба... Скідай штаны ды гасі агонь. Дзверы на ключ. Пагляндзі, я, здаецца, запёр за тым.
Яны абое падаліся да дзвярэй.
— Дай я сам... Другі раз ключ перакруціць трэба... Во-во... Ды фортачку зашчапіць.
— Дыму ж...
— Не захлынешся. Гасі агонь, — і дыму не будзе. А то лямпачкі без абажураў... Вочы мае аж гараць. А яны мне дорагі.
Пстрыкнуў выключацель. Стала цёмна. Сціхлі. Мо' думалі адразу ж заснуць.
Праз акно цьмяна цадзілася святло ад вулічнага ліхтара, — аднекуль з-за дрэва. На дзвярах калыхаўся разгаты цень. За сцяной недзе далёка гаманілі: ці ў суседніх пакоях ці на вуліцы. Загула за акном на двары машына і доўга грымела, вурчала, — аж захліпалася, пакуль не заткнула горла. Прыйшоў апошні аўтобус, і шафёр уладкоўваўся нанач. Хутка мусіць ён гэта загрукаў-затупаў па калідоры і тузануў быў разы са два за ручку дзвярэй, пастаяў і пашлэпаў недзе назад. Зноў стала ціха.
Пад Петушонкам заскрыпеў матрац.
— Не дадуць, Васіль, заснуць... — голас у Петушонка ціхі, сіплы, насцярожаны. — Хто гэта там мог лезці, га? Не заснеш жа, не заснеш. Ды пад галаву нізка яшчэ... Падушкі з рукавіцу... Партфель трэ' падкласці... Дзе партфель? Васіль, дзе? — Петушонак ускруціўся, зацыпаў босы па падлозе. Знайшоў на крэсле ля сябе ж партфель, супакоіўся, змоўк. Лёг.
Зноў заскрыпелі пружыны, затрашчалі.
— Нажыў... Бяду на сваю галаву... Хаця нікому не даручаюць. Мне. Ды і цяжка каго знайсці, каб рызыкнуў з такой сумай. Я не такі. Толькі што мне з таго? Ды яшчэ ў паперцы пішуць, што я заўхоз. Я з самагасамага вяду гіяграфію... А тут заўхоз... Ды мне, Васіль... Хаця... Усё адно, Васіль, не заснеш. Ты зашчапіў фортачку? Холадна. Коўдра выскубленая, як рэшата недзе, каб на святло паглядзеў. Лень толькі злазіць. Я б тую дырэктарку... Давай, Васіль, на мой ложак... Сагрэемся хоць пад дзвюма коўдрамі...
Петушонак змаўкаў, варочаўся, ссоўваўся з ложка, споўдаўся ў цемнаце з кутка ў куток, клаўся і зноў пачынаў усё спачатку:
— Я не хачу абвастрацца з дырэктарам. А так бы... Хаця ў раяне ў мяне... Дарма ты толькі яму пра мае лекцыі... У райкоме, відаць, дазналіся. А Гаўрылішынаму за газету галаву некалі звярну... Васіль, не спі... Ты спіш?
Сну не было.
— Пракляты партфель! Муліць. Васіль, не спі... Васіль... А той Гаўрылішын — сопель! Ён пісаць пра мяне... Выўчыў шчаня на сваю скуру...
Па сцяне мітусіўся шэры цень да самай раніцы. Недзе на двары нехта назойліва дзёўб у жалеза.
Да самай раніцы ні адзін ні другі не звёў воч.
І ўжо на самым світанку недзе пад падушкай Петушонак захроп на ўсе застаўкі, бы дзе хто дзёр новыя анучы. Можна было выносіць і партфель і самога Петушонка хоць на двор пад плот.
Васіль Міронавіч ледзь успароў яго.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Казёл» выскачыў на шашу і памчаў насустрач лесу, пад мост, дзе вадаставу — электрастанцыя.
Адкрыты з вясной, без брызента, ён быў цяпер перагледжаны маладзенькім 'шчэ хлапчом-шафёрам на свой лад, — з лавачкамі замест задніх сядзенняў і бляшанымі скрынкамі...
«Казёл» — машына раённага аддзела культуры; на ёй развозілі па калгасах «новыя кіны», як гаварыў шафёр.
Даехаўшы да маста, шафёр спыніўся, вылаяўся, праўда, сабе пад нос, і загаманіў пісклява і злосна:
— Зноў забыў ерунду тую падкінуць па дарозе!..
«Ерундой» аказаліся дзве бляшаныя скрынкі з кіналентамі, за якімі вярталіся былі ў прадмесце гарадскога пасёлка ля самай ракі праз сасняк...
«Казёл» фырчаў, аж звінеў. У ветравое шкло, што ўперадзе, стукалі чорныя жукі. Шумеў у вушах вецер, сцёбаў на твары, як цёплай мяккай хусткай...

Да самай шашы падступаў лес, здавалася, далёка ўперадзе ён зусім перайшоў дарогу...

Ехалі хутка: шафёр быў рухавы і нястрымны. Яму трэ' было «абскакаць» вунь колькі клубаў па калгасах, вярнуцца ў раён і да ночы згайсаць 'шчэ ў два сельсаветы, што зусім па другі бок раённага гарадка. Меў ён і іншы клопат, відаць, да якога не так даўно прызвычаіўся, бо нерваваўся: пасадзіў жа пасажыраў — «рабчыкаў», як ён выціснуў быў праз зубы, — на што яму, відаць, была строгая забарона і якую ён няцяжка ўмудраўся абыходзіць.

Хваляваўся ж кожны раз, калі насустрач выскокваў з-за паваротці ці з-за горкі матацыкл, — баяўся, відаць, міліцыі: лапаў сябе за кішэню, чысціў ветравое шкло, падымаўся з сядзення і глядзеў уперад зусім ужо не зважаючы на вецер. Раз быў хуценька адвярнуўся, спакойна сказаў, хутчэй загадаў:

— Вы ўсе бібліятэкары, калі што. З семінару едзеце. Ясна?

Бразджэлі бляшаныя скрынкі, звінелі ключы недзе ў перадку ў яго пад нагамі. І шумеў, шумеў і матор і вецер.

Ляцелі па выбоістым бруку, і вунь як гоцала.

«Бібліятэкары» маўчалі. Прыглядаліся адзін да аднаго.

Петушонак сядзеў уперадзе, побач з шафёрам, і Васіль Міронавіч бачыў, як ён муштруе ў руках абдзёрты партфель, а то тыча яго пад паліну плашча ці зусім пад зад. Але машына трасе, падкідвае, і партфель выслізгваецца, падае пад ногі, дзе ў мазуце анучкі і ключы.

Петушонак зрэд забываецца, што трэба трымацца самому і хапаецца абедзвюма рукамі за партфель, — бы гэта баіцца выпусціць пеўня, за якім, бегаючы, вунь пазбіваў як і локці, і калені, пакуль не прыбіў,— а той і цяпер яшчэ, як што дзікае.

У чалавека быў занятак, і ён мала зважаў на людзей.

Збоку, пад перад, ля Васіля Міронавіча высока на бляшаных скрынках прымасціўся рыжы, кучаравы, без шапкі хлопец з гармонікам.

— У Дзераўно... Вяселле граем...

Больш ён нічога не сказаў і маўчаў. Не паслухаў і сыграць што-небудзь, паказаў толькі белыя прыгожыя зубы і не хаваў іх усю дарогу. Усмешка яго зрабіла зусім дзіцем.

Насупраць рыжага музыкі сядзела мажная, пасівелая, але маладжавая з твару жанчына ў летнім зграбным паліто. Як завяла шчэбет, калі мінулі мост, дык не змаўкала ні на хвілю, — што спалоханая сарока. З ёй сядзеў маўклівы стары, адмахваўся ад яе рукамі і злез хутка за лесам. Не зразумець было, ці то ён пад'ехаў да дому, ці мо' ратаваўся ад жанчыны-назолы.

— Я — бухгалтар... Так што я вас не слухаў... — сказаў ён адно на развітанне. З шафёрам ён не спяшаў разлічыцца, але не паскупіўся і падзякаваў аж разы са два.

Зноў ехалі моўчкі. Толькі шафёр насвістваў пры кожнай сустрэчнай машыне і бясконца варочаўся ўперадку Петушонак.

Мінулі выбоіны, якія звалі нямецкімі, і выскачылі на цвёрдую і прамую шашэйку, — пад гару. Звярнулі ў вёску, пад'ехалі да калгаснага клуба, што быў на водшыбе на дзядзінцы. Шафёр сам адамкнуў кладоўку пры клубе, — у яго, відаць, ад усіх клубаў былі ключы, не бегаць жа шукаць кіноўшчыкаў у кожнай вёсцы, — скінуў туды дзве бляшаныя скрыначкі, і зноў выехалі на дарогу пад гару. Параскашнела, і рыжы музыка перабраўся на лавачку да жанчыны, каб ямчэй усесціся з гармонікам. Васіль Міронавіч застаўся адзін і ўзіраўся за дарогу, дзе на полі зелянела на сонцы жыта. Пасля яно нырнула за бярэзнік, што быў



у дробнай 'шчэ зелені, — знікла. Стаяла раніца, свежая, вясновая з густым мяккім ветрам. Выдавала, машына стаіць на месцы, ёй не пад сілу ўскочыць на гару, а гэта вецер так натужна і раз'ятрана рвецца насустрач...

Зноў пачынаўся лес. Густы, яловы і яшчэ зусім сыры ад зімы. Дыхнула вільгаццю і глінай; аднекуль занесла ў машыну леташняе сівое высахлае лісце, кінула пад ногі і доўга пасля ганяла па бляшаных скрынках, пакуль не выхапіла ў белы свет.

Маўчалі. Жанчына не рашалася зачапіць музыку. Падсоўвалася ўсё да яго, зазірала ў вочы, але рот не адкрывала.

Ад'ехалі ўжо кіламетраў з сем; на крыжаватцы дарог, дзе тырчаў слуп-вярстак у палосы і над ім нагнуўся другі, — зялёны і крываваты, з шыльдай «Астаноўка аўтобуса», — падабралі смуглявае дзяўчо з чамаданчыкам, у белым плашчы.



— У Грыні мяне... Вось ужо дзякуй... Дзе яны тыя. Ногі адбіла. І казалі ж мне аўтобус чакаць, дык не сядзіцца... Ну, цяпер дабяруся... А вы ў самыя Грыні?

Голас у дзяўчыны мяккі, густы, ад таго строгі. Вочы задумлівыя, чорныя, аж бліскучыя. Сама яна выглядае на дзяўчо ў гадах, бо спакойная, упэўненая і спаважная. Яе ж чакалі, а яна паволі-паволі падала чамаданчык Васілю Міронавічу і наперад ужо сказала «дзякуй», нават не зірнуўшы на таго. Такая спаважнасць заўсёды раўняе чалавека з кампаніяй неяк адразу, знаёміць, асвойтвае.

Толькі ніяк не вязалася са спаважнасцю дзяўчыны яе гаворка — несціханая, смелая і нават сваволььная.

Дзяўчына села ля Васіля Міронавіча, насупраць жанчыны ў паліто. Тая неяк усміхнулася, ажыла, адвесіла пухлую губу, павяла па ёй языком і пачала свае старыя прыгаворы нанава.

— А вы ў Грыні? Дык і я ж у Грыні. Да сястры сваёй, да Раіны... Я ў яе ад... ад якога ж гэта года не была?.. Ну, лічыце проста гады чатыры... А вы, дачушка, з Грынёў самі? Чые ж вы, абач?.. Гарадская, мусіць, бо ў Грынях такіх, мусіць... Абач...

Васіль Міронавіч успомніў, што гэта жанчына таксама пачала гутарку з тым бухгалтарам: «Да сястры сваёй, да Раіны... Абач, чалавек, а ці ёсць у вас удавец?» Нешта такое вярзла таму...

Дзяўчына не спяшалася з адказам. Доўга разглядала яе пасля ўсіх, уважліва і павольна, тады сказала кароценька: «У Грыні, а куды ж...» Нібыта даўшы зразумець: «а табе, цётка, не ў сваё мо' і не варта лезці», — і ўжо не змаўкала:

— Вас Васілём Міронавічам звяць? Са школы вы? А я Наташа. Вось і пазнаёміліся. Калегі тады, выходзіць. Нечакана так пазнаёміліся. Проста ў дарозе. Кажуць, знаёмства ў дарозе — на шчасце. Мо' яно і чакае не дачакаецца мяне ў вашых Грынях, скажы ты. Я як чула. Не сядзіцца, не чакаецца ў райцэнтры. Проста я не люблю спыняцца на паўдарозе. Выйшла на шашу, думаю, падвязе хто. Ажно не вельмі. Во колькі адчапала. Затое, лічыце, сем кіламетраў прайшла і адразу ў Грынях, у школе. А скажыце, Васіль Міронавіч, школа ў вас такая, як у райцэнтры, не з рукі было пытаць у раяна, а?

— Школа, як школа. А-а... дык гэта вы-ы... — не мог апамятацца Васіль Міронавіч, бы ад якой раптоўнасці. — Ну, можа горшая — на адзін паверх.. Дык гэта вы? А мне ў раяна...

— Нічога. Мне відаць усё адно будзе. Палюблю. Ведаеце, як яно атрымалася... Мне так надакучыла без дзела ў горадзе, што — у любы бок. Я, ведаеце, з бацькам сваім на лаянку пайшла... У тым годзе скончыла геафак у бэдэу... Мой тата паклапаціўся, каб мяне не размяркоўвалі. Не размеркавалі. Раз'ехаліся мае сяброўкі, а я — у аспірантуру. І засыпала замежную. Тады мой тата пачаў мяне ўладкоўваць: і ў геалагічнае ўпраўленне, і ў лабаранткі на нашу кафедру, і ў школу. Па-першае, ва ўпраўленне ці на кафедру не лёгка ўлезці, стаж трэба мець, а настаўнікаў — чарга. Вы ж ведаеце, якая чарга настаўнікаў у горадзе? Не-е... Раскажу калі. Усе ж гарадскія, лічы, што канчаюць, як я, у горадзе хочуць застацца. Дык калі і паедуць на вёску, адбудуць два гады — зноў дадому. Дом цягне, відаць. А мяне з дому пацягнула, бо сутычка з татам выйшла. Знайшлося мне месца ў батсадзе. Кветкі ўвосень састрыгала, а зімой у цяпліцы адседжвалася. Цяплічная я, выходзіць. Абрыдла. Я сама ў аблана: хоць на раён, хоць за раён. Кажуць, цяпер нічога няма. Чакайце. Паклічам. І вось я, выходзіць, дачакалася. Паклікалі. Тут у вас географ трэба. Ды і гадзіны поўныя. Проста пашчасціла. Ды мяне б шчасце даўно не абышло б, калі б... Але ж дом кінуць, горад... Неяк так адразу.. Вучылася, вучылася. Школа, студэнтка пасля... І раптам — усё мігам знікае, абрываецца. Боязна... А пажыла адна, без дзела... Яно тады быў дзіцячы розум. А як у вас дырэктар?

— Ды нічога. Наш ён, мясцовы. Завочна гістфакканчаў. А завуч... Летась яго прыслалі. З бэдэу таксама. Віктар Іосіфавіч...

— Віцька? Высокі такі, кучаравы? Строгі? Берэт носіць. Ён філфак канчаў. У камітэце камсамола быў... Я ж ведаю яго... Помню...

— А як прозвішча?

Яна насцеражылася, назвала.

— Ён самы. Толькі берэт не носіць. У нас ніхто не носіць.

— Ты глядзі. Я ж як дамоў еду... А колькі ў вас настаўнікаў? А вучняў? А ў дзве змены ці ў адну?..

Васіль Міронавіч глядзеў ёй проста ў вочы. Яны былі не зусім чорныя, як кінулася напачатку, а зеленаватыя. І вялікія, бы пабольшалі, калі яна ўскочыла на машыну. Адчуваў яе плячо, калі яна падсоўвалася несамахоць бліжэй да яго на выбоінах.

«Яна зусім не падобная на Галіну. Зусім жа...» — і яму самому захацелася гаварыць і гаварыць, расказваць ёй пра ўсё.

Ім не далі.

У машыне раптам закрычаў чалавек — нема, бы яго разануў хто. Заскрыпелі тармазы.

Васіль Міронавіч угледзеў, як выкуліўся на брук Петушонак і кулем, як апантаны, ірвануў назад па дарозе.

Шафёр развярнуўся, не ўгледзелі калі, і дагнаў Петушонка ля самай калдобіны-перакопу, дзе дарожнікі клалі цэментныя трубы на месцы



старога драўлянага мастка. Той, сагнуўшыся, прысеў над падрапаным партфелем, адшпіліў яго і лез у сярэдзіну аж з носам.

Чалавек быў пачуў, пра што гаварылі... Яму ўспомнілася газета, якую ён вазіў у райана і енчыў у загадчыка «адвергнуць факты», і тая жанчына з аблана, што прыязджала з Гаўрылішыным хлопцам у школу...

Чалавек мог вываліцца і сам дзе на выбоіне, не толькі выпусціць з рук партфель.

Наташа нават не звярнула на яго ўвагі. А што б ёй можна было сказаць, каб яна спытала, хто гэта...

Пад'язджалі пад дом. Хутка мінуўся брук, і машыну пачало шпурляць па калдобінах, як гарошыну ў арфе на сіце. Не было ратунку, і шафёр, цыркнуўшы праз зубы і пашкадаваўшы, паехаў сціха.

Наташа цяпер маўчала, узіралася на жанчыну. Слухала. Натапырыўся і Васіль Міронавіч. Жанчына, убачыўшы, што кожны заняты сваім, знайшла і сабе занятак: атакавала рыжага хлопца-музыку:

— Во, глядзі сюды... Тут во, перад могілкамі царква была. Мы сюды дзеўкамі 'шчэ хадзілі. Столькі людзей было збіралася на вялікадня ці на троіцу. Хаця і цяпер людзі не цураюцца... Але ж тут, глянь, і следу ад царквы не засталося. А чатыры гады, я як была тут, — дык і не заўважыла. Мне думалася ўсё, што яна стаіць. А мо' яна, хлапец, і стаяла, ды яе знялі калі летась, га? У вас жа тут усяго можна чакаць. Хаця б Сабольскі ваш... Слуга называецца... Мне сястра пісала. Надта разумныя ў вас... І хлопца нейчага тут скалечыла за крыж. У нас вунь у горадзе дык і моляцца, і цэрквы рамантуюць, і новыя будуюць... А што той ваш стары недавярак счураўся царквы, дык на яго месца прышлюць... Прышлюць новага. Абач...

Наташа перабіла яе:

— Дзе гэта ў вас у горадзе рамантуюць і будуюць цэрквы? Мне здаецца, мы з вамі з адной вуліцы, па гутарцы калі...

— Абач... А ўжо ж... Рамантуюць вунь, а як жа ж... Фарбуюць... Мыюць... Бачыла сама. Хаджу ж, не выраклася...

— Слухай, баба... Добры гаспадар на вясну з хлева гной вывозіць стараецца, дзе скаціна напаскудзіла. А гэта ж... — азваўся Петушонак, груба, бы вылаяўся. Цяжка было па тону згадаць, каму гэта сказаў.

— Абач... Чалавек. І ты? А я цябе палічыла... А я падумала была...— жанчына залапатала і пачала сціхаць. — А ты, дзяўчына, мо' — не відзела, дзе будуюць, а я відзела... Можа там і не царкву, я ж не знаю, людзі казалі... Ад людзей чула... А да вас прышлюць бацюшку... І гэта людзі кажуць, чула...

— І гэта ты вязеш такія навіны сястры з горада? Так значыць: купіў не купіў, а патаргаваць можна? А мо' і паверадь дзе? Але ж колькі, качка, не мудрыся, лебедзем не будзеш. Хаця, бывае дзе і так: брахаў бы і каток... Ды язык караток... — Наташа паківала галавой і засмяялася. Першы раз. Вочы яе засвяціліся, пакруглелі шчокі. З галавы з'ехала хусціна, — у дзяўчыны была каса.

Васіль Міронавіч не зводзіў з яе воч. І толькі калі яна памаўчала ўжо крыху, загаварыў:

— Чыя душа часнаку не ела, пахнуць не будзе... Відаць, каго вязем на машыне раённага аддзела культуры... Лектар 'шчэ недзе той... Са стажам. Царкву дзераўнянскую памятае... Калі тое было. А новага папа, бабка, не прышлюць да нас...

— Чаму ж гэта?

— А таму, што яго прысылалі ўжо. Што глядзіш? Прысылалі. Адразу ж, як Сабольскі ў леспрамгас пайшоў. Ды мы яго...

— Што ж вы з ім зрабілі?
— Ды мы яго, бабка, не прыпісалі. Ну, прыпіскі не далі. Што лыпаеш вачыма? Не разумееш мо'? Прыпіскі, кажу. З прыпіскай цяпер туга і ў нас, не толькі ў горадзе...
— Га-га-га... — смяяліся шафёр і рыжы музыка.
— Адкуль вы такія мудрыя? А ён мо' пляваў на вашу прыпіску... Царква ёсць, людзі ёсць...
— Як гэта пляваў? Папы цяпер граматныя, законы знаюць. Каб прыпісацца, трэба даведка з месца работы... А каб уладзіцца на работу, трэба прыпіска...
— Га-га-га...
— Мудрыя... Цяпер гэта адменена. Паперкі бюракратныя...
— Ты, бабка, таксама знаеш законы... Дык чаго ж ты нахабна лезеш са сваімі законамі пра царкву? А нам што, тады. выходзіць, па вашых законах з вамі жыць, а сваіх не прымяняць? Мнагавата неяк для вас. Хаця, папок новы разумнейшы быў. Пабыў у царкве, у сельсавеце, у клубе, паглядзеў, што тут яму не ўпрэе, не тыя людзі, завярнуўся і лінуў, хто ведае куды. Шукае недзе прыстанішча...
— І прыпіскі... — дадаў шафёр. — А ты ў горадзе ў сваім, бабка, яго прыпішы, калі там так ужо цэрквы будуюць...
— Га-га-га... — зноў смяяўся музыка. Валаводы з прыпіскай яму, відаць, прыйшліся да спадобы.
Пад'ехалі да Дзераўна, высадзілі музыку на абочыну дарогі і памчалі па калдобінах пад Гальдарадскія дубы: шафёр зноў спяшаў.
Ад Гальдарады да Грынёў — астравок бруку. З гары да маста зляцелі лёгка і нячутна. Шумелі толькі спадыспаду колы па дробным камені.
Спыніліся ля маста. Адгэтуль да школы — рукой падаць. Клуб жа па канец Грынёў, і шафёр меў намер ехаць да яго не праз вёску, а шашой, — гэта ў аб'езд.
Злезлі ўсе чацвёра і адразу скіравалі ў вуліцу паўз лагі. Петушонак таргаваўся з шафёрам і дагнаў іх аж на самым павароце, тым месцам, дзе на крыжаванні вуліц на дзядзінцы стаялі дыба ўзвернутыя белыя камяні, а воддаль пад плотам ляжала ў кучцы пашчапаная абгародка і пажваканы бы ў чыёй ляпе кавалак зялёнага бервяна.
Ён мала каму кінуўся ў вочы.
Здалёк з-за бальніцы паказалася школа.
— Еўдакім Мікалаевіч... А мы яшчэ на ўрокі...
— Не, Васіль... — Петушонак не даў гаварыць. — Дадому іду. Няма куды спяшыць! Няма чаго! Хаця мяне, хаця мне... Хто меў права? А раяна? Там мяне... Я пагавару!.. Хто пасмеў? Па газеціне той пастулілі... Паверылі каму. А мяне?.. А мяне Аўрааму на піва? Ні ступлю ў школу... Можаце ісці... А за мной прыбягуць... З самога раяна. У мяне стаж, дзеці любяць. Колькі я выпусціў на свет... Я дырэктарам быў... І не ступлю са школы... І не думаю...
— Хто гэта, Васіль Міронавіч?.. Настаўнік які? З нашай школы? Чаго ж ён?
— Ды так.. Будзеце ведаць... Хадзем. Школа наша... Бачыце? За алеяй... Алея ў нас... Хадзем, Наталля Іванаўна... Цяпер вы ўжо не Наташа...
— А мо' мне хацелася б у вас для каго-небудзь застацца Наташай?
Яны рассмяяліся. Яна папрасіла свой чамаданчык, бо былі на падыходзе да школы.
Сталі. Азірнуліся. Петушонка нідзе не было відаць. Не ведаў ён, што Васіль Міронавіч 'шчэ ад учарашняга мае адносіну з райана, дзе



Петушонка рэкамендавалі перавесці на загадчыка школьнай майстэрні. А мо' і блага зрабіў ён, не выдаўшы сакрэт: чалавек не стаў бы начаваць у раёне і раней бы прывёз настаўнікам зарплату...

Ззаду за імі памалу сунулася ля платоў гарадская жанчына ў дарагім летнім паліто. Здавалася, яна баіцца ісці ў вёску.

Далёка пад лавацкімі садамі з узгорку злятаў да маста чорны адкрыты «казёл». Мо' гэта вяртаўся назад той няўрымслівы шафёр з кінафікацыі, што вёз іх, а мо' і хто другі, — дарога ля Грынёў ніколі не сціхала.

— Хадзем, Наташа...

З ветрам сюды пасыпала аднекуль збоку буйным, як боб, градам; яны туліліся адно да аднаго. Прысады не давалі ратунку, — былі 'шчэ зусім разгатыя. Мокла кара, па ёй сцякала цёплая вада, капала на твар, на рукі. Моклі ад дрэва плечы.

Дождж цадзіў, як ашалелы, — прыпускаў са злосцю і ахвотай, здавалася, ён буяў з вялікай радасці, што змог нарэшце адхвастаць, абмыць цеплынёй засмужаную пасля бруднага талага вархаводдзя зямлю.

Іграў вецер, глытаў струмені... Тады над полем і дарогай стаяў шэры туман, як дым; губляўся немаведама дзе густы і востры покат кропель,— ад зямлі ішоў няўсцішны шум, бы гэта бура гнала ў чыстае поле сухі жвір з шашы, які, глядзі ты, не мог даняць ніяк лівень.

Зноў зашапацела кара, забулькалі сціхлыя на хвілю лужыны, на траве заскакаў буйны белы град...

Зноў наплыла нізкая барвова-дымчатая хмарка, распусціла пісягі, апала долу... Ад зямлі ўзнялася пара, бы гэта гарачыя друзы граду нехаця стылі ў халодных лужынах на полі і на дарозе... З бярозы цуркам пацілася вада, вопратка мокла ўвачавідкі. Не мог уберагчы і брызентавы плашч, шырокі, як на дваіх: намок, сцяжэў, стаў халодны і слізкі...

— Дурныя сховы... Зусім жа вымакнем... Гайда пад мост...
— Далёка, Лёнік... Лепш ужо тут мокнуць... Усё адно. Ну і сячэ... Ты падумай... — яна туліцца да яго ўся, цёплая, мокрая; горача дыхае яму на самае вуха...

Хмара была найшла з-за лесу, з-за Віліі, выплыла сціха, засцячы бурай пенай сухое, парнае шэрае неба. Сунулася высока-высока насупраць ветру на Гальдараду, на шлях, — хавала з воч разамлелае, засмужанае сонца..

Першы гром быў яркі і звонкі, малады і ўзбуджаны, як і сама зямля на вясне, як і сама прырода.

Неба сівое-сівое. Свінец.. Варушыцца, як дым ад ветру, кіпіць.

Пад'ясніваецца, — і тады дождж спарнее, асталёўваецца, цэдзіць роўна, не пераводзячы духу, праймае ўсё на свеце, ад такога пры дарозе пад дрэвам ніякі ратунак, хоць і ўлёгся, здаецца, вецер.

Шуміць дождж, мройна, густа... Заціхае, мрэ тады жыццё, — толькі шум, утрапёны і бясконцы, абкладае ўсё навокал.

Шум спорны, роўны. І калі доўга слухаеш і слухаеш яго, выдае, што ўсюль нейкая трывожная ціша... Яна — надоўга, і ад гэтага нязвыкла вострыць слых, — тады прыдаецца, што чуеш, як падае долу, як шуміць-шапоча кожная дажджынка...

У цёплы дождж хіне на сон; у цёплы дождж думаецца, думаецца пра добрае і лагоднае, якое не абышло ў жыцці. Мо' таму, што наўкол ува-

чавідкі зелянее, расце трава? Мо' затое, што дыхае параю абуджаная громам да летняга жыцця маладая вясной зямля?

Лёгка-лёгка дыхаць вясной у навальніцу...

Пахне свежа зямля, бы яна толькі цяпер з-пад снегу...

Абклала надоўга, на ўвесь дзень.

Маланкі — белыя вяроўкі — хвошчуць неба недзе далёка над Паліком, — туды сплываюць хмары дзень і ноч ужо во цэлы тыдзень.

У лужыне пад бярозай зялёная пена: распарыла, абмыла летняй вадой маладое ліпкае лісце. Пахне бярозавым сокам.

Блішчыць мокрае каменне недалёка на шашы, абмытае ад пылу, пяску і мазуту... Здаецца, ад цёплага дажджу шуганула расці н'ат на жвіры трава-падарожніца...

— Бяжым дарогай... Пад мост!..

— Бяжым!..

Шуршыць пад нагамі жвір, шваргочуць каменьчыкі, падаюць-булькаюць у лужыны. На вадзе хлопаюць пузыры, павольныя, леныя: дождж зарадзіў надоўга.

Бегчы выпадае назад, з горкі, бо яны былі ўжо мінулі мост. Дагнала на павароце машына, паўнюткая дзяўчат — вымаклых, абмытых, прылізаных. Песня іх пад дажджом глухая, ціхая, але ўпартая, напорлівая. Слізганулі яшчэ два прычэпы. Ішлі паражняком. Дарога не супакойвалася.

— Хутчэй, Лёнік!..

Дабеглі да маста, спыніліся. Насустрач ім з-за паваротк вытыркнуліся два гордыя і злосныя зубры-самазвалы. Тарканулiся, абдаўшы мокрую зямлю сінім дымам.

— Сядайце!.. Да другога павароту... Да самага Дзераўна... — высунуўся з кабіны чарнявы шафёр, пасля саскочыў аж на падножку.

— Нам у раён...

Гаварыла яна.

— А-а-а... Вымакці прыйдзецца... А не — сядайце... Згрузім камяні — зноў сюды падкінем... Гм-м... Чакайце... Чакайце... Дык гэта ж вы? Вы! Помніце, тады мяне ноччу гэтай дарогай вязлі... Я першы раз тады апынуўся ў вашым баку. Мы на Краснае шашу мчалі дабіваць... Помніце? Ну, летась... Што, не ўспомнілі?.. Вас Галінай зваць...

— Ды гэта я... Добры дзень...

— Сядайце... Раскажыце...

Ззаду на чарнявага насядаў ягоны, відаць, сябар, безупынку сігналіў, аж вушы закладала. Яны недзе спяшылі.

— Хацця... Што вам расказваць мне... — чарнявы шафёр чагось не даказаў, ныркнуў у раскошную кабіну, і машына рванула з месца. Высунулася была 'шчэ раз яго чарнявая галава і знікла ў сінім густым дыме.

Машыны аж стагналі, беручы па гразкіх калдобінах ад маста пад гару. Дрыжала зямля.

— Ад Гальдарады павядуць шашу... За дарогі прыняліся. Дайшло і да нас... Цяпер... — Леанід глядзеў услед самазвалам, а дождж хвастаў яго па спіне, па шыі, па шчоках — вострым, густы. Забылася на хвілю, што хтось цёплы туліцца да пляча, сцягвае плашч. Успомнілася пасля, што такое было сказана ў радасці толькі самому сабе. Мо' не звыкся 'шчэ дзяліцца кожнай макулінкай з самым блізкім цяпер у жыцці чалавекам?

Здалёку, з гары, дзе прайшлі машыны, беглі да рэчкі белыя ў пене ручаі. Пад'яснелася неба, і яны блішчэлі, што на сонцы. З лагчыны дыхнуў вецер — запахла прэлым леташнім лісцем, яго размачыў дождж, распарыў.

Ногі тут грузлі ў жвір, мякка, глыбока: раскісала зямля.

— Бяжым жа, Лёнік...

Пад мастом суха і цёпла. Гэта ад нагрэтай 'шчэ да дажджу сасны. Пахне смалой — востра, густа. Мост — новы, са свежа засмаленымі рудымі палямі, з жоўтым насцілам падогнаных дыль. На няўтоптаным 'шчэ бурым пяску ляжаць сухія тонкія трэскі і стружкі, — шуршаць пад нагамі, лускаюцца.

Супакоілася, аціхла з дажджом рэха, не варухнецца. Цяпер шуміць далёка — недзе наверсе і аж вунь там у лозах на вадзе з ветранога боку. Выдае, хтось шпурляе туды жменю за жменяй дзвюма рукамі шорсткі пясок вунь з той, што пад горкай, ямы, якую разрыў экскаватар, — зямлю адгэтуль бралі на насып.

Сцякае з маста дажджавая вада, кропля за кропляй, недзе адтуль з-пад парэнчаў, дзе пачалі ляпіць гняздо пліскі, і ля самых ног цокае па камені, бясконца, назойліва, — бы хтось намерыўся марудна і ўпарта праклявацъ яго наскрозь.

Цёпла сядзець упобачкі на сухіх трэсках, грэць адзін аднаго, глядзець адно аднаму ў вочы, як у бяздонную прорву ракі — глыбокую, сінюю, цёмную...

Люба чуць гарачыя плечы блізка ля цябе, — тады пахнуць абмытыя чыстым вясновым дажджом валасы... Тады няма дажджу... Выдае, што ты ў лесе, сухім і гарачым сасновым бары, — бо так пахне смалой разагрэтая сонцам хвоя... І тады думаецца-мроіцца пра бясконцыя шляхі, якімі давялося ісці за столькі мала 'шчэ год, пра вёсны, якіх было небагата і якія так непадобны адна на адну...

І хто б калі сказаў яму, Леаніду, што гэта вясна будзе для яго не-



**Юры Выхадцаў** нарадзіўся ў 1926 годзе ў г. Мінску. Пасля службы ў радах Савецкай Арміі вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы. У 1954 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў сёлета. Яго дыпломная работа — серыя літаграфій «Непакораныя».

Цяпер Юры Выхадцаў працуе выкладчыкам у Мінскім мастацкім вучылішчы.

**Генадзь Лойка** нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Забалоцце Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці.

Вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, скончыўшы якое, паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

Яго дыпломная работа — серыя каляровых літаграфій «Калгасныя пейзажы».





**Генадзь Лойка.** Збожжа наспела. З серыі літаграфій «Калгасныя пейзажы».



**Міхаіл Лісоўскі.** Суворaўцы.



**Генадзь Дзянісаў.** Ранішняя сустрэча. З серыі лінагравюр «Будні цаліныя».



**Юры Выхадцаў.** Уцёкі. З серыі літаграфій «Непакораныя».

звычайнай і новай, што гэты шлях, на якім кожны камень паспеў змазоліць яму і ногі і вочы, прывядзе некалі ў адзін час не куды далёка ў свет, а — дадому, каб перамяніць жыццё... А мо' самае вялікае шчасце ў тым, што ёсць на зямлі іхні шлях, якім штодня калесіць гэтулькі людзей і які прывёў аднаго чалавека ў гэты лясны вясковы кут... Чалавека, які цяпер з табой пойдзе гэтым жа шляхам у жыццё, дзе і дождж, і сонца, і смутак, і радасць.

Жыццё прынесла сталасць...

І мо' сёння гэтым шляхам крочыць апошнія хвілі маладосць, якой давялося пераж<br>ыць нямаведама чаго і якая мо' пасталела зусім заўчасна...

Яе не забыць... Яе шкада... Яе бярэ памяць на ўсё жыццё, што чалавек кнігу, якая раскрыла аднойчы вочы, паказала, хто ты, падказала ступіць мо' на тую сцежку, на якую ты ўрэшце выбіўся.

Не. Ён раскажа пра сваё маленства і маладосць усё, да макавага зерня... Раскажа Галіне... А там, калі не астыне душа ў шэсцьдзесят год, калі памяць пранясе праз жыццё самае важнае, — там будзе і яго кніга...

Чалавеку заўжды хочацца расказаць пра сябе... І перш-на-перш — каму блізкаму...

І што думае цяпер яна, гэта самая родная ў свеце дзяўчына, што туліцца да яго зусім жа, як дзяўчынка, што прынесла яму шчасце мо' так нягадана?

— Скажы, што ты думаеш?

— Ты — дзіця... Дзіця 'шчэ зусім... Які ты малады, ты падумай... Ты дзіця маё... — яна хінецца, яна цалуе яго ў мокрую шчаку, ловіць вусны. Ад таго і горача і знобка. — Я люблю цябе. Ты нават і сам не знаеш, як я люблю цябе... Мне парой здаецца, што я нават расла з табой недзе блізка-блізка ў горадзе, на адной вуліцы... Не... На адным двары. Мне здаецца, што я люблю цябе даўно-даўно... Недзе з той пары, калі я ў першым ці другім класе пабілася з хлопчыкамі. Адзін там быў задзірысты-задзірысты... Гэта — ты... І тады, калі я цябе сустрэла ў горадзе — гэта быў ты... Той задзірысты хлопчык... — Яна змаўкае.— Я цябе буду любіць многа-многа, бо ведаю, што ты... Як я рада, што цяпер заўсёды буду з табой... Як я рада, што я твая... — яна гладзіць яго паблытаныя пад дажджом валасы, туліцца да яго ўся, падатлівая, дрыготкая, як сама не свая — гарачая, узрушаная.— А мо' мы дзеці? Вялікія дзеці, а? Давай скочым у раку, а? Давай... А не, выбежым на дарогу і пеша пусцімся да самага гарадка, каб вымакці да нітачкі, каб забалелі-забалелі, занылі ногі і каб...— яна змоўкла...

— Што каб?..

— І каб быць заўсёды-заўсёды з табой... А ты ж едзеш. Надоўга едзеш. Я не змагу. Я кіну ўсё. Паеду з табой і не вярнуся сюды з горада ад цябе, застануся, пакуль ты... Не. Я вярнуся, вярнуся. Сюды, у тваю вёску, але буду ездзіць да цябе кожны раз, калі надарыцца час. Буду... А ты — не едзь. У цябе экзамен. А пасля...

— А пасля я прыеду сюды назусім... Ты ж ведаеш... А Чыжыкаву трэба дзіцячы ўрач. Не ўпарціся...

— А як мне кінуць Грыні? Барысаўну, Нінку... Усіх, усіх іх... Людзей усіх, клуб...

— А ты не думай цяпер пра гэта. Давай удваіх не будзем думаць пра гэта. Само ўладзіцца, вось убачыш... Я некалі не мог ступіць за парог, калі вучыцца ехаць трэ' было. Слёзы не даюць і ўсё. Так я любіў вёску, гэты свой куток, што, здавалася, пакідаеш самае дарагое... А цяпер...



А цяпер я 'шчэ больш люблю сваю вёску і мяне 'шчэ горай цягне сюды... Але я люблю і горад...

— І я... Я так люблю свой горад. І я так хацела паступіць у мед. Рыхтавалася... Але цяпер...

— Любіла горад, палюбіш і гарадок. А Барысаўна — не адна на свеце...

— Не жартуй... Я сур'ёзна. А Барысаўна добры чалавек... Колькі яна робіць тут для людзей... Дзень і ноч... Ніхто пра гэта не знае...



— Няпраўда... Ну, даруй... Я пажартаваў... А што я мог табе сказаць? Давай лепш не думаць пра гэта. Ты чакай мяне ў Грынях. Жыццё само рашыць.

— Во... Жыццё рашыць... Само... — яна ўсміхнулася. — Пасля таго, як ты сам даўно вырашыў...

Яны засмяяліся абое, моцна, шчыра. Пасля змоўклі і доўга маўчалі. Было ў іх 'шчэ адно, неразгаданае дасюль, на душы, пра што думалі ўвесь час, усе тыя дні, калі раптам не стала ў Грынях Аркадзя, усю сённяшнюю дарогу і не сказалі адно аднаму ні слова.

Дождж драбнеў. Далёка над ракой успыхвалі чырвоныя, што ноччу, сполахі. Грому не было чуваць...

Раптам аднекуль данесліся нязвыклыя гукі... Шумела нешта цяжка і глуха, несучыся з гары, адтуль, куды памчалі машыны і пасунуўся за імі неўзабаўку, як якая грамазда, бульдозер. Гукі былі таропкія, частыя, — бліжэлі.

Яны ўскочылі, выбеглі з-пад маста. Сталі на самым беразе і ўтаропіліся на дарогу. Адтуль каціўся вялізны чырвоны ад гліны камень. Ён

тырчаў на абочыне на выспе, падмыты веснавымі водамі, чуць ліпеў. Цяпер жа апоўз на размоклай гліне, асеў, не ўтрымаўся і пасунуўся-пакаціўся ў лагчыну да ракі. Знік у вадзе ціха, неўзаметку, бы яна наперад даўно чакала, каб глынуць яго назаўсёды. За каменем па разоры бег успенены, мутны ад гліны ручай. Да самай ракі.

На хвілю зноў усё аціхла. І тады з голых, падмытых альховых кустоў, адтуль, дзе жаўцеў намыты ў паводкі пясок, дзе ля берага боўтнуў камень, выскачылі два зайцы. Адзін такі ж белавухі і беланогі, якога бачыла Галіна тады, у Чар-чагу, ля Ваўкаўні. Другі — сівы-сівы, недалугі, прылізаны дажджом. Відаць — пара. Спыніліся, каб мо' перавесці дых, прыніклі аж да зямлі, тады ў два якія скачкі сiганулі праз раку па камені на другі бок, мігнуліся перад вачыма 'шчэ па зялёным узбярэжжы і зніклі на чорнай раллі ў полі...

— Лёнік... Пабеглі і мы на дарогу. Дажджу больш не будзе. Зябка стала. Не хачу, каб ты прастудзіўся... Бяжым...

Ён стаяў вышэй на беразе і падаў ёй руку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ветравое шкло ў дробных кроплях — глядзіш на свет, што праз густое рэшата, пакуль не забегаюць знадворку дзве чорныя стрэлкі-вусікі. Тады дрыжаць, расплываюцца белыя, як срэбра, кроплі, сцякаюць уніз пісягамі-рагаламі. Насустрач мкне-цягнецца мокрая, шэрая бліскучая дарога, бы палатно, што вынялі з рэчкі і сцелюць на белку. На абочынах, парэзаных, парытых дажджавымі ручаямі, цьмяна адсвечвае вымытае з пяску сівое каменне; бягуць напярэймы, туды далей — уздарожжам,— белыя кветкі і ўцякаюць, знікаюць з воч.

Пахне гумай і мокрым брызентам у новенькім «ГАЗ-69». З-пад дзверцаў дзьме халодны вецер, як хто студзіць ногі ад болькі. Струмені пругкія, вострыя, — яны вырываюцца недзе насупраць Галіны, збоку ля бліскучай даўгаватай каробачкі-радыёпрыёмніка, калышуць намоклы плашчык, свяжаць грудзі, шыю. Ад таго знікае стома і змораная млявасць ад нязвыклай дарогі, у якой, глядзі во, пашанцавала; адпадае санлівая цеплыня, што адразу накасалася ў дрыготкай утульнай машыне. Цягнецца да прыёмніка рука, хочацца павярнуць уключацель, але ж навальніца — адзін недзе трэск цяпер у гэтай бліскучай каробачцы, — і Галіна толькі датыкаецца пальцам да цьмянай шкляной шкалы.

«Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць...» Цікава, што значаць гэтыя лічбы да дзевяці? Хвалі?»

Цягне спытаць, але людзі заняты гутаркай. Яна адрываецца нарэшце ад дарогі, ад прыёмніка і слухае. Бывае, хочацца ўставіць слова самой, — тады яна ўзіраецца на дарогу, пасля зноў на мужчыну за рулём.

Малады, год мо' толькі за трыццаць, чарнявы. Кучаравыя валасы; чысты-чысты, аж белы твар, поўны, сімпатычны, нават прыгожы. Строгі і задумлівы — калі чалавек гаворыць ці ўзіраецца далёка на дарогу. Вочы сінія, цемнаватыя; позірк мяккі і разумны. Усмешка рэдкая, але прыгожая-прыгожая, зусім жа хлапечая. На правай шчацэ выразаецца адна маленькая ямка, як у Леаніда. Мужчына гаворыць бясконца, змаўкае бывае, гэта, каб выслухаць, пачуць, што скажа Леанід.

Галіна бы толькі цяпер заўважае, што мужчына ў чорным разгладжаным свежым касцюме, у беленькай рубашцы і пры такім жа, як касцюм, чорным гальштуку.

«Да твару»... — думаецца проста так, мімаходзь.

Яна зноў слухае яго, забывае на нейкі час, што ў машыне.

Гэта ён падабраў іх ужо аж у вілах, дзе на шлях выбягала нешырокая шашэйка. Калі машына выскачыла з-за павароту, — ён недзе ўгледзеў іх, бо спыніўся і хуценька адкінуў дзверцы з абодвух бакоў.

— Во дык вымаклі... Такі дождж... Зямлю мые... А-а... Дык гэта ты, Гаўрылаў... Не пазнаў. Добры дзень. А хто з табой?.. Давайце знаёміцца...— Ён назваў сябе пасля таго, як ужо стукнуў дзверцамі.

Ён — першы сакратар райкома. У машыне адзін. Ехаў жа хутка, як, відаць, мог. Спяшыў недзе...

Хліпае пад ветрам брызент. Шуршаць па мокраму бруку колы, зусім глуха, прыцішана, калі бывае змаўкае; перастае ныць-звінець матор.

Насустрач па шляху безупынку ішлі машыны — шумелі на размінe то мякка, лагодна, то злосна, праціўна. Выдавала тады, нехта дужы шматае знадворку мокры брызент: шар-р-р!.. — гэта калі размінаўся гружаны «МАЗ»; ірве рэдзенькі, слабенькі паркаль: шась!.. — калі мігала побач лёгкая «Пабеда».

Здавалася зрэд, што нехта скрабе па машыне, па мокрым, набрынялым цвёрдым палатне,— тады падкрадаўся азноб недзе за плечы, і Галіна адварочвалася, пазірала ў самы куток машыны, дзе, уваткнуты між рамай і брызентам, калыхаўся зялёны плашч-накідка. Гайдаўся, адубелы ад вады, калі машыну падкідала і трэсла ля мастоў і на калдобах.

«Сакратар недзе доўга быў пад дажджом...» — падумалася ёй і захацелася раптам запытаць, дзе гэта яму надарылася так, бо чалавек раптам стаў нейкі зусім жа блізкі, як даўні-даўні знаёмы, але яна не рашылася.

Успомніла пасля, як расказваў аднойчы на праўленні дзед Тодар.

... — Гэта толькі на зару занялося. Самы сон. Спалі-то мы ў Грынях, што казаць, ад пуза. Я тады за конюха быў, не помніце ўжо. Дзе ты спомніш, калі. Конюхі ў нас мяняліся, што старшыні ў благіх калгасах.

Аказаўся я ў тую рань на ферме адзін. Не ведаю ўжо чаго: ці то Дзедзіха за канём паслаў — запрэгчы яму якога, ці проста мне самому трэба быў конь.

Валаводжуся сабе ў канюшні, ляпаю-стукаю бомкамі ў праварынах, у кладовачку пакуль без ключа залез, дзе вупраж мы скідвалі. Выпала ж некаму замкнуць... Адным словам, занятак меў, дзе там было прыслухоўвацца, тапырыць вушы, што на двары робіцца. Што можа ў такі сонны час?

Азбруіў каня, цягну яго, выводжу з канюшні, каб да калёс, што ля парніка стаяць, затурыць... Не ідзе ўбоіна тая... Нораў паказаць хоча. Што за?..— думаю. Гляджу, машына легкавая ля самых варот стаіць, як печка тая гарачая ў лазні, цяплом такім на майго каня дыхае. І нікога ў ёй. Плашч брызентавы, вялікі такі, наверсе, на машыне, ляжыць, ускінуты. Прыгнала ж некага ліха додніцай. Ці не з леспрамгасаўскага ўчастка начальнік, думаю. Часта той з-за коней заязджаў лаяцца, пасці то пасе на нашым выганчыку, аж пад Доўгія крынічкі пускае, а плаціць за нас нарыхтовачку сянцом — дудачкі. Дык я тых коней — ашкір з выгана, як авечак. Калі ты такі мудры, не баішся, не слухаеш старшыні, то мы да цябе свае ключы падбяром.

Падрапяціраваўся я і іду шукаць таго каратышыка. Ну і дам, думаю. А коней я ўчора да аднаго прапёр і конюху іхняму сказаў: «Сунешся — лыч мокры стане...» Абрыдла.

Іду я гэта, мінуў машыну, саломка пад нагамі шуршыць, ціха так, нікога нідзе, гляджу, ажно ля кароўніка, ля тых дзвярэй, дзе малако заўсёды даяркі мераюць і загадчык у бідоны злівае, — чалавек. Сагнецца і — адгінаецца. Гляджу — мужчына. Спрытны. Відаць, малады. З віламі ў руках. Гной адкідвае ад дзвярэй у кучу, далекавата так,

аж туды на поле, на дарожку, дзе капец з бульбай нядаўна толькі насыпалі.

Я яшчэ ніколі не бачыў гэтага чалавека, і тады мне не ўдалося яго ўгледзець у твар. Але я пазнаў — хто гэта. Адчуў. Можаце сабе не верыць.

Пазнаў — і бягом да Дзедзіхі, ён тады яшчэ старшынёй быў. Бягу, трасуся, і ногі пада мной трасуцца... Што ж, як той мех з пацярухай. Старасць... Ды чапаю як магу, думаю, чорт яго знае, што можа пасля гэтага выйсці...

А гною там у нас ля кароўніка, ля самых дзвярэй — светніца. Ніхто ніколі не згінаўся. Ні даяркі, ні загадчык, ні старшыня. Па нараду хіба калі вясной ужо вывозілі... Свайму чалавеку не прайсці ды і вачам мулка, калі чэсна на ўсё гэта паглядзець. А тут... Хто яго ведае.

Бягу і задыхаюся.

Добра, што з фермы недалёка да Андрэя было. Прыбягаю, а ён разявіўся, храпе, аж на вуліцы чуваць, хочаце верце, хочаце не.

Прыбеглі мы на ферму, гной знадворку расчышчаны, дзверы насцеж расчынены, а то ж не расчыняліся ўжо, ходзіць па кароўніку чалавек, прывязь нешта мацае ў кароў, ці не правярае, тады возьме ды ў блакноце аловікам водзіць.

Прывіталіся. Стаім з Дзедзіхам, чакаем суда. Што ж будзе, гляджу гэтак і я... Ажно кажа нам чалавек, што будынак зусім пахіліўся, да зімы сцяну трэба ў новыя шулы ўзяць, засталіць лепш, гэта пасля малацьбы, як салома лішняя заявіцца, пасля гаворыць, што цяляткі ў гразі летам стаяць, а мох пад бокам, у Ваўкаўні. Ты скажы, чужы чалавек, новы, а і Ваўкаўню адразу ведае. Пасля падвёў нас да бідонаў, якія тады ў кутку тут жа на саломе стаялі, і кажа, што, відаць, кладовачку трэ' будзе недзе асобную змудраваць. Падумаў і гаворыць, гледзячы мне проста ў вочы: «Ад прывязі вераўчанай прыйдзецца, можа, адрачыся, ланцужкі ў продажу добрыя ёсць. А вяроўкі каровы рвуць, а на бычках пянька тая гарыць проста... Скаціна праз гэтыя павадкі прасадзіцца можа, ды і табе, кажа, дзед Тодар, недзе рукі ад кручкоў баляць, пакуль прывязі накруціш... На другі нарад можна на гэты час пайсці, на лягчэйшы і мо' больш патрэбны». Як у кнігу якую глядзіць, ты скажы, усё ведае... А пасля пахлопаў Дзедзіху па плячы: «Што галаву звесіў? — пытае. — Ранавата. Абдумай усё. Паглядзі тут. У райкоме пасля на бюро дабавіш, калі мо' мы не ўсё будзем ведаць. А да зімы трэба, відаць, будынак агледзець. Каровы ў вас неблагія. Дык каб не памерзлі. Ці не так, дзед Тодар? — у мяне ўсё пытае. Пасля падумаў нешта, бровы свае чорныя ўзняў: — Паможам на першым разе, а так не пакінем...»

Выйшлі мы з кароўніка, зачыніў ён сам дзверы, запёр на кручок і ні слова пра гной, ні слова...

Праўленне тады сабралі мы, хуценька, за гадзіну якую. З пасцелі праўленцаў падымалі.

Гаварыў ён з намі і на праўленні. З кожным. Не пытаўся, праўленец хто ці не. А людзей найшло. Зноў жа пра нядбайнасць нашу гаварыў, што не гаспадары мы. А пра гной ні слова. Ты скажы. Пэўна, саромеўся нават сказаць пра такое.

Паехаў ён... Ну і ўзвіразіўся тады Дзедзіха... Усіх, хто на вочы трапляў, гнаў на ферму з віламі. Вось так і жыццё ў нас па-новаму зачыналася... Перш-на-перш апарадкоўваліся ад гэтага самага, як яно... згінь ты, благое, пропадам.

А сакратар-такі пасля пленума паявіўся. Да Дзедзіхі прыглядаўся яшчэ, ды, мусіць, бачыць, што чалавек адбыў на старшынстве сваё, годзе.



І правільна закамандаваў. А на ферме тады, ай-яй-яй... Нагнаў сораму. Горача было ўвесь дзень. Хаця, не мы адны так жыць пачыналі. У Камене вунь, кажуць, новы чалавек як паявіўся з раёна, то могілкі перш-на-перш загадаў абгарадзіць, а то свінні дамоўі вырывалі...

А я цяпер з сакратаром большую дружбу маю, чымся з кім па суседству. Госць ён мой пастаянны. А калі б ён тады ўзяў ды мне вілы ў рукі даў і аблаяў апошнім словам — 'шчэ большы быў бы. У такіх людзей павучыцца і старым ёсць чаму. Ды і ён жа слухае вунь наша ўсё — і старое і цяперашняе. Душу па нашым жыцці калгасніцкім роніць. Бо такі ён чалавек. А ўсё з той фермы пачалося ў тую рань, дружба наша...

Галіна ўспомніла, што дзе б ні гаварыў дзед Тодар, заўсёды ўпамінаў пра сакратара.

Галіна яго бачыла колькі раз здалёку. Ні разу не прыйшлося загаварыць, а цяпер слухала і думала, што такі чалавек стане рабіць усё, што трэба і што трапляе пад рукі. Мо' гэта нават і не ў прыклад другім, а з-за болю, што заўсёды на душы ў чалавека, калі ён бачыць бязладдзе. Ёй чамусьці падумалася, што дзед Тодар ніколі не дабаўляў гэтаму чалавеку хвалы-выдумкі.

Машына брала пад горку, залёг матор і звінеў без скону. На краі дарогі, мінаючы лужыну, узагналі чародку мокрых чорных шпакоў.

Па шыбінах раптам зашамацелі, застукалі буйныя кроплі дажджу. Зноў нагнала лівень. Далёка ўперадзе над дарогай успыхвалі густыя чырвоныя заранкі.

Уязджалі ў лес. На абочынах дарогі сівеўся туман,— недзе цёплы-цёплы, як пара, ад разагрэтай днём зямлі.

— Пятро Фёдаравіч...— чуе яна Леаніда, адчувае яго руку ззаду на спінцы сядзення ля плячэй: ён — на лавачцы, за ёй насупраць. — Вось вы сказалі пра шчасце... — Леанід памаўчаў. — Жыццё работа, ну і любоў... Не будзем саромецца. І мне ўспомніўся дзед Тодар. Вам ён не расказваў пра свайго дзеда?

— І нават шмат.

— А пра начовачкі?

— Не.

— Саромеўся мо'. Хаця, калі скіраваць размову на гэта — раскажа. Даўно было. Дзедаў дзед — гэта даўно... Ажаніўся той, перайшоў з хаты ў хату, да суседкі, куды бліжай, штаны ў руках трымаючы, падвязаць не было добрай аборыны... Што вы на мяне? Так Тодар расказвае. Ну, перайшоў і ўсё такое. Якраз у дождж. Ну, а кажуць, дарога ў дождж — на шчасце. А ён, відаць, такі лупіў, як сёння. Якія там вясельныя цырымоніі былі, не ведаю. Мо' і ніякіх не было, бо Тодар ніколі пра іх не расказваў. Ну, дык пасля тых цырымоній, мо' якіх і зусім не было, леглі яны спаць... Слухай, Галіна... Не перабівай. Дай расказаць. Ды і самой не грэх такое паслухаць... Леглі. А хата ў маладой саломай крыта, а салома мо' шчэ дзедаўская. Столь там недзе з якіх жэрдак... А дождж лупцуе... Ну — хата, як рэшата. Свіціцца, цячэ. «Ты, Ядзя, спі,— кажа малады,— а я буду над табой начовачкі трымаць, лежачы»... Бярог, бярог тыя начовачкі, заснуў — і на жонку вады халоднай на сонную. Усю, што сабраў...

Засмяяліся.

— Ваш гэты Тодар...

— Дык ён не выдумляе.

— Бадай не. Што ж, так людзі жылі... Дзед Тодар — біяграфія таго, што адышло ў нябыт. Мы не помнім такога. Праўда, у вайну нам давялося знесці...— Пятро Фёдаравіч задумаўся і доўга ўзіраўся на дарогу,

выціраючы рукою запацелае шкло.— Вайна — гэта анармальнасць... Вядома, бліжэйшае больш у памяці, але ж і ранейшае 'шчэ гора не лёгка давялося збыць. А дзед сербануў за жыццё. Ніколі не забуду, як ён расказваў, што баяўся спаць пад саламянай страхой, не мог вачэй звесці: «Згарыш і ўсё. Не выскачыш...» Пажару баяўся. Мучыўся, аж пакуль у калгасе ўжо не перакрыў страху гонтай. А ў лесе ж жылі людзі...

— Так і жылі, Пятро Фёдаравіч. Той самы Тодар... Надзею на лепшае галубіў і ўсё. Павёз раз, расказвае, яго бацька на тартак малоць — гэта, дзе цяпер электрастанцыя, і прывозіць колькі там плотак. Вудай нацягаў. Вось і падумалася тады чалавеку, што і ён можа быць, як людзі, што на яго чарвяка клюне хто. Ды не ішла рыба на далато. Каб не нашы часы, то і сёння чакаў бы Тодар клёву, спусціўшы сваю вуду ў ваду... Хаця тое—даўнейшае. І звыкла можа, што збываецца. Ці Тодар ці хто другі не вельмі рвецца расказваць. Доўга ўжо прасіць трэба...

— Што ж... Лішняе слова пра благое боль наводзіць...

Яны гаварылі без сціхання.

Галіна чула, які неспакойны,— аж ірвецца з лавачкі,— Леанід, нават рукі ў яго гарачыя, калі ён бывае незнарок кранаецца яе шыі. Расказвае ўсё, блытае...

Яна цяпер глядзіць на Пятра Фёдаравіча, не зводзячы воч: той быў ціхі і спаважны, маўчаў і, здавалася, 'шчэ больш мог маўчаць, каб слухаць, не перабіць. Але яна бачыла па твары, што гэты чалавек знае ўжо такое ці падобнае, што яму расказалі даўно, а слухае ён,— бо лёс, жыццё, мінулае кожнага чалавека ў раёне — ці не навука з таго, што трэба пакінуць у памяці, пазычыць надалей ці абысці, мінуць, адрачыся назаўсёды.

Здаровае, калі пачынае расці, разбурае да макавага зерняці ўсё старое,— так вясною дужая трава верне ўбітую на дарозе зямлю: узрывае, крышыць асфальт. А для таго трэба сіла. Трава знаходзіць сілу ў зямлі. Чалавек — у народзе. А яго трэба знаць, чуць, прыслухоўвацца да яго,— і не аднойчы.

Пятро Фёдаравіч — новы чалавек у раёне. Пры ім зусім новы раён і старшыні калгаса. Толькі адзін Дзедзіха 'шчэ колькі там старшыніў. Прыглядаліся ў райкоме да яго, гаспадара мо' хацелі вярнуць.

Пры ім і Грыні пайшлі на добры лад, з новым ужо старшынёй — Станіславам Пракопавічам.

Яны гамоняць пра былое, далёкае і ўчарашняе, пра заўтрашні дзень, і вунь ужо забягаюць аж праз год, праз два, праз сем. І канца ім, выдае, не будзе. Голасна, аж моцна ўжо, на ўсю машыну, не зважаючы мо' на тое.

Іх гушкае мякка і доўга. Гэта пасля паводак яшчэ глыбей стала каменне ў рытвінах, што ля маста ў лагчыне, — непадалёку ўжо «нямецкія» калдобы.

Да ног пасунуўся чамаданчык. На ім кроплі вады. Сцякліся адна да адной, спорныя цяпер, круглыя, што гарох. Аж падскокваюць, калі кідае.

Галіна раптам угледзела, як на мокрым рукаве на плашчыку хліпае крылцамі жоўты матылёк. Зусім жа сухі. Ён недзе разам з імі 'шчэ там пад мастом схаваўся ад дажджу. Ты падумай...

Аднекуль тады наплыла, ахапіла яе радасць і пяшчота да жыцця, дажджу, да такога блізкага і патрэбнага ёй Леаніда, да гэтага раней незнаёмага смуглявага чалавека за рулём, які цяпер ужо стаўся зусім свой, разумны і добры старэйшы таварыш, як Барысаўна, як і яе, Галінін, бацька, што так чакае яе не адну дадому.



Ёй захацелася-захацелася ў горад...

Расступіўся лес, выплыла з-за ўзгорку поле, асмужанае дажджом. Недзе там забялелі рэдкія будынкі.

Манатонна і ціха звінеў матор, па брызенту цяжка сцёбаў вецер, шкло سеклі вострыя кроплі.

За паваротам, на раўніне, у звыклы мройны звон уварваўся блізкі рокат, бы гэта дзе збоку захлебястаў гром. Галіна прынікла да бакавога акна. За халодным, прымружаным шклом пабеглі насустрач разгатыя кусты лазы і альшэўніку, што па-за абочынай на полі. Яна асцярожна і трывожна пачала шукаць вачыма за дарогай штось нечаканае і зусім жа знаёмае... Далёкі-далёкі балючы сум спалохаў, пасля здрыгануў душу...

Ёй прыдалося, што яна ў Грынях у тую рань, калі на трактары да бальніцы Раман Пэрац прывёз збялелага, скрываўленага і амаль нежывога Аркадзя... А перад гэтым ён жа, Аркадзь, быў у яе... Яна памятае яго ў той вечар — узрушанага і задумлівага-задумлівага... Ён любіў, любіў яе... Які ён добры... Якая ў яго чыстая душа... Яна яму тады сказала, яна не магла не сказаць, што цяпер ужо назаўсёды належыць Леаніду, і ён, Аркадзь, павінен зразумець... Што яна можа зрабіць? Ды і нашто, нашто гэта?!

Яна ўявіла ягоны твар, чысты і прыгожы: скрываўлены, з прыліплай зямлёю...

— Аркадзь... Аркадзь... — ёй прыдалося, што гэта яна рванулася да яго, як і тады, каб змагчы, змагчы пераступіць дарогу, не дай бог, смерці... А не ведала, што толькі ў нейкім утрапенні выцірала рукамі, — аж, здаецца, магла выцізнуць, — халодную шыбіну.

Ёй успомнілася, як блізка яна прынікла тады да яго грудзей, слухаючы сэрца... Што яна думала тады пра сябе? А ўсе тыя дні? Яна маўчала, яна нічога не казала Леаніду. Яна мела права на такое. А мо' Леанід сам усё знаў. Тады 'шчэ лепш: не трэ' будзе яму расказваць ніколі.

Стала духотна, падвярнула пад грудзі. Блажыла.

— Стойце... Стойце... Спыніце...

Стукнулі, адарваўшыся, дзверцы. Дыхнула свежым цёплым ветрам. Дождж ішоў спорны і роўны. Яго заносіла праз дзверцы ў машыну.



Галіна вылезла, як магла, сышла на абочыну. Не чула пад сабой гразкай дарогі, не зважала на дождж.

...Раўлі трактары. Іх было два. Недалёка ад дарогі, яны валаклі полем вялізны, цяжкі валун-піраміду. Відаць, як напінаюцца тросы, — тады стогнуць, захліпаюцца маторы... Марудна, цяжка, як уздыбленыя коні, скачуць-сунуцца ўпобачкі па размоклай зямлі трактары. Сашмыкваюцца, зрываюцца тросы, як хто скрыгоча зубамі, — тады саскокваюць долкі трактарысты і зноўку апяразваюць шэры, недзе халодны, шурпаты валун.

Дрыжыць зямля пад разагрэтай сілай... Сунецца-валюхаецца гранітная гамэрня-грамазда, рые, пхне перад сабою раллю, сюды пад дарогу, на лог.

Заімшэлы, сівы валун, які мо' сюды, у край гліны і падзолы, прыгнала векапомнымі леднікамі і які ляжаў-дзічаў на полі стагоддзі, змушаючы аб'язджаць, абворваць сябе здалёк, ломячы 'шчэ за прыгонам драўляныя сохі і бароны і цяпер калечачы трактары, пакідаў навек сваё стойбішча, знікаў з воч, ачышчаў поле.

Нылі; раўлі, скрыгаталі трактары...

Сек востры, густы дождж. Спарнеў.

На поле клаўся туман. На захадзе пад'яснівалася. К вечару маніўся мо' перастаць дождж.

— На будоўлю пойдзе... У гарадскі пасёлак яго дабавім. Ён на нашых палёх, як тут сказаць... на жаль, не адзін...

Пятро Фёдаравіч, было відаць, спяшае.

Леанід узяў Галіну пад руку і, калі яна ўжо села, хлопнуў за ёй дзверцамі і перабег на другі бок, каб сесці самому, не трывожачы яе. Пятро Фёдаравіч зайшоў апошні, змахнуў рукамі з пінжака густыя кроплі дажджу.

— Можа мы вынем шыбіну тую, што ад вас? Галіна Фёдараўна? Яна вымаецца...

— Не трэба. Мне лепш. Недалёка ўжо.

— Тады ўключыце прыёмнік. За гэты гузічак, ад мяне. Думкі трэ' нечым перабіць. Ведаеце, яно, бывае, гойдае і блажыць...

— Дзякую. Са мной такога ніколі не было.

Ехалі паволі, раўней. Машыну больш не гойдала, затое яна неяк аж уся дрыжала, відаць, што па буйным не абраўняным яздой камені.

Дарога адгэтуль падалася на ўсход. З-за павароту выскачылі белыя слупкі, замітусіліся, перамяшаліся, як гусі, пасля адскочылі на абочыны і роўненька вышнураваліся паўз дарогу з абодвух бакоў, застылі — «гусі» выцягнулі шыі.

Зноў уязджалі ў лес. Адгэтуль ён быў ужо да самага гарадскога пасёлка.

— Вось табе і маеш... А я ўсё, Галіна Фёдараўна, чакаў, думаў, як гэта знайсціся спытаць у вас... — Пятро Фёдаравіч, спачуваючы, глядзеў на яе. — А цяпер вам і гаварыць нельга.

— Што вы? Што вы? Пятро Фёдаравіч... Гэта проста... Ну, як вам сказаць... Я здурнела... Мне не трэ' было вам нічога гаварыць. Прайшло б. Хаця, я і забылася, што ў такім разе трэ' больш гаварыць, дыхаць глыбей і думаць пра што далёкае, вясёлае.

— Во-во... Я якраз пра такое і хачу сказаць. Што гэта вы, Радзько, Чыжыкава не хочаце слухаць. Ён жа, як тут кажуць, — райздраў. Скардзіцца на вас. Гм?..

— Пятро Фё-ё-даравіч...



— Ну-ну... Вось і пачні гутарку пра вясёлае — пакрыўдзіш... Ды зразумейце і яго. Дзіцячы ўрач яму трэба. А пакуль, ён кажа, апроч вас нікога не можа знайсці.

— А як жа далёкія Грыні?

— Знаю. Сельскую бальніцу не трэба аслабляць. А там Барысаўна... Ведаю... А тады прышлюць...

— І дзіцячага ўрача могуць прыслаць Чыжыкаву...

— Я не ўгаворваю, Радзько, не. Мне і самому Грыні да спадобы. Вунь як. Бальніцу там новую зачнем, відаць, нават сёлета. Я не хачу збіваць вас з вашых думак. Ніколі. Але ж я маю права параіць? Маю. А мне хацелася б... Ды і Гаўрылаў... Ён вам сказаў ужо? Гм? Мы дамовіліся. Цвёрда. Здае дзяржаўныя — і да нас. У свой раён. Сваіх добрых людзей другім не аддамо. Самім яны трэба. Калі што — сам па яго ў абком пайду. Не адпушчу, нікуды. Хаця мо' ў вас другія планы? Чыжыкаў мне...— Пятро Фёдаравіч змоўк, чагосьці не рашаўся сказаць.

— Праўду казаў... У нас цяпер экзамены, ну... і яшчэ раз экзамены. Галіне я гаварыў, але ж яна сама рашае за сябе, — азваўся Леанід.

— Справа сур'ёзная... Што ж, жадаю вам шчасця. І рашай сама, Галіна Фёдараўна. Рашай сама.

— І няпраўда, і няпраўда. Мы ўжо ўдваіх рашылі. Толькі... Толькі я яшчэ павінна многа-многа падумаць. З Барысаўнай пагаварыць, з Нінкай... А тады 'шчэ да вас прыйду параіцца. Я сама не знаю... Я прыйду 'шчэ параіцца...

— Абавязкова. Абавязкова прыходзьце.

Яны неяк усе пасля ўздыхнулі, як бы змовіліся, і рассмяяліся.

Выскачылі на «нямецкія» калдобіны. Тыя былі свежа замошчаны, пацярушаны дробнымі аскалёпачкамі чырвонага граніту. На абочынах ляжалі крушні камення, — там, дзе рамантавалі мост.

Адсюль пачыналася роўная і прамая шаша. Вяла да самага гарадскога пасёлка.

Леанід прыціх. Аднекуль прынесла тую леташнюю летнюю ноч на гэтай шашы. Тады ж ён угледзеў Галіну. Яна была якраз такая, як цяпер.

І як тое ўжо далёка-далёка. Засталося толькі ў памяці. Які недасяглы тады быў для яго чалавек, што цяпер поплеч...

А ён тады бег — на згуб галавы.

Яго страсанула: ён успомніў Аркадзя...

У лесе стала цёмна і золка. Вострыя струмені дзьмулі недзе спадыспаду, з-пад машыны, студзілі ногі. Хацелася ўстаць, разагнуць спіну.

Маўчаў быў і Пятро Фёдаравіч. Хацеў закурыць, але ўстрымаўся, — затое падналёг на газ.

Насустрач беглі шэрыя камлі елак. Іх процьма. Яны, выдавала, не тоўпяцца на абочынах, — варушацца, мітусяцца і бягуць, бягуць прэч.

— Слухай, Гаўрылаў... Раз ужо мы загаварылі былі... Скажу. А я, прызнаюся, не зусім можа і вераў у Станіслава Пракопавіча. Верыць то я вераў і райком вераў, але ж я сумняваўся. Недзе глыбока ў душы, калі сам-насам заставаўся. Каб не Перапёлка, можа мы і не паслалі б яго да вас.

— Вы ж самі 'шчэ маладыя і...

— Мо' таму і сумненне было. Думаў, не хопіць вопыту выцягнуць. Калгас ваш вялікі. Ажно, жыццё само скіравала на дарогу. Ды і жыц-

цёвы вопыт, выходзіць, ёсць і ў нашых маладых камуністаў. І маладое ж гарыць жвавей. Жыццё — дыялектыка. Растуць, абганяюць нас... А то і мінуць, абыдуць, калі не будзем самі даваць дарогу маладым. Але ж за вас — і нам чэсць. Кожны бацька рады, калі сын у людзі выйдзе рана. А чаму ж не радавацца райкому, калі малады камуніст стаў добрым старшынёй... А памагаты ў яго надзейны. Сталы, стрыманы. Калі трэба, — гарачку маладую пераб'е, дзе мо' не варта яе паказваць. Я пра Авяр'яна кажу. Ды і праўленне там разумнае. Улляна там, Тодар. Шкада Дзедзіхі. Яго трэ' было ўберагчы. А Авяр'ян людзей знае. Толькі старшынёй не схацеў, а-ні. Буду лепш па нараду ад цямна да цямна — кажа, а гэта справа спецыяліста, граматнага на ўсе рукі. Ён меў рацыю. Цяпер старшыня...— Пятро Фёдаравіч абарваў і колькі маўчаў. — Сёння на бюро пасяўную слухаем. І вашы будуць. У іх — нішто. Ведаю. Пра такіх мо' і варт напісаць. Захвальваць толькі не трэба, як краснянскага старшыню. Помніш? А вось з хлопцам, з трактарыстам у вас там, у Грынях, няладнае выйшла. Але... Я званіў сёння Чыжыкаву... Будзе, гаворыць, жыць, хлопец моцны... І рабіць зможа. Траўмы ў яго... Дзве аперацыі прыйшлося... Хаця, вы знаеце...

Галіна заўважыла, што Пятро Фёдаравіч, пад'язджаючы да гарадскога пасёлка, паспакайнеў, пераключыў на меншую хуткасць, пачаў гаварыць павальней. А яна...

— А з Сабольскім, Гаўрылаў, знаеце што?.. Архіепіскап у аблвыканком з'яўляўся. Незаконнымі метадамі, гаворыць, айца выжылі. Шантажом. Скаргі ў Маскву піша. На вас.

— Ну-у... Не знае тады ён сваёй епархіі. Такога папа, як Сабольскі, ніякім шантажом ніколі б не праняў. Хаця, такі недзе там і епіскап. Трэ' будзе ў вольны час... Але што ён на каго скардзіцца? Народ адрокся ад царквы, а не поп. Як ён не можа дапяць. Галава ў яго садовая. А на народ куды ты паскардзішся? Я ж вам казаў, Пятро Фёдаравіч, што мы паслугу зробім Сабольскаму, калі надрукуем яго споведзь. Абышлося б... Усё роўна яму і так дарога толькі ў леспрамгас была.

— Не-е... Тут, Гаўрылаў, не тое. Усе павінны знаць, што царква ў нас рушыцца. Перапёлка цікавіўся як і што. З гадзіну мы па тэлефоне вялі гамонку. У абласную газету бяруць і пісьмо яго і твой артыкул. Прасіў цябе зайсці ў абком. Ты не адкладвай. Важна. А епіскапу што. Яму трэба нечым даказаць, што мы незаконна выгналі папа. Калі ж не, — то куды ж пашлеш новага, раз народ не жадае? А гэта для іх — пад корань... Дык ты, браце, забяжыся ў абком. Не забудзь. Ты ж цяпер...

— Цяпер у мяне экзамены. Буду ў горадзе. Зайду, што вы. І да Перапёлкі, і да епіскапа...

— А да мяне? Сёння ж зайдзіце да мяне. Куды вы мокрыя ў тую гасцініцу? Ці цёпла там хаця?

— Дзякуй... Мы...— яны адказалі разам, што вучні.

— Ну-у... Што вы... А я вам 'шчэ тады адзін сакрэт адкрыю. Гэта ўжо дома. За вячэрай. І так усю дарогу гутарку вядзём, што дзе ў кабінеце.

— Пятро Фёдаравіч... Мы не можам. Ды ў нас ёсць дзе спыніцца. Другім разам калі.

— Ну, шчаслівай тады дарогі...

— А сакрэт?

— Скажу ўжо, раз на тое... Васіля Міронавіча думаем забраць



у райком камсамола з вашых Грынёў. Што ж, і ў нас з'явіцца здольны хлопец і вам будзе працаваць са старым сябрам. Што маўчыцё?

Мільганула за акном возера. Колы ціха зашумелі па мосце. Міналі стаў — электрастанцыю. Уязджалі ў пасёлак.

Вечарэла. Ад дажджу наплыў туман, цягнуўся з лесу, і не было відаць здалёк гарадка. Бялелі толькі рэдкія будынкі.

У пасёлак уехалі хутка. Спыніліся ля райкома.

— Усяго добрага... Вялікі вам дзякуй...

— Шчаслівай дарогі...

Блішчэлі лужыны між камення, і па бруку няёмка было ступаць. Дождж перастаў. Далёка на ўсходзе, недзе над Палікам, бялелася неба.

Свежа пахла ад парку, што ля раённай бальніцы. З маладых таполяў на драўляны тратуар пад ногі ім падалі кроплі — зусім ціха.

За аўтобусным прыпынкам, там, дзе незакончаны новы будынак і груды цэглы, стаялі гружоныя лесам прычэпы. Ішлі на горад.

Па бруку шнырылі веласіпедысты-дзеці. Ім недзе і дажджу не было. Па тратуары насустрач ішла купка дзяўчат у плашчыках. Вясёлыя, свежыя, абмытыя.

Леанід саступіў ім з дарогі, якраз ля тэлефоннага слупа. Па вачах сцебанула зусім жа свежая белая паперына, прыбіта была да смалянога дрэва прыгнутымі цвічкамі пасля дажджу ўжо, бо буйныя чарнільныя літары не змыла вада.

«Разпрадаюся», — Леанід прабег вачыма па буйных радках. — «З Камена Куцка» — гэта ўнізе, крыва і неразборліва...

«Ты, чалавеча, не раз прадаваўся...» — падумалася неяк смешна і злосна.

Мільганула 'шчэ ў ваччу размоклая рудая паперына — ніжэй гэтай свежай і брыдкай.

«Прадаётца сабака гоншай ..»

— Лёнік... Я азябла...

Яго кранулі за рукаў.

Прытомнасць прыйшла да яго ноччу, калі стала ціха ў палаце.

Недзе за акном жыў свет. Гулі далёка машыны, ішлі шашой на горад. На сцяне ўспыхвала святло, доўга мітусілася ў кутку, кралася на столь. Жахала на ёй, як хто сцёбаў жоўтым абрусам і падала недзе ўніз за ложак, на падлогу.

Калі сціхалі машыны, побач нехта соп, варушыўся, стагнаў на ложку... За сцяной брахаў сабака.

Сцяло — не павярнуцца.

Гарачы боль у галаве, знобкі, вострый. Не чуваць ног: яны прыкарэлі-прыраслі да чагосьці тупога і цяжкога. Слізка, праціўна за спіной, мокра.

Боль — навала. Хапяне — як хто ліне варам — пасля адпусціць, змякчэе. Ныюць, ныюць тады недзе глыбока-глыбока ногі. Іх ціснe, трушчыць вострае каменне, — бы прысыпала крушняй.

Дзе ён?

За акном — лямпачка. Зыркая і вострая, коле вочы.

«Фары...»

Блішчыць шкло — гэта гусеніцы гараць ад месяца.

Гудуць машыны — то далёка ў гальдарадскіх лозах гурчыць трактар...

Раптам уздрыгвае падыспадам ложак. Нехта тузае, ірве за шыю. Успыхвае, як бензін, за акном лямпачка, займаецца, гарыць трактар...

Сарваўся месяц, ляціць у чырвоную бездань...

Стала цёмна і знобка. Ціха і страшна.

Пасля настаў шум... Блізкі, трывожны. Наплыла гамана, самотная да знямогі,— плач.

Дзе, калі плакала маці?

Гэта немцы забілі бацьку... Толькі што прыехаў з атрада Перапёлка...

Разрываюцца ад крыку сцены...

Маці падымаюць нежывую ад дамаўя: у яе ж хворае сэрца.

Тады змаўкае, ціхне хата.

— Мама!.. — гэта ён крычыць і не зможа нідзе ўгледзець яе, не можа падступіцца. — Пусціце! Пусціце!.. Мама!

Выплывае з вялікай грамады задумлівы, аціхлы Авяр'ян; знебылы, гаротны дзед Тодар; сумны-сумны Раман Пэрац; знямоглая, счарнелая Анэта, — іх рассоўваюць, змушаюць расступіцца, сысці, знікці раптам з воч чужыя жанчыны ў белым...

Прыехалі ўскрываць Дзедзіху. Гэта ён у дамавіне...

Яны ідуць да яго, Аркадзя... Яны суровыя, злосныя, сярдзітыя, немыя і чужыя. Зусім жа чужыя. Гэта Барысаўна. Не... Галіна... Яна нічога, нічога не кажа яму... Яна маўчыць, сцяла вусны. Яна глядзіць на яго... Якія ў яе вялікія, вялікія вочы. Сінія-сінія... Не... Гэта неба нагнулася над ім... Летняе, гарачае, што агонь. Яно паліць... Яно пала недзе на ногі...

— Галіна!.. — ён ірвецца з ложка.

Зноў на яго валіцца гарачае неба.

Пасля нахлынае чорная ноч. Ціхая-ціхая. За сцяной зноў брэша сабака.

І тады карціць чакаць. Па маленькай мінуце, па маруднай, ціхай да нясцерпнасці.

Мінута за мінутай, як кропля за кропляй. Цягучыя, ліпкія, самотныя. Гадзіна за гадзінай... І хочацца, хочацца чакаць...

Недзе станецца дзень з блакітным небам...

Недзе выйдзе на дарогу, каб паспяшыць яму насустрач, Галіна. Толькі яму. Аднаму яму...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— А мне што? Ну і што, што вы фельчар? Вы не наш фельчар... І яшчэ не адны. А ён хто?

Гэта Грачухіна. Медсястра райбальніцы, саракагадовая жанчына, невысокая, мажная, пасівелая, злосная. Сказала наадрэз.

Галіна стала прасіць:

— Ён гэта... Са мной... І мы на хвілiначку... Адведаць, убачыць. Мы... Ён во... ад'язджае. Як гэта, не адведаўшы... З адной вёскі. Разам...

— Адведаўшы... Абедаўшы... — Грачухіна і не думала адступіць ад дзвярэй. — Многа вас адведвае. Пазаўчора — цэлае праўленне стары нейкі прывёў, учора старшыня, сёння медсястра ваша з нейкім чорненькім...

— Гэта Нінка... Наша Нінка. Яна па лякарства ўчора нанач ездзіла з аптэкаркай...

— Чакай! Я кажу, што многа вас... А маці, маці яго 'шчэ, во, не адыходзіцца. Знебылася як. А яму ад гэтага, думаеце, лёгка, ад адведаў вашых? Хлопец яшчэ непрытомны ляжыць... Трызніць. Спіць цяпер. Ды і ў мяне ад урача загад. Я адказваю за хворых. Што? Не знаеце гэтага? Што? У вашай бальніцы не так?

— Дык мы ж толькі ад Чыжыкава, калі на тое пайшло...

— Чыжыкава-Пыжыкава... Бачу, што калі і не былі ў яго, то пойдзеце. Настырны народ. Халаты прынясу зараз. Што з вамі зробіш... Пачакайце тут ля дзвярэй. Ды плашч хай хлопец твой скіне. Цячэ з яго. Дзе гэта вы так пад дажджом былі? Гэтак вымакці...

— Ішлі мы...

— Аж з Грынёў недзе. Далёка. Ведаю. Не гаварыце мне. І букецік свой недзе аж адтуль неслі. Знаю. Ну, я бягу. А Чыжыкава-Пыжыкава вашага сёння ў бальніцы няма. У горадзе недзе ён. У міністэрстве. Выклікалі. Я тут мігам... Халаты толькі знайду...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ён глядзеў на яе. Ён маўчаў. Такі знаёмы... Увесь у бінтах пад адкладзенай прасцінаю. З твару белы-белы, мо' што ад бінтоў а мо' што ў палаце зачынала цямнець ад вечару і ад нізкай хмары, якая находзіла ўжо на самы пасёлак. Жахалі маланкі, і тады твар яго быў, што снег пад сонцам — аж сіні.

Вочы — глыбокія вільготныя. Яны ўзрадаваліся, усміхнуліся былі раз-другі, стухлі. Ён увесь цягнуўся да яе, ён нешта гаварыў, было відаць па вачах, ды не адкрываліся вусны, сцятыя, яны нават не варушыліся,— не шапталі.

І ім, Галіне і Леаніду, было забаронена гаварыць. Хлопец жа, думала Грачухіна, спаў.

«Даруй мне... Ты зможаш дараваць... Я знала ўсё... Знала тады, што так можа стацца ў тую ноч... Але ж як я магла, ды і ці змагла б уратаваць цябе... Як? Як жа?»

Ён маўчаў. Ён ніколі і раней не сказаў пра свой боль.

Маўчаў. Не мог гаварыць... А каб мог, то сказаў бы, што дараваў ёй усё, усё на свеце, бо любіць і будзе любіць яе, чыёй бы яна ні была. Ён мае на гэта сваё права. Ён не знойдзе сілы забыць яе.

Ён не бачыў Леаніда, бо глядзеў толькі за Галінай, але адчуваў, што ён тут. Ён думаў пра яго. Бо ад гэтага чалавека залежала шчасце таго, па кім ці астыне калі ў жыцці балець душа...

Ім не далі доўга быць. Грачухіна ўгледзела, як крануўся на ложку хлопец.

Яны не развіталіся, каб не выдаць, што моўчкі гаварылі з ім. Выйшлі з палаты ціха-ціха. Ён паперадзе, яна воддаль за ім, пакінуўшы адну Грачухіну і на століку ля Аркадзя букецік ранняй сёлета чаромхі.

На двары ім у твар дыхнула дажджом. З захаду, адтуль з-за шляху, з Грынёў, зноў уставалі сівыя хмары, заходзілі на пасёлак. Маланкі свяцілі нізка, над самым возерам, туды, пад лес — ярка, востра. Ушчаўся зноў вецер, сагнаў туман. Дождж залягаў на ноч.

На траве — кроплі расы, учарашняй навальніцы.

Пахне густой смалою ад лісця парк, што ля бальніцы; на дашчатым тратуары, на шэрым вільготным бруку — пупышкі таполі, асыпаныя, ацярушаныя ветрам і градам. Яны — бальзам, што гоіць здрабежаную дажджом зямлю.

Грэе сонца; яму воля, прастора.

Далёка, аж па канец пасёлка, над возерам застылі барвяныя аблокі. Туды сплылі апошнія дажджавыя тулягі. Гэта — на поўнач, дзе зачынаюцца на пагор'і лясы, дзе далёка ў тумане — Грыні... Адтуль высока ўгору пацягнуліся дзве белыя палоскі... Самалёты. Іх не чутно. Яны немаведама дзе. Такая далеч.

Смутак засціць вочы, калі глядзець туды. Гэта ад ростані. Ад шкадобы і болю, што застаешся адна...

Цягне ехаць з тым, каго нельга пакінуць зусім жа на колькі там часу, без каго прыціхнуць, супакояцца Грыні...

Шаша верне з пасёлка на паўднёвы ўсход, узбіраецца высока на пагор'е і на самым небакраі растае, нікне ў ранішнім тумане. Ён цягнецца адтуль аж сюды, на возера, на пасёлак, на дзядзінец, што на скрыжаванні дарог, дзе прыпыняюцца і адкуль зноўку бяруць гон цяжкія аўтобусы, каб мчаць угору,— у свет.

— Я не хачу, каб адыходзіў аўтобус... Я не хачу пакінуць цябе. Я буду чакаць штодня...

Ён чуе яе голас. Глядзіць ёй у чыстыя-чыстыя вочы, ён не можа сказаць. Нічога...

Яны — на самым рагу парку, на тратуары, пад таполямі, што нагнуліся над абгародкай.

З лісця на траву падае раса.

Раса — распырсканыя крыніцы з Доўгіх балот...

— Я ніколі не любіў чаромхі... У мяне ад яе баліць галава... — голас яго дрыжыць.

Ён не можа сябе стрымаць.

Мусіць, хочацца плакаць перад малой дарогай. Перад вялікай быў бы мужны.

Яна змагае, усміхаецца.

Яна блізка-блізка ля яго...

На шляху ветрана і трывожна.







**Сцяпан КУХАРАЎ**

# АЛЁШКА - БРЫГАДЗІР

**Нарыс**

## 1

Ужо два гады, як Алёшка жыве ў Мачужычах. Брыгадзірствуе. Алёшка скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум, мае дыплом агранома, а працуе брыгадзірам. Згадзіўся сам, па сваёй ахвоце. Яму было, урыхтавалі месца агранома ў калгасе «Іскра», але пад той час у раёне трапіўся старшыня косінскага калгаса Сцяпан Амяльянавіч Данільчык і, упадабаўшы Алёшку, запрасіў яго да сябе на пасаду брыгадзіра-палявода. Па-сяброўску кранууўшы за плячо Алёшку, косінскі старшыня, сівы дабрадушны чалавек, шчыра сказаў:

— Мы бярэм курс на тое, каб брыгадзірамі былі людзі адукаваныя, спецыялісты. Думаю, што справішся?..

— Пастараюся.

Так Алёшка золкім асеннім надвячоркам апынуўся ў Мачужычах, на кватэры ў цёткі Блішчыхі. Скасавурыўшыся, Блішчыха доўга і ўважліва разглядала новага, зусім маладога агранома-брыгадзіра, а потым сумна ўздыхнула:

— Можа павячэраеце з дарогі...

І ля місы з агуркамі асцярожна ўмасціла цёмную пляшку, заткнутую пакуллем.

Алёшка добра прагаладаўся, але, як і належыць госцю, спачатку пааднекваўся, а потым прысеў да стала. Увішная Блішчыха паказала рукою на бутэльку:

— Вазьміце каліва, з дарогі яно не пашкодзіць...

— Не, цётка, гэта прыбярыце, — Алёшка нахмурыўся і рашуча адставіў на край стала бутэльку. — Я не ўжываю. І, наогул, каб мне гэтае зелле не падносілі!..

Гаспадыня хацела нешта сказаць, але змоўчала, зграбла пасудзіну і, нешта буркочучы сабе пад нос, пасунулася ў мыцельнік. Крыху счакаўшы, села на лаве і асцярожна завяла гаворку пра былога свайго брыгадзіра, нагадаўшы, які гэта быў мяккі і пакладзісты чалавек і што пры ім наогул людзі жылі не кепска, але вось жа нікаму не ўгадзіў, напэўна, начальству...

Алёшка, звёўшы бялёсыя бровы, слухаў гаспадыню, але больш з ветлівасці. Яго чамусьці цяпер не цікавіла, які быў тутэйшы брыгадзір. Ён ужо ведаў, што той некалі тут старшыняваў, а потым

ужо колькі год запар кіраваў брыгадай, цяпер яго праводзілі ў брыгаду, якую толькі што ўзбуйнілі, і лічылі, што ён пацягне; ведаў Алёшка і тое, што яго папярэднік меў адну слабасць — заўсёды паспяваў да кожнага мачужыцкага гаспадара і на радзіны і на імяніны...

Алёшку захацелася хоць колькі хвілін пабыць аднаму, неяк супакоіцца пасля дарогі, і ён, папрасіўшы прабачэння ў гаспадыні, выйшаў на двор. Удыхаючы на поўныя грудзі ядраную свежасць, Алёшка залюбаваўся высокім зорным небам. Неяк вочы зажмурыліся ад сцішанасці, і ў памяці ўсплыла родная вёска Рудкоўчына на Магілёўшчыне; Алёшка ўбачыў сябе малым хлапчуком яшчэ да вайны ў бацькі на руках: да шчымлівасці ў сэрцы ўсплыла перад вачамі сцежачка ў садку і кучаравыя яблынькі-ранеткі...

— Эх, маё вясёлае маленства! — у задуме прагаварыў сам сабе Алёшка. — Шчаслівая, непаўторная пара. Здаецца, нядаўна тое было, калі басаном бегаў з сябрамі навыперадкі, латашыў на градках зялёную цыбулю. А сёння і бацькі няма ўжо жывога, і браты, і сёстры паразляталіся па свеце, нібы тыя птахі з гнязда, і садок той бацькоўскі — зялёная калыханка бесклапотнага маленства — недзе стыне на асенняй золкасці, а ты ўжо дарослы, і ў цябе ўжо іншыя клопаты...

Алёшка сцішыўся. Вецер ірвануў цішыню, заблытаўшыся ў голлі вішняку, і з вуліцы прыляцелі, завіхрыліся знаёмыя напевы-пералівы. Гэта з пагулянкі вяртаўся сын гаспадыні — гарманіст Жорка. У Алёшкі соладка зашчымела сэрца: прыгадалася, што даўно ўжо трымаў у руках любімы інструмент.

... Надыходзіла зіма, і ў Мачужычах жыццё як-бы заціхала, увараходзіла ў свае звычайныя берагі. Звычайна з ранку пагрукочуць жанчыны вёдрамі ля студняў; прагрымяць коламі фурманка па грудах; прамчыцца на матацыкле які-небудзь вясковы хлопец-зух, і дуга плавае над голымі намёрзлымі вішнякамі гаркавы пах бензіну; пройдуць шумнай талакой дзяўчаты-даяркі, — і над Мачужычамі надоўга ўсталёўваецца маўклівая цішыня. І толькі пад вечар віхлястая мачужыцкая вуліца абуджаецца, але не надоўга.

Алёшку — новаму чалавеку ў Мачужычах — адразу кінулася ў вочы гэтая заспакоенасць, з якой жывуць мачужынцы — людзі адной з пяці брыгад вядомага ў раёне калгаса. Яму вельмі захацелася зрабіць нешта такое, што ўзварыла б мачужыцкі спакой, што растармашыла б усіх тутэйшых людзей і згуртавала б іх яшчэ лепш у адзіны, дружны калектыў.

Але як гэта зрабіць?

Што надумаць, каб людзі пайшлі за табой, паверылі ў твой шчыры намер?

У Алёшкі быў зусім малы жыццёвы вопыт, калі не лічыць службу ў арміі. Затое ў яго быў дыплом агранома. І яшчэ — у яго было вялікае жаданне быць карысным людзям.

І Алёшка-камсамолец смела кінуўся на быстрыню жыцця.

На брыгадны сход калгаснікі сабраліся дружна. Прыйшлі нават і тыя, што звычайна ігнаравалі ўсякія зборкі, лічачы гэта пустой тратай часу. Прыйшлі з цікавасці, што скажа новы брыгадзір. Пра Алёшку па ўсёй вёсцы прайшла чутка: «Сур'ёзны нейкі, дарма, што малады ды шчуплы, нібы хлапчук. Прозвішча нейкае дзіўнае — Кадаманец ці Кадаманцаў... Відно, з камуністаў...»

Выступалі таксама ахвотна. Падтрымлівалі брыгадзіраву прапанову — за зімовыя месяцы нарыхтаваць столькі торфа-гноевага кампосту, каб хапіла па 30—35 тон на гектар пад яравыя.

— Я думаю, таварышы, — жмурачыся ад яркага электрычнага святла і адкінуўшы назад пасму бялявых валасоў, пачаў Алёшка, — нам трэба стварыць сталую групу, якая будзе весці гэтую справу. Перш за ўсё трэба вылучыць вопытнага чалавека для ўкладкі буртоў. Каго вы прапануеце?..

— А што там адказнага? — выцягнуў стручкаватую галаву чарнявы, з няголеным падбародкам мужчына ў шэрым дажджавіку і памахаў у паветры кашчавым кулачком. — Каго паставіш, як ты ёсць начальнік, той і будзе. Падумаеш, адказны, гной варочаць, — і захіхікаў з'едліва, з усхліпам.

Алёшка насцеражыўся. Яго, як агранома, балюча закранула: або чалавек не разумее, што правільнае кампаставанне — адказная работа, або насміхаецца. І, стрымліваючы сябе, спакойна прадаўжаў:

— Дарэмна вы так думаеце, дзядзька, не ведаю, як ваша прозвішча...

— Кранцэвіч, Мікалай Бацькавіч, — насмешліва раскланяўся чарнявы пад вясёлы рогат і сеў, настаўрыўшы вочкі-бураўчыкі.

— Дык вось, таварыш Кранцэвіч, — Алёшка гарачыўся і пераступаў з нагі на нагу, — я прапаную і вас уключыць у гэтую групу. І я сам буду з вамі працаваць. І нашы камсамольцы пойдуць першымі. Правільна, хлопцы?..

— Правільна. Правільна, — грамчэй за ўсіх крычаў даўганосы хлопец з расхрыстанай грудзінай. — Пойдзем усе, як адзін. Заўтрашнім днём пачнём!..

— Чаму толькі пра хлопцаў спамінаеце? — адгукнулася круглатварая, з віхрастай пасмачкайгрыўкай над ілбом дзяўчына, какетліва заварушыўшыся ў купцы дзяўчат-сяброўак. — Мы таксама не адстанем. Праўду я кажу, сяброўкі?

— Канешне, пойдзем, — пачуліся звонкія галасы з грамады.

У Алёшкі сэрца захлынулася ад радасці. Няўжо так лёгка пойдзе ўсё ў яго на лад, няўжо ўсе яго задумы, што ён мае зрабіць, сустрэнуць аднадушную падтрымку. А чаму ж тады яго папярэднік не зладзіў з гэтымі людзьмі, чаму ён кожны месяц завальваў праўленне дакладнымі, у якіх упаміналіся адны і тыя ж прозвішчы.

Радасць змянялася трывогай. Алёшка не мог дачакацца раніцы, каб упэўніцца, што ўсё будзе, як задумана. Яшчэ досвіткам ён вывесіў на відным месцы спіс і, хутка паснедаўшы, памчаўся на канюшню.

Ужо добра ўднелася, і ружовы дыск сонца выплыў з-за косінскіх ліпавых прысад, а на вуліцы — пуста. Алёшка віхрам памчаўся на брыгадны двор. Там стаялі з рыдлёўкамі чатыры хлопцы і дзве дзяўчыны: тая сінявокая гарэзніца ў чырвоным кажушку, што ўчора падмелася першай, і яе чарнабровая сяброўка.

— А дзе ж мужчыны? — засопшыся, спытаў Алёшка і пашукаў вачамі навакол. — А Кранцэвіч не прыйшоў, — і адчуў, як загарэліся шчокі, і нейкая злосць на сябе, на сваю бездапаможнасць ахапіла ўсяго яго. Каб крыху супакоіцца, Алёшка дастаў скамечаную газету, пачаў таропка скручваць цыгарку, але хваляванне не ўнімалася.

— Што ж будзем рабіць? — пасля нейкай паўзы сказаў Алёшка, падышоўшы да групкамсорга Петруся Бабецкага. — Трактар ужо на полі, а людзей няма. Вось табе і маеш!..

— Я думаю, таварыш брыгадзір, — пацёр чырвоную шчаку Пятрусь Бабецкі, — трэба на першы раз прайсціся па хатах. Упэўнен, што мужчыны чакаюць запрашэння. Асабліва такія, як Кранцэвіч ды Смарачэўскі. Яны ў нас з характарам...

— У нас таксама ёсць характар, — ужо больш спакойна сказаў Алёшка, прыпальваючы цыгарку. Прагна зацягнуўшыся, абедруч нацягнуў на вушы шапку і падаў каманду: — Паехалі!..

Гадзіны праз дзве на поле прыехалі падводчыкі — на пяці фурманках. Сярод іх быў і Кранцэвіч. Лісліва ўсміхаючыся, ён папрасіў прабачэння, што спазніўся, і ўзяўся за вілы.

Работа пайшла спарней. Алёшка сам завіхаўся ля бурта, паказваў, як укладваць гной і торф, і радаваўся, што буртоўшчык Язэп Яноўскі ўважліва слухае яго і робіць усё так, як яму наказвае брыгадзір-аграном.

Працавалі, пакуль не сцямнела. Нават забыліся, што не абедалі. Зімовы дзень кароткі — і Пятрусь Бабецкі прапанаваў не рабіць перапынак. Алёша, вядома, згадзіўся, але сказаў, што ў наступныя дні перапынак на абед трэба рабіць. Важна, каб усе дружна з'явіліся на працу і працавалі

шчыра, на поўную сілу. Тут жа нехта з камсамольцаў падаў думку — устанавіць пераходны сцяжок для перадавікоў і выклікаць на спаборніцтва калгаснікаў замастоцкай брыгады.

— Я забыў вам сказаць, таварышы, — Алёшка абцёр узмакрэлы лоб, цёпла ўсміхнуўся, паказаўшы белы рад роўных зубоў. — Праўленне калгаса ўстанавіла прэмію для брыгады, якая першая ў калгасе закончыць вывазку і буртоўку ўгнаенняў па новаму спосабу. Вось каб нам завяваць першынство!..

І ў Алёшкі вочы загарэліся, як у хлапчука, — задорным, чыстым бляскам. А вочы ў яго прыгожыя, сінія-сінія... І нібы ўсміхаюцца з-пад тонкіх пшанічных броваў. З-пад вушанкі выбіўся і палошчацца на ветры бялявы, нібы кужалёвы, чуб. З такім чубам не сорамна паказацца хоць дзе, усюды скажуць: «Глядзі, няўжо гэта там усе такія на Магілёўшчыне. Вось табе і Кадаманцаў!»

... У Мачужычах ужо свяціліся вокны, калі трактарыст Іван Мельнікаў са сваім незвычайным агрэгатам уз'ехаў на вуліцу. Трактар «ДТ-54» цягнуў за сабой шырэзныя, на ўсю вуліцу, сані-валакушы, у якіх ехалі расчырванелыя хлопцы і дзяўчаты. Песня, бадзёрая і нястрымная, лунала над хатамі, б'ючыся ў вокны, узнімаючы тых, хто заседзеўся дома.

— Дзе спыніцца? — высунуўся з кабіны трактарыст.

— Гані па ўсёй вёсцы, аж да крайняй хаты! — на ўвесь голас крыкнуў разгарачаны Алёшка.

## 2

Ля брамкі, дзе яшчэ на дасвецці Алёшка вывесіў чарговы нумар брыгаднага «Вожыка», таўкліся хлопцы і дзяўчаты. На ўсю вуліцу быў чуцён рогат. Зводдалі стаялі дзве дзяўчынкі-сяброўкі, якіх раскрытыкавалі за частыя спазненні на працу. Як толькі Алёшка ўзышоў на двор, нехта з хлопцаў, здаецца, Лёня Сяргейчык, знарок громка і з артыстычным жэстам прадэкламаваў:

Сяброўкі Таня і Ніна
На печцы ўселіся чынна...
Калі б хто заслаў да іх сваты,
Тады б мо' злезлі б дзяўчаты.

Дзяўчаты было памкнуліся апраўдвацца, але ў іх нічога не атрымалася, яны яшчэ ніжэй паапускалі галовы і не ведалі, куды схаваць вочы. Знарок, каб і яны чулі, Алёшка громка сказаў:

— Вось добра, што дзяўчаты сёння выйшлі, якраз госці да нас з Замасточча прыедуць — кукурузу нашу паглядзець хочуць, а на іхніх дзялянках пасля падкормкі трава забуяла, трэба яшчэ раз прапалоць...

— Няхай госці прыязджаюць,— выгукнула байчэйшая Ніна. — Наша кукуруза можа будзе яшчэ самая лепшая, восень пакажа, — і дзяўчаты хутчэй заспяшаліся з двара.

Алёшка глядзеў ім услед і задаволена ўсміхаўся. Якая ж добрая рэч — гэты «Вожык»! Дзейнічае, як добрыя лекі. Нават сам не думаў, што такая карысць будзе ад яго. Гэта ж неяк яшчэ зімою Алёшка на камсамольскім сходзе (ён цяпер усё часцей раіўся са сваімі камсамольцамі) узняў пытанне аб працоўнай дысцыпліне, і ўсе сышліся на думцы, што трэба ў брыгадзе свая сатырычная газета.

З таго часу на брамцы хаты Сямёна Мікуліча, які жыве якраз пасярэдзіне вёскі, усё часцей вывешваўся лісток з малюнкам бяскрыўднай жывёліны ў загалоўку. Як толькі што-небудзь здарыцца ў брыгадзе — адразу вядома стане «Вожыку». Асабліва пастараўся ён сёлетняй вясной і ўлетку, калі ішла гарачая бітва за ўраджай другога года сямігодкі. Працаўнікі брыгады падмеліся вырасціць па 500 цэнтнераў зялёнай масы кукурузы, якраз такую лічбу, якая запланавана па калгасу на канец сямігодкі. Не малыя абавязацельствы былі ўзяты па атрыманню збожжа, бульбы, ільну, гароднiны, шматгадовых траў...

Улетку дарагі быў кожны дзень, кожная гадзіна. А ў Мачужычах людзі яшчэ не ўсе такія свядомыя, што з раніцы спяшаюцца на грамадскую працу, не ўсе яшчэ перакаваліся, што калгаснае — гэта маё. Ёсць і такія, што стараюцца, каб больш часу пакорпацца на сваім агародчыку, каб дзе-небудзь прыхапіць які лужок, ды сабе ў пуньку сянца паболей напхаць. Вось тут якраз «Вожык» і дарэчы. Якраз яго і выпускаюць хлопцы-камсамольцы.

Скажам, адбыўся ў брыгадзе сход. Рашылі ўсім мужчынам выйсці на касьбу — усе выйшлі, а асілак-хлапчына Анатоль Красуцкі прахалоджваецца, спіць, пакуль сонца ў вокны ўгрэе. Тут яго і нашпілілі на калючкі. Глядзіш, і Красуцкі ўжо з грамадой на лузе. Пакрыўдзіўся, пазлаваў трохі і за розум узяўся. Падмеўся неяк Міхась Рабецкі выйсці разам з моладдзю на падкормку кукурузы, а назаўтра сабраўся і да сваяка па гарэлку пайшоў. Адразу ж яго «ўздзелі» на калючкі, ды так прабралі, што за жывое закранулі. Рабецкі ўзлаваўся не на жарт і аж з кулакамі кінуўся на брыгадзіра. Алёшка, быў, ужо і даравaў яму, але камсамольцы настоялі, і Рабецкі атрымаў дзесяць сутак арышту.

Брыгадны «Вожык» іншы раз не доўга вісіць на той знаёмай брамцы. Тыя, каго востра закрануць, стараюцца хутчэй ад яго пазбавіцца, цішком здзіраюць «калючкі», але ад гэтага роля яго не змяншаецца. Як гаворыцца, тое, што напішаш пяром — не высечаш і тапаром...

Алёшкава брыгадзірства не ідзе так гладка і лёгка, як яму здалося спачатку. Праўда, у яго баявыя памочнікі і сябры, на якіх ён увесь час трымае кірунак, — гэта моладзь, верныя паплечнікі-камсамольцы. Але і на старую гвардыю нельга забывацца. Людзі пажылога веку трымаюць у сваіх руках ключ жыццёвай мудрасці, і гэта разумее брыгадзір.

Недалёкі прыклад. Тая ж кукуруза, за якую Алёшка-брыгадзір сёлетні год атрымаў пахвальную грамату і прэмію — наручны гадзіннік. Моладзь дружна з вясны ўзялася за кукурузу — пасеялі ў час, зрабілі рыхленне, прапалолі. Настала чарга рабіць падкормку. Алёшка, параіўшыся з аграномам калгаса Касцюковым, рашыў скарыстаць для гэтага гноевую жыжу. Якраз пад бокам, на спіртзаводзе, ёсць адкормачны пункт і там вялікі запас гноевай жыжы. Але хто будзе вазіць яе на поле? Палівацъ згадзіліся дзяўчаты-камсамолкі Нюра Красуцкая, Ніна Красуцкая і Каця Мікуліч. Гэта проста героі, а не дзяўчаты. Як з іх кпілі, смяяліся некаторыя лайдакі, але яны не кінулі гэтай цяжкай працы, не паддаліся злаславым кпінам і зрабілі вялікую справу — назаўсёды прыпісалі «каралеву палёў» на мачужыцкіх суглінках. Але невядома, ці справілася б адна моладзь, каб ёй не падсобілі сталыя людзі.

Алёшка не адзін раз падзякаваў у душы таму ж Міколу Кранцэвічу, які сам згадзіўся стаць пры бочцы. І вазіў жыжу дзень пры дні, не пакінуў, пакуль не падкармілі ўсе 30 гектараў кукурузы. І сам Алёшка глядзеў, каб правільна рабілася паліўка, паказваў, якую норму дадаць мінеральных угнаенняў.

Вядома, Кранцэвіч добра зарабіў на той жыжы. Гэта такі ўжо чалавек, што хоць ты махалам махай, а ён не жыў будзе, калі не падмане. «Брыгадзіры, — звычайна прыгаворвае Кранцэвіч, — прыходзяць і ўходзяць, а нам жыць трэба...» Тым не менш, і Кранцэвіч ішоў у агульнай шарэнзе наперад. І яго доля ёсць у агульнай перамозе, якую заваявалі ў сёлетні год мачужынцы.

Узятае абавязацельства па кукурузе брыгада перавыканала — нарэзана па 800 цэнтнераў зялёнай масы на кожным гектары. У Мачужычах тры сіласныя ямы. Яны напоўнены добрым, пахучым сіласам — больш як 400 тон.

А потым жа збожжа, бульба, канюшына, лубін, серадэла... Мачужыцкая брыгада і сёлета трымае адно з першых месц па ўраджайнасці збожжавых, бульбы, ільну і іншых культур. Кармоў і ў гэтым годзе ў калгасе «Перамога» будзе ўдосталь для жывёлы. І Алёшка справядліва лічыць, што гэта — трывалая аснова для ўсебаковага развіцця арцельнай гаспадаркі, яшчэ адзін шырокі крок у шчаслівы заўтрашні дзень.

## 3

Зноў восень. Яшчэ нядаўна гарэлі яркай пазалотай урадлівыя мачужыцкія сады, а сёння яны скінулі апошняе лісце, стаяць панура, спавітыя шэрай істужкай туману. Імжыць дождж. На нейкую гадзіну з-за хмар вырвецца сонца, і тады ярка заіскрыцца аксаміт азіміны за аселіцай, шэрай сталлю заблішчыць зябліва; на ўзгорках, нібы казачныя палацы, зіхацяць залатыя сцірты саломы.

А потым — нечаканы парыў ветру. І на зямлю насоўваюцца нізкія свінцовыя хмары. Зноў задажджыла...

Алёшка — увесь спацелы, у кароткай сцёганай ватоўцы, у заляпаных гразёю салдацкіх ботах — з казою-двухмятроўкай кіруецца гразкай дарогай з бульбянішча ў Мачужычы. Вечарэе. Дзядзька Салановіч гоніць у канюшню коней. Дзяўчаты спяшаюць на вячэрнюю дойку кароў.

Не зважаючы на лужыны, Алёшка прыспешвае крок, увесь час пазіраючы на захад, дзе ў фіялетавых хмарах села халоднае асенняе сонца. «Хоць бы не ўдарыў мароз, — трывожыць галаву думка. — Гэта ж яшчэ пяць гектараў бульбы засталося. Хоць бы дні тры пачакала. Вось табе і перадавая брыгада. Аслабіў пастромкі, таварыш Кадаманцаў!..»

Алёшка ў думках дакарае сябе за тое, што не мае дастатковай строгасці да людзей, якія яшчэ не аддаюць усе сілы калектыву, імкнецца знайсці прычыны, якія не даюць яму разгарнуцца як належыць.

І прычын тых вельмі многа. І ёсць сярод іх такія, што самы строгі суддзя не разбярэцца, чыя тут віна.

У самы разгар копкі бульбы Алёшка адвёз маладую жонку ў бальніцу. (Ён з год як ажаніўся на ціхманай мачужыцкай дзяўчыне Зосі, якая была ў яго брыгадзе актыўнай камсамолкай). Зося падаравала Алёшку сынка, і натуральна, што муж хацеў зрабіць усё, каб жонка адчувала яго клопаты.

— Сцяпан Амяльянавіч, — дрыжачым ад хвалявання голасам сказаў Алёшка старшыні калгаса, — я адвёз у радзілку жонку, сам у печы палю, у хаце ўсё перавернута — дайце мне адпачынак дні на тры...

— Які табе адпачынак, — ускіпеў старшыня, — хіба не бачыш — уборка бульбы. — Потым, памаўчаўшы, кпліва дадаў: — Падумаеш, прычына — жонка абрадзілася. Вунь мая некалі радзіла, дык я на месяц паехаў у камандзіроўку!..

Алёшка доўга вагаўся і, нарэшце, прыдумаў: пакінуў за сябе ўчотчыка, хворага чалавека, і дні чатыры адлучаўся з брыгады. Праўда, ён увечары хадзіў, гутарыў з учотчыкам, даваў яму сякіятакія настаўленні.

Іншы раз і старшыня, нягледзячы на свой багаты жыццёвы вопыт, дапускае ў адносінах да брыгадзіраў нетактоўнасць. Быў такі выпадак, што Алёшка дазволіў аднаму калгасніку ўзяць каня для прывозкі лесаматэрыялу на рамонт хаты. Пра гэта даведаўся старшыня, і на праўленні Алёшку добра прабралі. І назаўтра ж гэтаму калгасніку згодна распараджэння старшыні дазволілі ўзяць парку коней. Такія кур'ёзы сустракаюцца не рэдка.

«І навошта здалося мне гэтае брыгадзірства, — мільганула злосніца-думка, калі Алёшка ступіў на двор учотчыка Паўла Гілевіча, які з жонкай поркаўся ля воза, ссыпаючы бульбу. Але другая, больш ясная, даводзіла сваё: — Дзівак ты, Алёшка, хіба не бачыш, што робіцца вакол цябе, хіба не заўважаеш, як паважаюць цябе людзі. Ужо адно тое, што цябе за вочы мачужынцы называюць камуністам, хоць ты яшчэ толькі збіраешся стаць пад святы сцяг партыі, — гаворыць пра многае. Вышэй галаву, таварыш!..»

Забачыўшы Алёшку, які спыніўся ў варотах, учотчык, хударлявы, з гарачымі вачамі мужчына, накульгваючы, шыбаваў да брыгадзіра.

— Ну, што там здарылася з Скварчэўскім? — Алёшка дастаў пачак папярос, намерваючыся закурыць. — Не ведаеш, чаму не прыехаў, бульбы ж засталося накапанай яшчэ са скрыню...

Павёз жа бульбу той Анюце Мазепчыкавых, дык, пэўна, добра пачаставала, ліха матары яго!..

— Мне гэтыя частаванні ў пячонцы ўжо сядзяць, — Алёшка злосна бліснуў сінімі вачамі, ссунуў на патыліцу шапку-вушанку. — Трэба сур'ёзна брацца за гэтых выпівак, для іх адных угавораў мала...

— Іх на грамадскі суд, усім калгасам супроць іх трэба, — дадаў з абурэннем учотчык. Счакаўшы крыху, калі супакоіцца брыгадзір, ён узрадавана сказаў: — Аляксей Ісакавіч, з Косіна перадалі, каб вы ішлі ў кантору. Данільчык абяцаў, што з Замасточча падкіне фурманак колькі і дзяўчаты прыедуць... Так што за якіх два дні з бульбай скончым...

У Алёшкі ў пальцах затрымцела папяроска. Да твару хлынула кроў, пякуча апаліла шчокі. Хацелася крычаць ад крыўды, але трэба было браць сябе ў рукі. Нічога не папішаш, такі закон нашага жыцця: сёння ты адстаў, табе дапамогуць, пададуць сяброўскую руку. За гэта ж дзякаваць, а не крыўдаваць трэба. Добры наш закон!

Алёшка сплюнуў недакурак і з прасвятлелым тварам ступіў на ганак.

— Пойдзем, Павел Антонавіч, — цёпла звярнуўся ён да свайго памочніка-ўчотчыка. — Перагледзім тады нарад на заўтрашні дзень. — Ужо седзячы за сталом і мяркуючы, як лепш расставіць сілы ў брыгадзе, Алёшка гаварыў: — Вы, Антонавіч, сходзіце за мяне ў кантору, а мне трэба пасядзець, заглянуць у канспекты — заўтра ж увечары першыя заняткі гуртка канкрэтнай эканомікі...

— А што, гэта хіба толькі для маладых будуць заняткі, — асцярожна пацікавіўся Павел Антонавіч і чамусьці ўздыхнуў.

— Не, чаму ж... І вы прыходзьце, — цёплая ўсмешка кранула засяроджаны Алёшкаў твар, і на сэрцы неяк адлягло, палягчэла.

Алёшка ведаў, што сёння будзе неспакойная ноч. Зося накрычыць, што дровы сырыя — ніяк не гарэлі ў печы: маленькі Сашка не дасць заснуць аж да раніцы, але нішто яго не палохала. Ён сам выбраў Мачужычы, і яму яны ўсё больш падабаюцца.

**Калгас «Перамога» Лагойскага раёна Мінскай вобласці.**



У перапынку паміж пасяджэннямі на XV сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Глава дэлегацыі Савецкага Саюза М. С. Хрушчоў вітае дэлегата Гвінейскай Рэспублікі Ісмаіла Турэ.

Фота ТАСС.

# ВЯЛІКІ ГОД АФРЫКІ

«Накшталт вулкана кіпіць і бурліць Афрыка. Каля шасці год вядзе гераічную самаадданую барацьбу за нацыянальнае вызваленне алжырскі народ. Усё больш рашуча ўздымаюцца на барацьбу за свае правы народы Кеніі, Танганьікі, Уганды, Руанда-Урундзі, Анголы, Мазамбіка, Паўночнай Радэзіі, Паўднёвай Радэзіі, Сьера-Леоне, Паўднёва-Заходняй Афрыкі, Занзібара, а таксама Заходняга Ірыяна, Порта-Рыка і многіх іншых калоній», — гаварыў у сваёй гістарычнай прамове на XV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН кіраўнік савецкай дэлегацыі М. С. Хрушчоў.

Так. 1960 год увойдзе ў гісторыю афрыканскіх народаў як «год вызвалення». У гэтым годзе былі аб'яўлены незалежнымі дзяржавамі Камерун, Рэспубліка Тога, Федэрацыя Малі, Мальгашская Рэспубліка, Рэспубліка Конга *, Самалійская Рэспубліка, Дагамейская рэспубліка, Рэспубліка Нігер, Рэспубліка Верхняя Вольта, Рэспубліка Бераг Слановай Косці, Рэспубліка Чад, Рэспубліка Цэнтральнай Афрыкі, Федэрацыя Нігерыі, Рэспубліка Конга **, Габонская рэспубліка і Рэспубліка Сенегал.

Маладыя афрыканскія дзяржавы, якія ўзніклі ў 1960 годзе, налічваюць 80 мільёнаў насельніцтва. Аднак на тэрыторыі афрыканскага кантынента ўсё яшчэ застаюцца ганебныя ачагі каланіялізма. Гэта Алжыр з дзесяццю мільёнамі насельніцтва. Гэта партугальскія калоніі: Ангола з насельніцтвам больш чатырох мільёнаў чалавек і Мазамбік — з шасцімільённым насельніцтвам. Гэта англійскія пратэктараты Кенія і Уганда, падкантрольныя тэрыторыі і ўладанні той жа Англіі — Занзібар, Федэрацыя Радэзіі і Ньясаленда з агульнай колькасцю насельніцтва 19 мільёнаў 279 тысяч чалавек. На XV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў ад імя савецкага народа і ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва рашуча асудзіў ганебную сістэму каланіялізма. Ён выказаў глыбокія сімпатыі да прыгнечаных народаў і гатоўнасць дапамагчы ім у справядлівай барацьбе за поўнае вызваленне.

«Савецкі ўрад лічыць, — гаварыў М. С. Хрушчоў, — што надышоў час паставіць пытанне аб поўнай і канчатковай ліквідацыі каланіяльнага рэжыму кіравання ва ўсіх яго відах і разнавіднасцях з тым, каб пакончыць з гэтай ганьбай, варварствам і дзікасцю».

Пытанне, узнятае кіраўніком савецкай дэлегацыі на XV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, дало свае вынікі. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца аднагалоснае прыняцце прапановы М. С. Хрушчова абмеркаваць на пленарным пасяджэнні Генеральнай Асамблеі Дэкларацыю аб прадастаўленні незалежнасці каланіяльным краінам і народам.

Поўны распад каланіяльнай сістэмы будзе новым ударам, які яшчэ больш расхістае гнілыя ўстоі імперыялізма і прывядзе яго да хутчэйшага канчатковага краху.

За апошнія 15 год каля паўтара мільярда людзей скінулі ярмо каланіяльнага прыгнёту. Такім чынам, ужо амаль палова чалавецтва стала на шлях свабоды і незалежнасці. Пасля другой сусветнай вайны Афрыка засталася апошнім аплотам каланізатараў. Тут, на тэрыторыі ў 20 мільёнаў квадратных кіламетраў, бессаромна гаспадараць імперыялісты Англіі, Францыі, Бельгіі, Партугаліі, Іспаніі. Да багаццяў Афрыкі працягнуліся і прагныя шчупальцы амерыканскіх манаполій — тут дзейнічае каля двухсот карпарацый ЗША. Толькі з Паўднёвай Афрыкі імперыялісты вывезлі, па самых прыблізных падліках, багаццяў на 20 мільярдаў долараў.

Каланізатары адабралі ў афрыканцаў свабоду, зямлю, прыродныя багацці, асудзілі іх на бяспраўе і жудасную беднасць. Кроў афрыканскага народа яны ператваралі ў золата. І калі ў нашы дні над Афрыкай узнялася зара свабоды, пад яе жыватворчымі промнямі афрыканскія народы абуджаюцца да новага жыцця.

Афрыка мае багатае гістарычнае мінулае, старажытную самабытную культуру і цывілізацыю. У старажытнасці тут існавалі вялікія афрыканскія імперыі Гана,



26 чэрвеня 1960 г. у мадагаскарскай сталіцы — Тананарыве ўзняўся дзяржаўны флаг незалежнай Мальгашскай Рэспублікі.

Фота-агенцтва Франс Прэс.

* Былая калонія Бельгіі.
** Былая тэрыторыя Французскай Кеніі.



**Для ўсеагульнага агляду выстаўлена зброя, якой каланізатары хацелі справакаваць антыўрадавыя выступленні ў Гвінейскай Рэспубліцы.**

Фота агенцтва Сіньхуа.

Малі, Санган. Вялікіх поспехаў у сваім развіцці дасягнулі дзяржавы Бушанга, Балунда, Конга і іншыя.

Археалагічныя раскопкі адкрылі для чалавецтва яркую афрыканскую культуру, якую белыя расісты ўсяляк імкнуцца не прызнаваць і ганьбіць.

За перыяд двухсотгадовага гаспадарання ў Афрыцы каланізатары не толькі пазбавілі афрыканскі народ незалежнасці, але хацелі адабраць у яго гістарычнае і культурнае мінулае, каб лягчэй было трымаць народ у пакорнасці і рабстве.

Спачатку каланізатары стварылі ў розных месцах Афрыкі гандлёвыя населеныя пункты і пачалі гандаль рабамі. Як сведчыць негрыцянскі вучоны Дзюбуа, гандаль рабамі быў бязмежным эканамічным, сацыяльным і палітычным бедствам для Афрыкі. Каля 10 мільёнаў неграў былі адарваны ад сваёй радзімы. На кожнага вывезенага раба прыходзілася ў сярэднім пяць іншых, якія загінулі ў Афрыцы або ў час перавозкі. Такім чынам, амерыканскі гандаль рабамі загубіў каля 60 мільёнаў неграў з афрыканскага кантынента. Калі яшчэ ўлічыць, што рабамі гандлявалі і мусульмане, то ўсё гэта каштавала Афрыцы 100 мільёнаў чалавечых жыццяў.

Імперыялісты Англіі, Францыі, Бельгіі, Германіі і іншых капіталістычных краін праніклі ў глыбіню Афрыкі і захапілі яе тэрыторыю ў апошняй чвэрці мінулага стагоддзя. Каланізатары пачалі «асвойваць» афрыканскія багацці і бязлітасна эксплуатаваць народы Афрыкі.

Асобы неафрыканскага паходжання ў Афрыцы складаюць усяго тры працэнты ад 230-мільённага мясцовага насельніцтва. Аднак яны займаюць, як правіла, прывілеяванае становішча і не лічацца з карэннымі жыццёва важнымі інтарэсамі пераважнай большасці афрыканскага насельніцтва. Каланізатары захапілі лепшыя землі, а афрыканцаў перасялілі на малапрыгодныя або ў рэзервацыі. У Паўднёва-Афрыканскім саюзе карэннае насельніцтва валодае толькі 8 працэнтамі зямлі, а белыя, якія складаюць толькі чвэрць насельніцтва краіны, валодаюць усёй астатняй тэрыторыяй.

Надзвычай нізкі жыццёвы ўзровень афрыканскага народа. Паводле афіцыйных звестак, прыбытак на душу насельніцтва ў такіх краінах, як Кенія, Уганда, Танганьіка адпаведна ў 24, 32 і 40 разоў меншы, чым у ЗША.

У Афрыцы 90 працэнтаў непісьменнага насельніцтва. З 25 мільёнаў дзяцей школьнага ўзросту 17 мільёнаў пазбаўлена магчымасці вучыцца ў школах. Вось прыклад. Калі была аб'яўлена незалежнасць Конга, аказалася, што толькі 14 кангалезцаў мае вышэйшую асвету. З мясцовага насельніцтва тут не было ніводнага ўрача або інжынера. Ва ўзброеных сілах было 1 000 бельгійскіх афіцэраў. З кангалезцаў самае высокае вайсковае званне меў толькі адзін, які за трыццаць гадоў даслужыўся да чына старшага сержанта.



**Дызельны экскаватар варонежскага завода на будаўніцтве Асуанскай плаціны ў Аб'яднанай Арабскай Рэспубліцы.**

Фота ТАСС.

Такое ж становішча і ў іншых афрыканскіх краінах. У Тога адзін урач прыходзіцца на 39 тысяч жыхароў, у Камеруне — на 66 тысяч, у Нігерыі — на 88 тысяч, а ў Руанда-Урундзі — на 100 тысяч насельніцтва!

Сярэдняя працягласць жыцця ў афрыканскіх калоніях Англіі сярод жанчын — 34 гады, сярод мужчын — 32 гады. За восемдзесят гадоў гаспадарання бельгійскіх каланізатараў у Конга колькасць насельніцтва гэтай краіны паменшылася ў два разы.

Імперыялісты ў Афрыцы ўжывалі і ўжываюць самыя нечалавечыя формы каланіяльнага прыгнёту. Фізічныя пакаранні, голад, пазбаўленне самых элементарных чалавечых правоў — вось лёс насельніцтва Афрыкі пад прыгнётам імперыялістаў у сярэдзіне XX стагоддзя.

Асабліва лютуюць расісты-каланізатары ў Паўднёва-Афрыканскім саюзе. Тут існуе рабаўласніцкая сістэма эксплуатацыі. У гэтай краіне для афрыканцаў уведзена сістэма прапускоў, якая абмяжоўвае свабоду іх перамяшчэння. Мэта гэтай сістэмы — загнаць афрыканцаў у рэзервацыі, дзе ўжо знаходзіцца 60 працэнтаў мясцовага насельніцтва.

Пад страхам галоднай смерці афрыканцы павінны выконваць любую работу ў самых цяжкіх умовах. Рабочыя руднікоў, напрыклад, пасяляюцца ў спецыяльныя лагеры, адкуль ім не дазваляецца нават выходзіць. Шырока ўжываюцца турэмныя зняволенні. Акрамя дзяржаўных месц зняволення, існуе сістэма прыватных турмаў.

Англічане ў Кеніі ўвялі такі кантроль над мясцовым насельніцтвам, які ў іншых краінах ужываецца толькі ў адносінах да злачынцаў.

Правадыр племені Герэра Осія Кутака (падмандатная тэрыторыя



**Гвінейская Рэспубліка. На занятках у школе для маладых рабочых Канакры.**

Фота агенцтва Дэкапан Прэс.

Паўднёва-Афрыканскага саюза) у адкрытым пісьме каралю Бельгіі Бадуэну, прэм'ер-міністру Англіі Макмілану і прэзідэнту Францыі дэ Голю пісаў: «У нас няма ні адной сярэдняй школы для 47300 афрыканцаў і іншых асоб нееўрапейскага паходжання. Калі прагным еўрапейцам спадабаецца наша зямля, мы вымушаны яе пакінуць. У нас няма ніякіх гарантый спакойнага жыцця і ніякіх надзей на будучыню».

Характэрна малітва, з якой звярталіся да ўсявышняга жыхары Камеруна, дзе пасля першай сусветнай вайны каланізатараў-немцаў змянілі французы. У ёй гаво-



**Весяліцца моладзь Гвінейскай Рэспублікі.**

Фота агенцтва Сіньхуа.

рыцца: «Мы раскажам табе, госпадзі, аб нашым зямным жыцці. Чаму мы аплакваем свой лёс?

Немцы пайшлі, на іх месца прыйшлі французы. Калі на іх месца прыйдуць англічане або амерыканцы, усё застанецца такім жа, пакуль не наступіць дзень нашага вызвалення. А цяпер лепш бы нам памерці, о госпадзі!

Але свабода блізка і, нягледзячы на ўсе няшчасці, мы спяваем: алілуя, алілуя!»

Разгневаны і даведзены да адчаю афрыканскі народ ірве ланцугі каланіялізма і заваёўвае свабоду. «Нягледзячы на рэпрэсіі, кроў і катаванні, эра каланіялізма адыходзіць у мінулае... — гаварыў прэзідэнт Гвінейскай рэспублікі Секу Турэ. — Гэтае агульнае развіццё руху афрыканскіх народаў да лепшай будучыні стала цяпер непазбежным. Яго нельга спыніць, якім бы ні было супраціўленне імперыялістычных сіл».

Імкнучыся захаваць свае каланіяльныя ўладанні, імперыялісты не грэбуюць ніякімі сродкамі. Яны дзейнічаюць метадам тэрору і самых жорсткіх рэпрэсій, яны маскіруюцца пад выглядам «сяброў» народаў Афрыкі, Азіі і іншых краін.

Крывавымі рэпрэсіямі французскія імперыялісты хочуць задушыць магутны ўздым вызваленчай барацьбы алжырскага народа. Шматгадовыя намаганні французскіх каланізатараў зламаць свабодалюбівы дух алжырцаў шляхам масавых забойстваў, злачынных карных экспедыцый не прынеслі поспехаў. Справядлівую барацьбу дзесяцімільённага алжырскага народа падтрымліваюць усе сумленныя людзі свету.

На Мадагаскары з пяці мільёнаў насельніцтва французы знішчылі 100 тысяч мальгашаў, але ўсё роўна не змаглі ўтрымаць народ у каланіяльным рабстве. Не дапамажа каланізатарам і крывавы тэрор у Алжыры. Для далейшай барацьбы алжырскага народа за сваё вызваленне вялікае значэнне мае прызнанне Савецкім Саюзам Алжырскай рэспублікі і яе часовага ўрада.

Амерыканскія і бельгійскія імперыялісты зноў спрабуюць надзець ланцугі няволі на кангалезскі народ, які нядаўна дабіўся стварэння сваёй незалежнай дзяржавы. Скарыстоўваючы сваю агентуру з прадажных элементаў мясцовага насельніцтва, а таксама сваіх падручных з Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, яны хочуць раздзяліць краіну і ўтрымаць у сваіх руках яе самыя важныя і самыя багатыя раёны. Асабліва іх вабіць Катанга — адна з правінцый Конга. Справа ў тым, што тут знаходзяцца асноўныя рудныя багацці Конга. Напомнім, што першыя атамныя бомбы ў ЗША былі зроблены з кангалезскай уранавай руды. Амерыканскія манаполіі вывозяць з Конга кобальт, волава, марганец, тантал, алмазы, кофе, пальмавае масла.

Вось што хаваецца за ўмяшаннем амерыканскага ўрада ў справы Конга. Аднак ніякія манеўры і прошукі імперыялістаў у Конга і іншых краінах, дзе народы змагаюцца за свабоду, не выратуюць каланізатараў ад паражэння. Нішто ў свеце не зможа выратаваць асуджаную на пагібель каланіяльную сістэму.

Калі дзесяць гадоў назад у Афрыцы існавала толькі тры незалежныя дзяржавы, то цяпер іх дваццаць шэсць. Гэта значыць, што з 230 мільёнаў насельніцтва свабоднымі ад каланіяльнага прыгнёту стала 150 мільёнаў афрыканцаў.

Смяротны прыгавор каланіялізму вынесены. Народы прывядуць яго ў выкананне.

Бескарыслівая дапамога Савецкага Саюза і краін сацыялізма афрыканскім народам, якія змагаюцца за вызваленне з-пад каланіяльнага прыгнёту — важнейшая ўмова эканамічнай і палітычнай незалежнасці нядаўна створаных самастойных дзяржаў.

Савецкія людзі ад усёй душы віншуюць народы Афрыкі з вялікім вызваленнем і жадаюць ім поспехаў у будаўніцтве новага, свабоднага жыцця.

**Э. ПОЗНЯК,**
**кандыдат гістарычных навук.**



# *У нашых сяброў*



За гады народнай улады ў Румыніі вышэйшая адукацыя атрымала небывалае развіццё. Звыш 30 вышэйшых навучальных устаноў наведвае цяпер каля 70 000 студэнтаў. У некаторых універсітэтах і інстытутах, акрамя моладзі Румынскай Народнай Рэспублікі, вучацца госці з замежных краін. Абсталяваныя сучаснымі прыладамі лабараторыі, студэнцкія інтэрнаты, сталоўкі, дамы культуры і клубы забяспечваюць добрыя ўмовы для вучобы і адпачынку.

На здымку, які даслала нам румынскае агенцтва друку «Аджэрпрэс» — студэнты політэхнічнага інстытута ў Бухарэсце: румын, албанец і суданец.

# ПАД АДНЫМ ДАХАМ

Шырокія, светлыя калідоры. На падлозе — ніводнай пылінкі, ніводнага кавалачка паперы. Сцены чыстыя, без плям.

— Бачыце, які парадак дзяўчаты навялі. Самі... А было ж, што некалькі прыбіральшчыц не паспявалі за імі, — з ганарлівай усмешкай гаворыць цётка Надзя — пажылая жанчына з прыкметнай сівізной на скронях і маладымі гарачымі вачыма. — Не дарма ж наш інтэрнат змагаецца за званне камуністычнага.

— Азірніцеся, няўжо не заўважаеце: цяпер замест адной аж тры насценгазеты выходзяць. — І зноў цёплая мацярынская ўсмешка малодзіць яе твар.

Але ж ці толькі чысціня ды павелічэнне колькасці газет з'яўляюцца адметнай асаблівасцю паўтысячнага калектыву, які змагаецца за камуністычны быт і свядомасць?

А які адбітак пакінула гэтае спаборніцтва на характарах, на ўсім жыцці насельнікаў інтэрната?

Змаўкае цётка Надзя — выхавальніца, маці пяцісот дачок. Шукае і не знаходзіць слоў...

— Як бы тут сказаць... Здаецца, проста, усё на маіх вачах адбывалася... Сталелі мае дзяўчаты, жыццёвы вопыт набывалі, і, канешне, характары ў іх мяняліся. Было гэта так...

### Рэха

Яшчэ ўчора па ўсіх пяці паверхах гэтага вялізнага будынка гуляла рэха. Яно гулка адклікалася на кожны гук.

Калі раніцай на калідорах зазвінелі вясёлыя дзявочыя галасы, рэха ўзляцела на самы верхні паверх і праз расчыненыя вокны назаўсёды знікла з гэтага дома.

А дзяўчаты расставілі ложкі, заслалі іх свежымі, як першы снег, прасцінамі і заспяшаліся ў чырвоны куток. Там аб нечым паспрачаліся і разышліся па сваіх пакоях.

Аднак не ўсе. Сем дзяўчат селі бліжэй адна да адной, каб тут жа вырашыць, хто будзе старастай калектыву — старшынёй бытавога савета інтэрната.

Пяцьсот чалавек, якіх пакуль што аб'ядноўвала толькі тое, што яны жывуць пад адным дахам, даверылі свой лёс гэтым семярым дзяўчатам.

А яны моўчкі глядзелі адна на адну, і ніхто не называў прозвішча будучага старшыні.

— Прапаную выбраць Ію Сікорскую, — нарэшце нясмела прапанаваў хтосьці.

Ія хацела запярэчыць, але чарнявая дзяўчына, што сядзела побач, сказала:

— Няхай устане, каб паглядзець, хто гэта.

Шэравокая дзяўчына з пышнымі русымі валасамі пачырванела і паднялася з месца.

— Сікорская дык Сікорская, нам усё роўна, — разам згадзіліся астатнія і падаліся да дзвярэй.

— Куды ж вы? Пачакайце, трэба вырашыць, з чаго пачынаць работу... — паспрабавала спыніць іх Ія.

— А якая там работа?.. Радыёла ёсць, пласцінкі таксама. Будзем па суботах і нядзелях танцаваць, — кінула Каця.

— Не, калі ўжо выбралі мяне, дык слухайце. Трэба пагаварыць наконт усёй работы, распрацаваць тэмы лекцый, вечароў адпачынку...

— Вось і распрацоўвай: ты ж старшыня... — разам загаварылі дзяўчаты і пайшлі з пакоя следам за Кацяй.

«Не паслухаліся, смяюцца з мяне... Забараню танцы!» — загарачылася Ія і накіравалася да намесніка дырэктара па быту.

— Загадам тут нічога не зробіш. Трэба заваяваць аўтарытэт, тады не толькі члены бытсавета, а і ўсе дзяўчаты пойдуць за табой, — разважліва параіў той.

Ды дзе тут будзе той аўтарытэт, калі на заўвагі дзяўчаты адказваюць усмешкай, калі ў іх позірках Ія чытае нявыказанае: «А хто ты такая? Чым ты лепшая за нас, што хочаш камандаваць усімі?» І як ты заваюеш аўтарытэт, калі цябе не падтрымліваюць у самых, здаецца, справядлівых рашэннях... Вось прапанавала Ія выключыць з інтэрната Галю за парушэнне правіл агульнага жыцця, а дзяўчаты яе не падтрымалі, за Галю заступіліся. А цяпер тая пры кожнай сустрэчы смяецца проста ў вочы:

— Што, старшыня, не выйшла па-твойму?..

Цяжка быць кіраўніком шматсоценнага калектыву, калі ўлада трымаецца толькі на ўгаворах. Прыходзіцца адказваць за кожны дрэнны ўчынак, які адбываецца ў інтэрнаце. Нейкія п'яныя хлопцы ўчынілі бойку на танцах, дык не арганізатару вечара Каці, а Іі прыйшлося адказваць. Намеснік дырэктара так і запытаў з папрокам:

— А дзе ж была ты, старшыня? Чаму дапусціла бойку?

Сабрала тады Ія членаў бытсавета ў чырвоным кутку і папярэдзіла:

— Танцулек больш не будзе.

Сказала і заціхла, чакаючы, што дзяўчаты падымуць бунт. А яны маўчалі. Потым Каця, якая раней гарой стаяла за танцы, пачала разважліва:

— Што танцы... Надакучыла ўжо ўсё адно і тое ж. Лепш давайце што-небудзь іншае прыдумаем...

Вырашылі арганізаваць выстаўку і абмеркаванне твораў студэнтаў мастацкага інстытута.

Вечар прайшоў цікава. Тады ўзяліся правесці канферэнцыю гледачоў па кінафільму «Каханнем трэба даражыць». Вызначылі адказных за падрыхтоўку і арганізацыю канферэнцыі, запрасілі артыстаў, якія ўдзельнічалі ў здымках гэтага фільма, і рэжысёра.

Да пачатку канферэнцыі ў чырвоным кутку сабралася ўсяго некалькі чалавек. Але вестка аб цікавых выступленнях імгненна абляцела ўсе пяць паверхаў інтэрната. Праз некалькі хвілін ужо не хапала крэслаў, а дзяўчаты ўсё ішлі і ішлі...

З таго часу так і павялося: што ні нядзеля — то цікавы вечар, абмеркаванне твораў савецкіх і замежных пісьменнікаў ці культпаход у кіно, у тэатр.

І што цікава: чым больш патрабавальнай станавілася Ія, тым больш паслухмяна выконвалі дзяўчаты ўсё, што яна загадвала. Нават пачалі раіцца з ёю па сваіх інтымных справах, нібыта Ія не была з імі аднагодкай...

Ды і Ія ўжо не тая, што некалькі месяцаў назад. Цяпер яна ніколі не скажа, каб такую дзяўчыну, як Галя, выселілі з інтэрната. Непрыкметна, як пяшчотныя хвалі шліфуюць камяністую гальку, і калектыў адшліфаваў характар Іі, зрабіў яе больш уважлівай, чулай. Дзяўчына зразумела: чым больш душы аддаеш людзям, тым больш шчыра адгукаюцца яны адзін аднаму. У гэтай пераклічцы адзінкі непрыкметна яднаюцца ў калектыў.

### Многа гэта ці мала?

Галі трэба было б нарадзіцца хлопцам. З дзяцінства, як ганьбу, ёй часта кідалі:

— Гора адно, а не дзяўчына... Выліты хлопец!..

А яна не разумела, чаму дзяўчынка павінна гуляць, хадзіць, гаварыць інакш, чым хлапчук.

Чаму, сапраўды? З хлапчукамі

нават цікавей. Яны ходзяць шукаць закапаныя скарбы. Некалькі дзён за ўзгоркам, ля двух камянёў, капалі — адшуквалі скарб. І знайшлі б, калі б выхавальніца дзіцячага дома не забараніла ім бадзяцца па старых акопах.

Пэўна і шафёрскі гурток пры клубе ДТСААФ Галя пачала наведваць больш за ўсё таму, што гэта лічылася справай хлапечай. А яна што — горш?

На прадвесні Галя ўпершыню села за руль машыны побач з інструктарам. Дзяўчына моцна хвалявалася: адна справа — тэорыя, і зусім іншая — самастойна весці машыну.

Машына праехала некалькі метраў і рэзка вільнула ўбок. У той жа момант рука інструктара выраўняла руль.

Ужо даўно машына ішла як след, але рука інструктара ўсё трымала руль. Потым аказалася, што Галя не зусім добра засвоіла некаторыя правілы руху, і інструктар доўга растлумачваў іх дзяўчыне.

Пасля некалькіх такіх урокаў хтосьці з дзяўчат запытаў, нібы спачуваючы:

— Мо' закахалася ў жанаціка? Кінь, Галька, гэта ж такі сорам...

— А чаму мы проста не можам сябраваць, няхай нават і з жанатым? Хіба з ім і гаварыць забаронена? — абуралася Галя.

— Не забаронена, але — не варта. Ды і ведаем мы, якія гэта размовы вечарам, пры месяцы... Увесь інтэрнат ведае...

Цяпер, сустрэўшыся з інструктарам дзе-небудзь на вуліцы (а ён у апошні час нешта вельмі часта бываў ля інтэрната). Галя знарок спынялася і доўга размаўляла з ім вось так — на вачах ва ўсіх.

Напружаная, як струна, яна кожны момант чакала папрокаў, насмешак, гатовая на кожнае колкае слова адказаць дзесяццю. Толькі адзін чалавек, як здавалася Галі, разумеў яе ў гэтыя цяжкія дні. Ён не баяўся зайсці да яе ў інтэрнат, пагаварыць, павесці ў кіно або проста прайсціся з ёю па вуліцы...

Як многа добрага і дрэннага магла зрабіць Галя праз сваю упартасць. Дзяўчаты яе дабром прасілі, на бытсавеце высяленнем з інтэрната пагражалі. Хоць бы слова па-людску каму сказала. Толькі і паўтарала адно:

— Не ваша справа, не маеце права лезці... Вас гэта не датычыць...

Чым бы скончылася ўсё гэта — невядома. Дрэнна, пэўна, скончылася б, калі б аднойчы не зайшла ў іх пакоі гаворка пра дзяцей: як цяжка ім расці без бацькоў, як усё жыццё баліць параненае ў дзяцінстве сэрца.

Не з Галяй была гэтая размова, а так, між сабою... Нехта з дзяўчат запытаўся:

— А вы заўважылі — інструктарава жонка другое дзіця чакае. Пэўна, і не ўбачыць беднае, бацьку. Кажуць, на цаліну збіраецца...

Ужо даўно пагасілі ў пакоі святло, а Галя ўсё ляжала — успамінала сваё сірочае дзяцінства. Колькі слёз праліла, калі чула на вуліцы ці ў школе простае слова «тата», як сумавала ў дзіцячым доме без маці! Усё б, здаецца, аддала тады, каб толькі знайшліся бацькі.

Многа ж, ці мала трэба аддаць ёй цяпер, каб у дзяўчынкі-першакласніцы і ў таго, другога, што яшчэ не нарадзіўся, застаўся бацька?

Многа ці мала? Многа!

Назаўтра, адразу пасля змены, Галя пайшла да знаёмага дома. Прыгледзелася да дзяцей, што гулялі ў двары, і пазнала дзяўчынку — выліты бацька. Яе і папрасіла правесці да маці.

Аб чым гаварылі яны, дагэтуль ніхто ў інтэрнаце не ведае. Толькі з таго вечара Галю ўжо не бачылі разам з тым чалавекам.

Дзяўчына перастала грубіць, зрабілася раўнейшай, быццам пасталела. Толькі вельмі не любіць, калі хто падміргне ці ўсміхнецца, як убачыць постаць у цёмным паліто, што часам мільгне на момант ля інтэрната.

**Гадзіннік**

Вось толькі што тут, на белым фаянсе мыцельніка, блішчэў гадзіннік. Новенькі, нядаўна купле-



ны за грошы, якія Валя збірала некалькі месяцаў. Для многіх сяброўак такія гадзіннікі не былі дзівам, але ж ёй, выхаванцы дзіцячага дома, доўга прыходзілася клапаціцца аб рэчах больш неабходных.

І вось гадзінніка няма. Толькі што быў — і няма. Не верачы самой сабе, Валя азірнулася і ўбачыла ў дзвярах спіну жанчыны, якая толькі што мылася.

— Цётка, цётачка, ці не бачылі вы майго гадзінніка? — кінулася дзяўчына наўздагон.

— Ты што, ашалела? Ды як ты асмельваешся! — абурылася жанчына і памкнулася хутчэй прайсці да вестыбюля.

Але дарогу ёй ужо загарадзілі дзяўчаты. Загаманілі разам:

— Пачакайце, не спяшайцеся, давайце разбярэмся...

— Буду я з вамі разбірацца...

У дзяўчат паружавелі ад сораму шчокі, вушы, нават рукам стала горача.

Аляксандра заўсёды такая — абразіць, аблае, нават з кулакамі кінецца: ніякай на яе ўправы няма!..

Дзяўчаты агледзелі кожны куток у мыцельніку, абмацалі кожную шчыліну.

— Супакойся, Валя, паглядзі, мо' дзе паклала ды забылася. У нас жа такога даўно не было, — пераконвалі дзяўчаты сяброўку. — Вось Ядзя Бараноўская і Галя Царык знайшлі гадзіннікі... Чужыя. І не супакоіліся, пакуль не аб'явіліся гаспадары. Не, у нас людзі сумленныя.

— Давайце яшчэ да Аляксандры зойдзем... — парашылі члены бытсавета.

Праз два дні ў інтэрнаце адбыўся агульны сход, на якім жыхары судзілі Аляксандру за ўкрадзены гадзіннік. Спачатку яна, як заўсёды, трымалася нахабна:

— Дурніца, не магла схаваць, вось і ўся мая віна, — кінула з усмешкай у адказ на пытанне, як і чаму яна зрабіла гэта.

Але ж цяжка нават і вельмі нахабнаму чалавеку вытрымаць гнеўныя позіркі людзей. І Аляксандра пачала апраўдвацца, выкручвацца:

— Паверце, пажартаваць хацела. Я б сама вярнула той гадзіннік. Навошта мне... Апошні раз гэта...

Бытсавет інтэрната і агульны сход жыхароў вырашылі аднагалосна: «Прасіць фабком і дырэкцыю за неаднаразовыя хуліганскія ўчынкі і пакражу гадзінніка работніцу цэха чысткі сураўя выселіць з інтэрната».

Рашэнне зацвердзілі на заўкоме і ў адміністратыўных інстанцыях.

І ўсё ж праз некалькі дзён Аляксандра зноў паявілася ў інтэрнаце.

Чаму?

Пашкадавалі ў фабкоме, надакучыла ў прыёмных.

— Што ж гэта, Надзежда Сяргееўна, выходзіць, мы толькі на словах гаспадары інтэрната, — прыбеглі да выхавальніцы члены быткома.

— Не, дзяўчаткі, не так. Чалавека ж і выхоўваць трэба, — супакойвала іх Надзежда Сяргееўна.

А ў душы і сама пратэставала: «Каб выхоўваць, трэба не толькі шкадаваць, але і караць».

**Галка і Генка**

Як была, у святочнай сукенцы, Галя кінулася на ложак і заплюшчыла вочы.

«П'яны прыйшоў на спатканне... Уся вуліца глядзела, калі ён, няцвёрда перастаўляючы ногі, ішоў побач, нешта блытана мармытаў...»

Галя ўсё глыбей уціскалася ў падушку, нібы імкнучыся хоць цяпер схавацца ад сораму, што гарачай хваляй паліў твар.

«Ну, пачакай жа, я цябе ў наступны раз сустрэну, такі ад варот паварот пакажу, што дарогу ў наш пасёлак забудзеш, — злосна шаптала яна ў падушку. — Пачакай, пачакай, мой даражэнькі...».

Але побач са злосцю, абурэннем усё больш настойліва гучаў у душы і іншы голас. Успаміналіся вясковыя вечары — веснавыя,

цёплыя, духмяныя летнія, асеннія — залатыя, поўныя салодкага водару сырога лісця, і звонкія, светлыя — зімовыя. Колькі такіх вечароў правялі яны разам, вяртаючыся са школы. Які ж ён, Генка, сапраўды — той, па-хлапечаму адважны, ці вось гэты, адурманены гарэлкай, змяты, чужы, увесь апухлы?

Ад разладу, ад спрэчак з сабой на душы стала яшчэ горш. Галя паднялася з ложка, абгладзіла рукамі плацце і, як заўсёды ў цяжкую ці сумную гадзіну, пайшла шукаць Надзежду Сяргееўну.

Упершыню за час іх знаёмства Галя не згаджалася з цёткай Надзяй. Дзяўчына чакала, што тая па-жаночы пашкадуе яе, паспачувае.

А выхавальніца пачала размову зусім пра іншае.

— У нас у інтэрнаце, вось і ў вас у пакоі, часта цяпер ідуць размовы, а часам і спрэчкі аб тым, які ён будзе, камунізм, як мы да яго прыйдзем. Як жа ты разумееш камунізм? Па-твойму, туды толькі ўзорна-паказальныя адзінкі пападуць? А тых, хто памыляецца, на Марс ці на Месяц перасяляць?

— Дык жа ён п'е... І раней заходзіў падпіўшы, а сёння зусім.

— Што ж ты чалавеку сябрам застаешся толькі калі яму добра? — ці то здзівілася ці засмуцілася цётка Надзя. — Тады сапраўды лепш цяпер кідай хлопца. Жыццё, як надвор'е, не адным сонейкам песціць. І дождж выпадае, і маразы. Эх, Галіна, Галіна, не такой ты мне здавалася...

Засынала Галя яшчэ больш разгубленая. Як жа гэта так? У абарону Генкі паўстала не толькі цётка Надзя, але і Соня, Маша, Ніна. Заўсёды дзяўчаты звярталіся да яе за парадай, згаджаліся, а тут...

Месяцы тры назад і яны так разважалі: калі п'е хлопец — кідай хутчэй, гора не абярэшся, а цяпер...

Не, і цяпер яны супраць п'янства. Але калі яна расказала пра размову з Надзеждай Сяргееўнай, дзяўчаты сталі на бок выхавальніцы.

Амаль тыдзень не бачыла Галя Генку. Не ведала, што ён у гэтыя дні некалькі разоў заходзіў у інтэрнат. І кожны раз дзяўчаты з трыццатага пакоя раілі рашуча:

— Калі хочаш сустрэцца з Галяй — прыходзь цвярозы. Інакш не пройдзеш, мы ўжо і вахцёра папярэдзілі...

...Быццам хтосьці запаліў агеньчыкі ў Галіных вачах, навучыў дзяўчыну смяяцца званчэй і задорней. Ды і як ёй не радавацца: Генку, яе Генку, у апошнія месяцы не ўбачыш п'янага. Зусім іншы стаў хлопец...

Можа і дарэмна расказалі мы Галіну гісторыю. Галя, можна лічыць, ужо і не жыхар у інтэрнаце. Нядаўна сяброўкі згулялі яе вяселле, і маладыя чакаюць наваселля.

### «Прыгожае» жыццё

У дзяўчынкі падкрэслена модная, аж да броваў, грыўка, чорныя то гарэзлівыя, то сумныя вочы. З усіх сваіх сіл семнаццацігадовая дзяўчына імкнецца паказаць, што яна ўжо шмат бачыла і перажыла.

Толькі рукі ў дзяўчыны неспакойныя — дзіцячыя. Увесь час пералічваюць гузікі на блузцы. Толькі рухі ў яе, нягледзячы на паказную развязнасць, часам, як у падлетка, няўпэўненыя. І азіраецца яна навокал, як лясны звярок, які кожнае імгненне гатовы сарвацца і пабегчы.

З маленства Рая марыла аб незвычайным, прыгожым жыцці. У дзіцячым доме быў строгі распарадак: заняткі ў школе і дзяжурства па кухні. Дзяўчынка ж з чорнымі вачыма марыла аб святле сцэны, апладысментах, кветках.

Наогул, гэтае жыццё Рая ўяўляла сабе вельмі прыблізна. Таму, калі ў яе паявілася магчымасць у складзе самадзейнай брыгады паехаць з канцэртам у Кустанай, шаснаццацігадовая дзяўчынка кінула вучобу, ненавісны ёй распарадак і адправілася шукаць «прыгожае» жыццё.

Аказалася, што нават у тых, хто з такой лёгкасцю жангліруе на сцэне, нібы жартуючы, выконвае ў рознакаляровых праменнях пражэктараў акрабатычныя эцюды, — нават у іх дзевяць дзесятых жыцця запоўнена цяжкай працай.

Пасля некалькіх «прыгод» Рая апынулася ў Мінску без капейкі грошай, без спецыяльнасці, без сяброў. Раю ўладкавалі вучаніцай на камвольны камбінат, пасялілі ў інтэрнат.

У дзяўчынкі, што старанна перарысоўвала з часопісаў вячэрнія туалеты замежных кіназорак, не было змены бялізны. Па вечарах яна не давала сяброўкам займацца сваімі справамі, чытаючы вершы Ясеніна і свае асабістыя зарыфмаваныя думкі, расказваючы аб «прыгожым» жыцці і сваім «бліскучым мінулым».

А начамі плакала ў падушку ад таго, што з непрывычкі ўвесь час не змаўкае ў вушах грукат станкоў, што яшчэ ў мінулую нядзелю праела на цукерках сваю невялікую вучнёўскую зарплату, што не кіназоркі, а звычайныя радавыя работніцы апранаюцца лепш за яе, зарабляюць больш.

Злавалася, спрачалася, лаялася. Але Галю, Соню, Ніну — сяброўак па пакою — не так лёгка вывесці з раўнавагі. Заўважыўшы, што Раін запал пачынае спадаць, Галя ці Ніна спакойна пыталі:

— Цяпер можа вячэраць з намі сядзеш? А то заўтра і спрачацца не здолееш.

І заводзілі сваю размову аб тым, што падабраць у падарунак Генку на дзень нараджэння, каб было прыгожа і не вельмі дорага, як нарэшце заклікаць да парадку Байкачову — зноў сёння дзяўчат аблаяла... Добра было б запісацца ў гурток мастацкай самадзейнасці або на курсы кройкі і шыцця...

У гэтых дзяўчат было самае звычайнае жыццё, клопаты, праца.

А яе расказы пра бачанае і выдуманае ўсім хутка надакучылі. І ўсё яшчэ падсмейваюцца з тых, хто ў абедзенны перапынак садзіцца за падручнікі, хто вечарамі замест таго, каб бегчы на танцы, сядзіць за чарцяжамі, Рая неяк нясмела спытала ў сяброўак:

— Дзяўчаты, можа і мне паспрабаваць пайсці ў школу, — і тут жа дадала: — Часова, вядома, пакуль не надакучыць...

— Паспрабуй, — згадзіліся тыя, — толькі ж там займацца трэба...

Другі месяц Рая наведвае сёмы клас вячэрняй школы. Пакуль што — не надакучыла.

* * *

Пяць лёсаў! Выбраныя з пяцісот, яны наўрад ці могуць адлюстраваць усю разнастайнасць змен, што адбыліся за паўгода ў інтэрнаце.

Вядома, можна, гаворачы мовай справаздач, пералічыць, што сёння 25 дзяўчат з інтэрната займаюцца завочна ў тэхнікуме лёгкай прамысловасці і 53 — у вячэрняй школе (а ў мінулым годзе іх былі — адзінкі!). Але нікімі лічбамі нельга перадаць змены, якія штодзень адбываюцца ў характарах, поглядах, звычках пяцісот дзяўчат, што жывуць у інтэрнаце, які паўгода ўжо змагаецца за званне камуністычнага.

**Т. ГОРДЫШАВА,**
**А. МЯЛА.**

**Мінскі камвольны камбінат.**

# З блакнота падарожніка



У добры час!

ZaH
MIROSLAV
ZIKMUND
A
JIŘÍ
HANZELKA

Іржы ГАНЗЕЛКА,
Міраслаў ЗІКМУНД

## ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

### Салёная канкурэнцыя

Вы, хто пацярпеў караблекрушэнне на шхуне, вы, якія на астраўку вывесілі споднюю бялізну, чакаеце адусюль ратунку і прагнеце кроплі прэснай вады, о, як бы загаласілі вы тут, на ліванскім узбярэжжы, дзе зусім не цэняць прэснай вады! Дзе праяўляюць цікавасць толькі да вады марской, хоць яна не толькі салёная, але і горкая. Дзе пад канец сакавіка, ледзь толькі пачне прыграваць сонца, прэсную ваду могуць нават мяцёлкамі сагнаць, каб яна не займала месца...

Калі мы праязджалі па паўночналіванскім узбярэжжы ў сярэдзіне жніўня, мы былі проста ў захапленні. Адразу ж за Трыпалі скалістае ўзбярэжжа заблішчэла мноствам люстэркаў, якія, адбіваючы прамені паўднёвага сонца, кідалі сляпучыя водблікі ў вочы аўтамабілістаў. Нібы сходкі казачнай люстраной лесвіцы, спускаліся паасобныя квадраты і прамавугольнікі глыбока ўніз, да мора, да ўспененага прыбою. На іх круціліся крыллі ветракоў, цягнучы сваю нескончоную песеньку, быццам на нейкіх урачыстых вячорках: круціся-вярціся, мой калаўроцік! Так было пад Эль Каламунам. Каля Энфі люстэркаў стала яшчэ больш, толькі замест прамавугольных рамак тут яны мелі аправы капрызна выгнутыя, ажурныя і таму яшчэ больш рамантычныя... Некаторыя люстэркі аслеплі, па іх блукаюць людзі і скрэбламі зганяюць нешта белае: дзе-ні-дзе гэтую белізну ссыпаюць у мяшкі і па грэблях некуды яе адносяць...

Мы стаім над выпарнымі басейнамі Энфі, і нам сумна глядзець на іх. Люстэркі аслеплі, перасталі круціцца калаўроты, канец рамантычным вячоркам, вецер ужо не раскажа марскіх казак конусам іскрыстай солі. Між крыламі ветракоў прапушчаны ланцуг і замкнуты на замок. З мора вее прыемны ветрык, сонца свеціць так, як у нас пад канец лета, але на тутэйшыя прасторы гэтае сонца ўжо непрадукцыйнае, яно пайшло ў адпачынак. Адпачываюць і басейны, у іх цяпер рознае смецце, якога не чакаў бы тут убачыць чалавек, што хоча пасаліць поліўку чыстай соллю. У басейнах — каменне, мёртвыя матылькі, абломкі галля, высахлая трава, ракавінкі. Тут жа старая бляшанка, вакол яе распаўзлася рудая пляма ржы, якая таксама ніяк не стасуецца з уяўленнем аб снежна-чыстай солі.

Пан Туфік Наамі, з якім мы ўчора пазнаёміліся ў Трыпалі, спрабаваў нас суцешыць, кажа, можна знайсці яшчэ якога-небудзь рабочага, усыпаць у некалькі басейнаў пару мяшкоў солі, а потым перад кінакамерай соль зноў адстаіцца. Але не — мы павінны развітацца з думкай зняць фільм аб солі: калаўроты ветракоў ужо ніхто не зможа закруціць, люстэркам у гэтым годзе ніхто не верне бляску. Мы празявалі сезон...

Ні пан Наамі, ні яго прыяцелі толкам не ведаюць, якой уласна велічыні выпарная плошча басейна. Хвіліну яны раяцца па-арабску; мы толькі разумеем, што іх меркаванні разыходзяцца. Потым Наамі бярэ ў рукі справаздачу прафсаюза саляварац і, на сваё здзіўленне, даведваецца з яе, што памеры басейна большыя, чым ён думаў, у тры з лішнім разы: 336 тысяч квадратных метраў. Але большасць басейнаў — гэта драбнюткія латкі на скалістым узбярэжжы...

Яшчэ не так даўно тутэйшыя жыхары, дробныя ўласнікі капальняў, вялі жорсткую барацьбу з жандарамі і нават з рэгулярнымі часцямі, якія са зброяй у руках прыходзілі разбураць гэтыя сценкі, разбіваць іх кіркай. Хто б мог сказаць, што капальні мелі ў гісторыі столькі нядобразычліўцаў! Туркі знішчалі іх таму, што ліванскія промыслы пагражалі турэцкай саляной манаполіі на Кіпры. У час французскай акупацыі ліванскія капальні сталі соллю ў вачах французскіх пастаўшчыкоў, і яны дамагліся ад улад пасылкі ў Каламун, Энфі і Батрун — галоўныя вобласці саляной вытворчасці — арміі, узброенай кіркамі. Толькі ўжо калі ў час акупацыі Лівана пачаў адчувацца недахоп



Працяг. Гл. № 5, 6, 7 і 11.

солі, уласнікі атрымалі магчымасць адрамантаваць свае сценкі і пусціць у ход ветраныя рухавікі.

### Разувацца?

Можна падумаць, што гэта зусім выгадная справа, калі туркі і французы так імкнуліся зжыць яе са свету. Гэта ж, як кажуць, непрацоўны даход: марскі вецер бясплатна нагоніць табе сыравіны ў басейн, а сонца задарма закончыць вытворчы працэс. Варта паслаць да загародак некалькі чалавек, яны соль зграбуць, ссыплюць у мяшкі і — гатова. Некаторыя выдаткі могуць быць звязаны толькі з рамонтам выпарных басейнаў, ну, вядома, трохі там цэменту...

Пан Наамі глыбока ўздыхае. Не таму, што хацеў бы даказаць адваротнае, не, але ўсё ж трэба прывесці некалькі лічбаў, каб адразу ўсё стала зразумела. Ну, вось: сезон працягваецца толькі пяць месяцаў, ад пачатку мая да канца верасня. За гэты час можна зрабіць сем-восем збораў... З сярэдняга басейна ў сорак чатыры метры збіром за тры тыдні два мяшкі солі, гэта значыць сто пяцьдзесят кілаграмаў. У нас гэта робіцца вельмі нерацыянальна...

Гэта святая праўда. Нават у Паўднёва-Афрыканскім Саюзе, у заліве Салданха, землечарпалкі разраўноўваюць сотні тысяч квадратных метраў прыбярэжных плато, паміж выпарнымі басейнамі будуюцца добрыя камунікацыі, у дадатак да гэтага пускаюцца ў ход магутныя помпавыя агрэгаты — і справа ідзе хутка. Або ў Каліфорніі — адна толькі фірма «Леслі Салт компані оф Нью-арк» штогод абядняе воды Ціхага акіяна на мільён — паўтара мільёна тон солі і выкідвае на рынак соль з гарантаванай чысцінёй — 99,6—99,7 працэнта.

— Вось-вось, — перапыняе пан Наамі свайго субяседніка. — Ва ўсім Ліване мы здабываем з мора ледзьве 15 000 тон. І прытым — самыя дарагія на свеце. Сусветная цана — пяць долараў за тону. І гэта соль чыстая — 98 працэнтаў. Пяць долараў — гэта пятнаццаць з паловай ліванскіх ліўраў. Наша соль больш чым у тры разы даражэйшая — пяцьдзесят ліўраў. І гэта соль нерафінаваная... Па вядомаму чацвёртаму пункту дактрыны Трумэна амерыканцы прапанавалі нам рафінадны завод за 800 000 ліўраў. І адразу ж знізілі цану напалову, калі Германская Дэмакратычная Рэспубліка прапанавала такі ж завод за 120 000 ліўраў. Але мы і гэтага яшчэ не адолеем, і гэта для нас вельмі дарага...

Мы стаім перад старым баракам, бетонная падлога якога тоне ў мазуце, соль тут высушваецца, мелецца і ссыпаецца ў мяшкі. За дзень так высушваецца каля пяці тон солі. «Разувацца? Э, кіньце, — супакойваюць нас рабочыя, калі мы хацелі зняць запэцканыя чаравікі і азіраліся, шукаючы чыстыя драўляныя башмакі. — Крыху бруду не пашкодзіць!»

### ... Усё тая ж песенька!

Некаторыя басейнікі тырчаць на самым краёчку дзіўнай канавы, якая пераразае мыс. Яна глыбінёй у добрых дваццаць метраў, сцены — нібы парэзаны брытвай. Адны мяркуюць, што яе пракапалі франкі, другія прыпісваюць гэтую працу фінікійцам. Так ці гэтак, але тут напэўна была верф. Аб гэтым сведчаць круглыя ямы, дзе стаялі слупы з масіўных ліванскіх кедраў, на якіх потым ладзілі рыштаванні для рамонту або пабудовы суднаў. Дзіўна толькі, што дно верфі цяпер сухое. Але і на гэта мясцовыя жыхары даюць тлумачэнне: з таго часу, як пракапалі Суэцкі канал, паверхня Міжземнага мора быццам апусцілася, але зусім магчыма, што тут разыгралася нейкая зямная драма — тэктанічныя змяненні скальнага падмурку маглі ўзняць дно старадаўняй верфі.

Тут, на ўскраі саляных капальняў, ёсць яшчэ адзін басейн, збудаваны больш грунтоўна, ён уразаецца глыбока ў бераг. Гэта, быццам, купальня фінікійскай царыцы. У бераг яна ўразаецца так далёка дзеля таго, каб ні адзін чужы мужчына не мог убачыць фінікійскую царыцу голай. Не будзем спрачацца. Але тут мог бы быць вельмі добры рэйд для малых суднаў, што прывозілі тавары з караблёў, якія з-за глыбокай асадкі павінны былі заставацца ў адкрытым моры...



З пашы.

Пасля агляду Энфі мы сядзім у пана Наамі за наспех прыгатаванай вячэрай. За сталом шумна, як у вуллі, — у Наамі вялікая сям'я: пяць дзяўчат і хлопчык.

Дзяўчаты прыйшлі ў светлашэрай школьнай форме, яны, як ступенькі, адна за адну меншыя. трое з іх носяць рускія імёны. Старэйшая — Марыя, васемнаццацігадовая студэнтка ліцэя, ахвотна ўзяла на сябе ролю французска-арабскай перакладчыцы, пятнаццацігадовая Ніна замяняе гаспадыню дома і адным позіркам аддае загады па сервіроўцы стала, Тані — дванаццаць год, Каці — адзінаццаць. Яны даглядаюць самых малодшых нашчадкаў Наамі — чатырохгадовую Лону і трохгадовага Селіма.

Размова, вядома, усё яшчэ ідзе вакол солі, як жа інакш, калі мы ў саляным царстве.

— Ведаеце, з канкурэнцыяй па-ранейшаму ўсё тая ж песенька, — скардзіцца пан Наамі, уласнік сушылкі. — Спачатку былі туркі, потым французы. Цяпер нас гнятуць галандцы. Наша вытворчасць можа задаволіць палову ліванскай патрэбы ў солі. Другую палову сюды дастаўляюць галандцы, і іх соль у рознічным гандлі складае палову таго, што каштуе наша, нерафінаваная. А галандская соль чыстая, тонкага памолу, прыгожа запакаваная. Канкураваць цяжка...

Ён узяў сальнічку і падсаліў суп.

Гэта была галандская соль.

### У Ліване

Арабская кухня ўяўляе сабой мешаніну з камбінатарскіх здольнасцей славутых арабскіх матэматыкаў і паэтычнай вынаходлівасці стваральнікаў «Тысячы і адной ночы». Дзіўным цэнтрам гэтай своеасаблівай вытворчасці, якая не спыняецца ні на адзін дзень і ўзнята да рангу мастацтва, з'яўляецца самая маленькая з арабскіх краін — Ліван. Яе назва паходзіць ад арамейскага слова «лабан» — белы, бо гара Гермон на працягу ўсёй зімы пакрыта пластам снегу.

Аднак «лабан» азначае яшчэ малако і адзін з малочных вырабаў, што нагадвае сыраквашу, напітак і сыравіну, якія нічым нельга замяніць у ліванскай кухні.

### Перамога над эгаізмам

Адразу трэба адзначыць, што Ліван — краіна не толькі арабская. Яна яшчэ і неймаверна касмапалітычная. У статыстычным пераліку нацыянальнасцей, якія тут аселі, бадай не будзе недахопу ні ў ісландцах, ні ў папуасах. Такая стракатая палітра спажыўцоў і ліберальная палітыка Лівана ў духу старых фінікійскіх традыцый —

адчыняць насцеж свае дзверы для сусветнага гандлю — сталі прычынай таго, што тут можна купіць прадукты з усіх куткоў свету. Ліван — гэта краіна, дзе нечувана пышна расцвілі высакародныя імкненні чалавека частаваць свайго бліжняга тым, што з пункту гледжання біялогіі з'яўляецца найважнейшым — ежай. Ежай, якая змешчана ў банках і бляшанках самых разнастайных відаў і форм і прыгатавана так, каб спажывец не знайшоў у сабе сілы адмовіцца ад такой праявы людскога альтруізму і бясконца працягваў бы да яе руку. Дзякуючы гэтаму, вы ў Ліване можаце купіць: французскія арцішокі ў кіслым расоле, італьянскія равіолі ў памідорным соку, шатландскія брусніцы, аўстралійскі мёд, хлеб Грэхема ў трапічнай упакоўцы, квашаную капусту маркі «Каапсоль», нямецкія квашаныя агуркі, чэшскія квашаныя агуркі, венгерскія квашаныя агуркі, дацкае масла, японскія крабы, рускую ікру, чэшскую «дэбрэцэнку» — каўбасу з перцам, іспанскія масліны, экспартаваныя ў ЗША, дзе з іх падаставалі костачкі, нафаршыравалі мексіканскім перцам і вывезлі зноў за акіян — у Ліван. І яшчэ бразільскія арэшкі, падсмажаныя і запакаваныя ў бляшанкі ў ЗША (як паведамляе англійскі надпіс на банцы — разам з арэшкамі «запакаваны і водар»).

Проста немагчыма ўявіць, як добрая старая арабская кухня ўстаяла перад гэтым нашэсцем інтэрнацыяналізму на ніве ежы; яна не толькі адстаяла свае пазіцыі, але працягвае квітнець і далей. Чужаземцаў, якія прыязджаюць у гэтую краіну, яна нават прымушае заняцца нечым накшталт гурманскай філатэлістыкі, загарэцца калекцыянерскім азартам, загадзя прымірыўшыся з тым, што прадметы калекцыяніравання беззваротна знікаюць.

Гэтая гульня, — бо, па сутнасці, такое калекцыяніраванне не ўяўляе сабой нічога іншага, — у Ліване называецца медзэ.

### Талеркі, талеркі...

Медзэ паходзіць ад слова «мадза» і азначае смакаванне, дэгустацыю. Гэта мерапрыемства, якое павінна абуджаць у чалавека апетыт.

Медзэ — пастка для языка, але перш за ўсё для вачэй. Да яе адносіцца і цырымонія сервіроўкі, якая нагадвае выступленне жанглёраў.





Кельнеры раскідваюць па стале малюсенькія талеркі да таго часу, пакуль там не застанецца ні пядзі вольнага месца. Правілы гульні вызначаюцца прынцыпам: выберы сам сабе, што хочаш; тое, што падабаецца мне, можа не падабацца табе.

Калі мы прыехалі ў Ліван, знаёмыя перад вячэрай папярэдзілі нас, што ліванскае медзэ складаецца самае меншае з трыццаці страў, а колькі іх ёсць наогул, не ведаюць нават і самі ліванцы. І ў гэтым заключаецца прывабнасць такога калекцыяніравання. Падарожнічаць трэба для таго, каб пазнаваць, каб адшукваць яшчэ не пазнанае. Ну і вядома, для таго, каб пашыраць філатэлістычную калекцыю медзэ.

Пры першым розыгрышы латарэі (гэта адбылося ў рэстаране «Наср», непадалёку ад легендарных Блакітных скал Бейрута) мы ўбачылі на раскінутых двума жанглёрамі талерках наступнае:

Барановы мазгі з карыцай. Смажаныя ныркі. Вэнджаны цялячы язык. Ружовыя крэветкі. Шаманадар (або шамандур) — чырвоную рэпу, квашаную ў воцаце. Сырую пячонку з перцавай мятай. Зялёныя агуркі для салаткі. Квашаную цыбулю. Хубз — тоненькі арабскі хлеб, складзены так, што ён нагадваў пажоўклую ад часу антыкварную кнігу. Недаспелы міндаль. Чырвоную радыску з арабскай назвай фіжль. Хубз-мелі — хлеб, парэзаны дробнымі трохвугольнікамі і падсмажаны на алеі. Смажаную марскую рыбу невядомага паходжання і таму пададзеную пад універсальнай назвай «самах». Смажаны баранавы язык. Семячкі сланечніка. Смажаны баклажан. Зялёныя і чорныя масліны. Карацель — від морквы. Зялёныя стручкі, па смаку ні рыба, ні мяса — баміят, наш добры знаёмы па Сірыі. Смажаныя фісташкавыя арэхі — страшны біч грамадства, бо не знаходзіш у сабе сілы ўстаць з месца, пакуль на талерцы ляжыць хоць адзін арэшак.

Мы адразу падлічылі талеркі — іх было дваццаць. Астатнія проста не змясціліся на стале. Але як толькі якая-небудзь талерка на стале апаражнялася, кельнер, не прымушаючы сябе чакаць, адразу ж уключаў у гульню наступную. Такім чынам, калекцыя папоўнілася новымі, экзатычнымі рэчамі:

Сырымі фігамі па назве «тун». Зацукраванымі фігамі — таксама «тун». Бананамі, Апельсінам, які адзінаўладна панаваў на талерцы. Арахісам, смажаным у солі. Памідорамі. Смажанай каляровай капустай. Стручкамі свежага гароху. Нечым, што нагадвала вустрыц, а на праверку аказалася буйнай шэрай фасоллю з грыбной падліўкай. Вараным рысам з чванлівай назвай «рэз муфасфал».

Калі апаражніліся і гэтыя талеркі і вызвалілі жыццёвую прастору, жанглёры ў белых галабіях прынеслі новыя стравы і засталіся стаяць за крэсламі, цікаўна пазіраючы на нас і добра ведаючы, што нам спатрэбяцца іх прафесіянальныя веды. Бо ні адзін філатэліст не ўключыць у сваю калекцыю рэдкую марку, пакуль спачатку не прааналізуе яе як след, не агледзіць вадзяны знак, не абмерае зубцамерам. Адным словам: пакуль не нацешыцца.

На адной з талерак мы ўбачылі белую масу, падобную да кашы, на ёй плавалі жоўтыя вочкі тлушчу. Нам сказалі, што гэта лабне, нешта блізкае па сэнсу да слова «лабан» — сыракваша. Лабне вырабляецца з сыраквашы і нагадвае па смаку тонка расцёрты тварог, а тое, што плавае наверсе, — гэта сезамавы алей. Вочка гэтага алею блішчала і на другой талерцы, змесціва якой насіла назву «гумус». Кельнер, заўважыўшы блакнот і аловак, пачціва схіліўся над крэслам і зашаптаў так, каб чулі ўсе за сталом:

— Гэта самая любімая страва нашага прэм'ер-міністра.

Потым ён растлумачыў, што гумус прыгатоўваецца з зярнятак такіх вось, як гэты гарох, але ён не сказаў бы, што гэта гарох; па-англійску гэтая расліна называецца «chick peas», вось як. Гэтыя зярняткі вараць, потым раздрабняюць, кашу праціраюць, соляць, дадаюць да яе лімонны сок, пятрушку, сезамавы алей і трохі часнаку. Каша павінна быць не вельмі рэдкай і не занадта густой, якраз вось

гэткай. Кельнер сказаў: «З вашага дазволу...» і, узяўшы са стала лыжачку, паказаў нам, якую вязкасць і эластычнасць павінен мець сапраўдны ліванскі гумус.

Мы потым даведаліся, што «chick peas» — гэта даўно вядомая на Усходзе культурная расліна з сямейства бабовых, нешта сярэдняе паміж вікай і гарохам. Насенне падобна на гарох, толькі больш горкае і не такое круглае.

Назаўтра мы набылі новую марку для калекцыі медзэ. Гэта быў «chick peas», смажаны ў солі, і ў выніку нагадваў цяпер па смаку горкі гарох.

### ... і дары мора

Трыпалі, як і Бейрут, — партовы горад, і тут наша калекцыя даволі салідна вырасла. У Эль-Міне, трыпалійскім порце, нам замест сланечніку прапанавалі гарбузныя семячкі, а замест арахісу, смажанага ў солі, арахіс звычайны. Але затое нам падалі карычневы паштэт з рыбы, укропу і часнаку з падліўкай, якая аказалася майанезам з сезамавага алею і лімоннага соку. На адной з талерак мы знайшлі нешта карычневае і слізкае, што па смаку нагадвала дажджавых чарвей у ёдавай настойцы. Калі мы сказалі гэта нашаму гіду, ён не мог схаваць сваёй радасці — так, так, гэта дар мора, ён называецца «гашыш-эль-бахр». Не, вы не павінны палохацца слова «гашыш», бо так па-арабску называецца ўсякая трава, а гэта трава марская — «халюха».

Але трыпальскай асаблівасцю, незаменнай часткай яе медзэ з'яўляюцца тры стравы з дзіўнымі назвамі: кубэ, жабуле і бабаганус. Для прыгатавання першых дзвюх патрэбна бургулю — раздробненая пшаніца, якая надае стравам смак арэху. Прыгатаванне бургулю — справа марудная, гэта праца для цярплівых гаспадынь. Пшаніцу трэба перабраць, вымачыць і паставіць варыць, сочачы, каб яна толькі памякчэла, але не палопалася. Потым яе сушаць на сонцы і, нарэшце, расціраюць да патрэбнай тонкасці.

Прыгатаваць кубэ, як нам сказалі, нельга, каб пра гэта не даведаліся суседзі. Кубэ — гэта сумесь бараніны, бургулю, вараных яек, цыбулі, солі і перцу, і прыгатоўваецца гэта ў вялікіх грубых ступах, у якіх паасобныя рэчывы патрэбна рытмічнымі рухамі рук дасканала расцерці і перамяшаць. Ледзь пачуецца дзе-небудзь знаёмы рытм ступы, як уся ваколіца ведае, у каго будзе кубэ.

Прыгатаванне табуле — салаты з мяты і пятрушкі — значна прасцейшае. Трэба толькі захаваць правільныя суадносіны абодвух відаў гародніны і раздрабнёнай пшаніцы. Салата мае вельмі моцны пах, перад падачай на стол яе аздабляюць долькамі памідора.

Над трэцяй трыпальскай стравай мы доўга круцілі галовамі. Перад намі была шэраватая кашыца, якая моцна пахла вэнджаным мясам. Кельнер хвіліну пазіраў на нас, а потым павёў на кухню. Там дзесяцігадовы хлопчык-паварчук пёк на адкрытым агні чорна-ліловыя стручкі паслёну. Хлопчык спрытна, нібы фокуснік, перакінуў паслён з рукі на руку, каб праверыць, ці мяккая сэрцавіна, пасля абшкроб прыпаленую лупіну і расцёр абпечаны паслён на шаткоўніцы. Потым шэраватым пюрэ заваладаў яго калега, які дадаў да паслёну солі, сезамавага алею, расцёртага часнаку і паліў лімонным сокам. Калі ласка, гатова...

### Гэта было б не па-джэнтльменску!

— Калі вы хочаце пакаштаваць самую сапраўдную ліванскую медзэ, дык едзьце ў Захлу, — сказалі нам у Бейруце без якога б там ні было мясцовага патрыятызму. Ну, чаму ж не пакаштаваць, Захла якраз па дарозе з Бейрута ў Баальбек.

Шчыра кажучы, істотнага павелічэння наша калекцыя не атрымала. Але з навінак тут былі: квашаныя фінікі, варэнікі з тушанай гароднінай, вялікая белая рэдзька, фалефіл — пякучы перац і скваркі з маладой бараніны, аб якіх Роберт з выглядам знаўцы заявіў, што па смаку яны вельмі нагадваюць смажаных чмялёў. Бабаганус тут быў такі ж прыгарэлы, як у



Трыпалі, але затое — аздоблены гранатамі.

На адной з талерак мы заўважылі свежую зеляніну, якую госці елі з вялікім апетытам. Гэта была мята — расліна, якую мы наўрад ці адважыліся б прапанаваць госцю ў якасці салаты...

— Выходзіць, не дарэмна з'ездзілі ў Захлу...

* * *

— Добра, — скажаце вы, — а дзе ж здымкі да гэтага рэпартажу?

Няма і не будзе.

Бо гэта вельмі не па-джэнтльменску — лезці з фотаапаратам да сатрапезнікаў, якія па ўсходняму звычаю запускаюць рукі ў талеркі, смачна аблізваюцца і ў якіх засалены не толькі бароды, але і вушы.

Гэта было б не вельмі ветліва — фатаграфаваць гаспадара, які, прыставіўшы крэсла спінкай да стала, сеў на яго, расставіўшы ногі, і з незвычайнай цікавасцю глядзіць вам у рот, па-гурманску цешачыся тым, што яго кухарскае майстэрства не прапала дарэмна, што госць па заслугах ацэніць яго старанне.



Трыпалі.

### Фінікі і козы

Мы прыехалі ў Трыпалі, калі фінікавыя пальмы выглядалі, як дзяўчаты ў цырульніка. Як тыя русалкі, прыгажуні, што, апрануўшы сеткі, цярпліва чакаюць, калі высахне мядзяны адліў іхніх валасоў.

Быў канец кастрычніка, і марскі ветрык пагульваў з пальмавымі галінкамі, пад якімі віднеліся вялізныя гронкі пладоў, што наліваліся і цяжэлі пад уздзеяннем часу, вільгаці і сонца. Яны мелі колер медзі, якая толькі хвіліну назад была яшчэ вогненным патокам. Потым мы бачылі на вуліцах людзей з двухколкамі — яны прапаноўвалі прахожым купіць свежыя фінікі. Цудоўных аранжава-чырвоных пладоў, крыху гаркаватых на смак, у такой колькасці ніколі не ўбачыць вока еўрапейскага спажыўца...

Апроч фінікаў, у Трыпалі, дзе восень так падобна да вясны, ёсць яшчэ цікавая старая базарная плошча — «сук»; пабудаваны крыжаносцамі замак над абрывістым берагам ракі Аахр Абу-алі і, нарэшце, мілы шынок братоў Руадзі ў порце Эль-Міна.

Базар тут самы маляўнічы, мітуслівы і самы шумны з усіх іншых у Ліване. Здаецца, што імена тут і пачынаецца сапраўдны Усход. Але, прайшоўшы ім яшчэ раз, не можаш пазбавіцца ад уражання, што ты падглядваеш да суседа ў шчыліну замка́ і бачыш яго ў сподняй бялізне. Тут усюды занадта многа бруду, галечы і людскога ўбоства, каб гэтая карціна магла ўлезці ў рамкі «Швейцарыі Бліжняга Усходу».

Крыху далей за базарам, на якім размясціліся шаўцы, меднікі, гандляры цукрам і прадаўцы кухоннага начыння, правей ад маленькай плошчы Табанэ ёсць нешта накшталт імправізаванага базару. Яго з поспехам можна было б назваць пунктам па ліквідацыі горных коз. У жніўні 1958 года ў суседняй Сірыі быў прыняты закон,



накіраваны супраць біча сірыйскага земляробства, знішчальніц маладых лясных і фруктовых пасадак — коз. Закон быццам бы ставіў крыж на жыццё 1 200 000 коз, але, што значна горш, на прыбытку 200 000 дробных жывёлаводаў: у выніку рэзкага зніжэння цэн яны былі вымушаны прадаваць жывёлу за бясцэнак. Некаторыя пераганяюць коз у Ліван і праз некалькі дзён стамляючага пераходу па горных сцежках прыводзяць свае перапалоханыя чароды проста на вуліцы Трыпалі. Ліван, вядома, не пярэчыць гэтаму прытоку таннага мяса, і трыпальскі спажывец атрымлівае проста ў рукі кілаграм жывой вагі за паўтара-два ліўры — палову звычайнай базарнай цаны...

## Вавілон і Метро — Голдвін — Мейер

Замак, які крыжаносцы пабудавалі ў Трыпалі і ў якім трымаліся цэлых сто восемдзесят гадоў, з'яўляецца, зразумела, крэпаснoй будовай. У Еўропе вы мала знойдзеце замкаў, якія так добра захаваліся б. Ён пануе над усім горадам, узвышаючыся на абрыве, па дну якога цячэ рака Кадыша, што збягае з ліванскіх гор. Замак пабудаваны ў гонар святога Ілы, у ім ёсць грандыёзныя турмы для прыгавораных да галоднай смерці, а ўваходныя вароты зроблены з кедравага дрэва, пакрыты ліставым жалезам і абабіты вялізнымі цвікамі. Больш за ўсё нас зацікавілі гэтыя кедравыя вароты, якія прастаялі ўжо невядома колькі соцень год і яшчэ сёння былі б, відаць, цвёрдым арэшкам для кулямётнай роты...

З цытадэлі, як сказалі нам, аж да берагоў Міжземнага мора вёў амаль трохкіламятровы падземны ход, які меў выйсце ў другой крэпасці — Львіным Замку. Апрача іншых, нас запэўняў у гэтым і юнак у чырвоным світары Афіф Руадзі, які трэніраваўся ў хуткаснай яздзе на шашы, што звязвае Трыпалі з портам Эль-Міна, і з цікаўнасці далучыўся да нас, калі мы шукалі спосабу залезці на дах Львінага Замка.

— Можа вы стаміліся і прагаладаліся? — спытаў раптам юнак пасля таго, як дапамог нам данесці куфар з кінакамерай па крутой лесвіцы замка. — Хадземце да нас вячэраць, — ускочыў ён на сядло гоначнага веласіпеда, — у майго брата ў Эль-Міне рэстаран, там вам прыгатуюць такую смажаную рыбу, якой вы і ў Ліване не каштавалі.

Шынок быў арабскі, хоць браты Руадзі і ўся іх шматлікая сям'я складалася з праваслаўных грэкаў і да алаха не адчувала асаблівых сімпатый. За столікамі, пакурваючы вадзяную трубку або п'ючы каву, сядзелі барадатыя арабы, перад аднымі стаялі талеркі філю — варанай фасолі, палітай алеем з маслін, другія смакавалі рыбу, якая чакала і нас. Афіф падвёў нас да халадзільніка і, адчыніўшы дзверцы, пахваліўся ранішнім уловам. Затым пацягнуў нас на кухню, каб мы самі паглядзелі, як на трох звычайных прымусах гатуецца рыба, смачней за якую няма ва ўсім Ліване.

Аздоба шынка была надзвычайная! Проста над намі вісела цьмяная гравюра на медзі, выкананая, відаць, у Нью-Йорку ў пачатку мінулага стагоддзя — маладой дзяўчыне нізка кланяюцца барадатыя мужчыны ў турбанах. Французска-іспанскі тэкст сцвярджаў, што гэта яўрэйская прынцэса Эстар, якая выходзіць замуж за персідскага цара Ксеркса, каб адвесці ад сваіх адзінаверцаў пагрозу вавілонскага палону. Насупраць, праз стол, вісела іншая Эстар, па прозвішчу Вільямс, якая, седзячы на гушкалцы, спакусліва звешвала свае прыгожыя ножкі проста ўніз, у талеркі гасцей. Не менш прывабныя ножкі былі і ў Элізабет Тэйлар і Авы Гарднер, таксама прадстаўніц царства Метро — Голдвін — Мейер. Побач было некалькі безгустоўных карцін — баварскія замкі і індыйскія пагады.

Наконт смажанай рыбы браты Руадзі ніколькі не перабольшвалі.

Веласіпедыст Афіф, заўважыўшы, што нам падабаецца, кінуўся на кухню заказваць новую порцыю.

Нарэшце ён паставіў на стол кубкі з пахучай кавай і горда заявіў, што гэта сапраўдная арабская кава — кагуа-вія-хэль.

Так мы ўпершыню пакаштавалі кавы з зярняткам кардамону — расліны, якую арабы называюць хэль, або халь, і насенне якой падобна па смаку на імбір.





— Здымак? Калі ласка! — сустрэне вас меднік на базары ў Трыпалі.

Такую каву, быццам бы, п'е ўвесь арабскі свет.

## Кедры

На старонках бейруцкай «Дэйлі Стар» або «Арыенту», што выходзіць на французскай мове, прыблізна праз дзень з'яўляецца партрэт якой-небудзь выдатнай асобы, якая на барту самалёта кампаніі МЕА прыбыла ў Ліван ці адбыла з Лівану. І заўсёды на фоне партрэта павінен быць штурвал, на якім красуецца эмблема кампаніі — зялёны ліванскі кедр. Гэта частка платнай рэкламы.

Кедр вы знойдзеце і на ліванскім дзяржаўным сцягу, і на адваротным баку кожнай ліванскай манеты, і на паштовых марках, і на касцы паліцэйскага, і на нумарным знаку аўтамашыны.

Кедр у Ліване акружаны бясконцай пашанай, хоць, акрамя тых грошай, якія прывозяць турысты, што прагнуць паглядзець, як выглядае гэты кедр, ён не мае ніяка-

га ўжытку. Нават аднаго кубічнага метра кедравага дрэва нельга вывезці з Лівана, дрэва пільна ахоўваецца ўстановай па ахове помнікаў, як найрадчэйшая рэліквія, як астатак таго перыяду, калі для летазлічэння хапала трох лічбаў. І ніколі не верце таму, хто пачне вам сцвярджаць, што з Лівана вывозіцца кедравае дрэва, гэта ён зблытаў кедр з паўднёваамерыканскай кедрэльяй...

У Ліване кожны кедр на ўліку.

### Праз дзве гадзіны будзе восень

Нават заўважыць кедр у Ліване — справа не простая. І хоць яны растуць у чатырох мясцінах, тры з гэтых месц зусім не прыгодны для перамяшчэння мітуслівых матарызаваных турыстаў — у Хадэ эль-Джубе да кедраў трэба ісці пешшу цэлую гадзіну, а перад візітам у кедравы лясочак Джэбель Барух турысцкія бюро папярэджваюць, што вам давядзецца падвергнуцца знясільваючай яздзе на конях. Самай зручнай з'яўляецца, быццам бы, дарога да тых кедраў, што размясціліся купкай у чатырыста штук, і хоць гэты лес называецца па-французску «Les Cedres», але з усіх ліванскіх кедраў гэта самыя ліванскія.

Калі вы паедзеце туды гэтак жа, як і мы, на стыку кастрычніка і лістапада, паездка будзе мець яшчэ адну прывабнасць: на працягу дзвюх гадзін вы непрыкметна пяройдзеце з цёплага бабінага лета ў самую сапраўдную сярэднееўрапейскую восень.

Праз дзесяць кіламетраў за Трыпалі шаша пачынае ўзнімацца ў горы. Яшчэ праз дваццаць кіламетраў перад вамі — казіно «Семіраміда», размешчанае на вышыні тысячы метраў над узроўнем мора. Выраз «над морам» можна прымаць у самым літаральным сэнсе, гладзіна Міжземнамор'я мігаціць зусім побач, на ёй плыве Пальмавы востраў, да порта Эль-Міна накіроўваецца некалькі маленькіх філігранных караблікаў, крыху далей налева — дымяць за Чэкай трубы цэментных заводаў. Адсюль выразна відаць манастыр Дэір Нурые на пляцоўцы ліванскай Сталовай гары, праз якую неабходна было прасвідраваць тунель, каб наладзіць прыбярэжную сувязь паміж Трыпалі і Бейрутам.

Перад вялікімі зашклёнымі тэрасамі казіно «Семіраміда» ў вас з'яўляецца адчуванне, што нехта хутка перагарнуў лісткі календара і вы з ліпеня трапілі ў верасень, наступныя сотні метраў высотнага падзелу імгненна пераносяць вас у кастрычнік, а за Эгдэнам вам усміхнецца лістапад. Клёны і шаўкоўніцы сталі залацістыя, таполі, якія ўнізе, каля мора, і не думаюць аб тым, каб скідаць свае травяніста-зялёныя шаты, тут стаяць напаўголыя, толькі ў верхавінах засталася яшчэ жменька пажоўклых лісткоў, ды і іх вецер штохвіліны страсае на зямлю, і яны падаюць, круцячыся па нябачнай спіралі. О, чароўная восень, прывітанне далёкай радзімы, аж вось куды мы павінны былі ісці за табой, каб ты нагадала нам змену пораў года! А неўзабаве тут выпадзе снег...

### Старшыня саюза састарэлых

Кедры выглядаюць вельмі сумна. Пакрытыя лёгкім налётам іржавага колеру, яны нагадваюць чародку спалоханых горных коз. Тых, якіх мы бачылі ў Трыпалі на плошчы Табанэ, дзе яны дружна збіліся галовамі ў кучу, чакаючы свайго канца. Кедры стоўпіліся ў даліне, на ўскрайку ледніковай марэны, што на сённяшні дзень вызначае самую ніжнюю мяжу, да якой прасунуўся апошні ляднік у Ліване. Калі вы прыглядзіцеся да іх з шашы, яны нагадаюць вам антычны хор, шматлікі сход плакальшчыц, якія галосяць па сваіх нябожчыках.

Учора ў замку святога Ілы мы бачылі моцную браму, якая прастаяла год васемсот. Брама была з кедравага дрэва. Відавочна, што за ім крыжаносцы павінны былі плысці вельмі далёка. Але задоўга да іх былі вядомы выдатныя ўласцівасці гэтага дрэва — і тое, што яно цвёрдае, як камень, і што яно гаркаватае на смак, і што чэрві не праяўляюць да яго цікавасці. За кедравым дрэвам ездзілі і егіпцяне, якія хацелі мець трывалую ўпакоўку для сваіх мёртвых фараонаў. Фінікійцы будавалі з кедру не толькі мачты і рэі, але і ўвесь свой шматлікі флот, на якім яны развозілі кедр сваёй абшырнай кліентуры. Арабы завезлі кедравы матэрыял аж да іспанскай Кардовы, каб там з яго пабудаваць трон для свайго халіфа. З кедру быў пабудаваны храм Саламона ў Іерусаліме. А потым гэтае рэдкае дрэва выкарыстоўвалі як будаўнічы матэрыял і рымляне, і грэкі, і туркі, і крыжаносцы, пакуль ад цудоўных ліванскіх кедраў не засталіся чатыры рэдкія гаёчкі, пакуль кедр не адступіў на паштовыя маркі ды на штурвалы самалётаў, нібы завяшчанне вялікага нябожчыка.



Адзін з кедраў — гэтых «дзядоў, якія не старэюць», мае ў абхваце трынаццаць метраў дзесяць сантыметраў.

Але вы не ўяўляеце, якім свежым, якім маладым выглядае такі тысячагадовы дзед. Кожнай вясною ён прыбяраецца ў тысячы парасткаў і мудра размаўляе з юнцамі, якім усяго толькі шэсцьсот год. Ён не пагарджае і сысункамі — тымі, якім і двухсот няма! І кожны год, не зважаючы на тое, колькі хто кольцаў назбіраў у сваіх векавых целах, яны згодна ўзносяць угару прыгожыя шышачкі, якія, прыўзняўшыся з галін, углядваюцца ў сонца. Паблажліва ўсміхаючыся, мудрым позіркам глядзяць кедры на ліванскіх хлопчыкаў, што дзень у дзень капаюцца ў траве ў пошуках кедравага насення. Яно таксама мае каштоўнасць для турыстаў, бо як жа можна выехаць адсюль, не ўзяўшы з сабой кедравага насення, каб потым пасадзіць яго дома ў садочку і марыць, якім будзе свет, калі вашаму кедру будзе таксама тысяча год?..

У кніжках сказана, што ў 1550 годзе тут налічвалася яшчэ дваццаць восем тысячагадовых дзядоў. У 1660 годзе іх было дваццаць два, у 1696 годзе — шаснаццаць, сёння іх дванаццаць. Нягледзячы на свой узрост, яны не выглядаюць бамбізамі, самыя старэйшыя з іх дасягаюць ледзьве трыццаці метраў. Затое ствол аднаго з іх выглядаў як сем шасэйных каткоў, звязаных у адзін букет. Мы вымералі яго ў поясе — трынаццаць метраў дзесяць сантыметраў. Гэта, відаць, быў старшыня іх саюза састарэлых.

### «А што, калі б яны перасталі быць рэдкасцю?»

Зусім немагчыма дапусціць, што кедрамі не зацікавілася духавенства. Старасць мае нешта агульнае з вечнасцю, а вечнасць — з богам. Можа таму фінікійцы ў Ціры і Сідоне вырэзвалі з кедравых пнёў велізарныя статуі і пакланяліся ім, як сваім багам.

У 1845 годзе на кедры звярнула ўвагу хрысціянская царква ліванскіх маранітаў, патрыярх якой абвясціў кедры «азр-эр-рабам» — божым дрэвам і вызначыў на жнівень урачыстыя богаслужэнні, якія з таго часу адбываюцца пад кедрамі штогод. А самае галоўнае: ён загадаў, каб ніхто нават іголкі кедравай не абламаў, бо кедры — дрэва свяшчэннае і недатыкальнае...

Калі паглядзіш на лысыя схілы вакол, на гэтае безнадзейнае згаленне, якое засталося ад пышных кедравых лясоў, міжволі падума-

еш: як было б цудоўна, калі б тут прыняліся за пасадкі і прыклалі да гэтай справы руку, так, каб была карысць для ўсіх будучых пакаленняў. Але ў Ліване гэта немагчыма.

Калі мы збіраліся ехаць да кедраў, якраз у бейруцкім «Дэйлі стар» на трэцяй старонцы быў надрукаваны артыкул, у якім едка крытыкаваліся бясплanавыя дзеянні ліванскага ўрада, пачынаючы ад архітэктуры гарадоў і канчаючы археалагічнымі даследаваннямі. «Прычынай гэтага з'яўляецца жаданне ліванцаў выкалачваць адусюль як мага больш грошай, прытым самым хутчэйшым спосабам, не азіраючыся на будучае», — пісаў аўтар артыкула.

Мы ўспомнілі гэтыя словы, гледзячы на журботны хор кедраў, адцесненых за каменную сцяну. Сумныя кедры, няма ў вас ніякай надзеі на тое, што нехта спыніць ваша павольнае выміранне, што вас амалодзяць цудоўным эліксірам жыцця, што вакол вас, тысячагадовых, узнімуцца рады маладых, якія пойдуць арганізаваным маршам у наступ на аблыселыя схілы.

Але гэта быў бы ўчынак, карысць ад якога магло б мець толькі пятае, а можа нават дзесятае пакаленне. Заглядваць так далёка наперад — гэта не ў характары цяперашніх ліванцаў!

А што, як турысты перастануць ездзіць у Ліван, калі кедраў там стане многа? Што, калі яны перастануць быць рэдкасцю?...

### Васьмідзесяцігадовая непаседа

На вялікай разложыстай галіне, якая, схіліўшыся над шашой, міжволі стварае рэкламу кедрам, прыбіта дошка з надпісам па-англійску: «Сэндвічы, фотаплёнка і паштоўкі».

У той час, калі мы чыталі гэтую шыльду, у драўляным дамку пад кедрам з рэкламай адчыніліся дзверы, з іх выглянула баба-Яга ў чорным адзенні — сапраўдная вядзьмарка з ліванскіх казак — і завыла на нас па-англійску: «Калі ласка, джэнтльмены, вы можаце ў мяне паабедаць!» У яе быў





У гасцях у бабкі-непаседы.

кручкаваты нос і кашчавыя ногі — ну, сапраўдная баба-Яга. Мы трохі яе спалохаліся і накіраваліся вячэраць у атэль, дзе нам падалі халодны, цвёрды біфштэкс.

Назаўтра нам ужо не хацелася біфштэксаў, і мы вырашылі пазнаёміцца з вядзьмаркай бліжэй. На гэты раз яна назвала нас «хлопчыкамі» і дадала на чыстай англійскай мове: «Заходзьце, у мяне сёе-тое ёсць!»

Набраўшыся адвагі, мы пайшлі да яе абедаць. О, на гэты раз яна здалася нам мілай бабуляй, хоць на ёй і сёння была тая ж чарнакніжніцкая рыза. Але нос у яе быў не такі ўжо і востры, як нам спачатку здалося, яна прыветна глядзела на нас чорнымі вачыма і расказвала пра сябе. Ёй роўна восемдзесят год, нарадзілася яна ў Бастоне, але, вядома, у ліванскай сям'і, там жа пазнаёмілася і са сваім мужам-ліванцам. Ці жывы ён яшчэ? Ну, а чаму ж яму не жыць, увесну яму стукне дзевяноста пяць, можна ўжо ісці ў кампанію з гэтымі тысячагадовымі кедрамі! І ў Амерыцы было не так ужо дрэнна, але, бачыце, радзіма ёсць радзіма!

Бабка-непаседа скочыла на кухню, палезла ў халадзільнік за салам, потым паставіла на праігрывацель з аўтаматычным мяняльшчыкам пласцінкі з амерыканскімі моднымі джазавымі песенькамі.

— Я іх купляю ў Бейруце кожныя два месяцы, бо, ведаеце, я павінна сачыць за духам эпохі, — сказала яна, нібы просячы прабачэння і ставячы нам на стол уласнаручна прыгатаваныя яйкі з салам і віскі з содай.

Потым, не перастаючы гаманіць, развіталася з намі, сказала: «Гуд бай, прыязджайце яшчэ» і, падпёршы рукамі бакі, доўга глядзела на ад'язджаючыя машыны, пакуль мы не зніклі за павароткай.

### Чыгуначная ідылія

Ліван, дзяржава плошчай у 10 000 квадратных кіламетраў, разрэзана амаль на роўныя палавіны шашой, якая вядзе з Бейрута ў Дамаск. З 1948 года, калі арабскі свет пачаў варагаваць з нованароджанай дзяржавай Ізраіль, калі ён высушыў раку нафты, што цякла з Кіркуку ў Хайфу, а Ізраіль у знак помсты закрыў свае порты для перавозкі арабскіх тавараў, шаша Бейрут — Дамаск стала жыццёва важнай артэрыяй. Паўзуць па ёй цяжкія грузавікі з ліванскімі фруктамі для іярданскага Амана і іракскага Багдада, спяшаюцца ў Іярданію цыстэрны з бензінам, з Сірыі па ёй перавозяць тавары, прызначаныя пад пагрузку на караблі ў Бейруце.

Акрамя шашы, горны хрыбет перарaзае яшчэ чыгунка-вузкакалейка. На ёй пануюць ідылічныя парадкі. Ніхто тут не спяшаецца, машыніст і начальнік поезда на кожнай станцыі пагутараць са знаёмымі, падзеляцца навінамі і праедуць яшчэ кавалачак дарогі, да новай станцыі. Ніхто іх не падганяе — пасажыраў тут няма. Вузкакалейка прызначана толькі для перавозкі грузаў, дарога з Дамаску да Бейрута займае цэлы дзень. На некаторых участках шляху поезд убягае ў дзіўныя бетонныя тунелі, пабудаваныя проста на адкрытым месцы. Аказваецца, яны гарантуюць бесперапыннасць руху транспарту зімой, калі тут узнімаюцца снегавыя завеі. На адрэзку ў трыццаць кіламетраў чыгунка і шаша ўзнімаюцца над морам на вышыню тысяча пяцьсот метраў.





### Не забудзьце цёпла апрануцца!

У Ліване няма ніводнага тэатра. Няма нават у сталіцы з паўмільённым насельніцтвам. Французскія іезуіты, праўда, арганізавалі аматарскі калектыў «Маладая Камедыя», які часам выступае для вузкага кола сяброў, але тут працвітае, галоўным чынам, тое «мастацтва», якое прадстаўлена ў кабарэ — іх тут безліч.

Аднак кожнае лета, у ліпені — жніўні, адбываецца цуд. Прыязджае з Рыма камерны аркестр, і музыканты іграюць Моцарта і Баха, Бакерыні і Вівальдзі. Прыязджае парыжская драма «Тэатр Манпарнас» і дае «Ашуканца» Арыстафана, «Федру» Расіна і «Электру» Жыраду. З'яўляецца лонданскі «Балетс Рэмберт» з вялікім аркестрам і танцавальным ансамблем з 32-х чалавек. Прыязджае Нью-Йоркскі філарманічны аркестр — ансамбль, у якім сто чалавек. Дзе ж яны даюць прадстаўленні, калі нават у Бейруце няма тэатра?

У Баальбеку.

У антычным храме Вакха і на гіганцкіх ступенях старажытнага храма Юпіцера, ад якога засталося толькі шэсць сіратлівых калон. Мерапрыемства называецца «Міжнародны фестываль», яно прываблівае не толькі цікаўных і снобаў, але і сапраўдных прыхільнікаў мастацтва, якія могуць ацаніць непаўторную чароўнасць наваколля — руіны старадаўняга Баальбека, ліпеньскія і жнівеньскія ночы на горным плато Бекаа — урадлівай даліне, што ляжыць на вышыні 1 100 метраў, укліньваючыся паміж нагор'ямі Ліван і Антыліван. Падарожнікаў, якія праз увесь дзень задыхаліся ў трыццаціградуснай прыморскай спёцы, тэатральныя праграмы фестывалю папярэджваюць, што яны зробяць добра, калі цёпла апрануцца, ка-



Жыхары Баальбека.

лі да́мы возьмуць з сабой шарсцяное адзенне і вячэрнюю накідку.

У заключэнне фестывалю выступае вялікі ансамбль «Фальклор Лівана» (сто трыццаць чалавек) з вядомай салісткай Фейруз, якая атрымала ў народзе паэтычнае імя — «пасланка зорак».

Дарога да фестывальнага Баальбека займае дзве гадзіны язды з Бейрута. Першая палова дарогі — адны выгіны і лукавіны, другая ж — усё роўна як прамая лінія, праведзеная пад лінейку. На першай вы павінны прабірацца па схілах цудоўнай даліны Нахр эль-Метэн, паміж пышнымі катэджамі з залаціста-жоўтага пясчаніку, якія выглядаюць недабудаванымі, іх роўныя стрэхі аблямаваны мятровай каменнай сцяной. Гэтая густа заселеная паласа паабапал шашы між Баабдай, Алеі і Бхамдунам уяўляе сабой дзяржаву ў дзяржаве. Вілы і палацы пабудаваны на фінансавых махінацыях, іх уласнікі большай часткай багатыя шэйхі, члены каралеўскіх сямей з Саудаўскай Аравіі і Кувейту. Яны не ведаюць, што рабіць з мільённымі даходамі за адно права на здабычу нафты на іх участках.

За Сафарам шаша, пераскочыўшы праз седлавіну, саслізгвае ў даліну Бекаа. Гэта даліна, на паўднёвым канцы якой пачыналася біблейская Зямля Запаветная.

**Вечнасць...**

Слухайце, такога ж не было нават у самім Рыме — што пабудавалі рымляне ў даліне Бекаа ў першым і другім стагоддзях!

Тут быў паказальны пункт экспарту рымскай культуры, сусветная выстаўка імперыі на стратэгічна важным шляху ў Індыю. Калі хочаце, Брусельская выстаўка ў антычным выданні, з той розніцай, што яе наладзіла адна дзяржава. У тыя месцы, дзе некалі фінікійцы ўшаноўвалі свайго бога Бальжаміна, рымскія імператары паслалі адборныя кадры праектыроўшчыкаў і архітэктараў, каб тыя паказалі народу Бліжняга Усходу, што такое Рым. З багатай кагорты спецыялістаў, якія ездзілі па ўсёй вялікай імперыі, ад Егіпта аж да Англіі, ад паўночнай Афрыкі да Палестыны праектаваць храмы, дарогі, акведукі, лазні, масты, плаціны і крэпасці, яны выбралі самых вопытных і далі ім загад прыцягнуць тамашні люд на свой бок. Яны пабудавалі ім нябачанае дагэтуль свяцілішча, ахвяраванае Юпіцеру, Венеры і Меркурыю, і назвалі яго Геліяполіс — Горад Сонца.

Легіянеры, якія пасля адыходу праектыроўшчыкаў узялі на сябе ролю наглядчыкаў за будоўлямі, дастаўшчыкоў і рахункаводаў, хмялелі ў Баальбеку ад шчасця. Яны не маглі нахваліцца цудоўным надвор'ем — ад мая да лістапада сонца, умераны клімат, багацейшыя ўраджаі персікаў, вінаграду, чарэшань, гранатаў, фіг. Яны лічылі месца свайго часовага знаходжання «бесперапынным рымскім святам».

На працягу многіх дзесяцігоддзяў узнікаў тут тытанічны твор людзей — вялікі храм з раскошнымі прапілеямі, з уваходнай каланадай амаль пяцідзесяці метраў у шырыню. Адразу ж за ёй рымляне размясцілі навінку свайго будаўнічага майстэрства — прасторны шасцівугольны двор, які хоць выглядаў вельмі прэтэнцыёзна, але ўсё ж быў навінкай. Унутры накрытай страхою каланады стомленыя паломнікі маглі адпачыць, перш чым увайсці ў вялізны пантэон, у кутках і нішах якога было пастаўлена 240 статуй багоў і багінь — грандыёзны парад усёй рымскай міфалогіі.

А потым падарожнік у вялікім здзіўленні падаў на калені — перад яго вачыма адкрываўся велічны, пышны храм з найвышэйшымі калонамі, якія калі-небудзь стварыў антычны чалавек, твор, які аглушаў і асляпляў сваімі маштабамі і смеласцю думкі, па-майстэрску выразанымі фрызамі і карнізамі, золатам, срэбрам і мармурам.

Храм, збудаваны на штучным узгорку і прысвечаны Юпіцеру, займаў больш 7 000 квадратных метраў, яго тымпанную страху падпіраў лес з шасцідзесяці калон дваццацімятровай вышыні.

На сваім месцы засталося толькі шэсць ветэранаў. Астатнія з падножжа храма змёў смерч стагоддзяў. У пачатку дваццатага стагоддзя археолагі ўмацавалі шасцярых велікан аў жалезнымі і бронзавымі скрэпамі, залілі бетонам і волавам так, каб хоць, прынамсі, гэтыя жаласныя астаткі захаваліся для будучых пакаленняў...

Адгучалі апошнія акорды танца з кошыкамі, пасланка зорак сарвала бурныя апладысменты разнароднай публікі, ступені храма Юпіцера патанулі ў цемры, а пражэктары выхапілі з ночы шэсць стройных калон з багатымі фрызамі і карнізамі. Залітыя морам святла, яны ўзвышаюцца, як прывід. Маўклівыя і ўпартыя. І гордыя: мы вытрымалі, мы перачакалі шаленствы бога падземнага царства — усе гэтыя землетрасенні, мы бачылі неаглядныя натоўпы чалавечкаў, якія імкнуліся знішчыць і нас, і ўсё навокал...

Чалавечкі, якія да гэтага часу цярпліва слухалі музыку і глядзелі на зоры, цяпер бягуць да выхадаў, не звяртаючы ўвагі на веліч вякоў, цiснуцца ў свае аўтамашыны і выццём сірэн дамагаюцца месца ў бясконцым патоку машын, якія бягуць па даліне Бекаа насустрач Бейруту. З вялікай хуткасцю ўсвідроўваецца гэты ланцуг у цемру, наперадзе — бясконцы шнур чырвоных фар, ззаду — кіламятровая вужака агніста-белых двухкроп'яў.

А над бязладдзем паваленых стулаў і каляровых крэслаў з сілонавай абіўкай, па-над кінутымі бутэлькамі з-пад кока-кола, пепсікола, севен-ап узвышаюцца маўклівыя веліканы, акружаныя незямным арэолам зары.

**Любоў і нянавісць**

Любоў да Баальбека — гэта не каханне з першага позірку. Першае ўражанне пакрысе развеецца, а пры другім спатканні ўжо хочацца з сваім партнёры разабрацца, кіруючыся розумам.

Ну вось, напрыклад, вельмі добра, міленькі, што цябе надарылі такім хараством і элегантнасцю, што тваім калонам вызначылі класічныя суадносіны паміж дыяметрам асновы і вышынёй — як адзін да дзевяці з паловай, цудоўна, што твой фрыз аздоблены прыгожымі пальметамі, меандрамі, разеткамі, што над ім змешчаны выскаленыя львіныя морды, каб праз іх пашчы магла сцякаць дажджавая вада са страхі храма — усё гэта добра, але ёсць пытанне: як гэта так зроблена, што кладка сцен і паасобных частак калон выстаяла да гэтага часу не разваліўшыся, хоць у іх няма ні жменькі вапны, ні каліва цэменту, а абодва гэтыя рэчывы будаўнік вельмі добра ведаў? Як высякалі з каменаломні гэтыя гіганцкія каменныя пліты, пастаўленыя на фундаменце храма так, што паміж імі не пралезе нават іголка? А якім чынам даставілі сюды цяжкія калоны з граніту, паходжанне якога і сёння адразу ж можна адгадаць, бо асуанскі граніт не меў сабе роўных? І якім спосабам узнялі велізарныя каменныя глыбы на дваццацімятровую вышыню?

На двары пад сходамі, дзе ў час фестывалю патрэбна размясціць як мага больш сілонавых крэслаў для прэзідэнта, урада і знатных гасцей, ляжыць адзін такі вялізны камень, які перашкаджае ўсім планам. Гэта вуглавы камень з фасаду. Некалі ён упаў з дваццацімятровай вышыні, пашкодзіўшы не толькі трохвугольны шпіль, але і бараду аднаго льва. Важыць ён цяпер прыблізна дваццаць-дваццаць пяць тон. Брыгада з васьмі

рабочых б'ецца над ім ужо трэці дзень, з дапамогай чатырох дамкратаў, кліноў, жалезных рычагоў, бярвенняў рабочыя спрабуюць яго спусціць уніз, адкуль месяц назад яго з неймавернай цяжкасцю ўзнялі сюды, на двор храма Юпіцера. Праз тыдзень яны абяцаюць закончыць сваю работу.

Добра, скажаце вы, але ў рымлян не было дамкратаў, а ўсё ж яны паднялі гэтыя фасадныя пліты, не разбіўшы і не сапсаваўшы іх, на такую вышыню і з дакладнасцю да міліметра пасадзілі іх на галовы карынфскіх калон. Пры гэтым яны ўжывалі, быццам бы, толькі рухомыя вежы з кедравага дрэва. Гіганцкія пліты для фундаменту (949 см даўжынёй, 316 см шырынёй, 282 см вышынёй) адкалвалі не дынамітам, а толькі пры дапамозе драўляных кліноў, даўжынёй прыблізна ў дваццаць сантыметраў. Іх забівалі ў падрыхтаваныя адтуліны, цесна адзін каля аднаго, а потым палівалі вадой. Дрэва набухала і разрывала скалу.

На паўднёвым фасадзе храма Вакха вы можаце заўважыць калону, якая ў час землетрасення 1159 года захісталася, скінула з галавы каменнае перакрыцце са статуяй медузы, з'ехала і абапёрлася аб сцяну храма. Яна так стаіць і сёння — цэлых восемсот год. І не разваліласся, хоць яе ствол складаецца з дзвюх частак.

Каля паўднёвага фасаду храма Вакха ляжыць безліч такіх каменных цыліндраў, па іх можна вывучаць рымскую будаўнічую тэхніку. Кожная аснова каменных валоў, якія павінны былі змацоўвацца пры мантажы, дасканала адшліфавана. Апрача таго, у сярэдзіне кожнага вала выбіты чатырохвугольныя адтуліны, у якія ўстаўляліся жалезныя або бронзавыя прызмы — злучальныя ўтулкі. У асновах цыліндраў можна ўбачыць выемкі, праз якія ў месца спайкі залівалі расплаўленае волава ў якасці гарантыі цэласнасці.

Цікава, што якраз гэтая тэхніка і стала фатальнай для пабудоў храма. Арабы, якія ўварваліся сюды ў сёмым стагоддзі, знайшоўшы ў спайках жалеза і бронзу, валілі калоны толькі дзеля таго, каб



завалодаць металам, які быў патрэбны ім для вырабу зброі.

Цяжка сказаць, хто з заваёўнікаў нарабіў тут большай шкоды. Можа, візантыйскія сяляне, якія ад нянавісці да язычаскіх рымскіх багоў непрымірыма знішчалі пабудовы, валілі калоны і самыя прыгожыя з іх адвозілі ў Канстанцінопаль, у храм Божай мудрасці? Або арабы, якія на руінах найвялікшага ў свеце рымскага храма пабудавалі пачварную крэпасць? Або крыжаносцы, якія ў сценах Геліёпаля вялі жорсткія баі з магаметанамі? Ці можа ўнук Чынгісхана Хулагу, які загадаў падпаліць горад з усіх бакоў? Ці можа сам Тамерлан, які збудаваў вакол Баальбека піраміды з галоў пераможанага насельніцтва?..

У час свайго падарожжа па асманскай імперыі ў 1898 годзе ў Баальбек завітаў германскі кайзер Вільгельм. Горад уяўляў сабой жаласнае відовішча, гэта былі проста вялізныя каменныя руіны, адкуль той, хто не ленаваўся, вывозіў, што яму было трэба. Вярнуўшыся ў Берлін, Вільгельм паслаў у Баальбек вялікую групу археолагаў. На працягу некалькіх год яны расчысцілі наносы, засцераглі збудаванні храма ад далейшага разбурэння, і, што змаглі, паставілі на сваё месца. Іх справу па рэстаўрацыі працягвалі потым французскія археолагі.

Але разбурэнне Баальбека не спынілася.

Нам паказалі на ўнутраных сценах храма Вакха некалькі месцаў, куды ў ліпені 1958 года трапілі артылерыйскія снарады, Баальбек бамбардзіравалі з паветра. Каманду аб гэтым аддаў прэзідэнт Шамун — за паўстанне супраць ліванскага ўрада, якое закончылася вядомым запрашэннем «на дапамогу» Шостага флоту і амерыканскай інтэрвенцыяй у Ліване.



Каля ўваходу ў храм Вакха.

### Самыя вялікія «цагліны»

Пры думцы аб Баальбеку напрошваецца вывад, што яго будавалі фанатыкі, людзі, апантаныя гігантаманіяй. Людзі, якія займаліся самакатаваннем, адчуваючы ўнутраную патрэбу загладзіць нейкае страшнае злачынства іменна тым, каб пакараць сябе і сваіх саўдзельнікаў звышчалавечай, знясільваючай працай. Там, дзе можна пакласці сто каменяў кладкі, яны пакладуць адзін вялізны, бо звязанае з гэтым намаганне будзе не ў сто, а ў тысячу разоў большае.

І да сённяшняга дня вы можаце ўбачыць гэта на лесвіцы, якая вядзе да храма Юпіцера, яна складзена не з асобных ступеняў, а з гіганцкіх трохвугольных прызм, у гіпатэнузах якіх высечана адзінаццаць або трынаццаць ступеняў. Кожны з гэтых лесвічных паўфабрыкатаў важыць каля чатырохсот тон. Ці не было гэта шаленствам?

Або ўзяць фундамент паўднёвага фасада храма, дзе на каменнай абліцоўцы штучнага дваццацімятровага ўзгорка паставілі статую Юпіцера. Там каменныя пліты маюць даўжыню амаль дзесяць метраў. Але гэта нішто ў параўнанні з так званым Трохкаменем, Трылітонам, які знаходзіцца ў паўночна-заходнім вугле Акропаля. Большасць турыстаў, якія аглядаюць Баальбек у тэмпе, вызначаным турысцкімі агенцтвамі, Трылітона нават не ўбачаць. А знаходка яго ў свой час выклікала здзіўленне ўсяго свету археолагаў. Быў нават перыяд, калі Баальбек называўся горадам Трохкаменя.

Па вузкай шчыліне паміж паваленых калон мы прабраліся аж да верхняй грані трэцяга ад вугла каменя, адзінага, які зверху агалены. За дзвесце сантыметраў ад грані ён ужо таксама пакрыты асыпкам, каменем і глінай. Калі яго змералі перад абвалам, была

ўдакладнена яго шырыня: 365 сантыметраў. Гэта яшчэ самая меншая велічыня. Вышыню мы зверылі ўласнаручна самаробным адвесам — прывязаным на вяровачцы каменьчыкам: 434 сантыметры. Па даўжыні камяні адрозніваюцца. У першай, вуглавой, пліты — 1 910 сантыметраў, у другой — 1 930, у трэцяй — 1 956 сантыметраў. Прыблізная вага кожнага з каменных маналітаў — 830 000 кілаграмаў. Гэта самыя большыя «цагліны», якія калі-небудзь былі пакладзены чалавечай рукой у муроўку.

### Камень цяжарных і астранаўтаў

Каменаломня, адкуль былі прывезены гэтыя пліты, на шчасце, недалёка ад Баальбека — каля кіламетра. Некалькі дзесяткаў крокаў ад бензазаправачнай станцыі Шэл пры ўездзе ў горад. Ну, каменаломня, і што з гэтага? — маглі б вы задаць пытанне. Дык вось, гэта каменаломня, з якой па сённяшні дзень звязан сусветны рэкорд. Вы можаце ў ёй убачыць найбольшы будаўнічы камень, які калі-небудзь быў апрацаваны рукой чалавека.

Камень тырчыць са схілу наўскасяк, ён дасканала абчасаны з усіх бакоў, адзін яго канец да гэтага часу злучаны са скалой, варта было толькі зрушыць яго з падарожжа і вывезці на будаўнічую пляцоўку. Яго велічыня? Вышыня — 420 см, шырыня — 480 см, даўжыня 2 150 см. Аб'ём — 433,44 кубічных метра. Вага — 1 084 тоны. Камень называюць Хаджар эль-Хубла — Паўднёвы камень, бо ён звернуты на поўдзень, у бок Мекі. Але завуць і Хаджар эль-Губла — камень цяжарных, відаць, паводле акруглых форм навакольных каменняў.

Стаіш у нямым здзіўленні, а ў галаве ўзнікаюць дзіўныя пытанні. Што гэта было: гігантаманія? Самабічаванне? Жаданне ўстанавіць сусветны рэкорд? Ці, можа, гэта быў урачысты гімн у гонар чалавечага розуму і чалавечай працы?

Адзін археолаг падлічыў, што на дастаўку каменя на геліёпальскую будаўнічую пляцоўку спатрэбіліся б аб'яднаныя намаганні сарака тысяч чалавек.

Праз некалькі дзён, калі мы кідалі развітальныя позіркі на адплываючыя ад нас шэсць калон Юпіцера, у бейруцкім друку з'явіўся здымак Каменя цяжарных з надпісам пад ім, што гэты камень вычасалі больш мільёна год назад старажытныя астранаўты, насельнікі невядомай планеты. Перш чым пакінуць Зямлю, яны знішчылі лішак ядзернага паліва, што пацягнула за сабой гібель двух біблейскіх гарадоў — Садома і Гаморы. Дзеля старту з Зямлі астранаўты нібы выкарысталі «стартавую пляцоўку» ў Баальбеку.

Сваю гіпотэзу аўтар абгрунтоўвае, па-першае, радыёактыўнасцю рэчыва, знойдзенага ў Лівійскай пустыні, па-другое, археалагічнымі даследаваннямі ў Ліване і, нарэшце, данымі з біблейскіх звіткаў, знойдзеных на паўночна-заходнім беразе Мёртвага мора.

Паведамленне падхапілі ўсе сусветныя агенцтвы, а праз дзень у ліванскім друку з'явілася папраўка. Апісваемая падзея, бышцам бы, адбылася не мільён год назад, а дзве тысячы, у эпоху рымлян.

Арганізатары Баальбецкага міжнароднага фестывалю імгненна запрасілі аўтара надпісу на бясплатную месячную паездку ў Ліван і цяпер выхваляюцца: ні Нью-йоркская філармонія, ні славутая Фейруз, пасланка зорак, не змаглі б прывабіць на фестываль столькі цікаўных, колькі «старажытныя астранаўты».

— Гэта трэба паглядзець, — будуць сёлета гаварыць турысты каля Каменя цяжарных, — адсюль стартаваў першы міжпланетны карабель з экіпажам незямных істот. Ну, вядома, такі камень не маглі б зрабіць звычайныя людзі...

Пераклад з чэшскай мовы
А. МАЖЭЙКІ.

(Працяг будзе)



Б. РОЗЕН,
кандыдат хімічных навук

# ПЕРААДОЛЬВАЮЧЫ НЕМАГЧЫМАЕ

### «Чарадзейны» абрус

Перад вамі абрус з яркім, прыгожым узорам. Ён сатканы са звычайных тэкстыльных валокнаў. Незнарок вы разлілі на яго чарніла або расліннае масла ці віно. І дзіўна — яны не пакінулі плям на гэтым незвычайным абрусе. Дробнымі, калі вы паднімеце яго за ражкі, пацеркамі вадкасць скоціцца з абруса.

Што ж надае гэтай тканіне такія цудоўныя ўласцівасці? Аказваецца, яна апрацавана спецыяльнымі гідрафобнымі саставамі. Некалькі гадоў таму назад гэтыя саставы прыгатавалі савецкія хімікі доктар хімічных навук Б. Доўгаў і кандыдат хімічных навук М. Варанкоў з новых сінтэтычных рэчываў — крэмнійарганічных палімераў.

Тканіна, апрацаваная гэтымі цудоўнымі саставамі, трымае на сваёй паверхні вадкасці і пасля мыцця яе ў гарачай вадзе. У касцюме з гэтай тканіны можна хадзіць пад праліўным дажджом і не прамокнуць.

У абутку, апрацаваным цудадзейнымі растворамі, можна смела хадзіць па лужах і па талым снезе, не рызыкуючы прамачыць ногі. Не страшна ў такім абутку хадзіць і па гразі. Пратрыце ваш чаравік або туфель мокрай анучкай, і ад гразі не застанецца і следу. Абутак будзе такі ж чысты, бліскучы, як і раней.

Нябачная «браня», ахоўваючы тканіну і скуру ад вільгаці, не перашкаджае пранікненню паветра. Нага ў абутку, апрацаваным гідрафобнымі саставамі, «дыхае», не горш, чым у звычайным абутку.

А які зручны будзе посуд, змочаны водаадштурхоўваючымі вадкасцямі! Талеркі, кубкі, сподкі, шклянкі не трэба выціраць ручніком, — дастаткова толькі спаласнуць іх цёплай вадой. Вада не прыстане да іх сценак, пакрытых ахоўнай плёнкай.

Кожны шафёр і аўтааматар ведае, як цяжка ездзіць у аўтамабілі ў час вялікага дажджу. Дажджавыя кроплі расцякаюцца на назіральным шкле. Мала дапамагае і «дворнік», які разганяе вадзяныя кроплі па шкле. Ды ён нязручны, бо ўвесь час мільгаціць перад вачыма.

Калі ж назіральнае шкло аўтамашыны пакрыць тонкім слоем гідрафобнай вадкасці, то кроплі дажджу не расцякуцца па шкле, а будуць знімацца паветраным патокам.

Большасць лакаў і фарбаў, якімі карыстаюцца для аховы металаў ад іржы, дрэва і каменя ад разбуральнага дзеяння вільгаці

і паветра, з часам робяцца цьмяны-мі, трэскаюцца і асыпаюцца.

У вялікіх прамысловых гарадах фасады дамоў хутка трацяць свой прыгожы выгляд: яны робяцца цьмянымі ад дыму, які ўтрымлівае сярністы газ і іншыя шкодныя прымесі.

Тонкая плёнка крэмнійарганічнага палімера, якая ўтвараецца пры апрацоўцы фасадаў будынкаў гідрафобнай вадкасцю, на доўгія гады захоўвае іх прыгожы выгляд. Гэтую ахоўную плёнку не разбурае ні дождж, ні сонца, на яе не дзейнічаюць вецер і снег, ёй не страшны і люты мароз.

Некалькі гадоў назад у Ленінградзе гідрафобнай вадкасцю былі апрацаваны фасады шэрагу жылых дамоў, грамадскіх памяшканняў і школ. Іх і цяпер лёгка пазнаць сярод іншых па свежасці афарбоўкі.

Ні ў адной краіне ў свеце не будуюць так хутка і так многа, як у нас. Сотні тысяч дамоў, дзесяткі тысяч новых вытворчых памяшканняў, тысячы новых школ, бальніц, клубаў будуць узведзены да 1965 года ў розных канцах нашай неабсяжнай Радзімы.

Цяжка нават падлічыць, якую велізарную эканомію атрымае наша народная гаспадарка, калі фасады новых будынкаў будуць апрацаваны гідрафобнымі вадкасцямі.

### Пры любой тэмпературы

Зімой шафёру з вялікай цяжкасцю ўдаецца завесці матор. Вось вадзіцель з сілай паварочвае рукаятку. Раз, два, тры, чатыры... але матор не заводзіцца. Шафёр залівае ў машыну гарачую ваду. Але і яна не дапамагае. Таму часам карыстаюцца факелам, каб разагрэць рухавік.

Дзе ж тут прычына? Аказваецца, на холадзе змазка робіцца густой, яе вязкасць павялічваецца ў дзесяткі і нават сотні разоў. Пры тэмпературы мінус 37 градусаў, напрыклад, вязкасць павялічваецца больш чым у дзве тысячы разоў. А застылая змазка перашкаджае свабоднаму вярчэнню рухавіка. Вось таму і даводзіцца грэць матор, затрачваць шмат намаганняў, каб прывесці яго ў дзеянне.

Дрэнна пераносіць машыннае масла і высокую тэмпературу: яно становіцца вельмі вадкім. Амаль у дзесяць разоў памяншаецца яго вязкасць пры тэмпературы 100 градусаў.

Вадкія крэмнійарганічныя змазкі не баяцца ні спёкі і ні холаду, яны нармальна выконваюць сваю службу пры тэмпературы мінус шэсцьдзесят градусаў і пры плюс дзвесце градусаў. Таму імі змазваюць не толькі рухавікі аўтамабіляў і самалётаў; іх выкарыстоўваюць як змазку для шарыкавых і роліkавых падшыпнікаў у машынах, якія працуюць з нагрэтым паветрам.

Кожны вадзіцель аўтамабіля ведае, што гумавыя дэталі «не любяць» бензіну і масла. А вось крэмнійарганічная змазка не толькі не псуе гуму, а наадварот, захоўвае яе ад зношвання.

Незаменная гэтая змазка і для помпаў, якія падаюць гарачую ваду, кіслату і шчолач. Яна не паддаецца шкоднаму дзеянню гэтых вадкасцей.

У некаторых працэсах перапрацоўкі нафты і пры сінтэзе розных арганічных рэчываў у хімічнай вытворчасці неабходна падтрымліваць у апаратах раўнамерную тэмпературу ў 300—400 градусаў. Ні вада, ні іншыя арганічныя вадкасці тут не падыходзяць: яны кіпяць або распадаюцца пры такіх высокіх тэмпературах. Крэмнійарганічныя палімеры ў гэтых умовах служаць верна і надзейна. Яны не толькі не разбураюць жалеза, сталь, медзь, алюміній, а наадварот, ахоўваюць іх ад карозіі. Добра паказалі сябе ў якасці трывалых антыкаразійных пакрыццяў крэмнійарганічныя лакі з дабаўленнем графіту і цынкавага пылу.

Іржа — злейшы вораг металаў. Падлічана, што кожны год ад іржаўлення жалезных ферм мастоў, чыгуначных рэек і іншых канструкцый разбураецца больш дваццаці працэнтаў сусветнай здабычы жалеза. Крэмнійарганічныя пакрыцці і плёнкі памогуць падоўжыць тэрмін службы жалезных і сталёвых канструкцый і зберагчы сотні мільёнаў рублёў.

### Людзі кажуць «дзякуй»

На хлебазаводах перад кожнай выпечкай формы змазваюць раслінным маслам або якім-небудзь тлушчам, каб не прыставала цеста. Калі ж формы змазваць крэмнійарганічнымі вадкасцямі, дык адной формай можна карыстацца дзвесце разоў. Выходзіць, і тут велізарная эканомія! На нашых жа хлебазаводах выпускаюць у дзень сотні тысяч боханаў жытняга і пшанічнага хлеба. Хімічная змазка бясшкодная, яна павышае прадукцыйнасць працы пекара, аблягчае яго працу, зберагае харчовыя тлушчы. Нездарма пекары гавораць «дзякуй» хімікам, якія стварылі цудоўную змазку.

Нямала каштоўных паслуг аказвае цудадзейная вадкасць вінаробам, цукраварам і фармацэўтам.

У цукровай вытворчасці і пры вырабе многіх каштоўных лячэбных прэпаратаў — пеніцыліну, стрэптаміцыну, граміцыдзіну даводзіцца выпарваць вялікія колькасці вадкасцей, каб выдзеліць з іх у чыстым выглядзе гэтыя рэчывы. Пры выпарванні раствораў утвараецца многа пены. Яна перашкаджае правільнаму ходу тэхналагічнага працэсу, выклікае лішні расход паліва, прымушае павялічваць аб'ёмы катлоў і апаратуры.

Як пазбавіцца ад пены? Гэтая праблема даўно хвалюе інжынераў і вучоных. За апошні час распрацавана нямала розных спосабаў барацьбы з гэтым злом, нямала прапанавана і розных пенагасіцеляў. Большасць з іх дарагія і мала эфектыўныя.

І тут перавагу атрымалі крэмнійарганічныя палімеры. Дадаўшы літаральна некалькі кропель крэмнійарганічнай вадкасці да раствору (адна частка на мільён частак раствору), можна цалкам папярэдзіць яго ўспеньванне.

Крэмнійарганічныя пенагасіцелі паспяхова прымяняюцца і ў вытворчасці змазачных маслаў і сінтэтычнага каўчуку, пры варцы тлушчаў, пры вырабе згушчанага малака. Выкарыстанне гэтых цудоўных вадкасцей настолькі разнастайнае, што іх можна сустрэць і на ліцейным заводзе, і ў халадзільніку, і ў касметычным кабінеце.

Змазка пясчаных форм крэмнійарганічнай вадкасцю забяспечвае добрае аддзяленне гатовых адліваk. Асабліва вялікія выгады абяцае прымяненне такіх вадкасцей для прэцызійнага (вельмі дакладнага) ліцця. На адну тону ліцця выдаткоўваецца каля 70 кілаграмаў крэмнійарганічнай вадкасці, а атрымліваецца больш трох тысяч рублёў эканоміі, таму што адпадае неабходнасць апрацоўкі дэталей.

Нярэдка каўбаса, шынка, бітая птушка прымярзаюць да паліц халадзільніка. І тут на дапамогу прыходзіць крэмнійарганічная вадкасць. Калі прамазаць ёю паліцы халадзільніка, гэтага не здарыцца.

Як толькі надыходзіць лета, тысячы людзей едуць на пляжы, у лес, у поле — купацца і загараць. Аднак не ўсім аднолькава карысныя гарачыя прамені сонца, не да ўсякага твару падыходзіць загар, не да ўсякай скуры ён прыстае.

Некаторым людзям даводзіцца нават змазваць скуру спецыяльным крэмам супраць загару. Такія крэмы да гэтага часу выраблялся на вазеліне або ланаліне. Цяпер іх паспяхова замяняюць крэмнійарганічныя вадкасці, якія добра пранікаюць у скуру, не пакідаючы на яе паверхні адчування тлушчу. Гэтая якасць асабліва каштоўная пры масажы.

Крэмнійарганічныя вадкасці, якія так паспяхова прымяняюцца ў быту і ў розных галінах народнай гаспадаркі, валодаюць рознай вязкасцю. Адны з іх амаль не адрозніваюцца па шчыльнасці ад вады, другія нагадваюць масла, а трэція — густыя сіропы.

### Хімікі перабудоўваюць малекулы

Прайшло каля трох дзесяткаў год, калі ў нашай краіне пачалі выпрацоўваць штучныя смолы і пластмасы.

Цяпер няма бадай ні адной галіны прамысловасці, дзе б не

прымяняліся пластмасы. Яны трывала ўвайшлі і ў наш ужытак.

Падшыпнік у магутным пракатным стане, чаўнок у ткацкім станку, корпус тэлевізара і радыёпрыёмніка ў вашым пакоі, прыгожы гузік на вячэрнім плацці, небіткое шкло ў самалёце — усё гэта зроблена з пластмас.

Сямігадовы план, адкрываючы велічныя перспектывы развіцця народнай гаспадаркі краіны, ставіць задачу рэзкага павелічэння вытворчасці пластычных мас.

На нашых заводах цяпер выпрабляецца шмат розных відаў сінтэтычных матэрыялаў. Адны з іх гнуткія і эластычныя, як гума, другія трывалыя, як сталь, трэція — не баяцца шчолачаў і кіслот.

Але ў большасці пластычных мас і арганічных палімераў ёсць вялікі недахоп — малая цеплаcтойкасць. Пры тэмпературы 130—150 градусаў яны плавяцца і часта разбураюцца. Гэта абмяжоўвае іх прымяненне. У той жа час прамысловасці патрэбны танныя, лёгкія і цеплаcтойкія матэрыялы.

Гэтая праблема даўно стаіць на парадку дня ў хімікаў. Але вырашыць яе ўдалося параўнальна нядаўна пры дапамозе крэмнійарганічных злучэнняў.

Усе пластмасы і «хімічныя» валокны, якімі мы карыстаемся уяўляюць сабой палімеры, гэта значыць, гіганцкія малекулярныя «пабудовы». Малекулы-волаты па сваёй архітэктуры нагадваюць сеткі, складзеныя з малекулярных ланцужкоў рознай даўжыні. Малекулярныя ланцужкі складаюцца ў сваю чаргу з соцень, тысяч і нават дзесяткаў тысяч малекул.

Малекулы пластычных мас і «хімічных» валокнаў пабудаваны галоўным чынам з атамаў вугляроду, вадароду і кіслароду. Здольнасць вугляродных атамаў нанізвацца адзін на другі і ўтвараць доўгія ланцужкі і стварае магчымасць атрымліваць вялікую колькасць разнастайных палімераў. У малекулах палімераў атамы вугляроду ўтвараюць як бы шкілет або каркас, а атамы іншых элементаў як бы «нарастаюць» на гэтым вугляродным касцяку.

Вывучаючы ўласцівасці розных арганічных палімераў, вучоныя прыкмецілі, што палімерныя малекулы пры награванні распадаюцца — спачатку на буйныя аскolкі, а затым і зусім разбураюцца. Аказалася, што ў слабай цеплаcтойкасці палімераў вінаваты атамы вугляроду. Пад уздзеяннем цяпла яны хутка акісляюцца, і стройная малекулярная пабудова ператвараецца ў груду абломкаў.

Выходзіць, што недастатковая цеплаcтойкасць арганічных палімераў абумоўлена іх прыродай. Значыць, каб павысіць супраціўленне арганічных рэчываў дзеянню цяпла, неабходна змяніць іх прыроду.

Мы жывём у такі век, калі чалавек смела і паспяхова перайначвае прыроду, ствараючы новыя моры і штучныя планеты. Не здзіўляе нас і стварэнне новых матэрыялаў з уласцівасцямі, якіх няма ў прыродных рэчываў. Хімікі ўжо маюць багаты вопыт стварэння цудоўных сінтэтычных матэрыялаў.

Па якому ж шляху павінны пайсці хімікі, каб пазбавіць арганічныя палімеры ад іх «прыроджанага» недахопу, каб прымусіць іх не баяцца агню, каб павысіць іх цеплаcтойкасць?

Відаць, неабходна было ўвесці ў іх малекулы атамы такіх элементаў, якія здольны былі б утвараць трывалыя малекулярныя «пабудовы», што не разбураюцца пад уздзеяннем высокіх тэмператур.

Дзе ж шукаць такія элементы? У царстве каменняў і мінералаў, у свеце неарганічнай прыроды.

Найбольш распаўсюджаны ў прыродзе элемент — крэмній. Больш дваццаці пяці працэнтаў зямной кары прыпадае на долю крэмнію. Накшталт вугляроду, які з'яўляецца асновай усяго жывёльнага і раслiннага свету, крэмній выступае галоўным элементам у свеце неарганічнай прыроды.

Злучэнні крэмнію вельмі трывалыя. Яны не разбураюцца пад уздзеяннем кіслот, за выключэннем плавікавай, не баяцца ніякіх хімічных рэакцый.

Крэмніевыя злучэнні вельмі тэрмастойкія — нават пад ціскам у сто атмасфер яны вытрымліваюць тэмпературу 500 градусаў.

Найбольш устойлівыя крэмніевыя злучэнні — кварц і яго разнавіднасці: горны крышталь, пясок. Чысты кварц плавіцца толькі пры тэмпературы ў паўтары тысячы градусаў.

Малекулы крэмніевых злучэнняў пабудаваны так, што атамы крэмнію ў іх чаргуюцца з атамамі кіслароду. Пры награванні на паветры гэтыя рэчывы не акісляюцца, таму што атамы крэмнію ўжо звязаны з атамамі кіслароду.

Тая ж карціна наглядаецца і ў крэмнійарганічных злучэннях. Асновай іх малекулярнай будовы служаць ланцугі, скаваныя нябачаным кавалём з атамаў крэмнію і кіслароду, а яны пры награванні не могуць акісляцца, і, значыць, разбурацца.

Групы атамаў вугляроду, якія прысутнічаюць у малекулах крэмнійарганічных злучэнняў, знаходзяцца ў бакавых ланцугах. Таму іх акісленне не выклікае разбурэння ўсёй гіганцкай малекулы палімера.

**Барацьба за даўгавечнасць**

«Камунізм — гэта савецкая ўлада плюс электрыфікацыя», — гаварыў У. І. Ленін.

Выконваючы запавет вялікага Леніна, савецкі народ за гады пяцігодак пабудаваў магутныя гідраэлектрастанцыі і цеплавыя электрычныя станцыі. У самых аддаленых кутках нашай Радзімы ўспыхнулі яркім святлом электрычныя агні. Электрыфікаваны ўсе гарады і амаль усе рабочыя пасёлкі. Больш трэці калгасаў маюць ужо электрычнае асвятленне.

У 1959 годзе вытворчасць электраэнергіі ў нашай краіне вырасла больш чым у 200 разоў у параўнанні з 1913 годам. Адна толькі Куйбышэўская гідраэлектрастанцыя выпрацоўвае цяпер электраэнергіі ў пяць разоў больш, чым давалі ўсе электрастанцыі дарэвалюцыйнай Расіі.

Шырокая электрыфікацыя ўсёй народнай гаспадаркі патрабуе вялікай колькасці трывалых і даўгавечных ізаляцыйных матэрыялаў.

Статыстыка паказвае, што прычынай большасці аварый электрарухавікоў, электрычных машын і апаратаў служыць разбурэнне ізаляцыі. Тысячы электрарухавікоў заўчасна выходзяць са строю з-за недастаткова надзейнай электраізаляцыі. А гэта ў сваю чаргу выклікае дадатковыя выдаткаванні на капітальны рамонт, прыносіць прадпрыемствам вялікія страты з-за вымушанага прастою станкоў і абсталявання.

Падлічана, што сярэдні тэрмін службы электрарухавікоў не перавышае 3—4 год. Пры бурным росце электрыфікацыі ў Савецкім Саюзе, затраты на капітальны рамонт электрарухавікоў у 1965 годзе могуць скласці велізарную суму — больш мільярда трохсот мільёнаў рублёў, калі не паклапаціцца пра стварэнне даўгавечнай і трывалай электраізаляцыі.

Энергетыкі прад'яўляюць цяпер да ізаляцыіі і іншыя патрабаванні. Яна перш за ўсё павінна быць вельмі тэрмастойкай. Цяпер усё больш становіцца электрарухавікоў, рабочая тэмпература якіх дасягае 200 і больш градусаў. Ізаляцыя з гумы і пластмас хутка разбураецца пры тэмпературы вышэй 130—160 градусаў, і электрарухавік выходзіць са строю.

Здавалася б, што ідэальнай ізаляцыяй мог бы служыць плаўлены кварц, які называецца ў тэхніцы кварцавым шклом. З яго ўжо некалькі дзесяткаў год вырабляюць стойкую да гарачыні лабараторную пасуду, элетрычныя ртутныя лямпы, святло якіх утрымлівае шмат ультрафіялетавых праменняў.

Кварцавае шкло тэрмастойкае. Але яму нестае гнуткасці, яно крохкае. Ізаляцыйныя матэрыялы, зробленыя з гумы або з розных арганічных палімераў, валодаюць патрэбнай гнуткасцю, але ім нестае цеплаcтойкасці.

Удалае вырашэнне гэтай праблемы было знойдзена групай савецкіх вучоных на чале з членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР К. Андрыянавым, якія стварылі на аснове спалучэння крэмніевых і арганічных злучэнняў новыя штучныя смолы. Яны негаручыя, тугаплаўкія, вадастойкія, не баяцца ні гарачыні, ні холаду, ні вады, ні агню.

Абмотка электрарухавіка з крэмнійарганічнай ізаляцыяй не загарыцца ў выпадку аварыі, яна будзе надзейна служыць і пры рабоце пад вадой. А кабелі, зробленыя з крэмнійарганічных палімераў, служаць бездакорна многа год у салёнай і прэснай вадзе. Яны незамянімы для марскога флоту — не баяцца ні штормаў, ні рэзкай змены тэмператур.

Прымяненне крэмнійарганічнай ізаляцыі ў электратэхніцы дазволіла павысіць шчыльнасць току ў абмотках электрычных машын і апаратаў і тым самым паменшыць іх памеры, захаваўшы аднак былую магутнасць. Гэта асабліва важна для марскога флоту і авіяцыі, дзе памяншэнне вагі і памераў электраабсталявання дае магчымасць лепш і паўней выкарыстаць карысную плошчу карабля або самалёта.

Замена гумавай або пластмасавай ізаляцыі крэмнійарганічнай дазваляе амаль у два разы павялічыць тэрмін службы электрычных машын і апаратаў.

### У пошуках новага

Прырода дае нам толькі арганічныя палімеры — каучук, цэлюлозу, шэрсць і неарганічныя — шкло, сілікаты, слюду. Змешаных палімераў у прыродзе не існуе.

Атрыманне крэмнійарганічных рэчываў, якія маюць такія каштоўныя для народнай гаспадаркі ўласцівасці, прымусіла вучоных даследаваць магчымасці стварэння новых змешаных палімераў, у малекулах якіх побач з атамамі крэмнію былі б і іншыя хімічныя элементы.

Напрыклад, карунд — неарганічнае рэчыва, па цвёрдасці амаль роўна алмазу. Малекулы яго пабудаваны з ланцугоў атамаў алюмінію і кіслароду. Міжволі напрошваецца думка, а што атрымаецца, калі ўвесці атамы алюмінію ў ланцугі малекул крэмнійарганічных рэчываў? Ці не стане новы палімер яшчэ больш трывалым і тэрмастойкім?

Вопыт паказвае справядлівасць падобнага меркавання. У лабараторыях нашых навукова-даследчых інстытутаў ужо атрыманы новыя палімеры, у ланцугах малекул якіх акрамя атамаў крэмнію, вугляроду і кіслароду ўтрымліваюцца таксама атамы розных металаў.

Па будове сваіх малекул крэмніметалаарганічныя палімеры, — так называюць гэтыя новыя сінтэтычныя рэчывы, — больш нагадваюць шкло і сілікаты, чым арганічныя палімеры — штучныя смолы і пластычныя масы. Дзякуючы такой будове малекул, цеплаcтойкасць новых палімераў значна вышэйшая, чым усіх вядомых нам да гэтага часу арганічных і крэмнійарганічных палімераў.

У пошуках новага хімікі ствараюць такія рэчывы, якіх не ведае прырода.

І гэтым рэчывам належыць будучыня.





Пад кіраўніцтвам Віктара Дуброўскага выступае Пекінскі маладзёжны сімфанічны аркестр.

# ДЫРЫЖЫРУЕ ВІКТАР ДУБРОЎСКІ

...Канец ліпеня 1959 года. Прыгажуня Вена — адна з прызнаных музычных сталіц свету — сустракала моладзь пяці кантынентаў, якая з'ехалася сюды на сваё свята юнацтва — VII Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. На вуліцах і плошчах, у тэатрах і канцэртных залах аўстрыйскай сталіцы гучалі песні, віхрыліся танцы, разгараліся дыскусіі, завязвалася шчырая дружба.

У гэтыя дні савецкая творчая моладзь выклікала найбольшую цікавасць, бо майстэрства нашых выканаўцаў ужо многа год як стала ўзорам сапраўднага мастацтва.

Можна сабе ўявіць, што адчуваў Віктар Дуброўскі, калі ўпершыню выйшаў на эстраду Вялікай залы венскага «Музікферэйн» — канцэртнай залы, дзе за дырыжорскім пультам пабывалі лепшыя музыканты свету. Пад яго кіраўніцтвам іграў тады маладзёжны сімфанічны аркестр Усесаюзнага радыё і тэлебачання.

У залах «Музікферэйн» і «Канцэртхаўз» пад кіраўніцтвам Віктара Дуброўскага выдатна прагучалі Чацвёртая сімфонія Чайкоўскага, 83-я сімфонія Гайдна, скрыпічны канцэрт Шастаковіча, «Гераічная балада» Бабаджаняна, творы Брамса і Пахмутавай, Гардзелі і Лагідзе.

Поспех галоўнага дырыжора Беларускай дзяржаўнай філармоніі Віктара Дуброўскага ў Вене быў радас-

ны, вялікі, але не выпадковы. Гэта быў заканамерны вынік той вялікай працы, якую давялося прарабіць таленавітаму музыканту раней, чым ён заваяваў ганаровае права стаць за пультам перад сімфанічным аркестрам.

* * *

Калі трохгадовы Віця, седзячы на плоце, якім быў абгароджаны ваенны гарадок, па-дзіцячаму звонка і з захапленнем спяваў салдацкія песні, імкнучыся трапіць у такт салдатам, што маршыравалі, яго бацька—адзін з афіцэраў гарнізона — напэўна і не думаў, што сын некалі стане музыкантам. «Няхай спявае, абы не свавольнічаў...» І маці, аддаючы сына ў музычную школу, каб ён вучыўся іграць на скрыпцы, таксама не ўяўляла, што музыка назаўсёды ўвойдзе ў Віктарава жыццё.

Неўзабаве з Віцем Дуброўскім пазнаёміўся славуты музыкант, прафесар Маскоўскай кансерваторыі Л. Цэйтлін, які выхаваў цэлую пляяду выдатных савецкіх скрыпачоў. Ён параіў бацькам накіраваць хлопчыка ў Цэнтральную музычную школу пры Маскоўскай кансерваторыі. У конкурсных экзаменах тады прыймала ўдзел 600 юных музыкантаў, а прынята было толькі 12. Сярод іх быў і Віктар Дуброўскі.

З кожным годам вучобы развіваўся талент юнага скрыпача. Але раптам пачалася Вялікая Айчынная вайна. Цэнтральная музычная школа была эвакуіравана разам з усімі выхаванцамі і педагогамі ў глыбокі тыл. Віктар Дуброўскі не мог паехаць разам са школай. Ён вымушан быў прыпыніць заняткі па музыцы і толькі праз два гады вярнуўся да іх зноў.

Працяглы перапынак не астудзіў палымянага імкнення юнака да музычнага мастацтва. У спісу выпускнікоў, якія скончылі на выдатна Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю ў 1949 годзе, было і імя скрыпача Віктара Дуброўскага. Тады ж ён быў унесен і ў спіс кандыдатаў для ўдзелу ў Міжнародным конкурсе скрыпачоў у Будапешце.

Але, як гэта ні дзіўна на першы погляд, скрыпач Дуброўскі адмовіўся ад прадастаўленага яму вялікага гонару прыняць удзел у конкурсе. І справа не ў тым, што ён не верыў у свае сілы. Прычына тут была іншая, Віктар Дуброўскі вырашыў ажыццявіць сваё патаемнае жаданне і, адмовіўшыся ад кар'еры скрыпача, пачаць свой шлях у мастацтве дырыжорам.

Думка аб дырыжыраванні нарадзілася ў Віктара Дуброўскага не ў той год, калі ён заканчваў кансерваторыю, а значна раней. І сам таго не ведаючы, у многім тут быў «вінаваты» любімы яго педагог — прафесар Цэйтлін. Гэта ён выхаваў у свайго вучня любоў да аркестра, да партытур, да тэарэтычных дысцыплін. Між іншым, нельга не адзначыць і вялікую цікавасць да фартэп'яннай ігры, якую праявіў малады скрыпач у гады кансерваторскай вучобы. І не выпадкова выдатны савецкі піяніст і педагог прафесар Г. Нейгауз раіў у той час скрыпачу Дуброўскаму пачаць заняткі ў яго, у класе спецыяльнага фартэпіяна.

Уся гэтая творчая match рознабаковасць і яркія здольнасці скрыпача-саліста, таленавітасць у галіне фартэпіяннай ігры, дасціпнасць у галіне тэорыі музыкі не перашкаджалі імкненню В. Дуброўскага стаць дырыжорам. Наадварот, гэтая рознабаковасць (не раскіданасць!) падрыхтавала выдатную музычную базу для таго, каб інструменталіст стаў дырыжорам, дапамагла, паводле вобразнага выказвання аднаго з буйнейшых сучасных дырыжораў — Шарля Мюнша, пераступіць лінію, якая аддзяляе аркестр ад дырыжора, лепшым чынам садзейнічала разуменню тых цяжкасцей, з якімі сутыкаецца аркестрант, як выканаўца волі не толькі аўтара твора, але і тлумачальніка гэтай музыкі — дырыжора.

Толькі ў 1949 годзе, калі ў Маскоўскай кансерваторыі быў адкрыты дырыжорскі клас, здзейснілася жаданне маладога музыканта. З дыпломам скрыпача-саліста Віктар Дуброўскі трымае экзамены для паступлення ў гэты клас. Экзамены былі здадзены выдатна: В. Дуброўскага залічылі адразу на другі курс.

Гады вучобы ў Л. Гінзбурга назаўсёды засталіся ў памяці Віктара Паўлавіча Дуброўскага. Выключна патрабавальны прафесар абавязваў свайго вучня дырыжыраваць напамяць усё, што зададзена, умець бездакорна праспяваць партыю любога інструмента, запісаць па памяці адвольны ўрывак з партытуры па ўказанню педагога, навучыцца дырыжыраваць без гучання аркестра ці раяля так, каб выпрацаваць у сабе поўнае адчуванне аркестравай музыкі, тэмбраў асобных інструментаў. Л. Гінзбург здолеў пераканаць свайго вучня, што дырыжор чуе добра толькі тое, што выдатна ведае, што нельга «па-свойму» трактаваць тое, чаго не ведаеш.

Чатыры гады напружаных заняткаў па дырыжыраванню, багатая школа, вялікая любоў да новай прафесіі далі свае плённыя вынікі. Творчы «почырк» Віктара Дуброўскага стаў прыкметны і ў спектаклях опернай студыі пры Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі, дзе ён дырыжыраваў операмі «Яўгені Анегін», «Царская нявеста», «Сявільскі цырульнік», «Снягурачка», і ў канцэртах Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Саюза ССР, дзе ён, будучы студэнтам чацвёртага курса дырыжорскага факультэта, дэбютаваў у 1952 годзе з Пятай сімфоніяй Чайкоўскага.

Вясной 1953 года В. Дуброўскі зноў з поспехам заканчвае Маскоўскую кансерваторыю — на гэты раз ужо як дырыжор. А праз некалькі месяцаў яму выпала вялікае шчасце выступаць з Маскоўскім маладзёжным аркестрам на IV Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Бухарэсце. Фестываль з'явіўся яшчэ адным пераканаўчым сведчаннем таго, што выбраны шлях дырыжора не памылковы, не выпадковы ў «музычным» лёсе Віктара Дуброўскага.

Пачалася актыўная выканаўчая дзейнасць маладога дырыжора. Абанементныя канцэрты, спецыяльныя выступленні для студэнцкай моладзі, музычныя вечары ў летніх парках, дзе ён выступае з аркестрамі Маскоўскай філармоніі, гастролі ў Ленінградзе. Усё больш новых твораў гучыць у канцэртах пад кіраўніцтвам В. Дуброўскага.

З прыходам творчай сталасці перад Дуброўскім-дырыжорам, а значыць і перад музыкантам-педагогам, арганізатарам, кіраўніком творчых калектываў узнікалі новыя, усё больш складаныя задачы. Адной з такіх задач з'явілася падрыхтоўка Пекінскага маладзёжнага сімфанічнага аркестра да ўдзелу ў Варшаўскім фестывалі 1955 года. Іменна тут, у Кітайскай Народнай Рэспубліцы, дзе малады савецкі дырыжор быў пастаўлены кіраўніком калектыву маладых музыкантаў, па-сапраўднаму раскрылася яго воля арганізатара, выхавальніка, мастака. Цікава прывесці тут словы кітайскага музыканта Чжан Нін-хэ з артыкула, апублікаванага ў пекінскім часопісе «Народная музыка»: «Тав. Дуброўскі патрабаваў ад нас вельмі строга. Ён ніколі не рабіў нічога павярхоўна, хоць было вельмі мала часу. Але гэта не перашкодзіла яму працаваць з намі цэлы месяц дзень і ноч. Яго цярпенне, палымянасць, строгасць і воля кранулі нас усіх. Дзякуючы яго выдатнаму дырыжорскаму таленту мы дамагліся значнага поспеху. У гэты вельмі кароткі час — адзін месяц — аркестр змяніў сваё аблічча. Кожны дзень, апроч рэпетыцый, т. Дуброўскі ўвечары займаўся з нашымі дырыжорамі (каля 10 чалавек).

Тав. Дуброўскі адкрыў дзверы багацця музыкі. Вельмі цяжка выказаць нашу радасць і ўдзячнасць.

4 жніўня ўвечары выступалі ў Шанхайскай кансерваторыі. Толькі закончыўся першы твор, а зала ўжо напоўнілася громам воплескаў. Калі скончыўся канцэрт, тав. Дуброўскі пад няспынныя воплескі выходзіў на сцэну 8 ці 9 разоў і сыграў яшчэ серанаду «Ноч» і паўтарыў дзве уверцюры. На наступны дзень выступалі ў тэатры Мет-Чы. Публікі было тры тысячы. Уздым быў не меншы, чым у першы дзень, і многія таварышы сказалі, што яны першы раз слухаюць такі выдатны, незвычайны канцэрт. За ўсё гэта мы доўга будзем удзячны нашаму другу і педагогу Віктару Паўлавічу Дуброўскаму — выдатнаму савецкаму дырыжору».

Работа з Пекінскім сімфанічным аркестрам, узмужнелае майстэрства мастака дапамаглі В. Дуброўскаму восенню 1955 года па праву заняць



**За разборам партытуры.**



**Пасля канцэрта з удзелам Вана Кліберна** (справа).
Фота С. Чырэшкіна.

месца галоўнага дырыжора аркестра Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гады працы ў Беларусі аказаліся для яго вельмі плённымі.

Наколькі моцна В. Дуброўскі звязаў сваё мастацтва з беларускай музыкай, можна меркаваць хоць бы па тым, што ў яго рэпертуары паявілася да 40 буйных твораў беларускіх кампазітараў — Аладава, Багатырова, Чуркіна, Цікоцкага, Алоўнікава, Абеліёвіча, Вагнера, Пукста, Падкавырава, Кузняцова, Камінскага. Пад яго кіраўніцтвам гэтыя творы гучалі не толькі ў многіх гарадах, раённых цэнтрах і сёлах рэспублікі, але і ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Варонежы, Харкаве, Вільнюсе, Каунасе, Кіславодску, Сочы ды яшчэ шмат у якіх гарадах Савецкага Саюза. Ён з'яўляецца першым выканаўцам такіх прынцыпова-важных у развіцці нашага нацыянальнага мастацтва твораў, як Пятая сімфонія Я. Цікоцкага, прысвечаная стваральнай працы, гуманізму і жыццесцвярджальнай сіле савецкіх людзей; як кантата «40 год» М. Аладава, якая раскрывае ў абагуленых вобразах слаўны гераічны шлях Савецкай сацыялістычнай дзяржавы; як кантата «Стэпавыя палі» І. Кузняцова, якая ўслаўляе працу заваёўнікаў цалінных зямель; як сімфанічная паэма «Вечна жывыя» Г. Вагнера, якая гнеўна асуджае цёмныя сілы фашызма і кліча ўсіх сумленных людзей свету не даць распаліць зноў злавесны агонь новай вайны.

З іменем дырыжора Дуброўскага, з яго дзейнасцю палымянага прапагандыста класічнай і сучаснай музыкі ў Беларусі звязаны выступленні ў рэспубліцы выдатных салістаў нашай Радзімы і зарубежных краін — Д. Ойстраха, Э. Гілельса, І. Стэрна, В. Кліберна і іншых. Якое ўражанне зрабіла на іх майстэрства дырыжора, можна меркаваць па цёплых словах прывітання, якія Ван Кліберн прыслаў разам са сваёй фотакарткай В. Дуброўскаму: «Выдатнаму дырыжору Віктару Дуброўскаму, з якім я атрымаў такое вялікае задавальненне ў Мінску, і, спадзяюся, так многа разоў у жыцці мы яшчэ сустрэнемся на сцэне, — заўсёды мае лепшыя пажаданні. Ван Кліберн».

Гаворачы пра Дуброўскага-дырыжора, пра Дуброўскага-прапагандыста беларускай сімфанічнай музыкі, нельга не сказаць і пра той вялікі поспех, з якім прайшлі яго гастрольныя канцэрты ў гарадах братняй Балгарыі — у Сафіі, Плоўдзіве і Варне. Тут буйнейшыя сімфанічныя аркестры пад яго кіраўніцтвам выконвалі, побач з Чацвёртай сімфоніяй Чайкоўскага, канцэртам Моцарта, сімфанічнай паэмай «Ціль Уленшпігель» Р. Штрауса, невядомыя балгарскай публіцы Пятую сімфонію Я. Цікоцкага, сімфанічную сюіту Г. Вагнера, сімфаньету М. Чуркіна, «Андантэ» Р. Пукста і іншыя творы беларускіх аўтараў. І ўсе яны знайшлі гарачы водгук у слухачоў.

Вялікую цікавасць выклікае артыкул галоўнага дырыжора Плоўдзіўскага дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Івана Бакалава, змешчаны ў газеце «Айчынны голас». У гэтым артыкуле аўтар піша:

«Вялікае, поўнае захаплення — толькі так можна назваць дырыжорскае майстэрства Віктара Дуброўскага, галоўнага дырыжора Беларускай філармоніі.

Дуброўскі — музыкант з ярка выражанай прафесіянальнай культурай, якая спалучаецца ў яго з выключна правільнай інтуіцыяй і пачуццём мастацкай меры. Ён валодае аркестрам і вядзе яго да раскрыцця неабсяжнага свету вобразаў, што змешчаны ў старонках сімфанічнай партытуры. Валодаючы яркім тэмпераментам, ён стварае трапяткое, поўнае дыхання мастацтва, якое гаворыць словамі і даходзіць да кожнага.

Мануальная тэхніка Дуброўскага на вельмі высокім узроўні. Яго жэст ясны, пластычны і вельмі выразны. Ён — скульптар за пультам. Дуброўскі забяспечвае, дзякуючы гэтаму, стройнасць ансамбля, высакароднасць гучання і дынамічную амплітуду: нарастанне ад піянісіма да поўнага гучання аркестра.

...Дуброўскі раскрыў нам сапраўднага Чайкоўскага, у багатай гаме чалавечых пачуццяў і перажыванняў, без следу дылетанцкай сентыментальнасці і саладжавасці.

Выкананне Чацвёртай сімфоніі Чайкоўскага пад кіраўніцтвам Дуброўскага — гэта, бясспрэчна, адно з самых вялікіх дасягненняў Плоўдзіўскага сімфанічнага аркестра ў сезоне».

Творчая індывідуальнасць заслужанага артыста Беларускай ССР Віктара Паўлавіча Дуброўскага праяўляецца вельмі markedly разнабакова. Яму блізкае, дарагое і зразумелае ўсё тое, што прыносіць у музыцы радасць і ўцеху людзям. У гэтым і тоіцца сакрэт уздзеяння мастацтва таленавітага дырыжора на разнастайныя па складу аўдыторыі слухачоў; у гэтым — уменне рабіць музыку здабыткам тых, каму яна належыць па праву, здабыткам народа.

**І. НІСНЕВІЧ.**

С. АЛЕКСАНДРОВІЧ

# РАННІЯ ТВОРЫ Я. КОЛАСА

Вучоба Якуба Коласа ў Мікалаеўшчынскай пачатковай школе і Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі — найменш даследаваны перыяд у біяграфіі выдатнага беларускага песняра.

Кароткія звесткі ў аўтабіяграфічных матэрыялах, некалькі артыкулаў пра настаўніка народнага паэта — Ф. А. Кудрынскага, якія з'явіліся ў друку ў апошні час, — вось амаль усё, што вядома нам пра вучобу Я. Коласа ў семінарыі. Калі жыццё пісьменніка на ўлонні беларускай прыроды ў Ластку і Альбуцы і першыя крокі навучання ў «дарэктара» знайшлі паэтычны адбітак у «Новай зямлі» і ў некаторых дарэвалюцыйных апавяданнях, а настаўніцкая праца і асабістыя ўражанні і перажыванні тых год па-свойму асэнсаваны ў трылогіі «На ростанях», дык перыяд вучобы ў народнай школе і семінарыі абыдзены ў мастацкай творчасці Я. Коласа.

Мала таксама захавалася і ранніх твораў класіка беларускай літаратуры, каб можна па іх меркаваць пра семінарскае жыццё паэта, шляхі фармавання яго грамадскай свядомасці, станаўленне яго эстэтычных поглядаў.

Таму значную цікавасць мае адзін з ранніх твораў Я. Коласа — семінарскае сачыненне, своеасаблівы рэферат, напісаны па прапанове выкладчыка рускай мовы і літаратуры Фядота Андрэевіча Кудрынскага. Тэма гэтага рэферата — разгорнуты адказ на пытанне, чым кіраваўся, што вабіла семінарыста ў выбары прафесіі вясковага настаўніка.

Апублікавана сачыненне Я. Коласа ў артыкуле Багдана Сцепанца «Семінарысты з народа», змешчаным у студзеньскім нумары маскоўскага часопіса «Вестник воспитания» за 1902 год. Праўда, аўтар артыкула з пэўных дыпламатычных меркаванняў нідзе не гаворыць, што размова ідзе пра Нясвіжскую семінарыю, не называе ні аднаго прозвішча, не ўспамінае семінарыста Канстанціна Міцкевіча.

Можа ўзнікнуць заканамернае пытанне: дзе відавочныя доказы, што ў артыкуле Б. Сцепанца «Семінарысты з народа» змешчаны менавіта рэферат Я. Коласа?

Перш за ўсё трэба мець на ўвазе, што Багдан Сцепанец — гэта псеўданім Ф.А. Кудрынскага, пра якога ў аўтабіяграфіі Я. Колас пісаў: «У семінарыі на мяне меў вялікі ўплыў... мой настаўнік Кудрынскі, чалавек жывы, сам літаратар, ён катурхаў нашы думкі, кіраваў імі, закідаў зерне любасці да прыгожага пісьменства... Ён клапаціўся аб развіцці выхаванцаў, наладжваў чытанне, увёў рэфераты, па-майстэрску кіруючы імі».

Па-другое, артыкул «Семінарысты з народа» напісаны поўнасцю на матэрыяле з жыцця Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, на аснове рэфератаў семінарыстаў на розныя тэмы і іх водгукаў аб прачытаных кнігах. Ёсць звесткі *, што цвярозая і даволі крытычная ацэнка аўтарам гэтага артыкула сістэмы навучання і падрыхтоўкі народных настаўнікаў прымусіла дырэктара Нясвіжскай семінарыі П. Меліяранскага звярнуцца 31 студзеня 1902 года са скаргай на Ф. А. Кудрынскага да папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі.

* А Семяновіч. Настаўнік народнага паэта. «Полымя», № 6, 1959, стар. 148—149.



Трэцяе і самае галоўнае — змест рэферата, які, на маю думку, дае поўную падставу для сцверджання, што мы маем справу з раннім семінарскім творам Якуба Коласа. Рэферат, напісаны на рускай мове, у артыкуле Ф. А. Кудрынскага змешчаны, відаць, толькі часткова. Пачынаецца ён так:

«Мой бацька ляснік. Уласнай зямлі мала, — як старой бабе сесці, па словах нашага мужычка-беларуса, — ды і тая дрэнная, пясчаная, усеяна каменнем. Таму мне не было чаго і думаць заставацца дома. Бацька прапанаваў мне паступіць на службу на чыгунку. Аднак запаветнаю маёй мараю было імкненне паступіць у семінарыю, «у гэты светач народа». Бацькады і ўся сям'я і знаёмыя не вельмі ўхвалялі мой намер. «Што добрага ў жыцці настаўніка? — гаварыў бацька. — Ні поля, ні агарода, ні саду. Загоняць у якую-небудзь глуш, ды дадуць чалавек сотню дзяцей, — укладай ім у галаву... А колькі платы? 10 ці 15 рублёў».

У гэтым урыўку трэба звярнуць увагу на сведчанне аўтара рэферата, што бацька яго ляснік, уласнай зямлі ён мае мала, дый тая пясчаная і каменістая. Як вядома з біяграфіі Коласа, бацька яго ў гэты час працаваў у Альбуці лесніком, невялікі бацькоўскі надзел пясчанай зямлі знаходзіся ў Мікалаеўшчыне.

Паказальны той факт, што Я. Колас яшчэ юнаком выношваў мару стаць вясковым настаўнікам, усе сімпатыі яго былі на баку сціплага працаўніка, які нёс у народныя масы святло навукі. «У такіх выпадках, вядома, я ўсімі сіламі стараўся выставіць лепшыя бакі жыцця народнага настаўніка. Абвергнуты па ўсіх пунктах, я заканчваў гаворку спрэчкай ці лаянкай ці слязьмі (вядома, я ў той час быў малы). Гора тады бедным тэлеграфістам, пісарчукам і наогул дробным чыноўнікам (і цяпер я ім не зайздрошчу). Лаяў я іх без літасці. О, як я быў задаволены, калі мне ўдавалася выставіць з цёмнага боку якога-небудзь тэлеграфіста!.. Аднак часцей за ўсё мне траплялася бачыць семінарыстаў. Мне падабалася іх чырвоная сарочка (тады чырвоныя сарочкі былі ў модзе), шырокія, як рэшата, ці, як сяляне ў насмешку кажуць, «як буслава гняздо», * шапка; я бачыў іх ветлівыя адносіны да свайго брата, селяніна, зайздросціў ім, як людзям адукаваным: што ні папытай, яны скажуць, растлумачаць. Мноства кніг, скрыпка, канькі, камертон, — усё гэта спакушала мяне. Я стаў ахвотна рыхтавацца, і справа закончылася ў карысць майго жадання і абману маіх надзей».*

Тут даволі выразна выказаны варожыя адносіны аўтара рэферата да дробнага чыноўніцтва, якое корчыла з сябе «паноў» і абірала свайго брата-селяніна. Інакш паводзілі сябе ў вёсцы вясковыя настаўнікі, якія не гублялі цеснай сувязі з народам, стараліся дапамагчы яму. Я. Колас кажа, што ён марыў ісці гэтай дарогай служэння народу. Аднак са шчырай і сардэчнай праматою ён прызнаецца, што семінарыя не апраўдала яго надзей. Праўда, у рэфераце ніякага тлумачэння па гэтаму пытанню няма, ці больш правільна было б выказаць меркаванне, што Ф. А. Кудрынскі гэта месца ў коласаўскім сачыненні прапусціў. Затое ў рэфераце ёсць выказванне, якое красамоўна сведчыць, што класавае пачуццё, вера ў сілы народа, гордасць за чалавека працы абудзілася ў свядомасці Я. Коласа досыць рана: **«Мяне крыўдзілі да глыбіні душы пагарда, з якой адносіліся да сялянскага саслоўя вышэйшыя слаі грамадства, адносіны да сялян іх непасрэдных начальнікаў: станавых, пісараў, ураднікаў, а таксама сельскай інтэлігенцыі і г. д. Думка, што сяляне ніколькі не горшыя, а яшчэ ў многіх адносінах і лепшыя за другіх, і што яны знаходзяцца ў такім стане па прычыне сваёй неадукаванасці і няведанню свайго «я», заўсёды прыгнятала мяне. Жаданне праліць, так сказаць, святло на іх становішча, даць адчуць ім сваё значэнне — было прычынаю майго паступлення».** (Падкрэслена мной. — **С. А.**).

Такая завостраная ўвага да сацыяльнага моманту, смелая абарона правоў простага чалавека, змястоўны адказ на пытанне, што прывяло яго ў настаўніцкую семінарыю, — усё гэта, на маю думку, бясспрэчны доказ таго, што аўтарам рэферата мог быць толькі Я. Колас. Пацвярджаюць гэта і раннія коласаўскія вершы, напісаныя ў сценах семінарыі — «Белоруссия», «Невзгоды», «Вера» і «Мужычая доля», якія сваімі матывамі пераклікаюцца з рэфератам.

Гэтае глыбокае і змястоўнае выказванне Я. Коласа-семінарыста было па сутнасці крэда ўсёй дарэвалюцыйнай творчасці пісьменніка, яно з'явілася адной з самых ранніх спроб абгрунтаваць сваю пазіцыю ў грамадскім жыцці.

* У арыгінале гэты выраз напісаны на беларускай мове.

* «Вестник воспитания», № 1, 1902, стар. 99—100.

У артыкуле Ф. А. Кудрынскага «Семінарысты з народа» ёсць яшчэ адно месца, якое датычыцца непасрэдна ранняй творчасці народнага паэта Беларусі. Гаворачы пра розную падрыхтоўку вучняў семінарыі, пра іх інтэлектуальныя здольнасці, аўтар артыкула так характарызуе першыя паэтычныя крокі Я. Коласа: «У аднаго з вучняў выявілася здольнасць вершаскладання, ён стаў пісаць «вершы», незаахвочаны нікім і нічым да гэтага, падпарадкоўваючыся толькі выключна свайму ўнутранаму імкненню. Вывучэнне паэтаў дзейнічала на яго незвычайна. Вывучэнне баек Крылова прывяло да таго, што ён пачаў пісаць байкі. Кальцоў, Някрасаў, Нікіцін давалі яму тон, і ён пісаў, падражаючы ім. Яму параілі, каб ён паспрабаваў напісаць што-небудзь без уплыву, непасрэдна ад сябе. З вершаў такога роду асабліва цікавы адзін пад назвай «Сяло». *

* «Вестник воспитания», 1902, № 1, стар. 102—103.

Тут не патрэбны асаблівыя доказы, каб давесці, каго меў на ўвазе аўтар артыкула. Справа ў тым, што Ф. А. Кудрынскі ўважліва сачыў за паэтычнымі крокамі Я. Коласа, быў яго першым дарадцам і крытыкам: «...Я прынёс яму сшытак, у якім было 16 баек, напісаных на рускай мове. Кудрынскі знайшоў, што байкі напісаны пад моцным уплывам Крылова», — сведчыць у аўтабіяграфіі народны паэт. У другім аўтабіяграфічным матэрыяле Я. Колас зазначаў: «Адзін мой верш на беларускай мове папаў у рукі Кудрынскага. Ён ухваліў яго і сказаў: «Вось вашае сапраўднае прызванне». У семінарыі я многа часу адводзіў на пісаніну».

У сваім артыкуле Ф. А. Кудрынскі прыводзіць поўнасцю вучнёўскі верш Я. Коласа «Сяло», які пасля часопіса «Вестник воспитания» нідзе больш не друкаваўся.

Раннія творы Я. Коласа, якія трапілі ў 1902 годзе на старонкі часопіса «Вестник воспитания», — цікавая старонка творчай біяграфіі народнага паэта Беларусі.

# Бібліяграфія

## Неабходна пачуццё вышыні

У біяграфічнай даведцы, дадзенай да першага зборніка вершаў Уладзіміра Паўлава «Узлётная паласа», сказана, што аўтар зборніка нарадзіўся 25 кастрычніка 1935 года. Здавалася б, у гэтым няма нічога асаблівага. Але калі прыгадаць такі цікавы факт, што малады паэт нарадзіўся праз месяц пасля выхаду ў Маскве кнігі «Дзень свету», дык нельга не адчуць знамянальнасці гэтай звычайнай біяграфічнай даты.

Пра кнігу «Дзень свету» нядаўна ўспомніла газета «Известия». Рэдакцыя газеты звярнулася з заклікам стварыць «Дзень свету — другі» з тым, каб параўнаць, як змянілася жыццё чалавецтва за чвэртку стагоддзя. За гэты час адбыліся велізарныя змены, якія ў корані перайначылі палітычную карту нашай планеты, лёс народаў і дзяржаў. Гэтая чвэртка стагоддзя, адлегласць паміж двума днямі жыцця насельніцтва Зямлі, умясціла ў сабе і біяграфію Уладзіміра Паўлава — адну з мільёнаў біяграфій маладых людзей савецкай краіны. Аднак біяграфія Уладзіміра Паўлава адрозніваецца ад іншых тым, што ён паэт і, такім чынам, абавязаны гаварыць не столькі пра сябе, колькі пра сваё пакаленне, пра свой час. А маштаб гэтага часу надзвычай ёмісты і шырокі, і гэтым маштабам мы вымяраем творчасць кожнага паэта. Інакш нельга. Безумоўна, не абавязкова патрабаваць ад паэта «сусветных» тэм. Паэт можа паказаць лёс аднаго чалавека і праз яго даць нам адчуць глыбокае дыханне свайго часу. Для гэтага неабходна толькі, каб ён валодаў пачуццём вышыні, якое адрывала б яго ад паверхні, памагаючы пераадольваць коснае прыцягненне банальнасці. Мне здаецца, што зборніку «Узлётная паласа» нестае гэтага пачуцця вышыні, таго адчування палёту, якое намечана ў вершы, што даў назву зборніку:

Хай залічаць нас у спісы
«грэшных» —
Рана крылы дужыя ўзраслі.
Неба прасінеўшага застрэшша
Не ўтрымала ўнукаў на зямлі.

Кліча іх няскладзенаю песняй
Да сябе нялёгкі
зорны шлях.
У краі бацькоўскім ім не цесна —
Цесна мужным сэрцам у грудзях.

Гэта добрыя, акрылёныя радкі, і калі б Уладзімір Паўлаў, «узяўшы старт з узлётнай паласы», не вярнуўся на пратаптаныя сцежкі, не павёў свой самалёт на пасадку, ледзь адарваўшы яго ад зямлі, мы, магчыма, даведаліся б аб жыцці больш новага, нязнанага. Малады паэт служыў у авіяцыі (у сучаснай авіяцыі!), і ўжо адно гэта павінна было б у многім вызначыць вобразны лад яго паэзіі. Зноў жа, справа не ў тым, каб ён пісаў толькі пра лётчыкаў, — не! Лётчык, ці проста чалавек, які мае адносіны да авіяцыі, да гордай, смелай прафесіі, нават пра каханне можа і павінен напісаць так, каб мы адчулі, што «цесна мужным сэрцам у грудзях». Замест гэтага ў вершах Уладзіміра Паўлава з'яўляецца літаратурна-традыцыйны і, як гэта ні дзіўна, даволі неакрэслены салдат, які ўспамінае:

... Я не пісаў табе з далёкіх
паўстанкаў
I пасля кожнай вучэбнай трывогі.

Шлюць прывітанні сяброўкам-
дзяўчатам
Хлопцы, якія прыйшлі з каравула...
Згодзен я з тым, што адзін
вінаваты:
Быў у лістах да цябе я не чулы.
. . . . . . . . .
Можа таму і суровая плата
Ходзіць за мной, як бяссоннае
гора.

Уладзімір Паўлаў. Узлётная паласа. Вершы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1960.

Вось і хлушу саслужыўцам-
салдатам,
Што атрымаў я твой ліст
пазаўчора.

Нельга так сумна і галоўнае — так неарыгінальна пісаць пра каханне. Наўрад ці варта даводзіць, што падобных вершаў было нямала і да Уладзіміра Паўлава.

Канстатацыя фактаў, нейкая цьмяная адлюстравальнасць — асноўная бяда маладога паэта.

У вершы «Я кахаў» расказваецца пра тое, што лірычны герой кахаў адну, а праводзіць яго ў ваенкамат прыйшла другая, якую потым «бацька мой... дадому вёз, клапатліва ўхутаўшы кажухом» і «коней гнаў, і думаў пра свайго выпраўленага ў салдаты сына». Абставіны верагодныя, але які паэтычны сэнс верша? На жаль, гэта факт з біяграфіі, цікавы толькі для аўтара.

Вышэй апісання фактаў не ўздымаюцца вершы «Праводзіны», «Хлапчукі», «Мы сялом праходзілі пад вечар», «Пахне зямля маладой збажынаю».

У маладога паэта ёсць свае мастацкія здабыткі. Акрамя цытаванага верша «Узлётная паласа», у зборніку ёсць такія вершы, як «Цяльняшка», «Секанула вайна маланкай», «Сэрца ў паходзе» і некаторыя іншыя. У іх адчуваецца спроба асэнсаваць звычайныя жыццёвыя факты, увасобіць пачуцці ў паэтычную думку.

Ёсць у паэта і яшчэ адна несумненная заслуга — у яго вобразная мова, вельмі простая, але маляўнічая. Гэта відаць нават па няўдалых у цэлым вершах, якім не хапае абагульнення, паэтычнага вываду:

За лясамі сінімі, высокімі —
Стужкі пераблытаных шляхоў.
Чэшуць елкі лапкамі шырокімі
Мокры шоўк скамечаных імхоў.

У паэта «сады асеннія за сёламі дыхаюць настоем, як віном», «хвоі у бары галосяць па цёплым з дажджамі лету», «восень лісцем апалым рашыла прылегчы, адпачыць на зіму пад платамі сяла», «у надрэччы туманы пеняцца, як няцэджаны сырадой». Усё гэта бачныя дэталі, сведчанне несумненных здольнасцей аўтара. У яго ўжо ёсць, хоць і невялікі, але «арсенал сродкаў». Справа за «арсеналам пачуццяў», справа за тым, каб набыць пачуццё вышыні, пачуццё палёту. А для гэтага, думаецца, неабходна сувымяраць сваю жыццёвую біяграфію з біяграфіяй стагоддзя, з біяграфіяй імклівага, як палёт касмічнага карабля, часу, у які мы жывём.

**В. ТАРАС.**

## Пачатак шляху

Калі заходзіць гутарка пра маладую беларускую прозу, дык непазбежна называецца імя Васіля Быкава. Вядома, бывае, што аднаму больш падабаецца гэтае, другому тое апавяданне пісьменніка. Але субяседнікі звычайна пагаджаюцца на тым, што Васіль Быкаў — бясспрэчна, таленавіты празаік. Гэта вельмі выразна адчуваеш, калі перачытваеш яго творы, сабраныя ў кніжках «Жураўліны крык» і «Ход канём» *.

Два першыя зборнікі Васіля Быкава істотна адрозніваюцца паміж сабой. Але кожны з іх, аб'ядноўваючы блізкія ў жанрава-тэматычных адносінах творы, з'яўляецца ўнутрана цэласнай кніжкай. Асабліва гэта датычыць зборніка «Жураўліны крык», у які ўвайшлі аднайменная аповесць і нізкі апавяданняў «У ліхую часіну» і «Сляды на зямлі».

Параўноўваючы аповесці Васіля Быкава «Жураўліны крык» і «Апошні баец» (надрукавана ў газеце «Чырвоная змена» за сакавік — красавік 1958 года), наглядна бачыш, як хутка расце пісьменнік, якімі шпаркімі крокамі ідзе ён у літаратуру.

Чытаецца «Апошні баец» не без цікавасці. Сюжэт аповесці — даволі напружаны і займальны. Але ў аснове сваёй ён залішне блізкі да сюжэта выдатнай куляшоўскай паэмы «Сцяг брыгады». Таму часамі аповесць пачынае здавацца недастаткова арыгінальнай і нават у нечым важным — перайМальнай. Гэтае ўражанне выклікаецца тым, што ў «Апошнім байцы» слабавата выявілася тое, што складае пісьменніцкую сілу Васіля Быкава, што робіць, напрыклад, аповесць «Жураўліны крык» вельмі змястоўным і глыбокім творам. Мы маем на ўвазе дэталёвы аналіз псіхалогіі чалавека, уменне так дакладна перадаць часта вельмі складаныя і супярэчлівыя рухі чалавечай душы, што чытач адчувае: аўтар сам, на ўласным вопыце зведаў усё тое, пра што піша.

Можна згадзіцца з І. Кудраўцавым **, што ў аповесці «Жураўліны крык» Васіль Быкаў сапраўды некалькі аднастайна «прадстаўляе чытачу па чарзе кожнага са сваіх герояў», прасочваючы этапы іх жыццёвых шляхоў. Але самі гэтыя спробы

---

* Васіль Быкаў. Жураўліны крык. Аповесці і апавяданні. Мінск. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1960.

Васіль Быкаў. Ход канём. Апавяданні. Бібліятэка «Вожыка» № 4 (22) 1960.

** Гл. рэцэнзію І. Кудраўцава «Творчыя заваёвы і страты». «Полымя», № 7, 1960.



рабіць глыбокія экскурсы ў мінулае героя, даючы ягоную даволі падрабязную біяграфію, вельмі паказальныя для Васіля Быкава. Яны цалкам апраўданы імкненнем пісьменніка асвятліць чалавека знутры, дакапацца да скрытых матываў яго паводзін і ўчынкаў.

З імкненнем да вялікай псіхалагічнай напоўненасці кожнага эпізода і малюнка, да самага дэталёвага даследавання кожнага душэўнага руху і нават адцення думкі ці пачуцця звязана адносна малая насычанасць падзеямі лепшых твораў Васіля Быкава, яго падкрэсленая няўвага да «закручанага сюжэта», дзе адна выпадковасць нараджае другую, адзін неверагодны эпізод цягне за сабой шэраг іншых. Калі ж пісьменнік зрэдку спакушаецца такімі знешне эфектнымі сюжэтнымі сітуацыямі, тады атрымліваюцца прыкметна слабейшыя творы (апавяданні «Паядынак», «Дваццаты», «Эстафета», «Ціхманая жонка», «Буйны выйгрыш», «Ход канём» і іншыя).

У сваіх найбольш удалых творах Васіль Быкаў, як правіла, бярэ пераломныя, выключна драматычныя і ў знешнім і ва ўнутраным плане моманты, калі чалавечыя пачуцці гранічна абвастраюцца і становяцца вельмі зручнымі для паглыбленага пісьменніцкага аналізу. Так, сюжэтны «касцяк» аповесці «Жураўліны крык» складае гісторыя аб тым, як шасцёра чырвонаармейцаў няпоўныя суткі абаранялі «звычайны чыгуначны пераезд, якіх нямала параскідана на сталёвых шляхах зямлі». Праўда, гэта былі своеасаблівыя суткі — на працягу іх загінулі ўсе героі твора. І ўсё ж для чалавека, які захацеў бы пабудаваць сюжэт на нагнятанні падзей, гэтай гісторыі хапіла б, бадай, толькі на невялікую навелу. А ў Васіля Быкава атрымалася добрая, ніколькі не расцягнутая аповесць, бо аўтар убачыў у маленькім, не пазбаўленым трагізму, але па сутнасці далёка не выключным, ваенным эпізодзе складанае перапляценне людскіх лёсаў, імкненняў і страсцей, якія хвалююць з тым большай сілай, што ў іх выявілася сціплая мужнасць простага савецкага чалавека, якая забяспечыла, у канчатковым выніку, перамогу над фашызмам.

Ведаючы вайну не па кніжках і газетах, нават не па жывых успамінах яе ўдзельнікаў, Васіль Быкаў нідзе не здраджвае суровай праўдзе жыцця. У гэтым сэнсе аповесць «Жураўліны крык» і блізкая да яе па ўнутранаму гучанню, па свайму мужна-суроваму пафасу нізка апавяданняў «У ліхую часіну» пераклікаюцца з такімі значнымі творамі апошніх год аб вайне, як «Жывыя і мёртвыя» К. Сіманава, «Пядзя зямлі» Р. Бакланава, «Апошнія залпы» Ю. Бондарава, «Агонь і снег» І. Шамякіна, «Вайна пад стрэхамі» А. Адамовіча і іншымі.

Імкнучыся быць гранічна праўдзівым, пісьменнік досыць пераканальна паказвае, як нялёгка прывыкаюць яго героі да ваенных нягод, як пакутліва і марудна цывільныя людзі, адарваныя ад любімага занятку, ад звыклых жыццёвых умоў, ператвараюцца ў байцоў, здольных у крытычную хвіліну смяртэльнай барацьбы з ворагам ахвяраваць сваім жыццём у імя Радзімы.

Кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Фішар, ніякаваты на выгляд, «худы, з запалымі грудзьмі, у кароткім, падпяразаным пад хлясцік шынялі, з забінтаванай шыяй і зашчаціненым тварам баец», да вайны меў вельмі мірны занятак. Ён вывучаў класічнае мастацтва, якое назаўсёды «зачаравала яго істоту, напоўніла дух неспатольнай прагай цудоўнага». Ні палітыка, ні навакольнае шматтурботнае і бурлівае жыццё, ні падзеі надзённасці асабліва не хвалявалі вучонага, не парушалі яго душэўнай раўнавагі і спакою. Натуральна, што вайна для Фішара, зрэшты, як і для многіх савецкіх людзей, зусім не «фішараўскага» душэўнага складу, «усчалася нечакана, неспадзявана, знянацку». Вучоны аказаўся ніколькі не падрыхтаваны да яе. «Ён адчуў сябе белай варонай, няўмекам» сярод тых, хто па роду сваёй дзейнасці быў больш блізкі да вайсковай справы. І вось гэты вузкаплечы, сутулы, з блізарукімі вачыма «цывільны» чалавек апынуўся ў ліку шасцярых байцоў, якія цаной свайго жыцця павінны забяспечыць адыход ужо моцна патрапанага ў баях батальёна.

Што і казаць, суровае, больш таго, жахлівае выпрабаванне выпала Барысу. І ён выстаяў, да канца выканаў свой салдацкі абавязак.

Праўда, пісьменнік і цяпер не спрабуе «гераізаваць» Фішара, а, наадварот, паказвае яго «звычайнасць», нават яго няўменне па-сапраўднаму змагацца з больш хітрым і спрактыкаваным ворагам.

«У Фішара маркотна заныла ў грудзях, аслабелі рукі, насцярожаным поглядам уставіўся ён удалячынь і з тугою адчуў, што надышоў той час, калі вызначыцца ўвесь сэнс яго жыцця. Сяк-так сабраўшы рэшткі душэўнай сілы, ён тузануў затворам і ўжо не зводзіў блізарукага позірку з затуманенага пачатку дарогі, дзе павінны былі паказацца немцы...

Так ён чакаў, ад напружання і ўвагі дробна ляскаючы сківаніцамі і да болю ўціскаючы ў плячо прыклад вінтоўкі... Ад частых гарачых выдыхаў пацелі

шкельцы акуляраў, але Фішар баяўся зняць, каб працерці іх...

Калі, урэшце, у канцы дарогі з дымчатай завесы туману выніклі невыразныя прыземістыя сілуэты матацыклаў, Фішар упёр локці ў гразь бруствера і прыцэліўся. Але ад доўгага напружання зрок яго ўсё болей мутнеў, туман і праклятая блізарукасць не давалі як трэба разгледзець цэль. Фішар перавёў дыханне, прыклаўся яшчэ раз і тады сцяміў, што трапіць у ворагаў зусім няма шанцаў.

Тое адкрыццё было жахліва, баец спалохаўся і зноў разгубіўся. А матацыклы тым часам, усё болей набіраючы хуткасць і штораз акрэсліваючыся ў тумане, шпарка сунуліся па гразі дарогі.

Не ведаючы, што зрабіць болей, каб як спыніць ворагаў, баец усё ж сяк-так прыцэліўся і стрэліў...

Выпусціўшы абойму, ён шырока расплюшчыў вочы і ўглядзеўся. Нідзе ва ўсёй калоне не было ніякага знаку яго стрэлаў — ніхто не спыніўся, не паглядзеў у той бок, дзе сядзеў Фішар», — так падкрэслена празаічна, «зніжана» перадае Васіль Быкаў адчуванні і дзеянні свайго героя ў рашаючую хвіліну барацьбы, спыняючы ўвагу чытача на тых дэталях і падрабязнасцях, праз якія найбольш выразна выяўляецца трагізм і безвыходнасць таго становішча, у якое трапіў Фішар.

Мужна памерці — гэта адзінае, што цяпер застаецца Фішару. І ён напружвае ўсю сваю волю, каб апошнім, але затое пэўным стрэлам забіць хоць бы аднаго ворага. «Баец не думаў тады, што яго могуць расстраляць раней, чым паспее стрэліць ён сам, ён не дужа хаваўся ў акопе і ўсё вёў, вёў ствалом за тым блізкім пярэднім ворагам, пакуль ён не параўняўся з бярозамі, і тады стрэліў. Той, што сядзеў у калясцы, адразу хіснуўся на сядзенні, аберуч ухапіўся за грудзі і размашыста дзябнуў ілбом аб жалеза каляскі. Нейкім абвостраным, ненатуральным слыхам Фішар учуў у грукаце матораў той гук, і зараз жа страшэнны гром вострым болем расшчапіў яго галаву. Баец выпусціў з рук вінтоўку і, абцярушваючы рукамі мокрую зямлю, споўз на дно акопа.

Нейкі час ён быў яшчэ жывы, але ўжо не адчуваў нічога» — лаканічна, знешне спакойна, але з вялікім унутраным хваляваннем і зайздроснай мастацкай сілай апавядае аўтар пра салдацкую смерць Фішара.

Для тых, хто прывык да незвычайных подзвігаў літаратурных герояў, апошні Фішараў стрэл будзе здавацца драбніцай, не вартай асаблівай увагі. Аднак для самога крыху дзівакаватага, няўклюднага і наогул знешне несамавітага, але вельмі сумленнага Фішара знішчэнне толькі аднаго ворага было якраз тым подзвігам, на здзяйсненне якога спатрэбіліся ўсе яго сілы і нават само жыццё.

Вядома, гэткі герой вайны значна менш эфектны, чым які-небудзь увішны дзядок, што яшчэ не так даўно на старонках некаторых нашых кніг лоўка распраўляўся адразу з двума-трыма дужымі ўзброенымі немцамі і хітра пасміхаўся сабе ў вус, выклікаючы зайздрасць у неспрактыкаванага чытача. Але Васіль Быкаў дастаткова пахадзіў крывавымі франтавымі дарогамі, каб пазнаць цану сціплага гераізму без позы, без штучнага пафасу, таго непрыкметнага гераізму звычайных савецкіх людзей, які ніколі не выстаўляе сябе напаказ і даецца далёка не так проста, як гэта некаторым здаецца.

На вайне, як і наогул у жыцці, лёгкага геройства не бывае, сцвярджае Васіль Быкаў, нібы палемізуючы з аўтарамі, якія насялялі свае творы «гераічнымі», увішнымі дзядамі.

У аповесці «Жураўліны крык» аматарам лёгкіх подзвігаў выступае распешчаны «мамчын сынок» Алік Аўсееў. Жадаючы здзівіць людзей, ён накіроўваўся на перадавую, «поўны рашучасці на які-небудзь геройскі ўчынак». Але пасля першага ж бою, перапалохаўшыся, стаў клапаціцца пра тое, каб «як уцалець», «абмінуць пагібель», і скончыў прамой здрадай. І гэта не выпадковасць, а лагічны, заканамерны фінал пустацвета, які не жыў, а прыладжваўся да жыцця, шукаючы ў ім толькі радасць ды асалоду, здабытыя без цяжкасцей і вялікіх намаганняў.

З вострай нянавісцю і выкрывальным пафасам, хоць, як і звычайна, знешне вельмі стрымана, піша Васіль Быкаў пра другога здрадніка — мардатага, адкормленага Івана Пшанічнага, крок за крокам раскрываючы яго звярынае нутро свядомага ворага савецкай улады, які «таемна радаваўся», калі вайна абрушылася на краіну, а як надарыўся зручны выпадак, пайшоў здавацца ў палон.

«Не можа быць, каб немцы не ацанілі як трэба яго шчырасці і не аддзячылі яму, — марыць-спадзяецца Пшанічны. — У лагер яго як добраахвотнага перабежчыка не павінны адправіць, відаць, адпусцяць на волю, а можа, нават пастаўяць на якую кіруючую пасаду ў горадзе ці сельскай мясцовасці. Гэта было заманліва. О, тады Пшанічны паказаў бы свае здольнасці, даказаў бы яго апекунам, што яны не памыліліся ў ім. Ён бы не пашкадаваў ні сябе, ні людзей, гэтых пакорлівых



працаўнікоў, якіх немцы за некалькі месяцаў прымусяць скарыцца. Немцам, вядома, патрэбны адданыя людзі, каб кіраваць вялізным абшарам заваяванай Расіі, і Пшанічны, калі добра возьмецца, магчыма, дарасце да якіх чыноў».

Гэты ўнутраны маналог Пшанічнага канчаткова пераконвае, што перад намі закляты вораг, да якога не можа быць літасці. І аўтар сапраўды бязлітасны да Пшанічнага. Без кроплі спачування або жалю расказвае ён пра той злы жарт, які сыграў з Пшанічным каварны выдумшчык-лёс, падрыхтаваўшы магілу для здрадніка там, дзе ён шукаў збавення, спадзяваўся знайсці ратунак.

Але, думаецца, Васіль Быкаў, мусіць, быў бы не вельмі глыбокім пісьменнікам і зусім дрэнным псіхолагам, каб ён абмяжоўваўся выкрыццём Пшанічнага і не прасачыў, як той дайшоў да здрадніцтва.

Не асабліва багата сказаў бы празаік і тады, калі б звёў усё да таго, што кулацкі сын Пшанічны **непазбежна** павінен быў стаць здраднікам. Пісьменнік толькі яшчэ раз праілюстраваў бы тую ўвогуле няхітрую думку, што дзеці могуць ісці бацькоўскімі сцежкамі. А ён глянуў крыху глыбей, паспрабаваўшы асэнсаваць, **чаму** Іван Пшанічны стаў ворагам, **што** загубіла ў ім чалавека.

Пісьменніку ўдалося даволі пераканаўча паказаць, як малады Пшанічны сам пакутаваў ад бацькавай скнарасці, прагнасці і самадурства. Але нерашучасць не дазволіла Івану канчаткова парваць з бацькам яшчэ ў самым пачатку свайго свядомага жыцця. Вось чаму ў далейшым «між ім і людзьмі пралегла глыбокая праваліна ў жыцці», якая і прывяла яго да здрады. Аўтар сцвярджае тую гуманістычную ў сваёй аснове і сёння, у перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма ў нашай краіне, асабліва надзённую думку, што за чалавека неабходна настойліва змагацца, своечасова засцерагаючы яго ад згубных памылак і, калі трэба, дапамагаючы яму вырвацца з учэпістых лап уласніцкага свету.

Гуманізм, страсны пратэст супраць усяго, што перашкаджае або можа перашкаджаць чалавечаму шчасцю, пакуты за людзей, якія трапляюць у складаныя жыццёвыя абставіны ці трагічна гінуць, — усё гэта вельмі характэрна для многіх твораў Васіля Быкава.

У апошніх эпізодах аповесці «Жураўліны крык» туга па чалавеку, які павінен загінуць у імя будучай перамогі, дасягае выключнай напружанасці і сілы.

Перад намі самотны, адзінокі Глечык, маладзенькі, неабстраляны навічок, радавы «са свежымі, сумнымі вачыма». Усяго на некалькі гадзін пераджыў ён сваіх таварышаў па зброі: строгага старшыну Карпенку, вясёлага насмешніка Свіста, таго ж няўклюднага Фішара. І вось цяпер Глечык чакае свайго «смяротнага часу». Супраціўляцца ўжо, здаецца, зусім бескарысна. Хіба ж спыніць адзіны салдат цэлую лавіну гітлераўцаў, узброеных танкамі і артылерыяй? «А жыць так хацелася — хоць як-небудзь: у сцюжы, галадзе, страху, хоць у такім жудасным пекле, якім была вайна — усё роўна хацелася жыць».

Аднак не можа баец ратаваць сваё жыццё, уцякаючы ад ворагаў, бо гэта было б здрадай баявым сябрам, той самай здрадай, за якую Васіль Глечык толькі што забіў Аўсеева.

Забыўшыся на страх і асцярогу, салдат пачынае ладзіць зброю для апошняй сустрэчы з фашыстамі. І тады ў паднябессі, «марудна пасоўваючыся пад аблокамі і самотна, квола курлыкаючы», паяўлецца жураўліны вырай. «У спапялелую ад гора душу байца дыхнула замілаванай шчаслівай мінуўшчынай яго дзяцінства, шчымлівым болем па ўсім тым, што пераджыта, пакінута і назаўжды ўжо страчана для васемнаццацігадовага юнака. Ён ледзьве ўтрымаў крыўдлівую спазму ў горле і глядзеў, глядзеў услед чародцы родных з маленства птушак, якія прынеслі ў яго пачуцці дзесяткі да болю нясцерпных адчуванняў... І калі ўжо яго зрок ледзь-ледзь нашчупваў у шэрай засмужанай высі тую рухавую рыску, з неба зляцеў на зямлю другі, роспачна-абрывісты гук, поўны трывогі, просьбы і безнадзейнага журботнага клічу:

— Курл!.. Курл!.. Курл!..

Наўздагон за зніклай чарадой, з апошніх сіл перабіраючы крыллямі, не дужа высока ляцеў, быццам шкандыбаў у паветраным абшары, адсталы, падбіты журавок. Ад яго амаль чалавечай роспачы аж здрыгануўся здзіўлены Глечык, нешта суладнае сваім затоеным пакутам пачуў ён у тым жалобным голасе, і грымаса болю і жалю скрывіла яго круглявы хлапечы твар. А журавель крычаў, кідаў у ветраны прастор дарэмныя гукі трывогі, махаў і махаў аслабелымі крыламі, пяўся наперад сваёй доўгай выгнастай шыяй, але дагнаць чародку не мог.

Ад жахлівае роспачы птушкі нясцерпнай самотай захлынулася хлапечае сэрца». Але і цяпер Глечык не пахіснуўся, не кінуўся наўцёкі. Ён «схапіў адзіную сваю гранату, прыціс-

нуўся спіной да дрыготкай сцяны траншэі і чакаў. Ён разумеў, што гэта канец, і з усяе сілы зацяў у сабе нясцерпную журботу душы, у якой вялікай прагай да жыцця ўсё біўся далёкі прызыўны жураўліны крык...»

Выдатны эпізод, бліскуча зробленая сцэна. Толькі той, хто сам не аднойчы перажыў нешта падобнае, мог напісаць з такой суровай праўдай, з такой глыбінёй і сілай пачуцця, з такім сапраўды нясцерпным болем за чалавека, за яго гінучае жыццё!

Таленавітай рукой майстра Васіль Быкаў працягнуў нябачны, але жывы ланцужок ад жураўлінай чародкі да трапяткой чалавечай душы — і мы літаральна скалануліся ад Глечыкавай роспачы, ледзь не захлынуліся ад яго тугі па жыццю. Так пісьменнік яшчэ раз пацвердзіў, што ўдалая мастацкая паралель, удалая дэталь маюць выключную сілу ўздзеяння. Яны прымушаюць чытача зноў і зноў вяртацца да намаляванай карціны, перажываць трагедыю героя. І ў выніку ўсяго гэтага ўзнікае гарачая думка-пратэст: вайна — «самае праклятае з усіх ліхаў, заведзеных жыццём на зямлі». Яна не павінна паўтарыцца!

А яшчэ, перамагаючы тугу і боль, нараджаецца гордасць за душэўную веліч простага савецкага чалавека, які не спыніўся ні перад чым, каб перагарадзіць дарогу фашызму.

Духоўнай раднёй Глечыка і яго сяброў з'яўляюцца героі апавяданняў Васіля Быкава аб вайне. Прыгадаем буйнаватага, дужага і сур'ёзнага хлопца-кулямётчыка Галкіна, кірпатага, падобнага на падлетка Матузку («Страта») або старога Ларывона з вельмі эканомна напісанага, хвалюючага сваім унутраным драматызмам апавядання «У ліхую часіну». Гэта «негаваркі чалавек крутога характару», з вузлаватымі, «як вербныя карані», рукамі. Багата гора выпала на яго долю. Быў Ларывон на імперыялістычнай вайне, дзе за старанную службу атрымаў «тры крыжыкі на паласатых чорна-рудых стужках», звedaў пекла нямецкага палону. Пазней, пасля рэвалюцыі, прыйшло мірнае, «труднае, але людскае жыццё». Новая навала парушыла яго, і давялося Ларывону зноў спазнаць з бядою. Ён пахаваў жонку, страціў сына, а калі спатрэбілася, выправіў на вайну, туды, дзе загінуў старэйшы, малодшых хлопцаў, спачатку Піліпа, затым, ужо зусім паміраючы, апошняга, Грышку. Паміраў стары спакойна. Ён ведаў, што ўсё зрабіў як належыць, бо маладыя заўсёды былі там, дзе вырашаўся лёс краіны.

Гэткі ж чалавек-крэмень паўстае са старонак апавядання «Смерць чалавека». Яно набывае высокае трагедыйнае гучанне дзякуючы надзвычай тонкаму аналізу чалавечых пачуццяў: смяртэльна паранены баец цаной амаль нечалавечых намаганняў, то трацячы прытомнасць, то на хвіліну прыходзячы да памяці, дабіраецца да аблюбаванай ворагам дарогі, каб пакінуць там апошнюю гранату, падрыхтаваную да ўзрыву.

Па агульнаму каларыту трохі больш светлыя, хоць таксама не пазбаўленыя трагізму, апавяданні «Эстафета», «Загад», «На ўсходзе сонца». У іх знайшлі сваё адлюстраванне асобныя эпізоды заключнага этапу Айчыннай вайны.

Звяртаючыся да пасляваеннага жыцця, пісьменнік зноў жа з вельмі глыбокім пранікненнем у чалавечую псіхалогію, з тонкім адчуваннем чалавечага характару расказвае пра невымерныя пакуты маці, якая ўжо шаснаццаць гадоў чакае і не можа дачакацца з вайны свайго любага сына, белагаловага Васількі, усё яшчэ жывога ў збалелым матчыным сэрцы («Незагойная рана»). Аўтар прымушае нас задумацца над нешчаслівым лёсам ціхманага, бяскрыўднага і па-свойму велікадушнага Алёксы, тры сыны якога таксама «загінулі ў вайну», а чацвёрты, скончыўшы доўгую навуку ў горадзе, ацураўся бацькі («На возеры»).

Складаныя жыццёвыя праблемы паўстаюць і перад героямі з апавяданняў «Страчаныя мары», «Непагадзь», «Няўломак» і іншыя. Усе гэтыя творы, прысвечаныя галоўным чынам выкрыццю розных людскіх заган, напісаны ў характэрнай для Васіля Быкава стрыманай апавядальнай манеры, пры якой аўтарская ацэнка выражаецца не адкрыта і непасрэдна, а ўскосна, праз дакладна акрэслены характар, адпаведным чынам выпісаную мастацкую дэталь, глыбокі і складаны падтэкст і г. д.

Аб радасці мацярынства, аб вялікім шчасці некалі адзінокай жанчыны, якая «ўпершыню за шмат год жыцця адчула сябе чалавекам — нароўні з усімі людзьмі», таленавіта расказаў Васіль Быкаў у апавяданні «На сцяжыне жыцця». Па глыбіні і дакладнасці псіхалагічнага аналізу, па майстэрству і трапнасці характарыстыкі герояў, урэшце, па сваёй выключнай чалавечнасці і сіле гуманістычнага пафасу яно належыць да ліку лепшых, найбольш хвалюючых твораў пісьменніка.

На жаль, значна слабейшае ўражанне пакідаюць гумарыстычныя апавяданні празаіка з кніжкі «Ход канём». Аўтару па-сапраўднаму ўдаліся, бадай, усяго дзве рэчы: «Даведка» і асаблівa «Арганізатар», дзе добра пазнаецца мастацкі почырк Васіля Быкава-псіхолага.

Астатнія чатыры невялічкія апавяданні («Апендыцыт», «Буйны выйгрыш», «Ход канём», «Дапякло») — гэта не вельмі смешныя гумарэскі, створаныя на аснове анекдатычных сітуацый або выпадковых здарэнняў. Яны ў значнай меры пазбаўлены той глыбіні і жыццёвай значнасці, якія так прываблiваюць чытача ў іншых апавяданнях празаіка.

І ўсё ж зборнік «Ход канём» — сімптаматычная з'ява ў творчасці Васіля Быкава. Ён сведчыць аб новых, няхай сабе пакуль што не ва ўсім паспяховых мастацка-стылёвых пошуках аўтара, аб яго спробах выявіць новыя, яшчэ скрытыя магчымасці свайго арыгінальнага шматабяцаючага таленту.

**Д. БУГАЁЎ.**

## У пошуках свайго голасу

Я хачу прайсці па зямлі,  
Каб мне людзі сэрцы адкрылі...  
. . . . . . . . .  
Каб мне роўную частку далі  
Сваёй ношы нялёгкай пранесці  
І свае галасы уплялі  
У мае няхітрыя песні, —

гэтымі радкамі заканчваецца першы зборнік вершаў маладога беларускага паэта Генадзя Бураўкіна «Майская просінь». Іх, па сутнасці, можна паставіць эпіграфам да ўсяго зборніка. Лірычная ўсхваляванасць, шчырае жаданне прынесці карысць людзям сваёй працай — бадай што найбольш характэрныя рысы лепшых твораў паэта. Аўтар лічыць сваім кроўным абавязкам услаўляць гераічныя справы свайго народа ў час Вялікай Айчыннай вайны і на фронце мірнай стваральнай працы. Яго лірычны герой быў сведкам нядаўняй вайны і на сваіх плячах перанёс цяжкасці першых пасляваенных год. Таму такая дарагая яму памяць тых, хто загінуў за нашу шчаслівую будучыню, таму яго так радуе наш сённяшні дзень.

Кранае сваёй непасрэднасцю, цельнёю верш «Ля партызанскіх сцягоў»:

Яны выцвілі ў дыме боек,  
Каля зыркіх начных кастроў  
І прынеслі ў залу з сабою  
Родны пах беларускіх бароў.

Сярод гэтых сцягоў герой верша адшукаў сцяг, які яго бацька «перад смерцю збярог на грудзях». І калі вартаўнік музея не дазволіў кранущца рукой дарагога сцяга, герой звяртаецца да яго са словамі:

Калі нельга рукой —  
губамі  
Мне дазвольце кранущца яго.

Колькі прачуласці, глыбокай пашаны, вялікай сыноўняй любві заключана ў гэтых простых словах!

Аўтар глыбока перажывае тое, аб чым піша, і таму яго ўсхваляванасць, яго пачуцці перадаюцца чытачу.

Паэтычна, як бы адным дыханнем, напісана інтанацыйна вытрыманая «Палеская балада», прысвечаная слаўным героям Вялікай Айчыннай вайны братам Івану і Міхалу Цуба.

Уласна кажучы, твораў на тэмы ваеннага часу ў зборніку «Майская просінь» мала. Генадзь Бураўкін робіць у дадзеным выпадку правільна, што так мала ўвагі аддае адлюстраванню падзей, не перажытых, не асэнсаваных ім самім. Затое ўвесь свой паэтычны запал ён аддае сучаснасці, у якой ён актыўна жыве, якою дыхае. І трэба сказаць, што, паэтызуючы працу, услаўляючы працоўны гераізм савецкіх людзей, паэт дабіўся сваіх творчых удач.

Свежа гучыць «Купалле на рыштаваннях». Будаўнікі падхапілі купальскую песню:

І вецер сціхае,  
расчулены песняй,  
Кладзецца ля ног,  
трапяткі і рахманы.  
І слухаюць моўчкі  
унізе — цеслі,  
Каля аблок —  
машыністы кранаў.  
А ў юных спявачак  
ватоўкі ў растворы,  
Цагляны пыл на шчоках ружовых.  
Апалены вусны марозным  
прасторам,  
Насунуты хусткі на самыя бровы...

Заўважце, якім добрым метафарычным вобразам перадаў аўтар супакойванне ветру: «Кладзецца ля ног, трапяткі і рахманы», як выразна абмаляваў вонкавы выгляд спявачак. Увесь верш напісаны прыўзнята, са

Генадзь Бураўкін. Майская просінь. Вершы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1960.

светлым настроем і ўспрымаецца, як натхнёны гімн працы будаўнікоў.

Многа добрага можна сказаць і пра вершы «Сашка», «Полаччына». У гэтых творах, як і ў «Купаллі на рыштаваннях», «Полацкай баладзе», «Ля партызанскіх сцягоў», відзён чалавек, які мае што сказаць аб бачаным і перажытым і ўмее сказаць па-свойму. У іх праявілася не толькі добрая назіральнасць маладога паэта, але і яго адносіны да жыцця і, у пэўнай меры, яго ўласнае паэтычнае бачанне свету.

Але не заўсёды дыханне нашай вялічнай эпохі аўтар выражае ў канкрэтных мастацкіх вобразах. Генадзь Бураўкін — паэт малады, і яму часам нестае ведання жыцця. Тады з-пад яго пяра выходзяць абстрактныя, надуманыя, кволыя па сваіх пачуццях вершы, такія, як: «Калі часам трохі засумуецца», «Горкі на Беларускім вакзале», «Кастрычнік», «У дарог, відаць, закон такі» і іншыя.

Як нам здаецца, шукаючы сваёй дарогі ў паэзіі, Генадзь Бураўкін павінен пазбыцца раскіданасці ў творчых пошуках. Свая тэма, асабліва для пачынаючага паэта, — гэта ў некаторай ступені шлях да пошукаў свайго голасу, для выпрацоўкі свайго светаадчування.

Хочацца коратка спыніцца і на недахопах з боку мастацкай формы, якія сустракаюцца ў зборніку «Майская просінь». У сваіх вершах паэт часам ужывае настолькі цьмяныя вобразы, што зразумець іх ніяк нельга. Напрыклад:

А каб сум, як атрутны стронцый,
Супыняючы кроў, не лез,
Вось вазьму ў спадарожнікі сонца
І на ноч не пушчу за лес.
(«Я іду...»)

Вобраз, створаны ў двух апошніх радках, сам па сабе вельмі паэтычны, аднак ён не стасуецца да вобраза першых двух радкоў. Такая прасталінейная залежнасць чалавечай радасці ад сонечнага святла наўрад ці апраўданая.

Зусім няправільна ўжывае паэт у гэтым жа вершы і выраз «святлом непатушаным». А ці бачыў хто патушанае святло?

Мудрагельствам павявае ад вобразаў:

І крыніц залатыя званы
Для мяне калыхалі хвалі.
(«Я хачу прайсці па зямлі».)

Альбо:

...волжскіх песень салаўіны
сплаў. (?)
(«Горкі на Беларускім вакзале».)

Рыфма Бураўкіна небагатая. Нармальнаю рыфмаю ў яго з'яўляецца не толькі «віроў-шчупакоў», «ляжышспіш», але і «бацька-дакранацца», «ціш-сюды ж», «вёрст-пранёс» і г. д. Мы пацікавіліся рыфмай (дакладней, разнастайнасцю рыфмы) да слова «зямлі». І вось што атрымалася: зямлі-навялі, зямлі-вялі, зямлі-караблі, зямлі-ліст і зямлі-мазалі. Вельмі бедная чарга. Аб чым гэта гаворыць? Аб беднасці пошукаў паэта. У яго амаль не сустрэнеш карэннай рыфмы, як, скажам, у Рыгора Барадуліна. Рыфма ў Барадуліна поўная, звонкая: полагам-кволага, крумкаюць-хрумсткую, расчынены-рашчынаю, мяккаю-замяўкаюць, корпаўся-корпуса і інш. Каб асвяжыць свой радок, і Генадзю Бураўкіну трэба смялей ужываць карэнную рыфму.

Сваім зборнікам «Майская просінь» Генадзь Бураўкін зрабіў нядрэнную заяўку, але каб выйсці на шырокую дарогу арыгінальнай творчасці, яму трэба глыбей вывучаць жыццё, шукаць у ім сваю «паэтычную жылу» і нястомна ўдасканальваць сваё майстэрства.

**В. ЧАМЯРЫЦКІ.**

# *Наша пошта*

## Аб прыгодах рускага воіна

Рускі народ заўсёды жыў у дружбе з народамі Індыі, здаўна праяўляючы глыбокую цікавасць да гэтай авеянай легендамі краіны.

Многія нашы суайчыннікі пабывалі на Усходзе і ў Індыі з гандлёвымі і навуковымі мэтамі. Але нямала было і такіх людзей, што ў трывожныя часы мінулых стагоддзяў, калі на «ўскраіны» рускай зямлі рабілі разбойніцкія набегі ханы і мурзы з рэштак Залатой Арды, насуперак сваёй волі станавіліся «міжвольнымі» вандроўнікамі па Усходу.

Імёны большасці такіх вандроўнікаў назаўсёды зніклі ў далечы мінулага. Але некаторыя з іх здолелі пакінуць аб сабе неўміручую памяць, узбагаціўшы навуку каштоўнымі звесткамі аб «далёкай Індыі цудаў» і іншых краінах Азіі і Афрыкі.

Пра аднаго з іх, Піліпа Яфрэмава, мне і хочацца расказаць.

* * *

...Ішоў 1774 год. Неспакойна было ў бязмежных аранбургскіх стэпах. На невялікі рускі атрад, што абараняў маленькую крэпасць — Дангузскую заставу, ля цяперашняга Соль-Ілецка Аранбургскай вобласці (адна такая крэпасць так цудоўна апісана ў «Капітанскай дачцы»), напаў велізарны варожы атрад.

Калі скончыліся ядры да адзінай гарматы, парадзелы атрад пад камандаваннем сяржанта Яфрэмава паспрабаваў прабіцца скрозь варожыя рады да Аранбурга.

Вылазка была смелая. Але параненыя смельчакі трапілі ў палон.

Ноччу, ачуняўшы, Яфрэмаў вялікімі намаганнямі сілы вызваліўся ад вяровак і, развязаўшы таварышаў, уцёк з імі. Ідучы адкрытым стэпам, воіны днём былі заўважаны вандроўным атрадам і зноў трапілі ў палон.

Прададзены ў рабства ў Бухару, сяржант Яфрэмаў, якому было 24 гады, апынуўся нарэшце ў Даніар-бека, паўнаўладнага аталыка-рэгента (уладара) Бухарскага ханства.

Новы гаспадар заўважыў кемлівага і ўмелага ў вайсковай справе рускага. Даючы яму чыны, ён прымусіў былога сяржанта, а цяпер юзбашы (капітана) удзельнічаць у шматлікіх войнах, што адбываліся паміж ханствамі Сярэдняй Азіі. Некалькі гадоў узапар хадзіў Яфрэмаў з войскамі Даніар-бека да Самарканда і Хівы, у Персію і Ургенч.

Яшчэ больш палюбіў яго аталык і, бачачы вялікую карысць ад рускага, вырашыў прызначыць на адну з самых высокіх вайсковых пасад. Дзеля гэтага Яфрэмаву трэба было перайсці ў чужую веру. Нягледзячы ні на якія катаванні, якім урэшце падверг яго раз'юшаны ўладар, мужны рускі воін не здрадзіў радзіме, не выракся веры бацькоў.

Бачачы, што ўпарты «гяур» вось-вось памрэ, аталык са злосцю махнуў рукою і загадаў вылечыць непакорнага.

Пасля адной з бітваў у Хівінскіх землях П. Яфрэмаў быў пасланы да Даніар-бека за падмацаваннем. Гэты выпадак і вырашыў выкарыстаць смелы і хітры воін. Пры дапамозе ключніцы аталыка, якая пакахала яго, Яфрэмаў падкупіў старэйшага пісара ўладара. Пісар выправіў падложную грамату, з якой было відаць, што аталык паслаў Яфрэмава (вядома, пад мусульманскім імем) паслом у Какандскае ханства.

Яфрэмаў да таго часу так добра авалодаў сярэднеазіяцкімі мовамі, што ніхто не мог западозрыць у важным «паслу» ўцекача-«ўруса».

Шчасліва дабраўшыся з двума рускімі таварышамі да Ферганы, Яфрэмаў даведаўся, што група купцоў накіроўваецца да граніц Тыбета, у горад Кашгар. Горача марачы аб Радзіме, куды не мог трапіць адразу, адважны сяржант вырашыў паехаць у Расію праз... Індыю!

Прыстаўшы да купецкага каравана разам з рускімі таварышамі, вандроўнік пад выглядам «купца» робіць вельмі цяжкае падарожжа, у якім загінулі абодва яго таварышы: Яфрэмаў першы з еўрапейцаў пераадолеў найвышэйшыя перавалы Кара-Кума (звыш 5,5 км) і Заходніх Гімалаяў. Толькі амаль праз стагоддзе здолеў паўтарыць гэты пераход англійскі падарожнік Шоу.

Прайшоўшы Тыбет і пераапрануўшыся ў рызманы вандроўнага дэрвіша, што ідзе ў Меку, змучаны Яфрэмаў апынуўся ў Кашміры. Гэта ўжо быў пачатак Індыі.

Багатая прырода Індыі, гасцінны яе народ, але суровыя былі англійскія чыноўнікі, якія панавалі ў Індыі. Шмат ад іх нацярпеўся рускі салдат. Але і тут ён не разгубіўся. Выдаўшы сябе за важнага пана і маёра, сваяка графа Чарнышова, фаварыта Екацярыны II, Яфрэмаў зрабіў шчаслівае падарожжа па Індыі.

Дабраўшыся з пашанай па Гангу да Калькуты, «граф Чарнышоў» (у англійскай літаратуры Яфрэмаў так і называецца графам Чарнышовым) сеў на брытанскі карабель і, другім з рускіх абагнуўшы Афрыку з поўдня, дасягнуў Лондана.

Не затрымліваючыся доўга ў Англіі, жадаючы хутчэй убачыць Радзіму, адважны падарожнік пасля дзевяцігадовых вандраванняў у жніўні 1782 года сышоў з карабля на пецярбургскай прыстані.

У выніку цудоўнага падарожжа і дзіўных прыгод Яфрэмава за заслугі і вялікія веды ён быў «пажалован дворянством» і, узведзены ў афіцэры, залічаны перакладчыкам у Замежную калегію. Пазней з'явілася яго кніга нататкаў, выдадзеная ў Пецярбургу ў 1786 годзе. Вытрымаўшы за кароткі час некалькі выданняў, яна ўзбагаціла навуку каштоўнымі і дакладнымі звесткамі аб Сярэдняй Азіі і Індыі, паставіўшы імя Піліпа Сяргеевіча Яфрэмава ў лік шчырых сяброў працавітага індыйскага народа, дружба з якім так ярка квітнее ў нашы дні.

**Г. КУРЫЛЕНКА,**
**сапраўдны член Геаграфічнага таварыства СССР.**



# *Ці ведаеце вы...*

...што словам «вампука» карыстаюцца, калі хочуць сказаць аб бязглуздасці тэатральнай пастаноўкі, адсутнасці логікі ў сцэнічных паводзінах акцёраў, безгустоўнасці дэкарацый і касцюмаў і г. д. Гэта слова нарадзілася ў сувязі з пастаноўкай у Пецярбургу ў 1908 годзе пароды на афіцыйныя спектаклі пад назвай «Вампука, ва ўсіх адносінах узорная опера». Аўтары гэтай пастаноўкі ў тэатры «Крывая люстра» — М. Валконскі і В. Эрэнберг—ёй далі такую назву па наступнай смешнай падзеі з жыцця высокапастаўленых асоб царскага двара. Калі прынц Альдэмбургскі наведаў вядомы Смольны інстытут, дзе выхоўваліся маладыя дваранкі, яму прынеслі букет кветак і хор у гэты час спяваў саноўніку на матыў з оперы «Роберт-Д'ябал» наступныя словы: «Вам пук, вам пук, вам пук кветак мы падносім».

... адна з буйнейшых у гісторыі выяўленчага мастацтва школа пейзажыстаў носіць назву барбізонскай таму, што яе прадстаўнікі—французскія мастакі-рэалісты Т. Русо, Ж. Дюпрэ, Н. Діаз, Ш. Дабіны, К. Трайон—працавалі ў 30—60 годы XIX стагоддзя ў вёсцы Барбізон каля Парыжа, каб мець магчымасць непасрэдна назіраць прыгажосць роднай прыроды.

...першыя будынкі тэатраў узніклі ў старажытнай Грэцыі ў IV стагоддзі да нашай эры ў Афінах і Эпідаўры. Будынак тэатра складаўся з архестры — круглай пляцоўкі для хору, тэатрона — глядзельных месцаў, скены — палаткі для выхаду акцёраў. З гэтых элементаў старажытнага тэатральнага будынка развіліся вядомыя нам сучасныя паняцці: аркестр, тэатр, сцэна.

... вядомы нямецкі пісьменнік-рамантык Э. Т. Гофман быў таксама кампазітарам, мастаком, дырыжорам, крытыкам, і цудоўны балет Чайкоўскага «Шчаўкунчык» напісаны на яго сюжэт.

... вялікі французскі пісьменнік і філосаф Жан Жак Русо быў аўтарам оперы «Вясковы чарадзей», лірычных музычных сцэн «Пігмаліён», многіх рамансаў, тэарэтычных даследаванняў у галіне музыкі. Свае музычнаэстэтычныя погляды ён растлумачыў у літаратурных творах «Споведзь», «Юлія, або новая Элаіза».

... музычны інструмент саксафон атрымаў назву па прозвішчу яго стваральніка — бельгійскага майстра духавых інструментаў Адольфа Сакса, — і быў вынайдзены яшчэ ў 1845 годзе.



Васіль Скварчэўскі (справа)—трэнер каманды штангістаў. Перад ім — Ігар Ваўчок. Ён уважліва слухае заўвагі сябра і настаўніка.

# У ДЗЯРЖЫНСКІХ МЕХАНІЗАТАРАЎ

Дзесяць, пятнаццаць, дваццаць, дваццаць тры! Рука Васіля павольна апусціла двухпудовую гіру, і нейкая абыякавасць раптам ахапіла яго. Яна працягвалася секунду-другую, пакуль на памост не выйшаў новы спартсмен. Васіль пачаў пільна сачыць за кожным рухам свайго саперніка. Дзесяць, пятнаццаць, дваццаць, дваццаць шэсць... А потым суддзя аб'явіў, што першае месца па падняццю двухпудовай гіры ў лёгкай вазе заняў не ён, Васіль Скварчэўскі з Дзяржынскай РТМС — чэмпіён рэспублікі па штанзе сярод сельскай моладзі на 1960 год...



Тры штангісты, тры вясёлыя сябры (злева направа): Міхаіл Чычыра, Сяргей Самкоў і Алег Палюховіч.

А між тым у мінулым годзе не хто іншы, а ён, падымаўся на п'едэстал гонару, заваяваўшы званне чэмпіёна.

— Напэўна, трэба ўступіць дарогу маладым, — жартуе Скварчэўскі.

Не, няпраўда, Скварчэўскаму яшчэ рана спісваць сябе ў «тыраж». Спартыўная біяграфія гэтага 26-гадовага жыццерадаснага хлопца яшчэ ўперадзе. Працуючы слесарам, Скварчэўскі шмат увагі аддае любімаму віду спорту—штанзе і гірам. Праўда, на сёлетняй спартакіядзе буйнейшых калектываў фізкультуры калгасаў, саўгасаў і РТМС яму не ўдалося заваяваць першынства, але і яго вынік быў нядрэнны.

Калектыў дзяржынскіх штангістаў, між іншым, заняў трэцяе прызавое месца.

Безумоўна, гэты від спорту пад сілу самым моцным, такім, як памочнік экскаватаршчыка Ігар Ваўчок і цясляр Уладзімір Зуеўскі — спартсмены-разраднікі. Апрача іх у секцыі штангістаў займаецца яшчэ 7 чалавек. Трэніруюцца хлопцы пад кіраўніцтвам Скварчэўскага. Іменна яму і абавязаны дзяржынцы-механізатары ростам сваіх спартыўных вынікаў.

Да парад Васіля Скварчэўскага — аднаго з лепшых сельскіх штангістаў Беларусі — уважліва ставіцца моладзь, стараецца пераняць яго вопыт і майстэрства.

У Дзяржынскай РТМС многа спартсменаў. I ўсе яны, як правіла, добрыя працаўнікі. Калгаснікі навакольных вёсак добра ведаюць трактарыста Сяргея Фенчанкава. Але не кожнаму вядома, што ён — выдатны веласіпедыст. Разам са слесарам Анатолем Трацэўскім, прадаўшчыцай магазіна Верай Астрэйка — Сяргей не раз удзельнічаў у раённых і рэспубліканскіх спаборніцтвах.

У гэтым годзе каманда РТМС выйграла першае месца на раённай спартакіядзе, трэцяе — на абласной і шостае — на рэспубліканскай.

I, безумоўна ж, усе хлопцы-механізатары — заядлыя футбалісты. Футбольную каманду, якая, дарэчы, з'яўляецца адной з мацнейшых на Міншчыне, трэніруе токар Георгі Глебаў — спартсмен першага разраду. Ён жа і лепшы валейбаліст, капітан каманды. Слесар Эдуард Хацкевіч, шафёры Віктар Маеўскі і Сяргей Руткоўскі, памочнік экскаватаршчыка



Капітан валейбольных каманд Георгі Глебаў.



Веласіпедны сезон закончаны. Анатоль Трацэўскі (злева) і Сяргей Фенчанка пераводзяць свае машыны на «працяглы адпачынак» — да вясны.

Леанід Філіповіч — вось касцяк зборнай валейбольнай каманды. Нядрэнным футбалістам з'яўляецца і старшыня савета калектыву фізкультуры цясляр Віктар Арунас. А яго жонка Тацяна — лёгкаатлетка. Разам яны вучыліся, разам прыйшлі працаваць на станцыю, разам абаранялі да нядаўняга часу яе спартыўны гонар. Ім па трыццаць ужо, але, у юнацтве пасябраваўшы са спортам, яны не кідаюць яго і цяпер.

У гэтым годзе некалькі разоў поспех спадарожнічаў дзяржынскім валейбалістам. Яны выйгралі першае месца на абласной спартакіядзе мацнейшых калектываў фізкультуры калгасаў, саўгасаў і РТМС і выйшлі пераможцамі ў такіх жа рэспубліканскіх спаборніцтвах сёлетняй восенню.

У калектыве каля дваццаці юнакоў і дзяўчат займаюцца лёгкай атлетыкай. Разраднікамі сталі шліфоўшчык Уладзімір Маеўскі, лепшы спрынтэр. Рабочы-меліяратар Яўген Апраніч на абласным кросе ў бегу на 5 тысяч метраў паказаў час другога спартыўнага разраду.

З лёгкаатлетамі займаецца выкладчыца фізкультуры 2-й сярэдняй школы Дзяржынска, грамадскі трэнер Ніна Казей.

Усе — і моладзь, і пажылыя — любяць настольны тэніс. Ён стаў папулярным відам спорту. Лепшым ігракам па праву лічыцца інжынер Уладзімір Юрчанка. Часта можна бачыць, як і ў абедзенны перапынак і пасля работы вакол тэніснага стала збіраецца шмат аматараў і балельшчыкаў.

Калектыў рабочых на станцыі невялікі, і людзі па ўзросту тут не ўсе маладыя. Аднак спорт любяць усе.



**Віктар Арунас — старшыня калектыву фізкультуры Дзяржынскай РТМС.**

З кожных траіх механізатараў тут адзін з'яўляецца членам спартыўнага таварыства «Ураджай». Дзяржынскія спартсмены накапілі немалы вопыт фізкультурна-масавай работы. Інакш, вядома, не здолець бы ім узяць прызавыя месцы на раённай, абласной і рэспубліканскай спартакіядах, інакш не заваяваць бы ім сваёй добрай спартыўнай славы.

У дзяржынцаў ёсць свае добрыя спартыўныя пляцоўкі: валейбольная, баскетбольная, гарадочная. Іх, можа, і не было б, каб камсамольцы ў свой час не ўзнялі моладзь на гэтую карысную справу. У нядзельніках з рыдлёўкай у руках працавалі і дырэктар РТМС, і іншыя кіруючыя работнікі станцыі.

У планах недалёкай будучыні ў механізатараў — іґравы стадыён і гімнастычны гарадок. Усё гэта будзе зроблена сваімі сіламі.

Набліжаецца зіма. Яе тут сустракаюць ва ўсеўзбраенні. Ажывілася работа лыжнай секцыі, кіруе ёю лыжніца-першаразрадніца Ніна Казей. На занятк дружна ходзяць і ўсе тыя, хто зняў да будучай вясны шыпоўкі, веласіпедныя туфлі. І лёгкаатлеты, і веласіпедысты абавязкова павінны зімой займацца лыжным спортам. Зімовыя трэніроўкі спатрэбяцца для першых жа вясновых стартаў.

— Усё ў нас як быццам нядрэнна, — заўважае старшыня фізкультурнага калектыву Віктар Арунас. — І секцыі працуюць, і інвентару дастаткова, і майстэрства нашых спартсменаў прыкметна расце. Але іншы раз адчуваеш прыкрасць ад таго, што ў другіх калектывах не ўсё ладзіцца. Дапамагаюць жа, напрыклад, моцныя калгасы слабым, шэфствуюць моцныя калектывы фізкультуры над тымі, дзе спорт яшчэ не ў пашане. Чаму б і нам не ўзяцца за шэфства? Ёсць у нашым раёне фізкультурныя калектывы, якія маюць патрэбу ў дапамозе. І мы яе павінны аказаць.

Хочацца верыць, што дзяржынцы, якія ідуць уперадзе сярод лепшых фізкультурных калектываў рэспублікі, праславяць сябе ў новым годзе і новымі дасягненнямі ў спорце і сапраўднай, дзейснай дапамогай тым, што яшчэ адстаюць.

**М. УЛАДЗІМІРАЎ.**



**Вучань токара Раман Быстры — адзін з мацнейшых ігракоў у настольны тэніс.**

Фота А. Дзітлава.

# Гумар і сатыра



## «Кароль» барабана

**Фельетон**

Калі б таўстаморды барабан з аркестра мясцовага рэстарана «Зялёная Свіслач» быў тою жывою істотай, са скуры якой яго зрабілі, то нават пасля выканання самага моднага факстрота ён не адчуваў бы ў сваёй барабаннай галаве таго, што рабілася пад чарапной каробкай ягонага гаспадара ў гэты злашчасны панядзелкавы вечар.

Пакуль заціснуты за жоўтую плюшавую парц'еру барабан лячыў свае пабітыя бакі, яго гаспадар Рэм Кэнпэль — у простанародддзі Раман Канапля — мучыўся тымі пакутамі, якія можна параўнаць толькі з пакутамі маладога барана пасля чарговага паядынку са сваім не менш стаічным аднапляменнікам.

Рэма зноў не прызналі. Не зразумелі яго цягі да ўсяго звышмоднага. Гэта была ганьба. Тэрмін «катастрофа» Рэм ніколі не прызнаваў і лічыў, што да яго гэтае слова не будзе мець ніякага дачынення аж пакуль перавядуцца ўсе слоўнікі. А ў тое, што слоўнікі перавядуцца, ён верыў гэтак жа цвёрда, як і ў тое, што ўся моладзь, пачынаючы са школьнага ўзросту, будзе танцаваць толькі танцы, якія танцуюць там... Дзе дакладна, «кароль» барабана Кэнпэль — Канапля сказаць не мог. Там, — і ўсё...

І вось ён, паборнік і энтузіяст «новага», ляжыць у сваім пакоі на купленым у магазіне выпадковых рэчаў раскладным крэсле-ложку і пакутуе.

За акном равуць грузавікі. Вязуць цэглу, вязуць цэлыя сцены дамоў. Вязуць жаўтаротых фэзээнаўцаў. І няма таго, каб ехалі ціха, — яны яшчэ і спяваюць! Ды што! «Ой, ляцелі гусі з броду».

О, няўдзячныя сучаснікі! Праязджаючы міма цаглянага асабняка, заціхніце і зніміце шапкі... Тут, за сцяной, пакутуе той, хто з усіх сваіх сіл імкнуўся далучыць вас да цывілізацыі...

Дзе там! Едзе яшчэ адна брыгада...

Рэм дастае з кішэні штаноў памятую цыгарэту—падарунак замежнага турыс-

та за выключнае выкананне на барабане моднага танца. Цыгарэта нагадвае дажджавога чарвяка перад насадкай на кручок.

Некалькі разоў пстрыкае запальнічка, і Рэм, нарэшце, прыкурвае. Пакой напаўняецца дымам.

Рэм ляжыць і курыць. Ён пакутуе. Ён пускае кольцы дыму і ўспамінае галоўныя этапы свайго жыцця ад моманту, калі зрабілі памылку яго «продкі» да моманту, калі памыліўся ён сам.

Ведаючы, што біяграфіі герояў дазваляецца ўстаўляць у раманы, у тым ліку і гістарычныя, у аповесці, апавяданні і нават фельетоны, скарыстаем гэтую магчымасць, дараваную нам заслужана вядомым і заслужана не забытым прафесарам-літаратуразнаўцам, і коратка, як у футбольнай праграме, раскажам аб нашым барабаншчыку.

Дваццацігадовы бамбіза Раман Канапля быў аддадзены сваімі «продкамі» — бацькамі — на вучэнне ў інстытут з гандлёва-эканамічным профілем. Зведаўшы спакусы таго жыцця, якое спешчаныя шалапуты называюць «шыкоўным», наш герой рашыў не абцяжарваць сваю галаву мурашнікам лічбаў і веданнем эканамічных законаў прыбытку і страт. На яго думку, гэта лепш ведаць «продкам». Сярод першакурснікаў ён лічыў сябе еўрапейцам, які па волі злога лёсу апынуўся паміж папуасамі. Безапеляцыйнаму, як ён любіў гаварыць «нігілістычнаму адмаўленню», новаз'яўлены філосаф падвергнуў у інстытуце ўсё: пачынаючы ад шырокіх штаноў першакурснікаў і канчаючы прафесарскай фізіяноміяй, на якой была барада, але не было бакенбардаў.

У выніку ўсяго гэтага ў пачатку другога семестра насценная газета паведаміла, што ў Рамана Канаплі «хвост» па вядучаму для інстытуцкага профілю прадмету.

Газета была знішчана, а Рэм прадстаў перад сходам групы. Справа скончылася вымовай.

У пачатку трэцяга семестра тая ж насценгазета паведаміла, што ў Рамана Канаплі два «хвасты». На новым сходзе няўдзячныя аднакурснікі мелі апошнюю магчымасць выправіць сваю памылку і прызнаць сябе вінаватымі.

— Я не малпа, што вы мяне хвастамі надзялілі... Вы зрабілі гэта ў сілу свайго ўласнага недаразвіцця... Кайцеся, няшчасныя рахітыкі...

Дэканат. Прыёмная дырэктара. Загад. З інстытуцкіх дзвярэй Рэм выляцеў упераздзе ўласнага пляўка.

«Продкі» ездзілі, хадзілі, званілі, пісалі. Не памагло. Рэм цягнуў іх фінансавыя накапленні і пераводзіў у прадукты спажывання пры дапамозе ўнікальнага эканамічнага трактата з назвай рэсторана на вокладцы. Праз год спаткаў камсорга на вуліцы. Узрадаваўся:

— Еўропа сваё бярэ! І ты вузкія штаны апрануў! Па-мойму выйшла!..

— Не для Еўропы. Проста зручней хадзіць, ды і гразі менш чапляецца.

З боку камсорга гэта была знявага высокіх эстэтычных пачуццяў Рэма. Вузкія штаны дзеля такога практыцызму? Рэм успомніў інстытуцкія дзверы. Закіпела блакітная кроў. Замахнуўся і ўдарыў.

Штаб народных дружын. Дзесяць сутак у месцы, дзе не зусім камфартабельныя ўмовы, але бясплатная жылплошча. Знаёмства з прадметам, якога пазбягаў у школе — з працоўнымі навыкамі. Цішыня і цвярозасць. На развітанне парада: уладкавацца на працу. Заметка ў газеце: піжон, стыляга і г. д.

Прыкуты да скалы Праметэй не пакутаваў так, як пакутаваў дваццацідвухгадовы прыхільнік цывілізацыі, працуючы ў арцелі «Даміно». Пальцамі, што так далікатна ўзносяць кілішак, завязваюць гальштук з сілуэтам мадэрнізаванай Евы, ён павінен трымаць жалезны інструмент і пракручваць дзірачкі ў ненавісных костачках, якімі шэрая неадукаваная маса будзе «забіваць казла».

Першы тыдзень выкручваў — шэсцьшэсць, наступны — пяць-пяць, пасля — чатыры-чатыры. Аж пакуль дойдзеш да пуста-пуста.

Тады Рэм атрымліваў зарплату і пераступаў парог «Зялёнай Свіслачы» з адчуваннем сваёй высокай годнасці на нашай лёгкадумнай планеце, якая абзавялася штучнымі спадарожнікамі.

Пасля чарговага «пуста-пуста» верх узялі былыя звычкі. Аблаяў афіцыянтку, стукнуў швейцара.

— Я цяпер «рабочы клас», таму і лаюся нецэнзурна, — заявіў для запісу ў пратакол. — Біўся? Што вы, знячэўку прыклаў невялікае намаганне на масу лядашчага ахоўніка спакою.

Зноў адпачынак у не вельмі камфартабельным месцы. Зноў — шэсць-шэсць, пяць-пяць... Да пуста-пуста не вытрымаў. Прагул. Яшчэ прагул. Канец працоўнай біяграфіі.

Выручылі даўнія дружкі.

— Плюй на ўсё, акрамя вольнага прадпрымальніцтва і бізнесу! Наша фірма гарантуе табе работу. Метал будзеш атрымліваць у залежнасці ад сумы, на якую рэалізуеш прадукцыі... О'кэй?

— О'кэй!..

Круцяцца на электрапраігрывальніку самаробныя грамплацінкі — прадукцыя фірмы, што гарантуе зямныя выгоды. У час апантанага шаркання шасці пар ног пад музыку, у якой адчуваецца ўсё — ад завывання ашпаранага шчанюка да рэву быка — хмялее галава, камянеюць твары і забываецца дапушчанае першатворцам непаразуменне адносна чалавечых полаў.

Месяц. Два месяцы. Не жыццё, а рай.

— О'кэй?

Не. Не «о'кэй». Уліп у час продажу пласцінак. Ледзь-ледзь вылузаўся... Зноў заметка ў газеце. І выдумаюць жа: раней называлі піжонам, стылягай, а цяпер — дармаедам ахрысцілі. А што, калі сапраўды возьмуць ды з горада выселяць? З імі жарты кепскія...

Трэба ісці працаваць. Куды?

У «продкаў» знаёмы дырэктар рэстарана. У рэстаране — аркестр, у аркестры — вакантнае месца барабаншчыка.

— У Рэма музыкальныя пальцы, музыкальныя вушы, музыкальная душа і нават, калі хочаце, музыкальныя ногі!..

Дырэктар здаўся.

— Вы не былі на канцэрце з твораў Чайкоўскага? Вы не дасталі білет і перажываеце? Глупства! Вы паслухайце аркестр з удзелам нашага Рэма! Першы і незаменны «ўдарнік». О, вы будзеце ў захапленні!

Маці так расчульвалася, што выцірала насоўкай сухія вочы. Бацька адварочваўся ад субяседніка. Не, ён не праслязіцца, на тое ж ён і мужчына.

Два месяцы лупіў булавешкай у тоўстыя шчокі барабана музыкальны нашчадак. Ён узвышаецца над аркестрам. На яго пазірае публіка. Ён прыгожы. О, як мала і адначасова як шмат патрэбна для сапраўднага шчасця!

Так было да ўчарашняга дня.

Дакладней сказаць, да той пары, калі, падпарадкоўваючыся вярчэнню зямлі, учарашні дзень уступіў месца сённяшняму — панядзелку. У гэты, не адзначаны гісторыяй момант, «кароль» барабана Рэм Кэнпэль (у простанароддзі — Раман Канапля) і яго два кампаньёны з лопнуўшай саматужнай фірмы грамплацінак выносілі свае целы з фае «Зялёнай Свіслачы». Спачатку яны неслі кожны сам сябе. Пасля агульнымі намаганнямі неслі саміх сябе, упіраючыся ў хісткую зямлю нагамі, а таксама верхнімі канечнасцямі недасканалага чалавечага арганізма. Нарэшце, кампаньёнаў панеслі нейкія людзі з чырвонымі павязкамі на рукавах.

Рэм са свайго жыццёвага вопыту ведаў, чым канчаюцца такія «вынасы цел» у прысутнасці дружыннікаў. Ён сканцэнтраваў усю сваю сілу волі і... выстаяў. Яму толькі сказалі, каб ішоў дадому спаць. Ён гэта і сам ведаў. Аднак ісці пешшу не ў яго звычках. Хіба ж не для такіх, як ён, людзі вынайшлі і зрабілі аўтамабіль маркі «таксо»?

Разваліўшыся на заднім сядзенні, Рэм адпусціў у адрас «неадукаванага» чалавека за рулём дзесятак тых слоўцаў, якія ён часта ўжываў, будучы «рабочым класам». Чалавек маўчаў. Тады Рэм абурыўся ўжо як «працоўны інтэлігент». Ён чакаў знікнення слоўнікаў, таму лексіка яго была катастрафічна бедная. Яна набліжалася да лексічных слаёў такіх разумных і самакрытычных птушак, якімі лічаць сябе папугаі.



Мазгі закруціліся, нібы грамплацінка, і зноў прагучэлі словы, сказаныя хвіліну назад. Праўда, сталі яны ў адваротным парадку.

Вадзіцель спыніў машыну.

— Выйдзіце, шаноўны. Вы п'яны...

— Зат-т-т-кніся!..

Дзверцы расчыніліся, і праз хвіліну Рэм хістаўся на сваіх музыкальных нагах.

Чалавек узвёў яго на тратуар.

— Ідзіце і праспіцеся...

— Ты, з-зялёнаскурая м-м-малпа!

У той жа момант віртуоз барабана адчуў удар чымсьці тоўстым і цвёрдым пад тое месца, якое сёння балела.

Дамоў ён дабраўся даўнім і неўдасканаленым спосабам, які завецца «хадзіць пяшком».

І вось цяпер ляжаў, пакутаваў і думаў, як узнавіць жыццедзейнасць свайго музыкальнага арганізму, каб данесці спеў барабана да слыху кожнага наведвальніка «Зялёнай Свіслачы».

Лячэнне было толькі адно — горкая вадкасць белага колеру, якую, па цвёрдаму перакананню Рэма, вынайшлі кітайцы. Аднак, для набыцця яе патрэбны былі фінансы. А іх не было.

Непрызнаны сучаснікамі «кароль» барабана папляваў на ўказальны палец і затушыў астатак дажджавога чарвяка. Устаў і, хістаючыся, падышоў да апарата, які вынайшаў нехта разумны і добры па прозвішчу Толефон.

— Ало, гэта ты, Боб?..

— Барыса няма... Пайшоў на працу... Прымусілі на цагляны за...

Уздрыгнуў і хуценька паклаў трубку. Счакаў і набраў другі нумар.

— Жан? Хэло!..

— Няма яго... Накіравалі грузчыкам на таварную станцыю... Бедны мой Ванечка...

Асцярожна набраў трэці нумар.

— П-с-с... Цалую твае пальчыкі, мая міленькая дурніца! Што, табе не падабаецца, калі я цябе так заву? Ды зразумей, што толькі і кахаю цябе за гэта... Ну, ну не дзьмі губкі... Што? Наконт учарашняга? Не прыдавай значэння!.. Хвіліначку пачакай, здаецца, «продак» прыехаў з працы... Пабягу, трэба паднацiснуць. Дзе ён дзенецца... Кругленькую дасць... Сёння? Буду абавязкова. Яны яшчэ мяне ацэняць!.. Барабан — душа музыкі, яе альфа і амега... На руках будуць насіць!..

На гэты раз «кароль» барабана не памыліўся: яго сапраўды пачалі насіць на руках. Першымі гэта зрабілі «жаўтаротыя фэзээнаўцы» дружыннікі. Паэтычнай ліпеньскай ноччу яны аднеслі Рэма з кузава аўтамашыны ў выцвярэзнік.

У выніку адміністрацыя рэстарана расчаравалася ў яго музыкальных здольнасцях і разлучыла з барабанам.

Другі раз яго неслі на руках дужыя міліцыянеры, злавіўшы ў час рэалізацыі астаткаў прадукцыі лопнуўшай саматужнай фірмы грампласцінак.

Трэці і апошні раз яго пранеслі на руках рабочыя дарожнага ўчастка, што знаходзіўся на тэрыторыі, якая ў пастанове суда называлася «перыферыяй».

Машына спынілася ў лужыне. Дарожнікі былі добрыя хлопцы. Яны не хацелі, каб новы жыхар іхняга пасёлка расквасіў свае лакіраваныя чаравікі ў першы ж дзень працы.

Раман Канапля — у мінулым Рэм Кэнпэль — інтэнсіўна дрыгаў нагамі ў штанах з калошамі шэсцьдзесят шостага калібру. Шчокі яго ўвесь час надзімаліся і з вуснаў выскокваў адзін і той жа гук: — Бум, бум, бум...

Адной рукой ён біў сябе па жывату, а другой па сцягняку. Часам кулакі траплялі па спінах тым, хто яго нёс. Таму хлопцы ўздыхнулі з палёгкай, калі паставілі восемдзесят кілаграмаў музыкальнага рэчыва на сухім месцы перад яснымі вачамі дзесятніка. Той усміхнуўся.

— Вясёлы хлапец. Нам такія для самадзейнасці во як патрэбны!

Пасля нагнуўся, выбраў з кучы рыдлёвак адну, новенькую. Урачыста перадаў Раману:

— Што ж, ударым па бездарожжу!

...Мяркуючы па звестках, што паступаюць з перыферыі, там сапраўды яшчэ ёсць многа дарог, якія патрабуюць рамонту.

**Базыль ПАРАХОНЧЫК.**





**Адукацыя сярэдняя, а пост высокі!**

Мал. В. Швяцова.



**— Ды дзе яму працаваць. У яго ж малако яшчэ на губах не абсохла.**



**— Вось цяпер я цябе пакахала!**



**Знаходлівы турыст.**

Мал. А. Кірайнена.

# Шахматы

пад рэдакцыяй майстра спорту, чэмпіёна Беларусі А. СУЭЦІНА

## Студэнцкае першынство свету

У восьмы раз сёлета з'ехаліся мацнейшыя каманды студэнтаў розных краін свету, каб сустрэцца за шахматнай дошкаю і яшчэ больш умацаваць сяброўскія спартыўныя сувязі. На гэты раз арганізацыя студэнцкага першынства была ўскладзена на шахматную арганізацыю СССР. І вось у Ленінградзе ў выключным па сваёй прыгажосці Палацы піянераў з 15 ліпеня па 1 жніўня адбыўся гарачы шахматны бой.

Аўтару гэтых радкоў пашчасціла быць сведкам гэтага VIII сусветнага першынства студэнтаў-шахматыстаў. Пяць год таму назад я сам быў удзельнікам савецкай студэнцкай каманды, якая тады ў Ліёне ўпершыню выйграла першынство. У наступныя тры гады савецкія шахматысты зноў заваёўвалі першае месца. І толькі летась павінны былі задаволіцца другім месцам, саступіўшы першае балгарскай студэнцкай камандзе. Але ўсё гэта—гісторыя.

Перада мною цяпер новыя, жывыя ўражанні ад сустрэч са «старымі знаёмымі». Праўда, іх не так многа. На жаль, «ветэраны»-студэнты за гэтыя пяць год выраслі і пакінулі студэнцкія аудыторыі, некаторыя ж непазнавальна змяніліся. Вось высокі зграбны брунет у рагавых акулярах з Балгарыі. З вялікай цяжкасцю пазнаю ў ім тады яшчэ зусім юнага кандыдата ў майстры В. Каларава. Цяпер ён міжнародны майстар і дыпломнік індустрыяльнага інстытута.

У Ліёне рашаючым для нас быў паядынак з чэхамі. Наша каманда перамагла тады з лікам $3\frac{1}{2}:\frac{1}{2}$. У нас быў вялікі вопыт у спаборніцтвах, асабліва на другой і трэцяй дошках, дзе ў чэхаў змагаліся зусім «не абстраляныя» шахматысты. Цяпер адзін з іх Ю. Маршалак узначальвае каманду Чэхаславакіі. Так, ён прыкметна вырас як шахматыст і толькі юнацкая прыязная ўсмешка сведчыць, што Ю. Маршалак, як і раней, застаўся сціплым і нават сарамлівым хлопцам.




**Сустракаюцца маладыя майстры Н. Радзеў** (Балгарыя) **і Т. Галхасурэн** (МНР).

Значныя змены адбыліся і ў савецкай камандзе: у яе складзе засталіся толькі два ранейшыя ўдзельнікі—гросмайстар Б. Спаскі і майстар А. Нікіцін, які перайшоў ужо з шостай дошкі на трэцюю. Цікава адзначыць, што Нікіцін сама больш удзельнічаў у студэнцкіх першынствах свету—сем разоў!

Удзельнікі турніру, сярод якіх былі прадстаўнікі Амерыкі, многіх краін Еўропы, вельмі цікавіліся Ленінградам. А там сапраўды ёсць што паглядзець! У вольныя гадзіны ўдзельнікам была дадзена шырокая магчымасць пазнаёміцца з цудоўнымі музеямі і помнікамі Ленінграда, яго маляўнічымі ваколіцамі. Большасць удзельнікаў—выдатныя спартсмены. Нават у час такога цяжкага выпрабавання, як спаборніцтвы, яны, каб захаваць бадзёрасць і добры настрой, шмат часу адводзілі фізічным практыкаванням: плаванню па Няве, веславанню, футболу і баскетболу. Тут былі таксама свае «чэмпіёны». Так вельмі рознабаковым спартсменам з'яўляецца дваццацігадовы майстар Г. Кальме (ЗША)—ён адначасова майстар па футболу і адзін з лепшых баскетбалістаў універсітэта. Наш гросмайстар Б. Спаскі добры лёгкаатлет—без спецыяльнай падрыхтоўкі ён бярэ вышыню ў 175 см!

Прадстаўніком венгерскай каманды быў майстар Т. Фларыян, добра знаёмы шахматыстам нашай рэспублікі па матчу з Венгрыяй у 1957 годзе. У студэнцкіх спаборніцтвах гэты ўсебакова развіты чалавек, які свабодна валодае пяццю мовамі, быў моцна ўсхваляваны няўдачамі сваіх «падапечных» па камандзе, што занялі толькі дзевятае месца. Карыстаючыся зручным выпадкам, Фларыян перадаў сардэчнае прывітанне ўсім шахматыстам Беларусі. Т. Фларыян не ўпершыню ў Савецкім Саюзе, і ён заўважыў як літаральна на вачах паляпшаецца жыццё савецкіх людзей. Разам з тым ён сказаў, што ў шмат якіх краінах з'явіліся моцныя канкурэнты савецкім маладым шахматыстам. Яго словы пацвердзіла і VIII студэнцкае першынство свету. Зноў савецкім шахматыстам не хапіла $1\frac{1}{2}$ ачка да першага месца, якое заваявала на гэты раз каманда ЗША. Побач стала і каманда Югаславіі, якая атрымала трэцяе прызавое месца. Далей ідуць калектывы Чэхаславакіі, Балгарыі, Румыніі, ГДР і іншыя.

Вывад з першынства напрошваецца адзін—патрэбна сур'ёзная работа сярод юнакоў і студэнтаў па ўдасканаленню шахматнага майстэрства. Былой перавагі савецкая каманда пакуль не мае.

Турнір даў некалькі новых прозвішчаў. Гэта перш за ўсё майстар Ламбардзі (ЗША). Ён цудоўны шахматыст, але, на жаль, вучыцца на пастара і яго шахматная кар'ера можа хутка скончыцца. Пакуль што гэты будучы служка культу—выдатны шахматны баец. Ён заняў першае месца, апярэдзіўшы Б. Спаскага.

Добра ігралі майстар Б. Сокалаў (Югаславія), Маліх (ГДР), Міцітэлу (Румынія), Трынгаў (Балгарыя) і многія другія.

Удзельнікі турніру з задавальненнем карысталіся старажытным «рыцарскім» дэбютам — каралеўскім гамбітам. Вось адна з партый, сыграных там.

Трынгаў (Балгарыя)—Вукчавіч (Югаславія).

1. e4, e5, 2. f4 ef, 3. Kf3 h6, 4. d4 g5, 5. Cc4 d6, 6. c3 Kc6, 7. OO Cg7, 8. g3 Ch3, 9. Лf 2 Kf6, 10. Фc2 Фd7!, 11. gf gf, 12. Kph1 000! (*Новая ідэя — чорныя пачынаюць атаку па лініі «g»*), 13. Cd3 d5, 14. e5 Ke4, 15. C : e4 de, 16. Ф : e4 C : e5!, 17. C : f4. (Дрэнна 17. de з-за 17. ...Фd1+ і г. д.), 17. ...Фg4, 18. Kg1 C : f4, 19. K : h3 Фd1+, 20. Kg1 Лhg8, 21. Лg2 Л : g2, 22. Ф : g2 Ke7, 23. Фe2 Фc1, 24. Kd2 Ф : d2, і чорныя лёгка выйгралі.

Гарачыя і цікавыя паядынкі адбыліся на VIII студэнцкім першынстве свету па шахматах, хоць усё гэтае спаборніцтва было прасякнута пачуццём дружбы, узаемаразумення. На працягу ўсяго турніру не было ніводнага непрыемнага інцыдэнта або непаразумення.

Пра абставіны, у якіх праходзілі спаборніцтвы, лепш за ўсіх сказаў амерыканскі мільянер-мецанат шахмат Джэры Спэн (ён прывёз на свае сродкі каманду ЗША): «Студэнтам былі забяспечаны ўсе, якія толькі можна пажадаць, умовы для спакойнай творчай гульні. У гэтым заслуга шахматнай федэрацыі СССР».



**Лічаныя хвіліны засталіся Ольсану** (Швецыя) **на абдумванне ходу. Яго партнёр Сакалоў** (Югаславія) **цярпліва чакае** (злева). **Толькі гледачы нервуюцца.**

## Крыху гісторыі

«Пешка — душа партыі» — гэтае надзвычай глыбокае азначэнне адной з важнейшых асаблівасцей шахматнай *партыі належыць выдатнаму* французскаму шахматысту канца XIII стагоддзя А. Д. Філідору. Філідора можна лічыць адным з заснавальнікаў класічнага пазіцыйнага стылю вядзення шахматнай барацьбы. Насуперак розным фантастычным тэорыям, якія сцвярджалі адсутнасць логікі ў шахматах, пазіцыйная школа моцна стаіць на прынцыпах рэальнага ўспрымання заканамернасцей барацьбы ў шахматах.

Галоўнае для пазіцыйнай школы — гэта глыбокае даследаванне ўласцівасцей кожнай з фігур, вывучэнне розных відаў іх узаемадзеяння.

Трэба сказаць, што пасля Філідора і асабліва пасля школы В. Стэйніца шахматысты сталі вельмі беражліва адносіцца да пешачнага матэрыялу. Справа, вядома, не ў празмерным шкадаванні пешак. Галоўнае — гэта майстэрскае кіраванне пешкамі. Узяцце праціўнікам адной з пешак звычайна бывае пагібельнай, калі няма ўзнагароды ў выглядзе моцнага ці ва ўсякім выпадку лепшага, чым у праціўніка, размяшчэння фігур.

Стэйніц зусім слушна адзначаў, што «не толькі слабасць пешкі, але і слабасць поля, на якім можа размясціцца фігура праціўніка, часта мае вынікам пройгрыш».

Прапануемая чытачам старая шахматная партыя не страціла да гэтага часу сваёй метадычнай каштоўнасці.

В. СТЭЙНІЦ — Э. ЛАСКЕР
(Пецярбург, 1895 г.)

1. d4 d5, 2. c4 e6, 3. Кс3 Кf6, 4. Cf4 Ce7 (Энергічней было б 4. ...c5!), 5. e3 00, 6. c5!

Белыя «ўбіваюць» моцны клін на ферзевым фланзе. Чорныя не могуць яго з выгадай для сябе ліквідаваць, таму што падрывы b7—b6 або e6—e5 пазбаўлены сілы.

6. ... Кd7, 7. К:е4 de, 8. Фс2, f5, 9. Cc4 Кс6, 10. a3 Cf6, 11. 0—0—0 Крh8, 12. f3 Фе7.

Хітрая задума! У выпадку 13. fe будзе сыграна 13. ...e5! і, калі 14. d5, дык 14. ... ef, 15. dc Ф : c5, і ініцыятыва ў чорных.

13. Cg3 f4.

Здаецца, што чорныя дасягнулі мэты. На 14. С : f4 следуе 14. ... e5, 15. de К : e5, 16. Ф : e4 Cf5!, 17. Ф : f5 К : c4, і ўсе шанцы ў чорных. Але робіцца неспадзяванае.



14. Ф : e4! (Прыгожая ахвяра, якую чорныя вымушаны прыняць. Белыя атрымліваюць дзве пешкі, але захоўваюць моцную пешачную пазіцыю, якая неўзабаве прыходзіць у рух.)

14. ...fg, 15. hg g6, 16. Ф : g6 Cd7, 17. f4 Лf7, 18. g4, Лg7, 19. Фh6 Л : g4, 20. Cd3 Лg7, 21. Кf3 Фf7, 22. g4! Лag8, 23. g5 Cd8, 24. Лh2!

Гэты просты ход хутка вырашае ўсё. Пазіцыя чорных раскідаецца, як картачны дамок.

24. ...Лg6, 25. Фh5 Лg7, 26. Лdh1 Ф : h5, 27. Л : h5 Лf8, 28. Л : h7+ Л : h7, 29. Л : h7+ Крg8, 30. Л : d7 Лf7, 31. Cc4, і чорныя здаліся.

Прапануем чытачам самастойна рашыць наступную задачу І. Алёшына.



Белыя пачынаюць і даюць мат у чатыры хады.

Прапануем таксама самастойна рашыць задачу:



Белыя пачынаюць і даюць мат у тры хады.

# ЗМЕСТ
## часопіса «Маладосць» за 1960 год

### ПРОЗА



### ДРАМАТУРГІЯ



### ПАЭЗІЯ

## НАРЫСЫ, АРТЫКУЛЫ, КАРЭСПАНДЭНЦЫІ, УСПАМІНЫ, ЗАМЕТКІ



## ДАРОГАМІ СЯМІГОДКІ



## ГАРЫ, КАМСАМОЛЬСКІ АГАНЁК! 40 ГОД ЛКСМ БЕЛАРУСІ



## НАВУКА — ПРАЦА — ЧАЛАВЕК



## «МАЛАДОСЦЬ» ВЯДЗЕ РЭПАРТАЖ...



**МАСТАКІ, ЯКІЯ АФАРМЛЯЮЦЬ НАШ ЧАСОПІС:**

**І. Немагай, Г. Скамарохаў.**









**МАСТАКІ, ЯКІЯ АФАРМЛЯЮЦЬ НАШ ЧАСОПІС:**

**М. Савіцкі, В. Швяцоў.**

### ДАВАЙЦЕ ПАГАВОРЫМ...



### З БЛАКНОТА ПАДАРОЖНІКА



### РАЗМОВА АБ МАЙСТЭРСТВЕ



### КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ



### НА АТЭІСТЫЧНЫЯ ТЭМЫ



### СЛУХАЧАМ НАРОДНЫХ УНІВЕРСІТЭТАЎ



### У СВЕЦЕ МАСТАЦТВА



### НАША ПОШТА



### СПОРТ








## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**Не забудзьцеся выпісаць**

**наш часопіс**

**на 1961 год!**

## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**







Яны набіраюць наш часопіс. Майстар змены Валянціна Андрэй-чка (злева) і лінатыпістка Валянціна Кандратава. (Наборны цэх укарні імя Сталіна).

Фота А. Дзітлава.